УДК 821.161.3-31
ББК 84(4Беи)-44
А28

**Адам, М.**

А28 Дачка : раман / Мікола Адам. — Мінск : Галіяфы, 2022. — 256 с.

ISBN 978-985-7285-09-9.

Новы раман Міколы Адама — гэта гісторыя Майстра і Маргарыты ў сучасных умовах, дзе каханне перамешана з нянавісцю, а давер — са здрадай, і толькі сяброўства ды любоў не даюць упасці долу, калі зусім не стае сіл.

…Яна з’явілася раптам і з ніадкуль. Патэлефанавала беларускаму пісьменніку Максу Мілеру, вядомаму хіба што ў вузкіх колах, і назвалася яго дарослай 18-гадовай дачкой Алісай. Навошта? Дзеля чаго? Якая сучасная дзяўчына ў здаровым розуме будзе шукаць зносін з падобным чалавекам? Пасля сустрэчы з чароўнай незнаёмкай Мілеру наканавана прайсці праз чараду таямнічых падзей, звязаных і з крыміналам, і нават з містыкай...

**УДК 821.161.3-31**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7285-09-9**

# 1

— Алё!

— Прабачце, магу я пачуць Максіма Мікалаевіча Мілера?

— Так. Слухаю.

— Прывітанне, Максім Мікалаевіч, гэта Аліса...

— Аліса?!

— Ваша дачка.

— Хто-хто, прабачце?

— Я разумею... Не кладзіце, калі ласка, слухаўку... Я разумею, што гэта дзіка гучыць...

— Паслухайце, калі гэта жарт такі, то не смешна. Зусім.

— Максім Мікалаевіч, калі ласка, паверце мне, я кажу праўду, я не маню...

— Спадарыня, як вас там, у мяне няма ніякай дачкі і ніколі не было...

— Вам проста не сказалі, не паведамілі... Я сама даведалася, што вы мой тата, зусім нядаўна. Я сама ў шоку!!!

— Хто вам сказаў, што вы мая дачка?

— Ніхто не сказаў, я падслухала аднойчы, як пра вас і пра маю маму гаварылі мама і тата, дакладней, я думала, што яны мае родныя мама і тата. Аказалася, што мамай я лічыла сястру маёй сапраўднай мамы, а тата наогул ні пры чым...

— Чаму я павінен вам верыць?

— Таму што я ваша дачка, таму што я прачытала ўсе вашы кнігі, таму што я вельмі на вас падобная, а не на свайго тату, таму што...

— І... што вы хочаце ад мяне?

— Давайце сустрэнемся. Гэта не тэлефонная размова, Максім Мікалаевіч. Вы толькі зірнеце на мяне і зразумееце, што я не хлушу.

— Ну, дапусцім... А далей што?

— Не адмаўляйцеся ад мяне... Мы ж нават яшчэ не пабачыліся. Вам зусім нецікава, што ў вас ёсць дарослая дачка?

— Мне цікава, адкуль яна ўзялася.

— Я вам усё падрабязна распавяду пры сустрэчы. Вы не пашкадуеце, абяцаю.

— Насцярожвае ваша самаўпэўненасць.

— Мне няма чаго ўтойваць ад вас і баяцца вас. Вы — мой тата.

— Мне б вашу ўпэўненасць.

— Яна ў вас з'явіцца, як толькі вы ўбачыце мяне.

— Ну калі гэта жарт...

— Не жарт, Максім Мікалаевіч, клянуся!

— І колькі табе гадоў, калі не сакрэт?

— Васямнаццаць. Я вучуся на філфаку БДУ, нават жыву ў тым самым пакоі, у якім калісьці жылі вы, у інтэрнаце на Кастрычніцкай.

— У якім пакоі?

— 702 Б.

— «Макдональдс» падыдзе каля ГУМа?

— Вядома.

— Тады давай а шостай вечара ля ўвахода ў падземны пераход пад гадзіннікам.

— Я буду.

— Не сумняваюся.

— Да сустрэчы, Максім Мікалаевіч!
— Да сустрэчы.

Мілер сунуў мабільны ў заднюю кішэню джынсаў, пачухаў патыліцу, закурыў. Адкуль у яе нумар яго тэлефона? Хтосьці падказаў? Хто? Хоць не гэта дзіўна: даведацца нумар тэлефона чалавека, які цікавіць цябе, цяпер не праблема. Дзіўна іншае — раптоўная наяўнасць дарослай дачкі. Калі гэта не розыгрыш... Некаторыя яго сябры нярэдка такім чынам адзін з аднаго пацвельваліся; ён сам аднойчы ўдзельнічаў у чымсьці падобным. Тады быў дзень нараджэння Алекса Букоўскага, і Мілера як майстра дражніцца, падрабляючы чужыя галасы, папрасілі патэлефанаваць імяніннiку, імітуючы голас Прэзідэнта краіны, павіншаваць яго і запрасіць на аўдыенцыю, якая павінна была неўзабаве адбыцца ў Круглай зале Нацыянальнай бібліятэкі. А паколькі Букоўскі з Прэзідэнтам быў знаёмы, незадоўга да гэтага атрымаў Прэзідэнцкую прэмію за кнігу новых вершаў, то і павёўся. Такі ганарлівы зрабіўся, збіраючыся на сустрэчу з першай асобай... Потым доўга злаваўся, нават некалькі месяцаў не размаўляў з Мілерам... Вось ён і мог падбухторыць сяброў адпомсціць Мілеру, прыдумаўшы яму дарослую дачку. Зрэшты, а што калі дачка і сапраўды акажацца ягонай? «Мілер, ты сам сябе чуеш?» — мімаволі ўсміхнуўся. Час, між тым, падціскае, у яго, як на ліха, нікога і нічога няма. Акрамя кніг. Аднакласнікі, сябры, знаёмыя, таварышы, калегі па працы — усе сямейныя людзі, з дзецьмі, а некаторыя ўжо і з унукамі. У кожнага ў партаманеце фотаздымкі дзяцей і жонак, і гэтыя фотаздымкі яны з задавальненнем дэманструюць пры ўсякім зручным выпадку. Мілеру няма чаго паказваць, затое ён піша.

Мілер дакурыў, падняўся на чацвёрты паверх установы, дзе працаваў рэдактарам кніжнага аддзела камерцыйнага выдавецтва, прайшоў у офіс, заняў рабочае месца за камп'ютарам, каб рэдагаваць чужыя тэксты. Свае ён пісаў толькі дома — у здымнай аднапакаёўцы на праспекце Ракасоўскага.

Яму нядаўна споўнілася трыццаць сем гадоў. Ён быў хударлявы, сярэдняга росту, з пасечанымі сівізной валасамі і барадой, хрыплым голасам і самотнымі вачыма. Менавіта за вочы яго любілі жанчыны, але хутка расчароўваліся ў ім, паколькі ён нічога ім даць не мог, нічога пэўнага для жыцця. Побыт прыгнятаў яго: Мілер рабіўся сумным, замкнёным і панурым. Па праўдзе кажучы, як патэнцыйны муж, Мілер — не варыянт для любой жанчыны. Яна не будзе за ім як за мурам, хоць у небяспечных сітуацыях ён абароніць сваю жанчыну, але ўсё ж яна не зможа пачувацца абароненай, бо сам ён як адкрытая рана. Ён не здабытчык, не сантэхнік, не муляр, не слесар, не ўмее надзімаць паветраныя шарыкі, увесь час з кнігай у руках, нават за кухонным сталом. Ніводная жанчына не палоніць яго і не перакуе на свой лад, таму што ён ужо запалонены. Літаратурай. І калі жанчына зразумее гэта, то, акрамя жалю да Мілера, нічога больш не адчуе. Не мужчына ён тады для яе, хоць і пісьменнік, дзівак нейкі. Жыццё ж не на паперы адбываецца, не ў летуценнях, а ў рэальнасці, якую ён не жадае заўважаць... Працаваць, сканцэнтравацца на рэдагаванні не атрымлівалася. Не выходзіла з галавы тэлефонная размова з Алісай. Няўжо ён бацька? Калі гэта не жарт... Яму ўжо карцела, каб працоўны дзень скончыўся хутчэй. Яго будзе чакаць Аліса. Яго дачка. Падумаць толькі, у яго ёсць дачка!.. Калі гэта, вядома, не розыгрыш.

Праз Мілера, як дыверсанты, снoўдалі туды-сюды гукі, бралі ў палон словы. Побач з ім вялі спрэчкі калегі: адзін —

праваруч ад яго, другі — леваруч. Пасля абеду яны звычайна распачыналі інфармацыйны двубой паміж сабой, і Мілер апынаўся між імі.

Рост даляра змяняўся дэвальвацыяй і пераскокваў на чарговыя выбары ў парламент, якія, па чутках, павінны восьвось адбыцца, але ўсё ідзе да таго, што іх правядуць у сакавіку; забарона прэзентацыі кнігі В. Марціновіча «Мова» ў Гародні і затрыманне пісьменніка параўноўваліся з затрыманнем на мяжы П. Севярынца ды канфіскацыяй яго кнігі; серыял «Гульня прастолаў» — з раманамі Дж. Марціна, прычым не на карысць кінапрадукта. Заява Прэзідэнта Беларусі на сустрэчы з пісьменнікамі, што апошнія ні на што не здольныя і толькі порткі праціраюць, выклікала ўвогуле безапеляцыйнае абурэнне. «Вайны і міру» яму, бач, захацелася… «Дзе Купала?» — пытаў ён. Адказ просты: Купала даўно ў труне, а «Вайну і мір» немагчыма напісаць, таму што яна ўжо напісана. Кошты скачуць як вавёркі, а зарплата не павялічвалася з пачатку года. Робін Уільямс памёр, а жонка Карачанцава тыражуе хворага актора на кожным канале. Пабудаваць кватэру ў сталіцы нерэальна, але людзі пруць і пруць у мегаполіс, быццам тут мёдам намазана. Камунякі ж паабяцалі, што да 2000 года ва ўсіх жыхароў СССР з’явіцца асабістая жылплошча, а на дварэ — 2015-ы, і ні кватэр, ні саветаў. Новым Годам не пахне, ніякага святочнага настрою. Мо таму, што снегу няма і плюсавая тэмпература?

Мо таму, што тэмы змяняліся з неверагоднай хуткасцю, абмеркаванне іх было павярхоўным, але вельмі гучным, хоць вушы затыкай. Звычайна Мілера яны ніяк не чаплялі: ён умеў засяроджвацца на сваім і не зважаў на вонкавыя раздражняльнікі. Аднак не гэтым разам. Ён і без таго не мог уцяміць, што ў тэксце паправіць, бо перашкаджалі разважанні пра тэлефонную размову з дачкой, а тут яшчэ нікчэмныя

дэбаты нікчэмных калегаў... Зразумела, Мілер не лічыў іх нікчэмнымі, але, праўда, ужо дапяклі сваім пустаслоўем, пра што Мілер, у прынцыпе стрыманы і выхаваны чалавек, вельмі нетактоўна выказаўся.

Павісла панурая непрыемная цішыня.

Ніхто не чакаў ад Мілера падобнага ўчынку, нават ён сам, таму на яго не пакрыўдзіліся, а прызадумаліся, выказалі здагадку, што з ім штосьці не так, што ў яго штосьці здарылася. Аднак Мілер гэтага не пачуў, бо тут жа і сышоў, каб спачатку пакурыць, а пасля дзе-небудзь прагуляцца да сустрэчы з дачкой.

Пачаўся дождж. Мілер ледзь паспеў ускочыць у трамвай, калі гультаяватыя, але цяжкія кроплі, падобныя на адзіночныя стрэлы, ператварыліся ў калючыя ўкусы нястрымнай залевы, што нібыта кулямётнымі чэргамі расстрэльвала горад. Неба нібы злавалася на горад за тое, што зіма стала падобная на вясну ці на восень, і вінавaціла менавіта горад у гэтым, і карала за гэта. У нябеснай канцылярыі, мабыць, панаваў вэрхал. Калі адбылося зрушэнне часу, што поры года забыліся, хто, калі і каму саступае месца? А можа, і не забыліся зусім, наадварот, адмовіліся саступаць...

Мілер заняў месца каля акна. Так ці інакш яму зараз было не да праблем зімы, вясны, восені і лета. Няхай самі вырашаюць, хто з іх слабейшы, а хто мацнейшы. Мілеру ўсё адно — ці дождж будзе ісці, ці снег, ці сонца зазззяе ў небе. Яго хвалявала і нават абурала нечаканае з'яўленне так званай дачкі, але было цікава паглядзець на яе. Мілер не сумняваўся, што яму хопіць і позірку, каб зразумець, хлусіць яму дзяўчына ці кажа праўду. Вочы не маняць. Аднак на ўсялякі выпадак набраў Букоўскага: трэба даць апошні шанец сябру спыніцца, пакуль не позна.

— Здароў, дружа! — адразу ж адказаў той.

— Здароў, — прывітаўся Мілер. — Слухай, ты нічога не хочаш мне распавесці?

— У сэнсе? — не зразумеў Букоўскі.

— У прамым сэнсе! Не прыкідвайся дурнем! — зморшчыўся Мілер.

— Слухай, сябра, ты не дзяўчына, каб я табе штосьці распавядаў...

— Значыць, ты быццам бы не ў курсах? Не з тваёй лёгкай рукі, значыць, у мяне з'явілася дарослая дачка?

— Ты трызніш, Мілер, ці п'яны? Ідзі працверазіся!

— Калі ты помсціш такім чынам, то гэта зусім не смешна!

— Праспіся ідзі!..

— Мне сёння патэлефанавала нейкая Аліса і назвалася маёй дачкой! — заявіў Мілер.

— Бывае. А я тут пры чым?

— Я падумаў, што гэта твой розыгрыш.

— Так не жартуюць.

— Я таксама лічу.

— І што, рэальна твая дачка?

— Не ведаю. Яшчэ яе не бачыў.

— Так трэба сустрэцца і высветліць усё.

— Ужо.

— Што ўжо?

— Еду высвятляць. На жаль. Да апошняга спадзяваўся, што гэта ты...

— Я б на тваім месцы цешыўся, што дачка дарослая, наколькі я зразумеў. Не трэба дурыць галаву памперсамі, пялюшкамі і...

— Я і цешуся, — перапыніў сябра Мілер. — Шчасця поўныя порткі.

— Ты што, дружа, нельга так казаць. Гэта ж твая крывінка...

— Яшчэ даказаць трэба, што яна крывінка. Добра, бывай. У трамваі я, дрэнна чуваць.

Мілер схаваў тэлефон у кішэню, зірнуў у акно, якое штурмавалі струмені дажджу. Яму не спадабалася, што Букоўскі ні пры чым. Ён баяўся: а раптам Аліса сапраўды яго дачка? Што тады рабіць? Як ёй глядзець у вочы і жыць далей?

Мілер даехаў да плошчы Перамогі, сышоў з трамвая, спусціўся ў метро. Навошта, падумаў, яму метро? Часу да сустрэчы заставалася зашмат, таму можна не спяшацца і пешшу дайсці да прызначанага месца. Ён падняўся на свежае паветра, выйшаў на праспект і закурыў. Дождж якраз скончыўся.

# 2

Аліса з пяшчотай правяла рукой па фотаздымку Мілера на вокладцы яго кнігі, усміхнулася і паклала тэлефон на стол. Яна сядзела ў факультэцкім буфеце, замовіўшы каву і пясочнае пірожнае. Вакол снoўдалі студэнты, займалі вольныя месцы за столікамі, кідалі свае рэчы на крэслы побач, каб іншыя бачылі, што занята; станавіліся ў чаргу па бутэрброды, пірожныя, булачкі, каву, гарбату, сок ці іншы напой, чабурэкі, салаты. Памяшканне гуло як пчаліны рой. Дзіўна, але да Алісы ніхто не падсеў, мабыць, таму што столік яна заняла аддалены. Тым лепш. Ніхто не перашкодзіць і не палезе з непатрэбнымі заляцаннямі, ад якіх паспела стаміцца. Ахвотнікаў пазнаёміцца з прыгожай дзяўчынай хапала. Гэта цешыла і засмучала адначасова. Бясконца Алісу нахабна спынялі і запытвалі, ці не патрэбен яе маме зяць, або прасілі нумар тэлефона, або запрашалі ў кіно, у тэатр, у філармонію, у кавярню, нават неяк адразу ў гатэль. Яна заўсёды холадна адказвала: «Не цікавіць» — і Снежнай каралевай праходзіла міма, каб праз некалькі крокаў ізноў пачуць тыя ж словы і прапановы. Арыгінальнасцю, здольнай уразіць так, каб дзяўчына разгубілася і не ведала, што ёй рабіць і як сябе паводзіць, ніхто з кавалераў не валодаў. Тым не менш кожны з іх лічыў сябе самым разумным, самым прыгожым, самым

дасціпным і іх самаўпэўненасці не было межаў. Яе адмова ўспрымалася як смяротнае зневажанне. Ніводны мужчына не можа змірыцца з тым, што ў прыгожай жанчыны могуць быць мазгі, атрыманыя не ад чараўніка краіны Оз. Калі ён гэта ўсведамляе, адразу ператвараецца ў таго, кім насамрэч і з'яўляецца — жывёлінай, прычым бязглуздай, а таму...

Аднак не варта думаць пра дрэннае. Хутка Аліса сустрэнецца з Максімам Мікалаевічам. Яна прыязна зірнула на партрэт пісьменніка ў кнізе, зноў правяла па ім рукой. Яе мара здзейсніцца. А гэта пакуль самае галоўнае.

— О, прывітанне! — данеслася аднекуль зверху. Аліса нават не адразу зразумела, што прывіталіся менавіта з ёю.

Яна прыўзняла галаву. На яе ветліва глядзеў Лёва Зорыч, аднакурснік, — бландзіністы хударлявы акулярык у паласатым касцюме-двойцы.

— Дазволіш? — спытаў ён у дзяўчыны, стоячы каля вольнага крэсла за яе столікам і нерашуча аглядаючыся ў пошуку іншага вольнага месца на выпадак адмовы. Абедзве яго рукі былі занятыя шклянкай з гарбатай і трыма чабурэкамі, загорнутымі ў рудую паперу.

— А, прывітанне, Лёва! — прагаварыла Аліса. — Садзіся, вядома!

Зорыч быў адзіным, хто не выпрабаваў моц сваіх чар на дзяўчыне. Мабыць, ён нават ніколі не змог бы прызнацца ў пачуццях. Залішне выхаваны, залішне стрыманы, сарамлівы і нерашучы. Спярша, калі яны толькі пазнаёміліся, Аліса думала, што ён нетрадыцыйнай арыентацыі, але пасля зразумела, што памылялася. Яны нават пасябравалі.

— Дзякуй! — сказаў Зорыч і прысеў за столік. — Думаў, што прыйдзецца стоячы, а тут ты...

— А тут я, — задуменна паўтарыла Аліса, не зводзячы вачэй з партрэта пісьменніка ў кнізе.

— Што чытаеш, калі не сакрэт? — зацікавіўся Зорыч кнігай. Менавіта кнігі з'яўляліся адзіным аб'ектам яго захаплення і любові, з імі аднымі Зорыч пачуваўся каралём. Абое любілі чытаць, таму хлопец і дзяўчына пасябравалі.

Аліса працягнула хлопцу кнігу.

— «Ядваб». Макс Мілер, — прачытаў Зорыч на вокладцы.

— Чытаў? — спытала Аліса.

— Чытаў-чытаў, — няўцямна адказаў Зорыч і раптам дадаў: — Лепш бы ты класікаў чытала, чым гэта.

— Не зразумела?! — здзіўлена паглядзела на суразмоўцу Аліса.

— Літаратуршчынай чыстай вады займаецца спадар Мілер, — вымавіў Зорыч, спрабуючы чабурэк на смак. — Душы ў творах няма.

— Сам зрабіў такую выснову ці падказаў хто? — ва ўпор пазірала на яго дзяўчына.

— І сам, і падказалі.

— І хто такі адважны?

— Ды ёсць людзі, — адсёрбнуў Зорыч гарбаты.

— Ну, дапусцім, — задуменна працягнула Аліса. — А гэтую кнігу, менавіта гэтую, ты чытаў? — вярнулася яна да таго, з чаго пачынала.

— Гэтую, — Зорыч узяў у рукі кнігу, няўважліва пагартаў, — гэтую не давялося.

— Тады прымоўкні, Лёва, і ніколі больш не пляці абы-што, калі не ў тэме, — параіла Аліса. — Лопай чабурэкі лепш...

— А што я такога сказаў? — абурыўся Зорыч. Ён лічыў сябе вялікім знаўцам у пытаннях, звязаных з «сучбеллітам», нават вершы пісаў, і іх ахвотна друкавалі ў перыёдыцы.

— Не з тымі людзьмі сябруеш, Зорыч, не тое слухаеш і не тое чуеш. Ці ўцяміў ты? — растлумачыла Аліса.

— Здаўся табе гэты Мілер! Што ты яго абараняеш? Ты сама на сябе непадобная! — Зорыч так расхваляваўся, што забыўся пра чабурэкі, да якіх быў вельмі ласы.

— Мілер — вялікі пісьменнік, — адзначыла дзяўчына. — І мой тата, — дадала, пільным позіркам свідруючы твар Зорыча. Ёй было цікава, як той адрэагуе.

— Хто, прабач? — здзівіўся Зорыч.

— Тата, Лёва, тата! — запэўніла яго дзяўчына. — Нават не сумнявайся!

— Ты раней не казала...

— А я шмат чаго не казала, Лёва!

Аліса ўзяла кнігу Мілера, прыціснула да грудзей і пазірала на Зорыча, у якога, здавалася, мову адняло. Ён зняў акуляры і старанна праціраў іх насоўкай. Яму не было сорамна, але глядзець на дзяўчыну ён пазбягаў.

— Здароў, Лёва! — рэзка прагучаў нечы голас збоку. Зорыча аж перасмыкнула, заўважыла Аліса. А калі побач з іх столікам, пераважна за спінай Зорыча, пасталі тры оркі, інакш іх нельга было назваць, хлопец уцяў галаву ў плечы. І куды падзеліся яго фанабэрыя і пыха?..

Оркі прысунулі да століка тры вольныя крэслы, без дазволу паселі. Аліса з цікавасцю назірала за імі.

— Прывітайся з намі, Лёва! — працягнуў руку да Зорыча адзін з оркаў, мабыць, лідар. Той неяк асуджана выцягнуў руку і вяла парукаўся. — Пазнаём з прынцэсай, — чапляўся новы персанаж. — Ці вы асобна? — Лянівы позірк на Алісу.

— Гэта... гэта... — Зорыч замармытаў, але кантраляваць уласны голас не змог, пачаў заікацца.

— Не хвалюйся ты так, Лёва! — ляпнуў яго па плячы другі орк. — Ты ж мужчына, ёпта!

— Абаронца! — дадаў трэці.

— Ван Дам! — падтрымаў першы.

Утрох яны выглядалі як браты з матрошкі: адзін — высокі, другі — сярэдняга росту і самы меншы — трэці. Ва ўсіх аднолькавыя кароткія стрыжкі, аднолькавыя бычыныя ілбы, шырокія плечы, тэстастэрон, расшпіленыя скураныя курткі з цёплымі каўнярамі, джынсы, насатыя туфлі і кулакі памерам з кавадла. Як пазней высветліла Аліса, оркі зваліся Кашэня, Флор і Сіплы, жылі разам з Зорычам у адным блоку, вучыліся на пятым курсе. Дзіва дзіўнае, аднак падобныя істоты заканчвалі філфак?!

— Аліса, — назвала дзяўчына сваё імя.

— Што? — азірнуўся на яе Флор, сярэдняга росту, але відавочна галоўны ў групоўцы.

— Маё імя Аліса, — паўтарыла яна. — Цікаўнасць задаволена ці яшчэ пытанні будуць?

— Якая борзая, Флор, малая! — спадылба паглядзеў на дзяўчыну Сіплы.

— Памаўчы! — загадаў Флор прыяцелю, прысунуўся да Алісы і паклаў руку на яе плячо, маючы, відаць, намер абняць.

— Рукі! — тактоўна прамовіла Аліса да Флора, але пазірала між тым на Зорыча, які ўжо ледзь пад стол не споўз.

— Што, рукі? — шырока ўсміхаўся Флор. Кашэня і Сіплы таксама, беручы прыклад з Флора, усміхнуліся.

— Рукі прыбяры, — падказала Аліса і дадала: — Ці дапамагчы?

— І што ты мне зробіш? — прашаптаў ёй на вуха Флор.

— Хочаш рызыкнуць? — рэзка адказала дзяўчына.

— Не разумею, — прыбраў усё ж руку з яе пляча Флор, — адкуль у такой цыпы гэтульκі дурной адвагі. Не нарывалася яшчэ ніколі, ніхто не ламаў?..

— Хочаш быць першым? — спытала Аліса.

— Не ўпэўнены, але цалкам магчыма, — пацiснуў плячыма Флор.

— Добра, — пагадзілася дзяўчына.

— І што гэта значыць?

— Ты ж у сямёрцы жывеш? — вырашыла ўдакладніць Аліса.

— Так, суседнічаем з Лёвам.

— Ну, тады заўтра ў «цалавальніку» на тваім паверсе ўсё і вырашым.

— Што вырашым?

— Ты дурны, ці што? Шаноўны прадстаўнік мужчынскага роду, вы ж на філфаку вучыцеся...

— Флор, — крыва ўсміхнуўся Кашэня, — здаецца, гэтая малая цябе «зрабіць» жадае...

— Паглядзім, — адгукнуўся Флор. — Не спазняйся, дзетка. — Ён цмокнуў Алісу ў патыліцу, падняўся з крэсла і выйшаў з-за століка. — Пакуль, Лёва! — размашыста саўгануў Зорыча ў плячо і павольнай хадой самаўпэўненага чалавека накіраваўся да выхаду з буфета. Кашэня і Сіплы таксама прыклаліся далонямі да пляча Зорыча і пацягнуліся следам.

— Выдыхні ўжо! — не стрымалася Аліса, пазіраючы на нібы агаломшанага Лёву, які забыўся і пра гарбату, і пра чабурэкі, пакуль побач знаходзіліся оркі. Ён быў цяпер вельмі падобны на спалоханае кураня.

— Як ты з імі... — ледзьве вымавіў ён.

— Напалохалі цябе гэтыя оркі, — уздыхнула Аліса. — Не сцы, Лёва, ільвы таксама бываюць баязлівымі. Не страшна.

— Якраз страшна, — запярэчыў Зорыч.

— Растлумач.

— Ты іншая... Розная адначасова.

— Ну трэба ж было камусьці з нас дваіх выконваць ролю мужчыны, — сказала Аліса і дадала: — Калі ты такі недарэка. Гэта табе не пра кніжкі разважаць.

— Прабач, Аліса, я не хацеў...

— Я разумею... У цябе тонкая душа, асабістае разуменне свету, паэтычнае мысленне... Але, Лёва, вершамі ты не выратуеш сваю дзяўчыну, калі апынешся ў асяроддзі вылюдкаў. Дабро павінна быць з кулакамі, Лёва!

Аліса паклала кнігу і тэлефон у сумку, выйшла з-за століка.

— Ты ўжо сыходзіш? — занепакоіўся Зорыч.

— Не хвалюйся, Лёва, твае оркі не вернуцца, — запэўніла яго Аліса. — Дапівай гарбату, даядай чабурэкі, пішы вершы...

— А ты куды?

— У мяне справы, Лёва, важныя справы.

— Там дождж, — Зорыч зіркнуў у акно.

— Дождж, — пагадзілася Аліса. — Але што рабіць? Ты ж не можаш узяць і зрабіцца маім парасонікам...

— Я... — з адданасцю сабакі Зорыч гатовы быў ператварыцца ў каго заўгодна.

— Сядзі ўжо, — махнула рукой Аліса.

Яна імкліва выйшла з буфета ў хол, спынілася побач з люстэркам, памазала губы яркай памадай і, задаволеная, пакінула сцены факультэта.

Дождж ішоў, але спыніўся, як толькі Аліса зрабіла да яго крок насустрач.

Мілер, як ні запавольваў крок, прыйшоў раней. Зрэшты, ні на адну сустрэчу ў сваім жыцці ён не спазніўся. Зразумела, каля «Макдональдса» ніякай так званай яго дачкі не аказалася. Ды і як бы ён яе пазнаў? Пешаходная плынь струменілася ў абодва бакі ад падземнага пераходу. Мілер адчуваў, што ён замінае людскому патоку, які не-не ды падхопліваў яго і цягнуў за сабой, нібы ў бездань. А яму туды не трэба было. Ён адышоў убок. Чаму раней так не зрабіў? Хваляваўся? Вышукваў вачыма тую, хто яго дачка?

Спадзяваўся, што сэрца падкажа, зазвініць, як званы, пачуўшы родную кроў? Дурань! Асёл! Гэта ж звычайны падман! Можа, Букоўскі і не ўдзельнічаў у ім, але што стрымае якую-небудзь прафурсетку проста паздзекавацца?.. Мілер — ты рэальна лох, калі стаіш тут, калі прыпхнуўся сюды. А навошта, калі падумаць?

Ён закурыў. Пальцы нервова трэсліся. Ён пашкадаваў, што прыйшоў. Моладзь вакол купкавалася, курыла, піла піва. Мілер таксама захацеў піва, як ніколі раней. У роце перасохла, быццам пасля перапою.

І раптам...

— Добры вечар, Максім Мікалаевіч!

Як ён мог яе не ўгледзець?

Дзяўчына, мабыць, падышла з-за спіны ці тады, калі ён адвярнуўся.

Вельмі прыемны голас, вельмі прыгожы, мілагучны і звонкі...

Мілер упёрся позіркам ва ўладальніцу голасу, нават рот разявіў, ад чаго цыгарэта выпала з рота.

Перад ім стаяла такая прыгажуня, што на імгненне ён пашкадаваў пра іх сваяцтва. Падобныя красуні толькі ў галівудскім кіно здымаюцца.

Чорныя-чорныя прамыя валасы крыху ніжэй плячэй, ламаны легкадумны чубок. Вялікія вочы колеру саспелага арэха ўмела падведзеныя чорнай тушшу і чорнымі ж ценямі. Доўгія вейкі надаюць яшчэ большай выразнасці вачам. Вытанчаны, трошкі кірпаты носік, мусіць, ад прыроднай цікаўнасці. Вусны строга акрэсленыя губной памадай, і ад гэтага яшчэ больш прывабныя. Ямачкі на шчоках, анёльская ўсмешка, разумны і добразычлівы позірк...

«Ды я віртуоз, — пранеслася ў галаве Мілера, — калі гэтая лялька — мая дачка!»

І постаць шэдэўральная: чорныя джынсы ў абліпку, белая прыталеная скуранка з футравымі каўняром і рукавамі, шыйка абвязана цёплым чырвоным у белыя палосы шалікам. На нагах — чорныя скураныя батфорты.

Аліса таксама прыйшла крыху раней. Яна адчувала, што Мілер чакаў яе, і не памылілася, усміхнулася яму.

— Добры вечар, Максім Мікалаевіч! — прывіталася яна зноў, калі зразумела, што зрабіла эфектнае ўражанне на Мілера і цяпер трэба неяк вяртаць яго ў рэальнасць.

Гэтым разам Максім Мікалаевіч адгукнуўся.

— Я б сказаў: неверагодна добры вечар! — вымавіў гучна, аж азірнуліся мінакі.

— Я — Аліса, — сказала дзяўчына.

— Ну, прывітанне, дачка! — прахрыпеў Мілер.

Ён падышоў да яе бліжэй і ашчаперыў аберуч, прыціскаючы да грудзей, удыхаючы водар яе маладога цела. У Алісы захапіла дыханне, але ёй было прыемна знаходзіцца ў дужых руках свайго таты.

— Зломіце, Максім Мікалаевіч! — усё ж выдыхнула яна, апякла яго гарачым шэптам.

— Прабач, — адпусціў дзяўчыну Мілер, але ўзяў за руку і не адпускаў, быццам баяўся, што калі адпусціць, яна знікне, як прывід.

Яны замоўклі, але пільна ўзіраліся адно ў аднаго, нібы шукалі агульнае падабенства, і раптам засмяяліся. Разам. Мілер мімаволі рассмяшыў Алісу занадта засяроджаным выразам твару, і яна паказала яму язык.

— Я вас не расчаравала? — спытала дзяўчына.

— Не, ты што! — усклікнуў пісьменнік. — Я ганаруся, што ў мяне такая дачка!

— Значыць, вы прызнаяце мяне? — падлавіла яго на слове Аліса.

— Вядома, — не адразу, але пагадзіўся Мілер і спытаў: — Спадзяюся, што і ты мяне прызнаеш?

— Нават не сумнявайцеся, — шчыра ўсміхнулася дзяўчына. — Вы самы лепшы!

Ах, якая ў яе была ўсмешка! Яна зачароўвала і абяцала ўцёкі ў краіну цудаў. А «Макдональдс» леваруч мог усё сапсаваць. Мілеру не хацелася туды, і ён адчуваў сябе няёмка, паколькі не ведаў, не знаходзіў патрэбных слоў, каб сказаць, што ім трэба ў якое-небудзь іншае месца, а раптам дзяўчына пакрыўдзіцца і сыдзе...

Аліса здагадалася сама, што непакоіла яе тату, ёй таксама не падабалася ідэя з «Макдональдсам», і яна прамовіла:

— Можа, пойдзем куды-небудзь адгэтуль? Мы ж не маленькія, каб есці марозіва і піць апельсінавы сок праз саломінку.

— Піва хочаш? — нечакана нават для самога сябе прапанаваў дачцэ Мілер. Смага ціснула на мозг, і ён не стрымаўся.

— А хачу! — адразу, не задумваючыся, падтрымала яго Аліса.

— Мая дачка! — узрушана абняў ён дзяўчыну і цмокнуў у шчочку.

Аліса сарамліва ўсміхнулася. Вочы яе блішчалі, рыхтык зоркі, што толькі-толькі ўзышлі на небе.

— І куды вы мяне паведзяце? — пацікавілася яна.

— Да «Любавушкі» зазірнём, — адказаў Мілер.

— Гэта што ці дзе? — не зразумела Аліса, але гатова была і ў вір з галавой нырнуць, абы толькі разам з татам быць.

— «Любавушка», — адказаў Мілер, — шынок на Камарах. Не ведаеш?

— Не, — матнула галавой Аліса. — Я ў Мінску нядаўна. Не ўсе шынкі яшчэ абышла.

Яны зноў засмяяліся і падаліся ў бок метро, узяўшыся за рукі.

«Любавушка» насамрэч шынок на Камарах. Упадабанае месца блатных, паэтаў і рабацяг. Апошнія пасля працоўнага дня заходзяць да «Любы» замовіць сотачку гарэлкі, тут жа на месцы выпіваюць, выходзяць на ганак курнуць і неўзабаве сыходзяць, не затрымліваючыся: дома чакаюць жонкі і дзеці. Блатныя і паэты, калі патрапяць сюды, ужо нікуды не сыдуць і застануцца да самага закрыцця. Прычым абсалютна няважна, у які час яны апынуцца ў «Любы». Тады гарэлка ліецца ракой, галасы з кожнай выпітай чаркай узмацняюцца ў разы, увага да прысутных жанчын зашкальвае, і ўсе яны здаюцца неверагодна прыгожымі. Самец выпінаецца з мужчыны, як матыль з кокана, ваяўніча пазірае на кожнага прадстаўніка свайго віду і позіркам заваёўніка акідвае памяшканне, быццам магчымае поле бою. Але «Любавушку» ніхто ніколі не пакрыўдзіць. Увесь свой негатыў, усю сваю агрэсію самцы, сутыкнуўшыся ілбамі, выносяць, як смецце, за сцены шынка, дзе ўдары нагамі і рукамі чаргуюцца з сакавітымі мацюкамі. Вочы гарэць, хоць прыкурвай ад іх, каўняры на куртках ці кашулях тырчаць, быццам дзіды, паднятыя ўгару...

І хоць троху небяспечна прыходзіць да «Любы», Мілер не баяўся. Ён наогул нічога і нікога не баяўся ў сваім жыцці, акрамя стаматолагаў, — непрыемныя ўспаміны яшчэ з дзяцінства. Ведучы туды Алісу і распавядаючы ёй пра шынок, Мілер быў упэўнены, што з імі там нічога дрэннага не здарыцца. А дачка слухала яго з вялікай увагай, кожнае яго слова адкладалася ў памяці, нібы завучаны верш ці табліца множання, а хрыплы голас Мілера зачароўваў, як некалі песні ў выкананні Высоцкага. І ёй усё падабалася ў ім, асабліва тое, што ён так даверліва дзяліўся з ёю байкамі

пра сваіх сяброў — паэтаў, кампазітараў, акцёраў. Аліса не запамінала іх прозвішчы, затое прыгоды і здарэнні з імі памяталіся доўга.

На станцыі «Плошча Якуба Коласа» выйшлі з метро і неўзабаве апынуліся каля «Любавушкі».

Памяшканне было напаўпустым, вольных месцаў хапала. Тэлеэкран пад самай столлю мільгаў кліпамі, але малюнак адрозніваўся ад музычнага суправаджэння. Мабыць, хтосьці выключыў гук тэлевізара. Спяваў мужчына брутальным голасам, а з экрана спакушалі гледача «мабільныя бландзінкі».

Мілер з Алісай узялі па бутэлечным піве і прыселі ў самым куце за цяжкім разьбяным дубовым сталом на такія ж лавы насупраць адно аднаго.

— Ну, за знаёмства! — прапанаваў Мілер дзяўчыне, чокнуўся сваёй бутэлькай з яе і проста з рыльца адным махам выдзьмуў палову.

Аліса наліла сабе піва ў шклянку, зрабіла некалькі вялікіх глыткоў, аблізнула вусны.

Яна не аглядалася, не засяроджвала позірк на наведвальніках «Любавушкі», наогул ні на што і ні на кога не зважала, а проста не зводзіла вачэй з Мілера, нібы загіпнатызаваная. Таму не ведала, што адказаць, калі ён спытаў, ці падабаецца ёй тут. Вядома, падабаецца, яна ж побач з ім, і больш ёй нічога не трэба.

Аліса расшпіліла куртку і зняла шалік, ці наўмысна, ці ад таго, што стала горача, паспрабуй разбярыся. Мілер загледзеўся на яе і забыўся пра піва. Пад курткай пунсавела блузка з двума расшпіленымі зверху гузікамі, што давала магчымасць нацешыцца бездакорнай мармуровасцю шыйкі дзяўчыны. Грудзі, не ўзятыя ў палон станікам, здавалася, яшчэ крыху і праткнуць смочкамі тканіну блузкі...

Мілер разумеў, што так глядзець, як глядзеў ён на дзяўчыну, нельга, калі яна яго дачка, але ён быў усё ж мужчынам і нічога з сабой парабіць не мог.

— Падабаецца? — задаволена ўсміхнулася Аліса, быццам цвеліла яго.

— Што менавіта? — праз сілу адарваў позірк ад яе харства.

— Я ведала, што вам усё спадабаецца, Максім Мікалаевіч, — працягвала дзяўчына. — Я вельмі сур’ёзна рыхтавалася да гэтай сустрэчы. Для мяне вельмі важна, каб вы мяне палюбілі, таму што я люблю вас. Я заўсёды вас любіла, нават тады, калі і не ўяўляла, што вы мой тата. Я здагадвалася, што ў маёй сям’і штосьці не так. Вынік вы ведаеце. Паслухайце, — раптам выдыхнула яна, — я такая шчаслівая, што вы мой тата, што мы сядзім разам у гэтай «Любавушцы», што я вас нарэшце знайшла, што вы такі класны, вы нават не ўяўляеце, які вы насамрэч незвычайны чалавек і... увесь мой!

Апошнюю фразу Аліса прашаптала нібы толькі для сябе, але Мілер пачуў і яе. Менавіта гэтая апошняя фраза быццам штосьці перавярнула ў ім. Яму ніколі не было так добра, як цяпер. Ён ніколі не чуў такіх шчырых і непасрэдных прызнанняў, а тут дачка, якая бачыць свайго бацьку ўпершыню за ўсё сваё жыццё, не вінаваціць, не патрабуе нічога, а любіць і шэпча, што ён толькі яе! Ад падобнага можна з глузду з’ехаць. Слёзы сапраўды пакаціліся па Мілеравых шчоках, так ён расчуліўся.

— Я вас пакрыўдзіла? — занепакоілася Аліса. Мужчынскія слёзы напалохалі яе. — Я не хацела, прабачце мне, калі ласка!

Яна працягнула праз стол руку, накрыла ёю руку Мілера і зазірнула яму ў вочы, каб зразумець, што не так.

— Гэта ты мне прабач, — прагаварыў Мілер. Ён узяў руку дзяўчыны ў сваю і пацалаваў па чарзе кожны яе пальчык. Аліса сарамліва, але задаволена ўсміхалася.

— А давайце вып’ем гарэлкі, — нечакана прапанавала яна, — на брудэршафт, а, Максім Мікалаевіч? — і па-змоўніцку падміргнула яму.

— Ты сур’ёзна? — супакойваючыся, спытаў Мілер.

— Як ніколі! Вы сядзіце, я сама...

Аліса падбегла да афіцыянтак, пашапталася з імі пра нешта. Тыя заўсміхаліся, заківалі галовамі. Дзяўчына вярнулася і папрасіла Мілера перасесці да яе, каб быць бліжэй. Хутка прынеслі графінчык з гарэлкай, чыстыя чаркі, дзве шклянкі з таматавым сокам, фруктовае асарці, нарэзанае долькамі, і некалькі бутэрбродаў.

Аліса разліла гарэлку па чарках, адну працягнула Мілеру, другую ўзяла сама. Іх рукі перапляліся.

Яны выпілі. Мілер закінуў у рот дольку апельсіна. Аліса адкусіла палову «дамскага пальчыка».

— Цяпер вы павінны мяне пацалаваць, Максім Мікалаевіч, — сказала яна яму.

Не чакаючы адказу, дзяўчына перасела на калені пісьменніка, далікатна правяла пальцамі па яго сівых валасах, абвіла рукамі шыю і кранула вуснамі яго вусны.

Іх вочы сустрэліся, а ў вачах нібы просьба дазволіць тое, што абодва збіраліся зрабіць.

Гэта не быў пацалунак дачкі і бацькі. Мілер з Алісай цалаваліся па-сапраўднаму, і абое адчувалі жаданне, дарослае жаданне блізкасці, забыўшыся на ўсё і ўсіх.

# 3

Мілер лётаў, нібы меў крылы. Напісаўся нядрэнны верш, першы за дзесяць гадоў. Натхніла Аліса. Сустрэча з дзяўчынай, асэнсаванне таго, што ён бацька, перавярнулі цалкам яго стаўленне да жыцця. Ранейшыя каштоўнасці і прынцыпы Мілер ужо падвяргаў сумневу. У яго такая прыгожая і разумная дачка!

Пасля «Любавушкі» ён праводзіў Алісу да інтэрната, дакладней, давёз на таксі, дзе дзяўчына, мабыць, стаміўшыся, паклала галаву яму на плячо. Ён баяўся паварушыцца ўсю дарогу.

У фае інтэрната № 7, што на Кастрычніцкай, дзяўчына марудзіла развітвацца з Мілерам. Яна нават запрашала яго зайсці, каб ён паглядзеў, як жыве дачка, і прыгадаў маладосць, але ён адмовіўся. Не таму, што не хацеў. Хацеў, і яшчэ як! Аднак было нязручна. Яны дамовіліся, што правядуць разам выходныя. Развітваючыся, Мілер папрасіў дазволу сфатаграфаваць дзяўчыну. Аліса пагадзілася, расшпіліла куртку і з вялікім задавальненнем папрацавала на камеру Мілеравага тэлефона. Яна паабяцала яшчэ, што дашле іншыя свае фотаздымкі яму на электронную пошту.

— Я вас вельмі-вельмі-вельмі люблю, Максім Мікалаевіч! — сказала Аліса, прыціскаючыся да Мілера і абдымаючы яго. — Хутчэй бы выходныя, праўда?

Яна апошні раз зірнула на яго, усміхнулася і пабегла да ліфта. Мілер глядзеў ёй услед, пасля выйшаў на вуліцу, закурыў, затым, натхнёны і радасны, паспяшаўся да метро.

Уначы ўскочыў як уджалены. Радкі выбудоўваліся ў рыфмаваныя строфы.

Мілер патэлефанаваў Букоўскаму, каб распавесці пра новы твор. Менавіта той не аднойчы паўтараў, што сяброўства — паняцце кругласутачнае. Аднак Букоўскі не падняў трубкі, што не дзіўна — тры гадзіны ночы. Тады Мілер набраў нумар Алісы. Гэта ж яна вінаватая ў тым, што нарадзіўся верш, з ёю і варта падзяліцца навіной. Ён не адказваў за сябе ў той момант, быў неадэкватны, але яму карцела, каб яго радасць разам з ім падзяліў хто-небудзь яшчэ.

Аліса падняла слухаўку.

— Максім Мікалаевіч, штосьці здарылася? — пазяхаючы, спытала яна.

— Здарылася! — таямніча адказаў Мілер.

— І што? — шэптам працягнула Аліса, мімаволі ўцягваючыся ў гульню Мілера.

— Ты чараўніца, Аліса!

— Вельмі прыемна, Максім Мікалаевіч, чуць гэта ад вас, і я цалкам з вамі згодна. Але...

— Ніякіх але! Дзякуючы табе я напісаў верш!

— Праўда?! — Алісе спадабалася прызнанне Мілера.

— Яшчэ якая! Я вершаў не пісаў сто гадоў!

— Віншую вас!

— Я дашлю яго табе эсэмэскай.

— Буду з нецярпеннем чакаць.

— Прабач, што пабудзіў, — нібы апамятаўшыся, прагаварыў Мілер.

— Нічога, Максім Мікалаевіч, вы ж мой тата, тым больш тата-пісьменнік, — далікатна правуркатала Аліса, — і я ганаруся

вамі і сабой. Чакаю верш! Мне хочацца хутчэй яго прачытаць. Не кожны дзень дзякуючы мне нараджаецца літаратурны твор.

Але Мілер не спяшаўся адпраўляць верш Алісе. Вырашыў крыху пачакаць. Хай ён нейкі час адляжыцца, хаця б да абеду.

Не працавалася. Думкі пра верш і Алісу свідравалі душу. Мілер не зводзіў позірку з фотаздымкаў дачкі ў тэлефоне, нічога і нікога не чуў. Яго летуценнасць кідалася ў вочы. Учорашнія «ўцёкі» з працы не прайшлі дарма. Мілера выклікалі да галоўнага рэдактара, добра, што не да дырэктара (іхнія кабінеты знаходзіліся побач, і іх падзяляла прыёмная).

Сакратарка папрасіла яго пачакаць, удакладніўшы, што галоўная рэдактарка пакуль занятая. Гэтую пасаду займала вельмі сімпатычная жанчына гадоў сарака. Якраз пачуўся яе голас з кабінета: Таццяна Аляксандраўна Меднікава абуралася, што здаралася нячаста. Трэба было вельмі пастарацца, каб яна павысіла голас. Потым з кабінета выкаціўся нейкі чалавек, пачуўся голас: «Праходзьце, Максім!»

— Не, ну вы гэта бачылі! — не магла супакоіцца Таццяна Аляксандраўна. — Якое нахабства! Ён мне пагражае яшчэ! Геній, тваю макаўку! А двух слоў звязаць не можа!

— Гэта вы пра каго? — вырашыў тактоўна ўдакладніць у начальніцы Мілер.

— Не пра вас, не хвалюйцеся так, — адказала Таццяна Аляксандраўна, паступова супакойваючыся. — Але да вас у мяне таксама пытанні. Сядайце!

Яна села за свой стол, Мілер прысеў у крэсла насупраць.

— Я вас слухаю, — прамовіла Таццяна Аляксандраўна, пільна ўзіраючыся ў падначаленага.

— Не зразумеў, — пацiснуў той плячыма.

— Не, ну вы паглядзіце на яго! — не стрымалася жанчына. — Не зразумеў ён! А мазгі вам на што? Датумкаць не можаце?..

Таццяна Аляксандраўна выйшла з-за стала, прайшлася сюды-туды па кабінеце, страсаючы з рук і плячэй нябачнае смецце, ва ўсякім разе такое складалася ўражанне. Мілер у чарговы раз адзначыў для сябе, сочачы за перасоўваннямі Меднікавай, што яго начальніца цікавая і прыгожая жанчына. Сярэдняга росту, фігурыстая, з шыкоўным бюстам і не менш шыкоўным розумам, з густымі хвалістымі валасамі да плячэй і блакітнымі вачыма з ледзьве прыкметнымі зморшчынкамі, падобнымі на гусіныя лапкі, вакол іх, што зрэшты не псавалі агульнай карціны. Іх нават можна было не заўважыць, калі не прыглядацца.

— Ну, Максік, дарагі, — раптам спынілася яна поруч з ім, высунула крэсла з-за стала і села побач. А Максікам называла Мілера, калі хвалявалася за яго ці хваліла за нешта. — Вы ж дарослы чалавек, не студэнт і нават не школьнік, а паводзіце сябе як дзіця.

Яны глядзелі адно аднаму ў вочы. Мілер губляўся ў нябеснай сіні вачэй Таццяны Аляксандраўны. Яму раптам так захацелася абняць жанчыну, пацалаваць па-дзіцячы пульхныя вусны ў ружовай памадзе. Можа, ад блізкасці, можа, яшчэ ад чаго, ён не ведаў.

— Не падабаюцца мне вашы вочы, Максім, — нібы здагадаўшыся пра жаданне Мілера, прамовіла Таццяна Аляксандраўна. Момант быў упушчаны. Яна перасела за стол. — Дык куды вы ўчора збеглі? Вас як карова языком злізала... — спытала ў лоб. — Я яго шукаю па ўсім выдавецтве, апытваю кожнага, як дурніца, а ён, нікому нічога не сказаўшы, сыходзіць з працы пасярод працоўнага дня з канцамі.

— Так атрымалася, Таццяна Аляксандраўна, — прагаварыў Мілер, разумеючы, аднак, што гэта не адказ.

— Гэта не адказ, — пацвердзіла яго думку Меднікава. — І ён не прымаецца.

— Я пакуль не магу вам сказаць...

— Вы маглі, — перабіла Таццяна Аляксандраўна, — зайсці да мяне і папярэдзіць, што сыходзіце, язык не адваліўся б. Я адпусціла б вас без усякіх тлумачэнняў з вашага боку.

— Я ведаю, — пагадзіўся з яе словамі Мілер.

— Так спяшаліся?

— Не вельмі.

— Што тады?

— Паслухайце, Таццяна Аляксандраўна, — раптам прыдумаў план Мілер, як усё выправіць, — а прыходзьце сёння ўвечар да «Любавушкі».

— Што? Вы ў сваім розуме? — ці не абурана ўсміхнулася тая. Яна на секунду задумалася, але з цікавасцю зірнула на Мілера і пасля сказала: — А ведаеце, Максім, я прыйду.

— І сяброўку захапіце тады на ўсякі выпадак, — панесла Мілера.

— Вы мне ўсё больш і больш падабаецеся, Максім! — працягвала загадкава ўсміхацца Меднікава. — Добра, я пачакаю тлумачэнняў да вечара. А пакуль вы вольныя. У сэнсе ідзіце, працуйце!

Таццяна Аляксандраўна дэманстратыўна разгарнула нататнік і пацягнулася да працоўнага тэлефона. Мілер зразумеў, што час валіць, і пакінуў кабінет начальніцы.

Ён верыў і не верыў у тое, што адбылося. Ды і як было паверыць... Хоць, калі падумаць, Меднікава часта выклікала Мілера да сябе ў кабінет: рэдагаваць разам тэкст, ужо ім адрэдагаваны. Таццяна Аляксандраўна заўсёды чытала пасля яго: ці то не давярала яму, ці то сабе. Апошнім часам заседжваліся дапазна. Чыталі і правілі ўдваіх, дакладней, яна чытала ўголас, а там, дзе ёй штосьці не падабалася, спынялася і казала, што трэба перарабляць. І яны шукалі замену словам, фразам, сказам, нават цэлыя абзацы замя-

нялі на больш трапныя і выразныя. Меднікава і Мілер сядзелі побач, ледзь не ўсутыч. Рука жанчыны не-не, дый скідалася Мілеру на калена і надоўга заставалася там ці накрывала яго руку з камп'ютарнай мышкай. Часам Таццяна Аляксандраўна бянтэжыла яго якім-небудзь пытаннем па тэксце, над якім гарбелі ў той момант, і пільна глядзела яму ў вочы. Мо яна чакала адказу, а мо чагосьці іншага, спакушаючы шыкоўным бюстам пад расшпіленай на тры верхнія гузікі блузкай і ап'яняючы гарачым подыхам. Мілер тады моршчыў лоб, задумваўся над пытаннем і, хоць паглядаў у лагчынку паміж белых грудзей Меднікавай, ніякіх спроб да блізкасці з ёю не прадпрымаў. Цалкам магчыма, што дарма. Як ён мог ведаць, што начальніца да яго не роўна дыхае? Меднікава дэманстратыўна пазяхала і адварочвалася ад яго: не разумела, як можна так сябе паводзіць, застаўшыся з прывабнай жанчынай сам-насам, калі навокал нікога няма, акрамя, бадай што, ахоўніка на першым паверсе. Пытала потым, ці прыдумаў ён адказ на зададзенае пытанне, ён штосьці адказваў недарэчнае, але яна ўжо не слухала яго, паколькі заўсёды мела свой варыянт адказу на любое пытанне.

Значыць, Мілер падабаўся Меднікавай? Магчыма, яна нават кахала яго! Хоць не, гэта занадта самаўпэўненая выснова. Таццяна Аляксандраўна — сур'ёзны чалавек, працаголік, жыве адна дзесьці ў Грушаўцы. Стоп. Галоўнае — адна. Праўда, казалі, што ў яе ёсць дарослы жанаты сын, які жыве асобна. Вось у «Любавушцы» ўсё і высветліцца.

# 4

— Ідзе! — выгукнуў Сіплы Кашэню і Флору, якія сядзелі на падаконні ў цалавальніку. Ён яшчэ раз зірнуў у канец калідора, каб пераканацца, што не памыліўся і што менавіта Аліса рухаецца насустрач. Яго сябры саскочылі з падаконня і пагардліва заўсміхаліся.

Аліса сапраўды набліжалася да цалавальніка — глыбокай нішы злева па калідоры, у самай яго сярэдзіне. Такія цалавальнікі меліся на кожным паверсе і з'яўляліся месцам для спатканняў ці сустрэч кшталту той, на якую спяшалася дзяўчына. На ёй былі чорныя ласіны, шэрая байка з каптуром ды Куртам Кабэйнам на грудзях і кеды. Ззаду тупаў Зорыч. Ён амаль увесь дзень пасля заліку па гісторыі старажытнай літаратуры правёў у пакоі Алісы.

Яны стаялі паўколам. Зорыча ў цалавальнік не пусцілі, шуганулі так, што той збег, быццам заяц.

— Дарма вы так з ім! — упікнула Аліса Флора, які стаяў насупраць і выбіраў месца на целе дзяўчыны, куды б пацэліць так, каб яна ніколі і нікому больш у жыцці не пярэчыла, назаўжды запомніла ўрок і рот не разяўляла без прычыны.

— Знайшла каго абараняць, — усё ж адгукнуўся ён.

— Моцны абараняе слабога, — нагадала Аліса.

— Моцны б'е слабога, — запярэчыў Сіплы ззаду, — каб іншыя бачылі і баяліся. Гэта яшчэ старажытныя людзі ўзаконілі.

— Дурныя старажытныя людзі, — не пагадзілася Аліса.
— Не табе аспрэчваць мудрасць стагоддзяў, — уставіў Кашэня.
— Не мне, — кіўнула Аліса.
— Чаго тады залупацца трэба было? — спытаў Флор. — Абражаць перад усімі?..
— Заслужылі, — коратка адказала дзяўчына.
— Як гэта?
— Не люблю, калі зневажаюць чалавека, які гэтага не заслугоўвае.
— Лёва — чалавек? — прысвіснуў Флор. — Чаго ж тады не ён на тваім месцы?
— Я на сваім месцы, — усміхнулася Аліса. — Нават не сумнявайцеся. А Лёва... іншага складу натура, незямнога.
— Іншапланецянін? — зарагатаў Сіплы.
— Амаль. Ты ўсё адно не зразумееш, што б я ні сказала пра яго.
— За базарам сачы! — загадаў Сіплы.
— Сачу, сачу, — падхапіла Аліса і раптам выдала: — Так мы базарыць тут сабраліся ці па-мужчынску вырашаць?..
— Ты штосьці паблытала, малая, — падскочыў Сіплы. — Мужчыны тут мы, ты...
— А я вось не бачу... ніводнага! — перапыніла яго дзяўчына і локцем уляпіла па зубах.
Сківіца Сіплага клацнула, і ён зубамі прыкусіў язык. Сіплы дзіка зароў ад болю, на падлогу капнула кроў. У тое ж імгненне на Алісу кінуўся Кашэня. Яна перахапіла яго нагу і выцяла кулаком ніжэй пахвіны. Той скурчыўся, склаўся ўдвая.
— Дзе так навучылася? — Флор не здзівіўся ўменню дзяўчыны, ён падазраваў, што нахабства яе менавіта ад валодання нейкім відам адзінаборства.
— Дзе трэба, — прамовіла тая.

Яны кружылі на месцы, пільна ўглядаючыся адно аднаму ў вочы. Аліса на ўсялякі выпадак саўганула нагой у Кашэнеў лоб. Сіплы своечасова адскочыў да акна, заціскаючы рот рукой. Ён нападаць на Алісу не збіраўся, тым больш што Флор яшчэ раней загадаў сябрукам увогуле не ўмешвацца.

Атакавалі адначасова. Аліса прапусціла ўдар Флора. Ён з'ездзіў ёй па скуле, пабіў ніжнюю губу. Пырснула кроў. Але і яму дасталася. Дзяўчына з развароту ўсадзіла яму ў кадык сваю пятку. Флор закашляўся, схапіўся за шыю, адступіў да сцяны і па ёй споўз на падлогу.

Калі з'явіўся Зорыч з прадстаўнікамі аператыўнага атрада, Аліса ўціскала Флораў кадык у горла кедам. Сіплы кінуўся да аператрадаўцаў як да выратавальнікаў.

— Аліса, спыніся! — закрычаў Зорыч дзяўчыне.

Яна азірнулася. Твар Алісы ён ледзь пазнаў. Перакошаны лютай нянавісцю да ворага, той выглядаў страшна. Аднак Аліса хутка зладзіла з сабой. Яна прыбрала нагу з Фларавай шыі і зноў стала звычайнай дзяўчынай.

Аліса мела карычневы пояс па кікбоксінгу, якім займалася тройчы на тыдзень, пакуль вучылася ў школе. Прафесійнай кар'еры байца яна ніколі не жадала, хоць трэнер і настойваў, каб дзяўчына сур'ёзна падумала пра спорт. Яе дасягненні і магчымасці маглі ў хуткім часе ператварыцца ў чэмпіёнства свету, аднак Аліса за гэтым не гналася. Ёй падабаліся трэніроўкі, расцяжкі, спаборніцтвы, але яна не бачыла ў іх жыццёва важнай неабходнасці. Аліса хацела быць проста жанчынай — кікбоксінг дапамог зразумець гэта. І ўсё ж ёй цяжка было стрымліваць сваё ўменне. Вось і зараз не стрымалася. Затое чапляцца больш не будуць і да Зорыча інакш ставіцца стануць. Хоць не факт. Ну, калі аднаго ўроку не хопіць, можна ж і паўтарыць.

Флор падняўся на ногі з дапамогай Кашэні і Сіплага ды адагнаў іх ад сябе. Ухапіўся за сценку. Рукамі памацаў шыю, адкашляўся. Оператрадаўцы сышлі, пасмейваючыся з Флора. Яны думалі абараніць дзяўчыну ад хуліганаў, аднак абараняць яе не было ад каго. Флор губляў аўтарытэт.

Аліса не сыходзіла. Стаяла ўбаку, склаўшы крыжам на грудзях рукі, глядзела то на Флора, то на Сіплага, то на Кашэню, то на Зорыча, чакала, пакуль цалавальнік апусцее. Тады сыдзе і сама як пераможца. Зорыч прыхінуўся да сцяны плячом.

— Мне зараз, — ціха прамовіў, — з імі нельга. Раздушаць як клапа.

— Не раздушаць, — азвалася Аліса. — Самі затопчам.

— Табе лёгка казаць, — не згаджаўся Зорыч, — ты з імі не жывеш.

— Добра, Лёва, прабач. Калі так іх баішся, перабірайся да мяне, — цалкам сур’ёзна прапанавала Аліса.

— А суседкі твае як жа? — задумаўся Зорыч, але за прапанову Алісы ўхапіўся як клешч.

— Не твой клопат, — адказала дзяўчына, аднак дадала: — Не сорамна будзе ў адным пакоі з дзеўкамі жыць?

— Наадварот, — запярэчыў Зорыч, — палічу за гонар.

— Ну, кошт твайго гонару я ведаю, — усміхнулася Аліса. Заўважыла, як спахмурнеў твар Зорыча, і супакоіла яго: — Не сярдуй, не сярдуй, Лёва. Кожны чалавек адметны ў нейкай адной галіне. Ты, напрыклад, у літаратуры. Толькі папярэджваю ў першы і апошні раз: перагледзь сваё стаўленне да творчасці Макса Мілера.

— Я ўжо, — адразу здаўся Зорыч.

— Што ўжо?

— Перагледзеў, — запэўніў Зорыч. — Твой бацька — віртуоз слова і жывы класік...

— У лоб зараз атрымаеш, — перапыніла яго Аліса. — Як будзем класціся спаць, папулярна растлумачыш і грунтоўна дакажаш сваё перагледжанае меркаванне наконт майго таты. Ідзі, рыхтуйся.

Зорыч паслухмяна накіраваўся ў блок, у якім жыў. Аліса спыніла яго, падказаўшы, што з сённяшняга вечара ён жа перасяліўся. Рэчы яго перанясуць былыя суседзі.

Калі Зорыч знік, Аліса паволі наблізілася да Флора. Кашэня і Сіплы засталіся каля падаконня.

— Задаволены? — спытала Флора дзяўчына.

— Зразумела, не, — прахрыпеў Флор.

— Думаў, усё па-твойму выйдзе? Думаў, правучыш смаркачку і заваліш яе проста тут, у цалавальніку? Думаў, пакарыстаецеся ўтрох, знімеце на тэлефон і ў інтэрнэт сальеце? Як з астатнімі? Не чакаў адпору, Флор?

— Не, — прызнаўся той. — Хто ж ведаў, што ты кікбоксер. Папярэджваць трэба.

— Цяпер ведаеш. Таму абыходзь мяне бокам і Зорыча не чапай, які, дарэчы, больш з вамі не жыве. Рэчы яго занясіце ў 702-гі блок.

— Да цябе? — не стрымаў здзіўлення Флор.

— А што такое? Хтосьці супраць?

— Ён жа недачалавек, баязлівец, анучa... Што ты ў ім знайшла?

— Табе, Флор, не зразумець. Чао, хлопчыкі!

Аліса памахала пальчыкамі Кашэню і Сіпламу і міла ўсміхнулася. Тыяківалі галовамі ў адказ.

— Рэчы Зорыча чакаю роўна праз дзве гадзіны, — нагадала яна Флору і пакіравала лёгкай хадою з цалавальніка ў калідор.

Суседкі былі не супраць новага жыхара. Пытанне: дзе яго пакласці? Аліса задумалася, але ненадоўга. Выйсце знайшла

амаль адразу. Калі Флор з сябрукамі прынясуць рэчы Зорыча, яна іх ветліва папросіць прытарабаніць і панцырную сетку, каб збудаваць двух'ярусны ложак.

Так і зрабіла. Пяцікурснікі выканалі ўсё, што ім загадала дзяўчына. Змайстравалі ложак, як той казаў, на стагоддзі.

— Ну што, Лёва, — звярнулася да хлопца Аліса, калі «будаўнікі» сышлі, — з цябе паляна, і выбірай: зверху ці знізу спаць будзеш. Хоць не, — спыніла гатовага да дыялогу Зорыча, — зверху буду я.

— Я і хацеў табе гэта прапанаваць, — уставіў усё ж Лёва.

— Ну, малайчына тады, — пахваліла яго дзяўчына. — Калі паляна будзе за ўваходзіны? Згодныя, дзеўкі, на паляну? — кінула позірк на суседак, якія ціхенька хіхікалі. Яны, вядома, былі згодныя.

— Калі скажаш, — абвясціў Зорыч.

— А сам ніяк? — папракнула яго Аліса. — Прымаць рашэнні самастойна калі-небудзь навучышся?

Той пацiснуў плячыма. Яму было ніякавата ў гэтым пакоі і ў той жа час спакойна. Лепш, чым у ранейшым, з Флорам і Кашэнем. Безумоўна, сітуацыя, у якую ён патрапіў, не на карысць яму, як мужчыну, але іншага выйсця не бачыў. І вельмі добра, што Аліса вырашыла дапамагчы Зорычу. Ён жа не вінаваты, што не ўмее біцца і гвалт адпрэчвае цалкам. З дзяцінства пазбягаў боек і сутычак. Збягаў, каб не збілі, а калі трапляў усё ж у калатнечу, ніколі не адбіваўся, паколькі не ўмеў, і вельмі горка плакаў, не разумеючы, чаму і завошта яго б'юць. Затое ў Зорыча была душа, такая душа!.. Вось яе і ўбачыла Аліса, разгледзела і зразумела, што мусіць дапамагаць гэтаму чалавеку.

— Чаго маўчыш? — прысела дзяўчына побач з Зорычам на ложак. Да гэтага яна складала яго рэчы ў сваёй шафе,

якую давялося дзяліць на дваіх, расстаўляла яго кнігі на падаконні, побач са сваімі.

— Дзякуй табе, — прагаварыў Зорыч і паглядзеў на Алісу. Вочы яго набрынялі слязьмі.

— Ну, ну, супакойся, — ціха прамовіла дзяўчына і абняла хлопца, пагладжваючы яго па спіне рукой. — Усё добра, Лёва, ты не перажывай і не саромейся за тое, што так... Мы цябе не дазволім крыўдзіць усякім арангутангам. Яны ўсе яшчэ табе зайздросціць будуць.

— Але мне нязручна, Аліса, — усхліпнуў Зорыч.

— Я ведаю, Лёва. Ты здужаеш. Дарэчы, — усміхнулася яна, — што наконт майго таты?

— Я гатовы, — схамянуўся Зорыч.

— Ну, здзіві мяне, Лёва, — падбадзёрыла Аліса і прыхінулася для зручнасці спінай да сценкі.

Зорыч пракашляўся і пачаў:

— Проза твайго бацькі сумная, але гарманічная. Калі аўтар піша амаль пра сябе, то звычайна кранае больш, чым калі назірае за падзеямі збоку або зверху, прытрымліваючыся эмацыйна-нейтральнага тону. У яго творах Я-герой распавядае пра сябе як ёсць, ён не схільны да эпатажу, не цешыць слых і позірк эратычнымі замалёўкамі і проста дзеліцца гісторыяй пра тое, як два чалавекі маглі быць шчаслівымі разам, але не здолелі, заблыталіся, разышліся... Здаецца, яшчэ можна пераадолець адлегласць і час, але ці праўда, што ўсё наперадзе ў іх? Сакрэт твораў Макса Мілера не ў сюжэце, а ў кампазіцыі. Ён не спяшаецца на першай жа старонцы вываліць усё галоўнае пра герояў і нюансы іх адносін, ён паказвае, апісвае, прымушае персанажаў дзейнічаць і размаўляць і толькі потым абагульняе, звяртаецца да мінулага. Героі паводзяць сябе непасрэдна, часам непрадказальна, але натуральна — без прадвызначанасці і зададзенасці, прычым

анёлападобная знешнасць жаночых персаналій спачатку ўводзіць у зман і чытача.

— Ты супер, Лёва! — запляскала ў ладкі Аліса, абняла яго і цмокнула ў шчаку. — Усё праўда! Спадзяюся, ты не пакрывіў душой, калі адорваў дыфірамбамі пісьменніка?

— Не, я сапраўды так лічу.

— Вось і добра, — сказала Аліса, устаючы з ложка. Яна яшчэ раз цмокнула Зорыча — ужо ў патыліцу, і забралася на свой другі паверх з ноўтбукам. Ёй трэба было выбраць фотаздымкі для таты і адправіць іх яму па электроннай пошце, як абяцала.

Занятая неадкладнай справай, яна не заўважыла, як Зорыч, саромеючыся, хадзіў у прыбіральню, як распранаўся пад коўдрай, як жадаў дабранач суседкам па пакоі і як тыя хіхікалі, бессаромна распраналіся і напаказ выстаўлялі сваё цела.

# 5

З Наташай Верабей Мілера пазнаёміла аднакласніца ўлетку 1996 года, калі той, скончыўшы першы курс філфака, прыехаў на вакацыі ў бацькоўскую хату пад Стоўбцамі. Гэта здарылася на турбазе «Высокі бераг», размешчанай на беразе Нёмана і акружанай з усіх бакоў лесам. Тут кожны вечар праводзіліся дансінгі і збіралася моладзь не толькі з ліку адпачывальнікаў, але і са Стоўбцаў ды вёсак, што знаходзіліся непадалёк ад турбазы.

Мілер тады прастаўляўся за ўдала здадзеную сесію. Ён абяцаў аднакласніцы (іх двары ў вёсцы глядзелі вокны ў вокны, маладыя людзі ведалі адно аднаго з пялюшак), што калі здасць іспыты без хвастоў, абавязкова адсвяткуе з ёю. Яна прывяла з сабой сяброўку, з якой разам вучылася ў нясвіжскай хабзе.

— Наташа, — працягнула першай руку дзяўчына Мілеру, калі той прывітаўся з аднакласніцай і павярнуўся да яе, і чамусьці дадала: — Верабей.

Яны стаялі ўзбоч ад танцпляцоўкі пад старым, але велічным дубам, за пяць крокаў ад бара, і пакурвалі, калі Мілер падышоў да іх. Ён паціснуў новай знаёмай руку, прапанаваў зайсці ў бар, аднак дзяўчаты заўпарціліся і папрасілі яго вынесці ўсё на прыроду, яны ўжо і палянку нагледзелі.

Мілер падпарадкаваўся.

Яшчэ было не так цёмна, калі ён і сяброўкі ўладкаваліся пад разгалістай пухнатай хвояй з партвейнам і садавінай.

Аднакласніца саступала Наташы. Іх адрозненне кідалася ў вочы. Наташа была невялікага расточку, хударлявая (вось чаму і назвала прозвішча, якое пасавала ёй, як нікому, хіба яшчэ Эдзіт Піяф), з русявымі да плячэй валасамі пад бейсболкай і агромністымі блакітнымі вачыма-азёрамі пад доўгімі вейкамі, якія здаваліся намаляванымі. Апранутая была ў сінія, працёртыя на каленях джынсы і спартовую жаваную кофту ў чорна-бела-ружовыя квадраты з лэйблам на грудзях «Адзідас». Аднакласніца ж на яе фоне выглядала як гара. Мажная дзеўка, аднаго росту з Мілерам, з вуграватай скурай, але з анёльскім голасам. Наташын голас чысцінёй не адрозніваўся, аднак зачароўваў прыемнай для слыху хрыпатой. І хоць Наташа нарадзілася на чатыры гады раней за сяброўку, тым не менш здавалася маладзейшаю.

Піла яна ўмеючы і не п’янела, у адрозненне ад сяброўкі. Тая вельмі хутка набралася. І тады Верабей пачала фліртаваць з Мілерам, які спадабаўся ёй адразу. Стрымлівала Наташу дагэтуль толькі тое, што, магчыма, сяброўка таксама мела нешта да хлопца. Яна запрасіла яго на танец, якраз загучала павольная кампазіцыя. Аднакласніца махнула рукой, маўляў, ідзіце, танчыце і не хвалюйцеся за яе.

Яны падняліся на танцпляцоўку, выйшлі на сярэдзіну, дзе ўжо тапталася на месцы некалькі пар. Наташа падняла рукі да плячэй Мілера, яго рукі папярэдне апусціла на сваю талію. Яна ледзь даставала яму да падбароддзя, але гэта яе ніколькі не бянтэжыла, хоць праз некалькі секунд, каб здавацца вышэй, стала ножкамі на ногі хлопцу і шчыльней прытулілася да яго. У Мілера закружылася галава ці то ад партвейна, ці то ад блізкасці з дзяўчынай, ці то ад нечаканага пацалунку. Гледзячы ў вочы хлопцу, Наташа нясмела пацалавала яго.

У адказ ён моцна сціснуў дзяўчыну ў абдымках, беручы ў палон яе ўсю, а не толькі рот. У той момант ён пачуваўся ўладаром сусвету. Дзяўчына задыхалася, але не пашкадавала аб сваёй правакацыі.

— Малайчына! — пахваліла яна Мілера, нібы студэнта, які паспяхова здаў іспыт, і задаволена ўсміхнулася. — Умееш цалавацца. Адно сілу не разлічваеш, я ўсё ж жанчына, — нібы ўпікнула.

— Ой, прабач! — спахапіўся Мілер і паслабіў абдымкі.

— Нічога, — супакоіла яго Наташа, праводзячы рукой па яго плячы, — мне нават прыемна было спачатку. На будучыню: будзь крыху далікатнейшым.

— Як скажаш, — прамовіў Мілер.

— Ніколі не згаджайся так хутка, — запярэчыла раптам дзяўчына. — А лепш наогул не згаджайся, настойвай на сваім. Нам падабаюцца рашучасць і непахіснасць.

— Ты разумная, — заўважыў Мілер.

— Не, разумны ты, — не пагадзілася Наташа і засмяялася: — А я прыгожая.

— Самая прыгожая! — захоплена падхапіў Мілер.

— Табе больш відаць, — спадабалася дзяўчыне.

Мілер ніколі раней і ні з кім не адчуваў падобнай лёгкасці ў адносінах. Наташа так нечакана стала для яго ўсім, што ён нават не здзівіўся гэтаму. Ён не хацеў з ёю развітвацца і не жадаў, каб музыка спынялася. Яна таксама нікуды не спяшалася. Пра аднакласніцу яны забыліся. Зрэшты, і аднакласніца забылася пра іх. Сяброўства спынілася, яны пасля нават не віталіся. Аднакласніца не магла прабачыць Мілеру няўвагі да сябе: лічы, усё жыццё разам і дзесяць гадоў за адной школьнай партай, мог бы і ўважлівей паставіцца да яе. Наташу зненавідзела проста за тое, што яна ёсць, дакладней, была.

Прагучала апошняя музычная кампазіцыя. Трэба было сыходзіць. Але куды і навошта? Наташа з Мілерам не маглі адляпіцца адно ад аднаго. І тады дзяўчына пацягнула хлопца за сабой. Яна рухалася вельмі хутка і ўпэўнена, быццам дакладна ведала мясцовасць, у якой арыентавалася нават у цемры. Аднак адкуль тыя веды ў яе ўзяліся? Ніводнага разу дзяўчына не спатыкнулася і не памылілася на паваротах.

— Куды мы? — вырашыў удакладніць Мілер.

— Не пытай, — спынілася Наташа і пацалавала хлопца, каб супакоіць. — Даверся мне, добра?

Мілер згодна кіўнуў і не адставаў ад дзяўчыны.

Яны ўзлезлі на невысокі пагорак, дзе пад шатамі дрэў хавалася непрыкметная нават удзень драўляная хацінка. Адкуль дзяўчына пра яе ведала, Мілер не здагадваўся. Адкуль хатка ўзялася, тым больш. І спытаць у яе не наважыўся.

Наташа пакланілася дзвярам (так гэта выглядала), замкнёным на навясны замок, абмацала шурпатую сцяну і з нейкай шчыліны ў дошках выняла ключ. Пераможна пакруціла ім перад Мілеравым носам.

Адамкнулі замок, увайшлі ў хату і апынуліся ў суцэльнай цемры. Мілер думаў уключыць святло і пачаў навобмацак шукаць выключальнік, але дзяўчына спыніла яго.

— Тут ёсць свечкі, — сказала яна. — Электрычнасці не трэба.

Тады Мілер запстрыкаў запальніцай. Пры дапамозе кволага агеньчыка Наташа знайшла кандэлябр з трыма свечкамі і запаліла іх. Стала больш-менш светла і ўтульна. Мілер агледзеўся. Ён патрапіў у чысты, прыбраны пакойчык з нізкай столлю і адным акном у лес. Злева стаяла добрая канапа, засланая калючай коўдрай у зялёныя і чырвоныя прастакутнікі. Над канапай на сцяне вісеў кілімок з выявай чорнага ката ў белай кашулі навыпуск і саламяным капелюшы. Кот

вяртаўся праз лес з рыбалкі: на плячы нёс доўгую вуду, а ў руцэ вядро, паўнюткае рыбы. У правым куце стаялі драўляны стол і два зэдлікі. Ля акна — тэлевізар «Гарызонт» на пузатай тумбачцы, на тэлевізары — відэамагнітафон. Драўляныя паліцы над сталом акупавалі відэакасеты. Падлога, голая, мытая, рыпела. На акне — квяцістая фіранка.

Наташа замкнула дзверы на зашчапку і паставіла кандэлябр на стол. Павярнулася да Мілера, пачала павольна расшпільваць маланку кофты.

На хвіліну Мілер быццам ацверазеў. Што ён тут робіць? Пра дзяўчыну, якая прывяла яго сюды, не ведае нічога, а тая ўжо гатова пераспаць з ім. Гэта нармальна? З іншага боку, чаму б і не. А калі з ёй штосьці не так? Калі яна хворая і ён заразіцца ад яе? А калі гэта падстава? Але каму ён патрэбен, каб яго падстаўляць? Ды гары яно ўсё гарам! Калі яшчэ так пашанцуе? Дзяўчына прывабная, сама жадае, навошта адмаўляцца?..

— Што-небудзь не так? — наблізілася ўсутыч да яго Наташа і да канца расшпіліла маланку кофты. Сталі бачныя карункі станіка і лагчынка паміж невялікіх, але выпуклых грудзей.

Развагі і сумневы Мілера адляцелі далёка, як птушыная чарада ў вырай. Ён ізноў не спытаў, адкуль дзяўчына ведала пра гэтае месца.

— Ты хочаш мяне? — пытала Наташа, тулілася да яго, прасоўвала рукі пад яго кашулю.

«Ачмурэць можна, як прыемна!» — пранеслася ў галаве Мілера.

Яна паваліла яго на канапу, заняла пазіцыю зверху.

— Не замінай мне, — прыклала палец да яго вуснаў. — Я сама ўсё зраблю.

Наташа скінула кофту і расшпіліла станік.

Выгляд яе безабаронных грудак выклікаў у Мілера жаданне іх абараніць, і ён пацягнуўся да іх вуснамі. Дзяўчына дазволіла яму стаць рыцарам...

Потым яны доўга ляжалі нерухома.

— У мяне ніколі не было і больш ніколі не будзе пісьменніка, — нечакана прашаптала Наташа на вуха Мілеру. — Не дзівіся, я ведаю, што кажу. У тым, што ты станеш пісьменнікам, я ўпэўнена. Можа, гадоў праз дваццаць пяць усе будуць цябе чытаць, маладосць успамінаць.

У дзверы раптам моцна загрукалі. Пачулася лаянка. Вось яна, расплата за грэх. І ніводнага ж разу не спытаў пра гэтую хатку, ішоў, як цяля прывязанае. І сам жа ішоў!

— Не будзем адчыняць! — спалохана, але ў той жа час цвёрда прамовіла Наташа. Яна ўскочыла з канапы, сабрала свае рэчы, адышла да стала, імкліва апранулася. Думала задзьмуць свечкі, але ўсё адно позна. Святло бачылі знадворку.

Мілер таксама апрануўся, стаяў пасярод хаткі і не разумеў, што яму рабіць і чаго чакаць.

За каханне трэба плаціць. Дзверы зляцелі з завесаў ад чарговага ўдару па іх і з грукатам паваліліся на падлогу. У святліцу ўваліліся чацвёра, п’яныя, але ў ясным розуме. Мілер адчуў сябе персанажам дрэннай п’есы пра няверную жонку, маладога палюбоўніка і тупаватага мужа.

Няпрошаныя госці глядзелі на Наташу і Мілера з нянавісцю.

— Ну што, шлёндра, вось ты мне і трапілася! — выдыхнуў першы, той, што стаяў бліжэй за ўсіх да дзяўчыны. Тая нічога не адказала, адно ўцяла галаву ў плечы.

— Словы падбірай, калі з дзяўчынай размаўляеш, — уставіў слоўца Мілер. На жаль, ён чытаў правільныя кнігі. Таму атрымаў пад дых і ў сківіцу так, што не ўтрымаўся на нагах,

а падняцца ўжо не дазволілі, збілі кагалам, адно паспяваў затуляць твар і ныркі ад удараў.

Наташа ўвесь час, пакуль футболілі Мілера, стаяла на месцы нерухома, быццам статуя. Толькі вочы жмурыла ў бяссіллі.

— Дзяўчына, кажаш? — каментаваў кожны ўдар той, самы першы. — Дык яна першая прашмандоўка ў горадзе! Знікла, праўда, год таму, узнагародзіўшы мяне ганарэяй! Мяне, чуеш?! Я нават вачам спачатку не паверыў, калі яна з табой танчыла навідавоку ва ўсіх! А я яе вось на гэтай самай канапе чпокаў!..

— Навошта ж тады ты не мяне, а яго караеш? — падала нарэшце голас дзяўчына.

— Рукі аб цябе пэцкаць — сябе не паважаць, дрэнь! — павярнуўся да яе пакрыўджаны. Збіццё спынілася. — А яму навука будзе. Нічога, пакуль жаніцца — загаіцца. І раю, — звярнуўся да Мілера, — паспяшацца да венеролага, пакуль не позна. Я б цябе не крануў, — дадаў на развітанне, — калі б ты мяне не зачапіў. Усю злосць на табе спагналі. Так што ганарыся да пенсіі сваёй высакароднасцю.

Ён сплюнуў сабе пад ногі, і прыхадні сышлі.

Наташа кінулася да Мілера, які падымаўся з падлогі, абапіраючыся на канапу. З пабітага носа і рассечанай губы цякла кроў. Дзяўчына дапамагла яму сесці на канапу, прыклала насоўку да яго носа.

— Прабач, — правяла рукой па валасах Мілера, — я не думала, што ўсё так скончыцца. Ты не хвалюйся, я чыстая.

— Але ён казаў праўду? — усё ж спытаў Мілер, хоць адказ ведаў і без яе.

Наташа апусціла вочы.

— Ты вельмі харошы, — падняла вочы на Мілера і прамовіла праз некалькі секунд. — Такі ўзнёслы, рамантычны, ветлівы. Я ніколі не была з такім. Дзякуй табе за гэта. Калі... калі ты не хочаш, каб я заставалася, я пайду...

— Куды?

Наташа паціснула плячыма.

— Пойдзем да мяне, — раптам прапанаваў Мілер — Адну я цябе не пушчу. Я кахаю цябе.

— Ты нармальны? — паныла ўсміхнулася дзяўчына. Але вочы яе засвяціліся надзеяй.

За паўгадзіны яны дайшлі да вёскі, у якой жыў Мілер, дакладней, яго бацькі. Дарога цягнулася праз лес, і ўсю дарогу хлопец чытаў дзяўчыне вершы. Перад брамкай, што вяла ў двор, Наташа нерашуча спынілася.

— Можа, мне лепш вярнуцца туды? — паказала яна на хату насупраць, у якой жыла аднакласніца хлопца, у яе дзяўчына і спынілася, да яе і прыехала.

— Як ты сабе гэта ўяўляеш? — запярэчыў Мілер. — Ты ведаеш, каторая гадзіна? Пабудзіш усіх...

— А калі яны хвалююцца, перажываюць за мяне? Усё ж я іх госця.

— Думаю, яны ўжо ведаюць, з кім ты.

— Ты так лічыш?

— Упэўнены.

Мілер абняў дзяўчыну.

— А твае бацькі? — марудзіла Наташа. — Як ты растлумачыш маё з’яўленне ім?

— Па-першае, — пацалаваў Мілер дзяўчыну ў патыліцу, — зараз яны спяць. А па-другое, раніцай разбярэмся.

Ён адчыніў брамку і прапусціў Наташу наперад. Высунуўся з будкі Байкал, гаўкнуў для прыліку, бо пазнаў гаспадара, гучна, дэманстратыўна пазяхнуў, маўляў, шнарыце поначы, спаць не даяце, і вярнуўся ў будку.

Мілер адчыніў дзверы, прапусціў дзяўчыну, паціху дзверы замкнуў. На дыбачках прайшлі ў пакой, дзе ён ўключыў настольную лямпу. Наташа ахнула, убачыўшы кнігі. Увесь

пакой быў застаўлены кніжнымі стэлажамі, нібы абабіты імі, як шпалерамі.

Мілер разабраў пасцель, пачаў распранацца. Крыху паморшчыўся, калі здымаў кашулю. На рэбрах выступілі фіялетавыя плямы ад збіцця.

— Распранайся і кладзіся спаць, — сказаў ён дзяўчыне, якая не магла адарваць вачэй ад кніг.

— Ты ўсе іх прачытаў? — яна скінула адзежу і слізганула пад коўдру да Мілера.

— А ты як думаеш? — пытаннем на пытанне адказаў той і прытуліў да сябе аголенае дзявочае цела.

— Думаю, прачытаў, — прамовіла Наташа праз секунду.

— Правільна думаеш. Спі.

— А кахацца не будзем?

— Ты ж усіх пабудзіш.

— Я ціхенька, абяцаю.

Пасля той ночы Мілер больш ніколі ў жыцці Наташу Верабей не бачыў. Калі ён прачнуўся, яе ўжо не было. Маці сказала, што правяла дзяўчыну на аўтобус да Стоўбцаў і ні пра што яе не распытвала. Дзяўчына сама папрасіла, каб Мілера не будзілі. Вядома, маці здзівілася, што з сынава пакоя раніцай выйшла дзяўчына, а не сын. Яны прывіталіся. Жыццё ёсць жыццё.

Праз дзевяць месяцаў Мілер атрымаў тэлеграму, яна прыйшла на адрас інтэрната. Маці віншавала з нараджэннем дачкі. Ён выехаў у вёску. Наташу, вядома, шукаў, але дзяўчына нібы растварылася ў паветры. Ніхто нічога пра яе не мог сказаць.

Бацькі распавялі сыну, што Наташа цягам тыдня кожны дзень прыязджала да іх, плакала. Яе бацька прапанаваў пажаніць дзяцей. Пасаг за дачкой абяцаў немалы. Ён і параіў паведаміць Мілеру, што той стаў маладым татам...

Будучыя сваякі так і не з’явіліся. Мілер чакаў іх чатыры дні.

Потым неяк аднакласніца, тая самая, што пазнаёміла Наташу з Мілерам, сказала яму, што Наташа адмовілася ад дзіцяці яшчэ ў радзільні, а затым знікла. Старэйшая сястра забрала дзіця да сябе. Ні дома Наташы не было, ні на вучобе яна больш не паказвалася. Наташына бяздзетная сястра прыняла дзіця як сваё. Яна з’ехала з немаўляткам у Коласава, дзе жыла з мужам. Аднакласніца вельмі раіла Мілеру не лезці да іх і не прымаць ніякіх захадаў, каб убачыць малую. Улічваючы Наташыну захопленасць мужчынамі, сцвярджаць, чыё дзіця насамрэч, вельмі цяжка.

# 6

Лепшы сябар Мілера Алекс Букоўскі быў саракадвухгадовым вясёлым атлетам і паэтам. Спорт яму не замінаў займацца паэзіяй і наадварот. Ён аднолькава захапляўся як творчасцю Пушкіна, Ясеніна, Высоцкага ды Сыса, так і поспехамі на рынгу Майка Тайсана, Холіфілда, Косці Цзю і Валуева. А мару песціў толькі адну: усіх іх абысці. Ён меў высокі рост, паважную постаць, круглы твар і лупатыя вочы; гэтакі беларускі Партос і выпіць не дурань. Троху паспрабаваў сямейнага жыцця, нават сына завесці паспеў, але штосьці не заладзілася. Калі сыну споўнілася пяць гадоў, Алекс з жонкай развёўся і больш жаніцца не збіраўся, аднак не абыходзіў ніводнай жанчыны, якая кідала на яго вока.

З Мілерам Букоўскі пазнаёміўся ў 1990-я на чарговым пасяджэнні літаб'яднання пры Доме літаратара. Там жа ён пазнаёміў Мілера і са сваімі прыяцелямі-аднакурснікамі — паэтам Мікітам Бізуном і тэлевядучым Вадзімам Байкавым. З тых часоў яны сябравалі і часцей за ўсё збіраліся ў «Любавушцы».

Месца для сустрэч з сябрамі вынайшаў менавіта Букоўскі, які даўно завітваў да «Любы». Яму імпанавала прысутнасць бандытаў у шынку. Асабліва калі тыя да яго звярталіся ці проста так, ці па якой патрэбе. Да блатных Букоўскага цягнула, як да зорак. Аднойчы ён нават размаўляў са Шчаўлікам,

які падарыў Алексу ўласны нож. Букоўскі апынуўся побач са «злодзеем у законе» выпадкова і нават не ведаў, хто той такі. Гэта адбылося ў бары гасцініцы «Арбіта». Алекс тады не паразумеўся з дзвюма гарыламі з асяроддзя Шчаўліка, заступіўся за дзяўчат, да якіх тыя прычапіліся. Вось за гэта і атрымаў нож у падарунак.

Сябры не падтрымлівалі захаплення Букоўскага блатнымі, Мілер наогул іх ненавідзеў і ніколі не паціскаў ім рукі. Злачынец ёсць злачынец і павінен сядзець у турме. А тыя, што заходзілі да «Любавушкі», напаказ хваліліся сваімі ходкамі і тым, што зрабілі: абрабавалі, згвалтавалі, збілі, забілі.

І неўзабаве найшла каса на камень. Дзесьці з месяц таму ў адну з пятніц (сябры сустракаліся кожную пятніцу пасля працы) Мілер, Букоўскі, Байкаў і Мікіта Бізун адпачывалі ў «Любы». Узялі гарэлкі, кавалачкі смажанай курыцы на закусь, таматавага соку запіць. Загаварылі пра сваё, пра літаратуру, пісьменнікаў, жанчын...

Раптам у шынок увалілася гурба блатных на чале з Літвой. Апошні — даволі каларытны персанаж. Ён адседзеў васямнаццаць гадоў за забойства! Размаўляючы, хрыпеў, а не гаварыў і прыемна ўражваў адмоўнай прывабнасцю. На Камарах яго ўсе ведалі і паважалі, паколькі, нягледзячы ні на што, жыў па справядлівасці, то-бок па паняццях.

Літва першым заўважыў літаратараў, падышоў да іх, паціснуў кожнаму руку ў знак прывітання і павагі, акрамя Мілера. З ім абмяняўся кіўком. Двое, што прыйшлі з Літвой, зрабілі тое ж самае, што і ён. Трэці паціснуў руку Букоўскому і больш нікому рукі не працягнуў. Яму не спадабалася прысутнасць Байкава, за якім хадзіла пагалоска, што ён, маўляў, не той арыентацыі.

Блатны дэманстратыўна грэбліва абцёр аб сурвэтку руку, якой вітаўся з Букоўскім, і працадзіў, звяртаючыся да новых знаёмых:

— На вашем месте я б свалил по-тихому отсюда, пока я добрый. Поласкайтесь с пидором, но не здесь.

— Гэты шынок твая маёмасць? — запярэчыў Мілер.

— Чё? Откуда навозом колхозным потянуло? Базарить научись по-человечески, баклан! — адказаў той.

— Смярдзіць, я думаю, ад цябе, — не стрымаўся Мілер. — А кажу я на мове краіны, у якой жыву. І сябрую з тымі, з кім пажадаю. А таму сам валі, адкуль прыпёрся.

— Я чё-то не понял, — звярнуўся блатны да сваіх падзельнічкаў, якія занялі вольны столік і ўжо паселі за яго, а Літва кудысьці знік і яны не ведалі, што рабіць, каго слухаць, хто галоўны, але ўсё ж далучыліся да завадатая. — Братва, тут обсосы быдлорусские вещают, прикиньте! Как с трибуны!

— Ды мы проста паэты, — падняў вочы на блатнога Букоўскі, — вершы пішам, якая трыбуна...

— Каму ты што тлумачыш, — перапыніў яго Мілер. — Яму пляваць...

— Вот тут ты прав, — перапыніў у сваю чаргу Мілера блатны. — Мне глубоко по... на вас і на вашу недоразвитую мову. Мне в падлу даже дышать с вами одним воздухом...

— Так не дыхай, — прапанаваў Мілер. Ён выйшаў з-за століка і ўстаў нос да носа побач з блатным. — Ты не на зоне. І нам тут не да тваіх паняццяў. Вяртайся туды і там пантуйся ды пальцы растапырвай. Скажу больш: вы, усё ваша племя вырадкаў, як клешчы на целе народа, прысмакталіся і смокчаце з яго кроў разам з такімі ж дэгенератамі «мусарамі»...

— Одно радует, в мусарню не побежишь, — не даў дагаварыць яму блатны. Але і справакаваць бойку таксама не паспеў. Аднекуль своечасова з’явіўся Літва і супакоіў яго.

Аднак праз некалькі хвілін Літва папярэдзіў, каб сябры і сапраўды сыходзілі: той дурань патэлефанаваў камусьці і ў хуткім часе можа здарыцца непапраўнае.

Мілеру карцела застацца, але ён вымушаны быў сысці з астатнімі. Нікому не хацелася з-за дурасці пакалечыцца ці наогул развітацца з жыццём.

Той, хто чапляўся да Мілера, кінуў яму злосна, што яны яшчэ абавязкова сустрэнуцца.

З ночы без перадышкі сыпаў снег. Прырода канчаткова звар'яцела ці, наадварот, акрыяла, паверыла нарэшце, што снежань — гэта снежань. Быццам пух і пер'е, разлятаўся ва ўсе бакі снег, калі Букоўскі падыходзіў да «Любавушкі». Раней прызначанага Мілерам часу: яму проста пашанцавала з транспартам.

Каля «Любы» курылі Літва і яшчэ чатыры чалавекі, сярод якіх Букоўскі пазнаў таго дзёрзкага бамбізу, які абяцаў разабрацца з Мілерам. Да яго звярталіся як да Сазана. Букоўскі спыніўся метраў за шэсць ад блатных. Ён спалохаўся, але не за сябе і не за Мілера. За жанчын, якіх запрасіў Мілер. Блатныя прыстануць як смала. Сутычкі не абмінуць. Трэба весці жанчын у іншае месца. Букоўскі набраў Мілера, каб папярэдзіць, але той не адказваў. «Мабыць, у метро ці яшчэ дзе-небудзь едзе», — вырашыў ён.

Тым часам Букоўскага заўважыў Сазан. Літва паспрабаваў спыніць яго, але ў таго нічога не выйшла.

Букоўскі закурыў.

— Страшна? — спытаў Сазан, калі падышоў і спыніўся за два крокі насупраць. Рукі ён трымаў у кішэнях курткі, вочы прымружыў. Аднаго росту з Букоўскім, Сазан, аднак, выглядаў нашмат худзейшым.

— Не, — выдыхнуў дым Букоўскі ў неба.

— А чё тогда не заходишь? — абышоў Сазан Букоўскага вакол. — Звонишь кому?

Літва і астатнія павольна наблізіліся да іх. Літва развёў рукамі, нібы гаварыў Букоўскаму, што яму іх не стрымаць, калі што. Той кіўнуў, маўляў, усё зразумела.

— Табе чаго трэба? — спытаў ён Сазана.

— На колени стань! — раптам загадаў Сазан.

— А то што?

Падзельнікі Сазана абступілі Букоўскага з усіх бакоў. Літва адышоў убок.

— Ты чё, думаешь, пуп земли? — плюнуў Сазан Букоўскаму пад ногі. — Или у тебя вагон здоровья? На колени, и я про вас забуду!

— Ты такі смешны, Сазан! — усміхнуўся Букоўскі, разумеючы, што зараз пачнецца бойка. — Дзіцячы сад нейкі…

На яго накінуліся ўсе чацвёра адразу. Двое ззаду, каб заламаць рукі, двое цэлілі ў твар. Аднаму з іх Букоўскі ўсадзіў нагу пад калена, як дзіду. Сазана ўзнагародзіў «бычком» у пераноссе. Той, аднак, утрымаўся на нагах, у адрозненне ад першага, які паваліўся на зямлю, бы бязногі. Тыя, што былі ззаду, апынуліся спераду і сутыкнуліся ілбамі.

Мілер з'явіўся нечакана, але своечасова. Як толькі заўважыў валтузню каля «Любавушкі», паскорыў крок. Пазнаў Сазана і пабег на яго, быццам на прыступ вежы, ды знёс ударам абедзвюх ног у жывот. Яны паваліліся абодва, аднак на ногі ўскочылі хутка і аднačасова. У Сазана ў руках аднекуль узяўся нож.

— Вот и высунулась наружу вся твоя ублюдочная сущность! — па-руску вымавіў Мілер, а пасля нечакана зноў працягнуў па-беларуску: — Адразу за нож хапаешся, як апошняе чмо!

— А я тебя за человека не считаю, какой из тебя человек, — запярэчыў Сазан. — Ты же пятая колонна, а значит, враг, которого давить одно удовольствие!

— Памыляешся, вораг — гэта ты! І месца тваё за кратамі поруч з парашай!

Сазан скрыгатнуў зубамі. Ён быў смяротна абражаны.

— Падлай буду, если ты не сдохнешь! — працадзіў ён.

— Не, цябе я перажыву! — запярэчыў Мілер. — Будзь упэўнены!

Сазан зрабіў рэзкі выпад, атакуючы суперніка, але ці то паслізнуўся, ці то не разлічыў уласнай вагі. Магчыма, гэта ўратавала Мілера ад смерці ці ад ранення. Ён выбіў нож і накінуўся на блатнога, рыхтык сабака на ваўка. Яны качаліся па снезе: то абменьваліся ўдарамі, то намагаліся дацягнуцца да горла, вочы іх гарэлі нянавісцю.

Астатнія супакоіліся, пільна сачылі за барацьбой. Літва нікому не дазваляў умешвацца.

Мінакі праходзілі міма, адварочваліся, нібы нічога не бачылі. Двое маладых людзей сунуліся было разнімаць, але Літва загарадзіў ім дарогу, параіў ісці, куды ішлі. Аднак дзвюх жанчын, што імкліва набліжаліся да месца бойкі, яму было не стрымаць. Гэта спяшаліся на сустрэчу з Мілерам і яго сябрам Таццяна Аляксандраўна і яе сяброўка Алена.

Таццяна Аляксандраўна асабліва не задумвалася, каго б паклікаць з сабой, і патэлефанавала Ленцы Гарох, з якой сябравала яшчэ са школьных гадоў. Нярэдка яны сустракаліся, успаміналі, як разам настаўнічалі ў школе. Таццяна Аляксандраўна выкладала беларускую мову і літаратуру, Ленка — матэматыку ў старэйшых класах. У абедзвюх не склалася сямейнае жыццё, не пашанцавала з мужыкамі. Абедзве былі разведзеныя, працавітыя і прытрымліваліся вольных адносін з мужчынамі, без абавязкаў. Па дарозе

Таццяна Аляксандраўна сцісла распавяла Ленцы пра Мілера. Пра пачуцці свае да Мілера яна нават самой сабе баялася прызнацца, службовага рамана не хацелася, паколькі меўся ўжо горкі досвед. І зноў наступіць на тыя ж граблі. Не, выбачайце. Але нічога не магла змяніць, ды і не жадала. Адмыслова выдумляла прычыны даўжэй пабыць з Мілерам на працы, разумеючы, канешне, што таму наўрад ці тое падабалася. Гэта ж яе да яго цягнула. Таму прапанова Мілера сустрэцца і пасядзець дзе-небудзь, нават і з сябрамі, успрыняла як спатканне. Гэта будзе неафіцыйна, ён не стане ставіцца да яе як да начальніцы і разгледзіць жанчыну, а там… Яна ж шыкоўная баба, як казалі за спінай Таццяны Аляксандраўны ў розных міністэрствах, куды яна часта ездзіла па працы.

— Здаецца мне, Татка, — задуменна прамовіла Лена, выслухаўшы сяброўку, пакуль яны ехалі ў метро, — ты ўтрэскалася ў свайго Мілера.

— Ды не мой ён, — адмахнулася Таццяна Аляксандраўна, — што ты гаворыш… Хоць, вядома, хацелася б, каб быў маім, — усміхнулася.

— Ну вось! — падагульніла Лена, такая ж цёмнавалосая, як і Таццяна Аляксандраўна, з італьянскімі рысамі твару, вялікімі прыгожымі вачыма, але строгім позіркам.

— Не хвалюешся? — раптам спытала Таццяна Аляксандраўна ў сяброўкі.

— Чаго мне хвалявацца? — паціснула плячыма Лена. — Гэта ў цябе планы заваёўніцы. А я невядома куды еду невядома з кім знаёміцца. Мне проста цікава.

На станцыі «Плошча Якуба Коласа» жанчыны выйшлі з метро, падняліся на свежае паветра, шчодра засеянае людзьмі, якія ўсе кудысьці спяшаліся. Адны ў «Імпульс», іншыя, наадварот, з «Імпульсу» або ў метро, да прыпынку,

яшчэ куды-небудзь. Вечар толькі пачынаўся і ўсяму чалавецтву штосьці абяцаў, трэба было адно: зразумець што і не пазяхаць.

Побач з Камароўскім рынкам, дакладней яшчэ каля мэблевага салона, Таццяна Аляксандраўна мімаволі затрымала крок. Ёй не спадабалася валтузня непадалёк ад «Любавушкі». Яна ўзіралася наперад, і дурное прадчуванне бяды прымушала часцей біцца сэрца.

— Ты чаго? — кранула яе за локаць Лена. — Амаль прыйшлі. Страшна стала ці што?

— Стала, — павольна вымавіла Таццяна Аляксандраўна. — Бачыш, двое качаюцца ў снезе, а астатнія стаяць і глядзяць на іх?

— Ну бачу, і што?

— Гэта Мілер…

— Ды не можа быць, табе падалося. Б’юцца мужыкі нейкія…

— Дакладна Мілер, — прашаптала Таццяна Аляксандраўна.

— І што рабіць?

— Ногі ў рукі і адбіваць! — сказала Таццяна Аляксандраўна і амазонкай паляцела на дапамогу.

Яна бегла, размахваючы сумкай і выкрыкваючы пагрозы, тым самым прыцягнула ўвагу Мілера, які азірнуўся на яе голас і прапусціў удар ў скроню. І паваліўся на снег як падкошаны. Таццяна Аляксандраўна ляпнулася побач на калені, схілілася над ім, прыпадняла галаву Мілера і пачала цалаваць яго. Сазан, Літва і астатнія паспешна рэціраваліся. Букоўскі таксама ўкленчыў ля сябра і катурхаў яго. Лена стаяла ўбаку і строга назірала за тым, што адбывалася. Яна курыла і доўга сачыла за ўцекачамі, пакуль тыя не селі ў таксі.

Мілер расплюшчыў вочы, усміхнуўся Таццяне Аляксандраўне, маўляў, усё абышлося. З дапамогай сябра падняўся на ногі, але не ўтрымаўся на іх і зноў паваліўся. У галаве шумела, як у марской ракавіне, прыстаўленай да вуха. Букоўскі працягнуў Мілеру руку. Той ухапіўся за яе, падняўся. Яго хістала ва ўсе бакі, нібы п’янага.

— Максім, можа, хуткую выклічам? — непакоілася Таццяна Аляксандраўна.

— А я прапаную паехаць да мяне, — умяшалася Лена і дадала: — Хутчэй пазнаёмімся.

Ідэя з шынком ёй адразу не спадабалася. А калі яна разгледзела Букоўскага (Мілера тады ўжо паднялі на ногі, і Таццяна квактала над ім, выціраючы кроў з яго твару сваёй насоўкай), адчула нястрымнае жаданне застацца з ім самнасам і дазволіць яму ўсё. Ці не дзеля гэтага сустрэча і задумвалася? Чаго саромецца? Яна — самотная жанчына, якая хацела мужчыну, і Букоўскі як ніхто ёй падыходзіў.

— Не ведаю, — азвалася Таццяна Аляксандраўна, — нязручна неяк.

— Я сама вас запрасіла, таму нічога няёмкага… — сказала Лена. — Толькі трэба будзе зайсці ў краму. Я не чакала гасцей.

Мілер з Букоўскім пераглянуліся. Яны абодва стаялі насупраць жанчын. Букоўскі падтрымліваў сябра за плячо, каб той не страціў раўнавагі. Таццяна Аляксандраўна, крыху падумаўшы, пагадзілася на прапанову сяброўкі. У яе кватэры, адкуль не трэба нікуды сыходзіць, вымалёўваліся нядрэнныя перспектывы для... Вечар адно пачынаўся, хай і не зусім удала, ды хто ведае, што чакае наперадзе. Магчыма, толькі добрае. Галоўнае, каб супалі жаданні.

Букоўскі ўзрадаваўся запрашэнню Лены і не хаваў гэтага. Ды і стол танней абыдзецца, чым у шынку. Ён спытаў у яе

адрас і набраў у мабільным нумар службы таксі «7788», чыімі паслугамі карыстаўся нярэдка.

Мілеру было пакуль усё адно. Ён памятаў, што запрасіў Таццяну Аляксандраўну на спатканне, якое не задалося з самага пачатку, што ў яе на яго нейкія свае планы, у яго таксама яны меліся, але сутычка з Сазанам сёе-тое змяніла. У галаве шумела, трашчала і скавытала, скроня і нос крывавілі, ногі дрыжалі, трэсліся і падгіналіся, рыхтык галінкі кволага дрэўца. Карцела курыць і піва, як перад сустрэчай з Алісай, пра якую не цярпелася распавесці проста зараз. Аднак Мілер стрымаўся. Таццяна Аляксандраўна так глядзела на яго — не як начальніца, а як жанчына на свайго мужчыну.

А што? Мае права. Ён нават здасца без бою.

Мілер палез па цыгарэты ў кішэню джынсаў, дастаў пачак. Прыкурыць не паспеў. Пад'ехала таксі. Ён з палёгкай уздыхнуў: добра, што нейкі час не будзе стаяць, бо спадзявацца на ўласныя ногі не мог. Яны зрабіліся чужымі.

Букоўскі заняў месца побач з кіроўцам, Мілера пасадзілі ззаду паміж жанчынамі.

Усю дарогу маўчалі. Але маўчанне не прыгнятала. Дваццаць хвілін спатрэбіліся таксісту для дастаўкі пасажыраў на вуліцу Напалеона Орды, дзе ў адной з новабудоўляў жыла Лена. Усе ехалі і прадчувалі штосьці добрае і светлае.

Букоўскі ні разу не азірнуўся на жанчын, заняты дарогай, у якую пільна ўзіраўся праз лабавое шкло, быццам сам сядзеў за стырном. Лена пазірала то ў акно, то на патыліцу Букоўскага і на яго шырокія плечы і прыгадвала, ці прыбрана ў кватэры, каб не было сорамна перад гасцямі...

Таццяна Аляксандраўна таксама глядзела ў акно, баялася сустрэцца з позіркам Мілера, азірнуцца на яго (дарэчы, дарма, паколькі той сядзеў з заплюшчанымі вачыма) і нават

паварушыцца. Яна пачувалася ніякавата побач з чалавекам, да якога яе цягнула. Калі яна паглядзіць на Мілера, то не стрымаецца, каб не накінуцца на яго, а гэта дрэнна. Для яе. Не для Мілера. Яна акажацца слабой і будзе залежаць ад яго, чым той абавязкова скарыстаецца. Праходзілі ўжо. Таму ўчапілася адной рукой у другую і не адрывала вачэй ад акна, але нічога не бачыла за ім. Яна не пазнавала саму сябе. Мілер, як мужчына, нічога агульнага не меў з яе ідэалам. Худы, барадаты, хрыпаты, курэц, а ганарлівы які!.. Чымсьці ён нагадваў ёй французскага Высоцкага — Сержа Генсбура, у якога ў палюбоўніцах пабывалі ўсе парыжскія прыгажуні. Вядома, Мілеру далёка і да першага, і да другога, аднак штосьці ў ім было. Сённяшні інцыдэнт — бессэнсоўная бойка — прымусіў Таццяну Аляксандраўну спалохацца за Мілера. Яна да любога ў падобнай сітуацыі паставілася б літасціва і дапамагла б, чым магла. Таццяна Аляксандраўна адчувала, што Мілер ёй блізкі і дарагі чалавек, які мог па-дурному загінуць, так і не даведаўшыся, што ён значыць для яе. Але дзе яму зразумець перажыванні жанчыны, якая кахае! Сівы ўжо ўвесь, а паводзіць сябе, нібы хлапчук. Кахае? Таццяна Аляксандраўна адчула, як чырвань пакрывае яе твар. Прызнанне пачуцця, якога не жадала, агаломшыла. Цяпер праблем не пазбегнуць...

Мілер жа заплюшчыў вочы адразу, як сеў у машыну, і атрымліваў асалоду не ад суседства з жанчынамі, а ад таго, што не трэба стаяць на нагах. Ён злажыў на грудзях рукі і закінуў галаву назад, каб было зручней. Так склалася, што Мілер не мог думаць пра Таццяну Аляксандраўну зараз, яна павінна зразумець яго. Але Сазан гэты добра атрымаў. І яшчэ атрымае, калі што...

Таксі спынілася поруч з трынаццаціпавярховым гмахам, на першым паверсе якога былі налепленыя дробныя крамы, буцікі

ды офісы. Кіроўца агучыў суму за паслугі, і Букоўскі адлічыў яму грошы. Ён першым выйшаў з машыны і дапамог астатнім.

— Ну што? — затым спытаў. — Трэба ж закупіцца?

— Так, — пагадзілася Лена. — Хадземце за мной.

Абмінуўшы некалькі буцікоў, спыніліся перад дзвярыма, над якімі вялікімі літарамі было напісана «Прадукты».

— Вы ідзіце, — сказаў Мілер, вымаючы цыгарэты, — я пачакаю тут пакуль...

Ён закурыў. Грошы аддасць потым. Навошта замінаць гаспадарліваму Букоўскаму, калі той вельмі не любіў некампетэнтных дарадцаў і лепш за іншых ведаў, што неабходна ўзяць да стала? Жанчынам пра гэта сказаць не паспелі, але яны асаблівай увагі на тое, што Мілер застаўся на вуліцы, не звярнулі і пагадзіліся з тым, што яму карысней застацца на паветры.

Мілер адышоў да драўляных лавак, якія тырчалі насупраць крамак, абраў адну, змахнуў снег, уладкаваўся на ёй ямчэй, выцягнуў з кішэні тэлефон паглядзець фота Алісы, каб не нудзіцца ў адзіноце.

Ён захапляўся ёю. І ганарыўся тым, што дзяўчына яго дачка.

Нечакана побач прысуседзілася Таццяна Аляксандраўна. Яна адчула каля прылаўкаў, што замінае сяброўцы і Букоўскаму, якія з запалам абмяркоўвалі і спрачаліся пра тое, што ўзяць да святочнай вячэры. Прычым Букоўскі настойваў: вячэра мусіць быць менавіта святочнай.

— Кім любуецеся, Максім? — пацікавілася Таццяна Аляксандраўна ў Мілера, бо заўважыла маладую прыгажуню ў яго тэлефоне, і сэрца здрадліва зашчымела. — Хоць, прабачце, — выправілася яна, — гэта не мая справа.

Таццяна Аляксандраўна адвярнулася, закінула нагу на нагу. Яна што, раўнавала? Да фота ў тэлефоне, якое можа выконваць проста функцыю шпалераў?..

— Гэта прычына майго ўчорашняга сыходу з працы, — проста сказаў Мілер.

«Вось жа паскуднік, — пранеслася ў галаве Таццяны Аляксандраўны, — мог жа і зманіць дзеля прыліку. А я ўжо набудавала паветраных замкаў, ідыётка!..»

— Яе імя Аліса, — бязлітасна працягваў Мілер, — і яна мая дачка.

— Хто, прабачце? — Таццяна Аляксандраўна рэзка павярнулася да Мілера і адразу ж рэабілітавала яго.

— Такая самая была і мая рэакцыя, калі дзяўчына паведаміла, хто яна, — прамовіў Мілер.

— А гэта праўда, — ізноў сумневы атакавалі Таццяну Аляксандраўну, — што яна ваша дачка?

— Я з ёй сустракаўся. Яна мая... — запнуўся Мілер, але хутка дадаў: — Дачка.

— У такім разе вас можна павіншаваць, — сказала Таццяна Аляксандраўна.

— Можна, — пагадзіўся Мілер. Ён зацягнуўся апошні раз і выкінуў недакурак за спіну праз галаву. — Не так я хацеў падзяліцца навіной. Ну, як выйшла, так выйшла.

— Вы шчаслівы чалавек, Максім! Сапраўды шчаслівы! — шчыра прагаварыла Таццяна Аляксандраўна. — Магчыма, яе з'яўленне для вас — сапраўдны падарунак лёсу.

— Цалкам з вамі згодзен, Таццяна Аляксандраўна, — падтрымаў яе Мілер і схаваў тэлефон у кішэню.

— Яна ж не перашкодзіць... — Таццяна Аляксандраўна хацела сказаць «яна ж не перашкодзіць нашым адносінам», але асеклася і скончыла думку так: — Вы ж не дзеля гэтага прыдумалі спатканне са мной у неафіцыйнай абстаноўцы?

— Не, — супакоіў яе Мілер, аднак дадаў: — Лічу, што з'яўленне дарослай дачкі ў маім жыцці — даволі важкая прычына для ўчорашняга ўчынку, ці не так?

— Максім, — прашаптала жанчына на вуха Мілеру, — раю вам на будучыню сваё асабістае жыццё пакідаць дома. Калі вы прыйшлі на працу — працуйце ці наогул не прыходзьце.

Таццяна Аляксандраўна паднялася з лаўкі і пашыбавала насустрач Лене і Букоўскаму, якія выходзілі з крамы.

— Улічу, — прашаптаў Мілер.

# 7

— ...Каму і што павінен пісьменнік? — запытаў Мілер пасля выпітай трэцяй чаркі. Ён падняўся з крэсла, выйшаў з-за стала і паклыпаў да акна, трымаючы ў руцэ чарговую чарку з гарэлкай, бы мікрафон. Абвёў позіркам прысутных, якія зацікаўлена чакалі нейкага маналога.

— Мілька-Шпілька сеў на свайго канька, — пасміхнуўся Букоўскі. Ён звяртаўся да Лены. Яны ўдваіх сядзелі на канапе (Лена на краёчку, Букоўскі на ўсю канапу), рука Букоўскага плавала па Ленчынай каленцы. Вочы жанчыны іскрыліся і ззялі — ці то ад выпітага, ці то ад электрычнага святла, ці то ад задавальнення, ці то ад усяго разам.

— Чаму Мілька-Шпілька? — пырснула яна смехам. Ёй здалося, што прагучала смешна.

— Тонкі, як шпілька, таму што, — патлумачыў ёй Букоўскі, чым выклікаў новы прыступ смеху.

— Паслухайце, — тонам строгай настаўніцы звярнулася да іх Таццяна Аляксандраўна, — дайце ўрэшце сказаць чалавеку!

Ёй падабалася слухаць Мілера. Таццяна Аляксандраўна любіла яго голас, ды і праблемы, пра якія ён пачаў распавядаць, падаліся ёй слушнымі.

Тым часам Мілер спакойна дапіў чарку, паставіў яе на стол, заліў таматавым сокам горкі смак у роце і пажар у галаве.

— Адкажы мне, Алекс, — звярнуўся ён да Букоўскага, — на пытанне… — І зноў застыў у чаканні.

— Ведаеш, — прамовіў Букоўскі незадаволена, — мяне падобныя пытанні не турбуюць. Скажу больш, мне наогул да іх няма ніякай справы. Мяне хвалююць абсалютна палярныя тэмы. Хадзем лепш пакурым, — саскочыў з нязручнага дыялогу.

— Не, ён не пойдзе, — запярэчыла Таццяна Аляксандраўна. — Ідзіце з Ленай пакурыце. Я хачу даслухаць.

Паўтараць два разы не спатрэбілася. Букоўскі ўжо пасля першай чаркі ламаў галаву, як бы аднаму пабыць з Ленай хаця б колькі хвілін. З кожнай секундай яна падабалася яму ўсё больш. Лена, мабыць, таксама не супраць была застацца з Букоўскім. Яны падміргнулі адно аднаму і, робячы выгляд, што зусім не спяшаюцца, сышлі ў кухню. Там меўся балкон-лоджыя, дзе Лена звычайна курыла і дазваляла курыць гасцям.

Мілер апусціўся ў крэсла, наліў сабе яшчэ гарэлкі.

— І мне, — падсунула чарку Таццяна Аляксандраўна.

Мілер наліў і ёй.

— На брудэршафт? — прапанавала Таццяна Аляксандраўна.

— Вы хочаце перайсці са мной на ты, Таццяна Аляксандраўна? — удакладніў Мілер.

— Я хачу, каб ты мяне пацалаваў, — вымавіла яна.

«У мяне відавочна дэжавю, — падумаў Мілер, — з гэтымі брудэршафтамі».

Іх рукі з чаркамі перапляліся. Мілер выпіў да дна, Таццяна Аляксандраўна — палову. Паставіўшы чарку на стол, яна імкліва перасела з крэсла Мілеру на калені, узяла яго твар у далоні і пацалавала. Гэты пацалунак быў доўгім, горкім і адначасова салодкім на смак. Рукі Мілера абхапілі постаць Таццяны Аляксандраўны і сталі камячыць яе бакі.

— А цяпер распавядай, — адляпілася нарэшце Таццяна Аляксандраўна ад Мілера так раптоўна, як і прыляпілася, і вярнулася ў сваё крэсла.

— Што?! — незразумела ўтаропіўся на яе Мілер.

— Пра пісьменніка распавядай, — нагадала яна яму, — тое, што не дагаварыў. Каму і што ён павінен.

— Вы сур'ёзна? — здзіўляўся Мілер.

— Па-мойму, мы перайшлі на ты, — заўважыла Таццяна Аляксандраўна.

— Ты сур'ёзна? — зрабіў націск на першым слове Мілер.

— Побач з табой я губляю галаву, Максім, — паўшэптам прамовіла Таццяна Аляксандраўна, — калі ты яшчэ не ўгледзеў. Няўжо ты такі сляпы?

Мілер выйшаў з-за стала, нібы не пачуў яе апошніх слоў, і, як прафесар на кафедры, прамаўляў далей.

— Што і каму павінен пісьменнік? Калі ты абраў або прызначыў літаратуру сэнсам уласнага жыцця, хаця, хутчэй за ўсё, гэта яна цябе абрала, таму што ніводны чалавек пры ясным розуме не пачне пісаць па сваім уласным жаданні, так бы мовіць, з блазноты... Дык вось, у першую чаргу, ты не абавязаны, займаючыся пісьменніцтвам, штосьці даказваць самому сабе ці іншым пісьменнікам. Ты не для сябе пішаш і не для іх. Словы кшталту тых, што ты пішаш выключна ў сваё задавальненне без жадання публікавацца і выдаваць кнігі, ілжывыя. Ты не Бог, а такі ж, як усе. Проста ў цябе ёсць талент складаць з літар гісторыі і запісваць іх. Не ты гэтыя гісторыі прыдумляеш. Ты іх падслухоўваеш, улоўліваеш сутнасць і распавядаеш на паперы. Ты крадзеш сюжэты ў жыцця, таму не маеш права ўзносіць сябе на нейкі пастамент, каб здавацца вышэйшым і значнейшым за тых, хто гэтага не ўмее. Менавіта ім ты і павінен. Яны твае чытачы. Для іх ты і пішаш. Каб яны паверылі табе, каб

ты адбыўся як пісьменнік, ты ніколі не павінен хлусіць на старонках сваіх твораў, а адкрывацца, давярацца чытачам да аголеных нерваў, не шкадуючы сябе. Ты павінен пісаць так, каб чытачы спрэс забыліся, што гэта напісаў ты, пазнаючы ў тваіх персанажах сябе, у перажываннях герояў — свае перажыванні. Чаму франтавікі, слухаючы песні Высоцкага, прымалі яго за свайго хлопца, які карміў вошай у акопах разам з імі, гарэў у танках, у самалётах, у падлодках, які паміраў з імі заадно? Адказ відавочны. Ты павінен аддаць чытачам самога сябе цалкам. Тады яны палюбяць цябе і ніколі не здрадзяць. Ці гэта не ўзнагарода для пісьменніка?

Мілер абвёў позіркам пакой, нібы лекцыйную залю, біткам набітую слухачамі, забыўшыся на імгненне, што знаходзіцца ў звычайнай кватэры звычайнай самотнай жанчыны, сумна і скупа абстаўленай самотнымі побытавымі прадметамі. Дзверы-гармонік у пакой былі адчыненыя, у правым куце ад іх стаяў стол, які паходзіў на школьны, з камп’ютарам і друкаркай, нейкімі паперамі з лічбамі. Ля акна — тэлевізар. На акне — герань. Канапа, стол, за якім святкавалі немаведама што проста зараз, на падлозе — жоўты палас. Сцены аблепленыя белымі шпалерамі з ружачкамі. Са столі звісала голая лямпачка, быццам ігрушагнілушка.

Мілер змёў рукой насланнё з вачэй, яго перасмыкнула. Ён кашлянуў і цяжка апусціўся ў крэсла, наліў гарэлкі.

— Брава! — запляскаў у ладкі Букоўскі і падышоў да канапы. Следам за ім тупала Лена. Валасы яе былі раскудлачаныя. — Выдатная прамова, — ухваліў ён Мілера і уладкаваўся на канапе.

Лена узяла за руку Букоўскага, села з ім побач, закінула ножку на яго нагу. Пры гэтым не зводзіла захопленых вачэй з Букоўскага.

Таццяна Аляксандраўна апусціла галаву, каб не глядзець на іх. У нейкай ступені яна зайздросціла сяброўцы. Каб толькі Мілер абняў яе, а не малоў языком…

— Ты чуў? — утаропіўся Мілер у Букоўскага.

— Заслухаўся, — адказаў той і дадаў: — Не разумею аднаго: ты для каго раздухарыўся?

Таццяна Аляксандраўна засмяялася, ды так задзірліва, з запракідваннем галавы, што Мілер з Букоўскім таксама ўсміхнуліся. Толькі Лена не схамянулася, баючыся спудзіць мімалётнае шчасце.

Усе зноў выпілі. Мілер захацеў курыць.

Букоўскі ўзгадаў пра з'яўленне ў жыцці Мілера дачкі, запатрабаваў падрабязнасцяў.

— Ты ж з ёй, спадзяюся, сустракаўся? — ва ўпор пагля- дзеў на яго.

— Сустракаўся, — не адмаўляў Мілер, — але давай апасля.

Ён выйшаў з-за стала і рушыў на кухню.

У вялікай вітальні спыніўся перад некалькімі кніжнымі паліцамі, угледзеўся ў карэньчыкі кніг. Кнігі стаялі бязладна, галоўным чынам савецкія раманы Кетлінскай, Первенцава, Кочатава, Фадзеева, Сіманава, Югава, Шамякіна. Вышэй, як бедныя сваякі, ляжалі, дзівячыся суседству, некалькі кніг Мапасана ў мяккай вокладцы. Лена сказала, што кнігі засталіся ад таты, які памёр некалькі гадоў таму. Ён у савецкі час узначальваў нейкія камбінаты і ў дні свайго нараджэння ад іх атрымліваў кнігі ў падарунак. Лена ж кніг не чытала, яна любіла лічбы, а не літары.

Мілер прайшоў на кухню, адтуль выйшаў на зашклёны балкон, абсалютна белы і абсалютна пусты, калі не лічыць попельніцы — бляшанкі з-пад піва на падаконні — ды запалак.

Ён адчыніў акно, у твар наляцеў вецер з харaводам сняжынак. Абапёрся на парэнчы, падставіў галаву, нібы баксёрскую грушу, пад удары ветру і снегу.

Дык што далей? Ён ведаў дакладна, што Букоўскі чакае начной цішыні, каб застацца з Ленай сам-насам. Мяркуецца, што Мілер з Таццянай Аляксандраўнай таксама адасобяцца дзе-небудзь тут, мо на кухні. Аднак ці так ужо неабходная Мілеру блізкасць з начальніцай? Калі ён пераспіць з ёй, шмат што зменіцца. І не факт, што да лепшага. Таццяна Аляксандраўна — жанчына відная і ўплывовая, яна падабалася Мілеру, але ён быў яе падначаленым і не хацеў быць праглынутым ёю, як акулай. А менавіта так і адбудзецца, не адразу, канешне, але з часам абавязкова.

— Не перашкоджу? — на балкон бясшумна, нібы дыверсант, пракралася Таццяна Аляксандраўна.

Мілер здрыгануўся ад нечаканасці, быццам у дзяцінстве ад спалоху. Ён азірнуўся. Яна не заўважыла яго трывожнага хвалявання. А ён злаваўся. Злаваўся на яе, на сябе, на абаіх. Яны доўга маўчалі. Таццяна Аляксандраўна (у белым ваўняным швэдары з узорамі) абдымала сябе за плечы. Вецер, нібы знарок, дзьмуў у яе бок і закідваў прыгаршчамі сняжынак. Мілер назіраў за ёй і курыў, пакуль Таццяна Аляксандраўна не пачала ўздрыгваць ад холаду, тады акно зачыніў.

— Цыгарэту? — парушыў маўчанне.

Таццяна Аляксандраўна згодна кіўнула.

— Вы ж не курыце! — прыгадаў Мілер, вымаючы, аднак, пачак з кішэні.

— Хопіць мне выкаць і блазнаваць, калі ласка, — спакойна, нават стомлена прамовіла Таццяна Аляксандраўна і двума пальчыкамі ўзяла цыгарэту. І гэтае «калі ласка» раздражняла Мілера як ніколі. Ён ненавідзеў інтэлігенцкую

ветлівасць, асабліва ў жанчын. Працей трэба быць, Таццяна Аляксандраўна, тым больш зараз.

Мілер дапамог ёй прыкурыць.

— Чаму вы выдаеце ў вашым выдавецтве адно лайно? — выдыхнуў ён разам з першай зацяжкай, разумеючы, што яго нясе кудысьці не туды, але павяртаць позна.

— Не зразумела? — Таццяна Аляксандраўна выдыхнула дым проста ў твар Мілеру. Яна здагадалася, што ён на штосьці злаваўся, а злосць сваю вырашыў спагнаць чамусьці на ёй. Аднак не забылася, што знаходзілася ў гасцях, а не на працы, інакш не так размаўляла б з ім.

— Чаму вы не выдаеце мае кнігі? — выкруціўся Мілер, знайшоў-такі сцежку для адступлення.

— Ты... — Таццяна Аляксандраўна запнулася. Ёй было шкада Мілера і крыўдна за яго, але ва ўмовах рынку яна нічым дапамагчы яму, на жаль, не магла. — Ты вельмі таленавіты, Максім, і сапраўдны, — прызналася хутчэй самой сабе, — таму... — працягнула і развяла рукамі.

— Таму для вашага выдавецтва неперспектыўны, — дапамог ёй скончыць Мілер.

— Не кажы так, калі ласка, — паморшчылася Таццяна Аляксандраўна.

Ізноў гэтае «калі ласка»!

— Нонсэнс нейкі... — працягваў Мілер. Ён хацеў дадаць штосьці яшчэ, але раптам перадумаў і махнуў рукой.

Таццяна Аляксандраўна працягнула да яго руку і пагладзіла па валасах.

— Цябе ж друкуюць у іншых выдавецтвах, — нагадала яна.

— Друкуюць, — пагадзіўся Мілер, — зрэдку, — дадаў ён і прыбраў яе руку.

Таццяна Аляксандраўна нахмурылася, быццам незаслужана пакрыўджаная дзяўчынка. Курыць ёй перахацелася, і

яна кінула недакурак у бляшанку, адкуль адразу зазмяіўся дымок. Таццяна Аляксандраўна павярнулася да Мілера спінай, маючы намер сысці з балкона. Мілер спыніў яе:

— Мне сорамна, што я працую ў выдавецтве, якое спецыялізуецца на загадзя дрэннай літаратуры, але выдае як шэдэўры са знакам якасці.

— Тваю макаўку, Мілер! — рэзка абярнулася Таццяна Аляксандраўна, спапяляючы яго пагардлівым позіркам. Ад былой пяшчоты нічога не засталося. — Не працуй! Хто цябе прымушае?! Ты сам да нас прыпёрся і ўгаворваў узяць цябе, забыўся?

— Не, — адказаў Мілер, — не забыўся. Толькі я не думаў тады, што ўсё будзе такім лайном.

— Гэта бізнес, — стомлена прамовіла Таццяна Аляксандраўна. — Мы выдаём толькі тое, што можна прадаць. Ты гэта выдатна ведаў.

— Вы ідзяце за натоўпам!

— Зусім нядаўна ты так красамоўнічаў пра ролю пісьменніка ў гэтым натоўпе, — адпомсціла яму Таццяна Аляксандраўна.

— Вы мяне не так зразумелі, Таццяна Аляксандраўна, — адгукнуўся Мілер.

— У такім выпадку раю выказвацца ясней, каб тыя, хто цябе слухае, не памыляліся.

Таццяну Аляксандраўну трэсла, але не ад холаду. Вусны яе дрыжалі. Нервы напружыліся, нібы мышцы пасля фізнагрузкі. Яна гублялася ў здагадках, навошта Мілер яе крыўдзіў і псаваў вечар. Яшчэ некалькі яго фраз у падобным тоне, і яна выкліча таксі, каб не заставацца больш побач з ім. Ніколі.

— Я звальняюся, — заявіў Мілер. Зрабіў апошнюю зацяжку, выдыхнуў дым і пагасіў недакурак аб бляшанку.

— Звальняйся, калі ласка, — паціснула плячыма Таццяна Аляксандраўна, адвярнулася ад яго і пхнула балконныя дзверы. Кусала вусны, спрабавала спыніць слёзы.

— Стой! — схапіў Мілер яе за руку, ірвануў на сябе, прыгарнуў, абхапіў рукамі. Яна адбівалася, пырхала, малаціла кулачкамі па яго грудзях, а ён усміхаўся. Яму было весела! — Я сапраўды вам неабыякавы… — прамовіў загадкава.

І Таццяна Аляксандраўна сціхла. Уткнулася носам у ключыцу Мілера (у парыве лютасці яна вырвала некалькі верхніх гузікаў з яго кашулі, агаліла белае беднае цела з завіткамі чорных валаскоў), рукі прасунула пад яго кашулю на спіне, усадзіла ў скуру пазногці, нібы кошка. Ён нават не тузануўся, не паморшчыўся, гладзіў яе валасы, дзьмуў на іх і цалаваў, прыціскаў за плечы да сябе ўсё мацней і мацней. Таццяна Аляксандраўна дакранулася да ключыцы і шыі Мілера вуснамі, паступова адчуваючы ўзрушанасць і жаданне большага.

Праз колькі секунд яны ўжо шалёна цалаваліся. Задыхаліся ад недахопу паветра, рыкалі і кусаліся, як звяры. Здавалася, яны забыліся, дзе знаходзяцца. Пра гэта ім нагадаў Букоўскі. Ён стукаў у шкло балконных дзвярэй костачкай сагнутага сярэдняга пальца і замілавана ўсміхаўся.

Мілер з Таццянай Аляксандраўнай незадаволена павярнулі галовы на гукі звонку.

Букоўскі на мове жэстаў даў ім зразумець, што час вяртацца за стол, каб не крыўдзіць гаспадыню кватэры. Да таго ж гарэлка стыне...

Мілер павольна, без ахвоты адпусціў Таццяну Аляксандраўну.

— Ты хочаш гарэлкі? — спытала яна, паступова спраўляючыся з дыханнем.

Мілер нявызначана акругліў вочы.

— А я хачу! — усклікнула Таццяна Аляксандраўна і пхнула балконныя дзверы ад сябе. Яна ўцякла не азіраючыся.

Мілер зачыніў балконныя дзверы, выключыў святло на кухні і рушыў следам.

— Ну нарэшце! — адрэагавала Лена на Мілера і сяброўку.

— Прабач, калі ласка! — сказала ёй Таццяна Аляксандраўна. — Забалбаталіся.

Мілера перакасіла ад яе вечнага «калі ласка», але гэтага ніхто не заўважыў.

Букоўскі напоўніў чаркі і абвясціў тост:

— За шчаслівага татусю Мільку-Шпільку!

Тост падтрымалі і дружна выпілі.

— У цябе сапраўды ёсць дачка? — спытала ў Мілера Лена. Яна далікатна нанізвала на відэлец чырвоную марынаваную памідорку.

— Ёсць, ёсць, — адказаў за яго Букоўскі. — Толькі ён спачатку падумаў, што гэта я яе прыдумаў, каб пасмяяцца з яго.

— А ты б мог? — нядобра паглядзела на Букоўскага Лена.

— Ты што?! — абурыўся той. — Гэта ж сябар! — прамовіў шматзначна.

Усеагульная ўвага засяродзілася на Мілеры. Ён нічога не распавядаў і не тлумачыў. Дастаў тэлефон, адкрыў тэчку з фотаздымкамі і працягнуў яго Букоўскаму. Той з непрыхаванай цікаўнасцю вывучаў відарыс. Лена, каб лепш бачыць, павісла ў яго на плячы. Гартаючы фота, Букоўскі засяроджана маўчаў.

— А што, падобная, — падзялілася меркаваннем Лена, адляпіўшыся ад Букоўскага.

— Анягож, — падтрымаў яе той, працягваючы тэлефон Таццяне Аляксандраўне.

— Я ўжо бачыла, — адмовілася ад прагляду яна, але тэлефон узяла, каб перадаць Мілеру.

— Калі паспела? — спытала яе Лена.

— Быў час, — прамовіла Таццяна Аляксандраўна.

— Нават не ведаю, — звярнуўся Букоўскі да Мілера, — віншаваць цябе ці паспачуваць. Дзяўчынка вельмі прыгожая, як па мне, і сапраўды дарослая, нават занадта. Штосьці агульнае паміж вамі ёсць, так. — Ён узяў бутэльку гарэлкі і ў чарговы раз разліў яе па чарках. — Сам хоць адчуваеш родную кроў?

— Яна ведае такія рэчы, — выдыхнуў Мілер, — пра нас, якія ніхто ведаць не можа.

— Не папракала, дзе швэндаўся ўсё яе жыццё?

— Я не мог ведаць пра яе нараджэнне, — зманіў Мілер. Ён ведаў, але шчасна забыўся. Ён і Алісе зманіў, апраўдаў сябе — нібыта змушаны быў так паступіць. Хоць, калі шчыра, не надаў значэння нараджэнню дачкі шмат гадоў таму, бо паверыў словам аднакласніцы пра маму Алісы, да таго ж гэта было зручна для ўсіх.

— А яна як даведалася пра цябе? — распытвала Лена.

— Выпадкова.

— Усё наша жыццё — суцэльныя выпадковасці і непаразуменні, — вымавіла Таццяна Аляксандраўна, якая дагэтуль маўчала.

— І не кажы, — падтрымала яе сяброўка.

Ім паслалі на кухні. Мілер з Букоўскім выцягнулі з-пад канапы і прывалаклі туды матрац з дзвюма падушкамі і байкавай блакітнай коўдрай без чахла на яе, а Таццяна Аляксандраўна накрыла матрац прасцінай. Пажадалі, загадкава ўсміхаючыся, адзін аднаму дабранач, разбіліся па парах. Букоўскі з Ленай зачыніліся ў пакоі. Мілер нейкі час

прыслухоўваўся, сам не ведаючы навошта, да гукаў, якія павінны былі даносіцца з пакоя, але нічога не пачуў. Мабыць, замінала гукаізаляцыя ці лядоўня, што тарабаніла, быццам трактар «Беларусь».

Таццяна Аляксандраўна сцягнула праз галаву швэдар, расшпіліла маланку на спадніцы. Спадніца слізганула ўніз, зверху на яе асцярожна, быццам змеі, спусціліся бэжавага колеру калготкі. Застаўшыся ў адной беласнежнай камбінацыі, Таццяна Аляксандраўна падфутболіла пакорлівую спадніцу з калготкамі і запусціла імі ў Мілера, які маўкліва пазіраў на яе. Пасля ўзышла на матрац, прысела, выпрастала з-пад сябе коўдру, дэманстратыўна лягла, падцягнула коўдру да грудзей і адвярнулася да сценкі.

Выгляд напаўаголенай жанчыны заўжды зводзіў з розуму любога мужчыну, асабліва калі тая жанчына адмыслова цвеліла. Адкрытыя белыя плечы Таццяны Аляксандраўны, беласнежная камбінацыя, што атласнай палоскай тырчала з-пад коўдры, вабілі Мілера, рыхтык кнігі. Ён нават перадумаў курыць. Імкліва распрануўся, шмыгнуў да яе, забыўшыся выключыць святло, і пацалаваў круглявае плячо. Тая ніяк не адрэагавала, абыякава ляжала, утаропіўшыся ў адну кропку ў сцяне. Мілер павярнуў яе тварам да сябе. З сур’ёзным выглядам яны доўга глядзелі адно на аднаго. Таццяна Аляксандраўна нават як быццам злосна. Аднак яна першая не вытрымала зададзенага рытму і заразліва засмяялася, шчыра і весела, пасля чаго абхапіла галаву Мілера рукамі і пакрыла яго твар пацалункамі. Мілер таксама не схібіў. Рабіць прыемна жанчынам — такое ж яго пакліканне, як і пісаць кнігі.

— Ты ў гэтай камбінацыі такая прыгожая! — прашаптаў потым ёй на вушка.

— Я заўважыла, — закручваючы пасму сваіх валасоў на ўказальны палец, усміхнулася Таццяна Аляксандраўна.

Мілер ляжаў на спіне. Яна таксама, але галавой на грудзях Мілера, рука якога падарожнічала па яе целу.

— Паклала цябе на абедзве лапаткі за лічаныя секунды, — працягвала Таццяна Аляксандраўна.

— Напэўна, у тваім гардэробе гэтая камбінацыя лічыцца за найшчаслівейшую? — жартаўліва выказаў здагадку Мілер.

— Ага, — падтрымала яго Таццяна Аляксандраўна. — Хочаш, дам панасіць? Падзялюся, так бы мовіць, шчасцем па-братэрску, — яна запнулася, — ці па-сястрынску, як правільна?

— А давай, — пагадзіўся Мілер.

— Што давай? — не зразумела Таццяна Аляксандраўна.

— Панасіць, — сказаў Мілер і рэзка пацягнуў краёк яе камбінацыі ўгару.

— Ды ну цябе! Адвяжыся! — засаромелася і адначасова засмяялася Таццяна Аляксандраўна, аддзіраючы яго рукі ад сябе.

— Між іншым, — закінуў Мілер рукі за галаву і склаў далоні ў замок, — не мы першыя закранулі праблему падобнага кшталту.

— Ды што ты?! —Таццяна Аляксандраўна пляснула рукамі.

— У Леаніда Андрэева, — натхнёна працягваў Мілер, — ёсць апавяданне, не памятаю, як называецца, у якім герой і гераіня гавораць пра жаночую бялізну. Герой захапляецца яе бялізнай, а гераіня прапануе яму прымерыць, уяўляеш?..

— Тыпу разумны, так? — усміхнулася Таццяна Аляксандраўна хітра.

— Тыпу так, — не стаў з ёй спрачацца Мілер.

— Я таксама чытала гэтае апавяданне, — збянтэжыла яго Таццяна Аляксандраўна і дадала: — Калісьці даўно. І не толькі гэтае апавяданне спадара Андрэева.

— Як жа мне пашанцавала! — натхнёна працягнуў Мілер. — Нарэшце ёсць пра што і з кім пагаварыць пасля сексу.

— Ого! — падхапіла Таццяна Аляксандраўна. — У мяне куча бонусаў, каб табе не надакучыць!

— Адзін, — удакладніў Мілер, — але вельмі вялікі.

Таццяна Аляксандраўна ўляглася на падушку, павярнулася тварам да Мілера, падклала пад галаву далоні, складзеныя лодачкамі.

— Вельмі піць хочацца, — сказала. — Не прынясеш мне вадзічкі? — папрасіла Мілера. І той беспярэчна паспяшаўся выканаць яе просьбу, не падазраючы, што Таццяна Аляксандраўна магла наўмысна адправіць яго па ваду.

Пакуль ён спускаў ваду з-пад крана ў ракавіну, каб яна пахаладнела, потым спалосквbooў конаўку, затым набіраў у яе ваду, стоячы ўвесь час спінай да Таццяны Аляксандраўны, яна паднялася ва ўвесь рост, сочачы за кожным яго рухам і сцягваючы з плячэй шлейкі камбінацыі, якая бясшумна слізганула да яе ног. Таццяна Аляксандраўна падняла яе, а як толькі Мілер павярнуўся тварам, падскочыла да яго і, быццам баскетбольны мяч у сетку, закінула камбінацыю на галаву Мілеру. Гладкая атласная тканіна павісла на ім, як на вешалцы. Таццяна Аляксандраўна схапіла тэлефон і, карыстаючыся часовай збянтэжанасцю Мілера, зрабіла некалькі здымкаў з ім, якія адразу ж на ўсякі выпадак адправіла на сваю электронную пошту.

Мілера больш уразіла цела Таццяны Аляксандраўны, чым кавалак шоўку на ім. Ён застыў на месцы, быццам каменны, вачыма паглынаючы грудзі Таццяны Аляксандраўны. Яны здаваліся яму ідэальнымі і выклікалі захапленне ад таго толькі, што ён валодаў імі, няхай і вачыма. Але шчаўчок фотакамеры на тэлефоне вывеў Мілера са здранцвення. І ён пырснуў у Таццяну Аляксандраўну вадой з конаўкі.

Яна ўскрыкнула, адскочыла да пасцелі, кінула тэлефон на падаконне і схавалася з галавой пад коўдру.

Мілер не стаў чапаць яе тэлефон. Камбінацыя з яго маслästых моцных плячэй саслізнула. Ён ізноў набраў вады ў конаўку, наблізіўся да Таццяны Аляксандраўны, скурчанай абаранкам пад коўдрай, і злёгку пастукаў косткамі пальцаў па коўдры, туды, дзе, па яго меркаванні, павінна была знаходзіцца галава жанчыны.

— Хто там? — данеслася з-пад коўдры.

— Здаецца, хтосьці вадзічкі хацеў, — нагадаў Мілер.

— Ужо не хоча.

— Што так? Смага прайшла?

— Не. Не зусім.

Мілер гучна зрабіў некалькі глыткоў і сказаў, прыцмокваючы:

— Ах, якая смачная, халодненькая, асвяжальная вільгаць! Амброзія!

— Пакінь мне глыточак, — жаласна праскавытала Таццяна Аляксандраўна з-пад коўдры.

— Гюльчытай, адкрый тварык, і ўсё будзе, — пяшчотна прамовіў Мілер.

Таццяна Аляксандраўна павольна, з асцярогай, выглянула са сваёй хованкі.

Ён дазволіў ёй напіцца вады з конаўкі, пасля чаго… Яна не супраціўлялася. Ёй было цікава ўсё, што Мілер рабіў і яшчэ зробіць з ёй. Ніхто і ніколі раней так не ўзбуджаў яе.

Засынаючы, Таццяна Аляксандраўна прасапла Мілеру на вуха:

— Максік, ажаніся са мною, калі ласка, ці я цябе буду шантажаваць. А хочаш, падару камбінашку, яна табе так пасуе...

Яна хіхікнула і адразу заснула, уткнуўшыся носікам у шыю Мілера. Ножкі закінула на ногі Мілера, руку паклала

на яго валасатую грудзіну. Дыханне яе было роўным і спакойным.

А што будзе заўтра, дакладней ужо сёння? Куды і да чаго прывядзе сувязь Мілера з Таццянай Аляксандраўнай? Яе намёк пра жаніцьбу прагучаў недвухсэнсоўна. Як ні пераконваў сябе Мілер у тым, што яго начальніца жанчына сучасная і ўсё разумее, ключавым словам заставалася слова «жанчына», і яно цвіком, калі не шрубай, дзіравіла яго мозг. Не, яна іншая, дый навошта ёй замужжа? Мілер не самы лепшы варыянт для гэтай справы. Вакол Таццяны Аляксандраўны кружаць такія тузы і бонзы, што Мілер на іх фоне глядзіцца смешна, калі не сумна. З іншага боку, гэта недарэчна прымаць яе словы пра замужжа сур’ёзна — усяго толькі першая праведзеная разам ноч. Навошта ён ёй? Так, яе цягне да яго са страшнай сілай. Яна таксама яму падабаецца. Доказ — нерэальны секс, пра наступствы якога наогул нявартa было задумвацца. І Таццяна Аляксандраўна, і Мілер — абое дарослыя людзі. Яны выдатна разумелі, чым скончыцца спатканне, загадзя на яго пагадзіліся. Таццяне Аляксандраўне хочацца замуж? Звярнулася не па адрасе ў такім разе, памылілася дзвярыма. Цалкам магчыма, што памыляўся Мілер, з камара каня зрабіў, цэлую змову разгледзеў супраць сябе ў яе словах. Падобна на тое, што Таццяна Аляксандраўна ні сном ні духам наогул, нават яшчэ прасцей ставіцца да таго, што адбылося паміж імі. Проста захацелася сексу. Чаму б не з Мілерам. Але тут ужо дыскрымінацыяй па соцыуме пахне. Яна — начальніца, Мілер — падначалены, з усімі вынікаючымі... Зрэшты, гэта занадта складана, каб быць праўдай. Да таго ж Мілер звольніўся ўжо ці звольнены. Таццяна Аляксандраўна магла, вядома, пажартаваць наконт працы. Хутчэй за ўсё так і было, але здавацца нельга. Трэба шукаць іншы заробак. У любым выпадку змена працы пойдзе на карысць ім абаім, як бы

далей іх адносіны не развіваліся. У сувязі з гэтым Мілеру прыгадалася адчуванне першага страху. Гэта здарылася з ім у дзясятым класе школы (ён прыдумляў, што нікога і нічога не баяўся, адно імкнуўся да бясстрашнасці). Як зараз памятае: свята, Восьмага Сакавіка. У іх вёсцы не было клуба, і яго аднакласніцы пашыбавалі на танцы ў суседнюю вёску. Мілер пацягнуўся за імі. Ён упершыню паспрабаваў алкаголь, таму яго распірала цяга да подзвігаў і прыгодаў. Акрамя яго, ніхто з хлопцаў-аднавяскоўцаў на тыя танцы не папёрся. Па дарозе Мілер забаўляў дзяўчат, нібы сапраўдны артыст тэатра і кіно, бліскуча жартаваў. У танцавальнай залі чужога клуба паводзіў сябе гэтак жа бесцырымонна і ўпэўнена, быццам дома, прыцягваючы ўсеагульную ўвагу. Мясцовыя хлопцы вырашылі, што ён паводзіць сябе нахабна і задзірліва. Яны наляцелі на яго з усіх бакоў, збілі з ног і збівалі, не шкадуючы сіл, не стрымліваючы сябе. Вельмі хутка твар Мілера ператварыўся ў крывавую кашу, а цела — у адзін нясцерпны клубок болю. Калі ўдары спыніліся, Мілеру было страшна расплюшчыць вочы. Яны і не расплюшчваліся. Увесь у смаркачах, слязах, крыві і лайне ён ляжаў пасярэдзіне залі і адчуваў, з якой агідай на яго глядзелі аднакласніцы і… працягвалі танчыць. Яму было страшна, што яго бачылі такім: кволым і бездапаможным, жаласным і нікчэмным. У галаве ўзнікла толькі адно пытанне: «Завошта?» Ён зразумеў тады, што чалавека можна папросту скалечыць толькі за тое, што той інакш выглядае ці мае такі колер вачэй, які моцна не падабаецца камусьці. А яшчэ з-за таго, што кіравалі яго збіваннем блатныя. Са страшнай сілай Мілер узненавідзеў іх. Вядома, за яго адпомсцілі. Вінаватыя панеслі жорсткае пакаранне. З таго часу Мілер не дазваляў сабе чагосьці баяцца, нават калі вельмі карцела.

Так і з працай будзе, са страхам страты наседжанага месца.

# 8

Таццяна Аляксандраўна расплюшчыла вочы, прыпаднялася, абапіраючыся на локаць. Было цёмна, але ад святла вулічных ліхтароў, мігатлівага ў незашторaным акне, у кухні было як днём. Мілер спаў на спіне. Яго ціхамірнасць замілоўвала. Таццяна Аляксандраўна пацалавала Мілера ў нос і асцярожна, каб не пабудзіць, выбралася з пасцелі, з-пад падушкі выцягнула камбінацыю і надзела на сябе. Узяла тэлефон, паглядзела, каторая гадзіна. Без пяці на восьмую. Захацелася піць. У конаўках вады не засталося, а ўключаць кран Таццяна Аляксандраўна не наважылася, каб не патрывожыць сон Мілера. Трэба ісці ў ванны пакой. Таццяна Аляксандраўна яшчэ раз кінула вокам на Мілера, выйшла з кухні і прычыніла за сабой дзверы. Ціхутка зазірнула ў пакой да сяброўкі праз прачыненыя дзверы. Там таксама спалі. Тады Таццяна Аляксандраўна рашуча накіравалася ў ванны пакой, уключыла святло і зашчапілася на засавачку. Перш за ўсё спаталіла смагу, прыпаўшы вуснамі да жыватворнага струменя халоднай вады з-пад крана, затым уключыла гарачую, адрэгулявала да патрэбнай тэмпературы, сцягнула камбінацыю і стала пад душ. Яе вусны прыпухлі ад пацалункаў Мілера і ўспыхвалі, нібы полымя. На грудзях віднеліся барвовыя засосы, пакінутыя Мілерам у запале пачуцця.

«Жах які», — прашаптала Таццяна Аляксандраўна, маючы на ўвазе засосы. Чаго ёй саромецца? Каго? Яна сама гэтага прагла. Не засосаў, вядома, ночы гэтай, Мілера, сексу з ім. Ён аказаўся такім патрабавальным, настойлівым, але і далікатным, уважлівым. Яна задыхалася ад яго пяшчоты і перажыла такое задавальненне… Цяпер важна не стаць залежнай ад гэтага задавальнення. Спадзявацца на прыстойнасць Мілера, на каханне да яе не выпадала, хоць хацелася б, каб ён закахаўся ў яе. Яна ж яго кахала. Ці не? Прынамсі, побач з ім губляла кантроль і хвалявалася, як дзяўчынка. Гэта да блізкасці. А што стане пасля? Як ён будзе сябе паводзіць? А яна як? І як наогул растлумачыць узаемную цягу мужчыны і жанчыны? Ён жа не прыгажун (хударлявы, няўважлівы, нязграбны і недагледжаны), хоць і сімпатычны. У адной і той жа кашулі можа хадзіць тыднямі. Аднак такі родны, і вочы ў яго такія глыбокія-глыбокія, што, здаецца, глядзіш у іх і патанаеш, ляціш у нейкую бяздонную студню. А яшчэ позірк, такі разумны, што часам думаеш, што ён адзін валодае ведамі, непадуладнымі нікому, і пачуваешся дурніцай побач з ім. Дурніцай жа Таццяна Аляксандраўна сябе ніколі не лічыла ні пры якіх абставінах. Яе цела прагнула цялесных уцех. Чаму яе пацягнула да Мілера, а не да каго-небудзь іншага? Як толькі Мілер з'явіўся на парозе прыёмнай, як толькі Таццяна Аляксандраўна пачула яго хрыплыя рэплікі ў адрас айчыннай літаратуры, яе аж падкінула ў крэсле. Яна пачула тэмбр яго голасу і не змагла ўседзець на месцы: падкралася да дзвярэй кабінета, каб падслухаць і пачуць, што адбывалася ў прыёмнай. Менавіта яна настаяла, каб Мілера ўзялі ў выдавецтва, і потым чаго толькі не выдумляла, каб як мага часцей заставацца побач з ім. Заўсёдная аптымістка, Таццяна Аляксандраўна ўсё ж не сумнявалася, што яе будучыня з Мілерам цалкам магчымая.

Калі выйшла пасля душа, яна зноў зазірнула ў пакой, дзе спалі Лена і Букоўскі. Будзіць не стала. Верагодна, ім не трэба было на працу з рання. У сяброўкі магла быць другая змена, а Букоўскі недзе таемным чынам паднімаў нейкі шлагбаум і прыходзіў да таго шлагбаума не часцей, чым праз трое содняў.

Таццяна Аляксандраўна вярнулася на кухню, каб пабудзіць Мілера, папіць кавы і збірацца на працу, таму што ёй, у адрозненне ад гаспадыні кватэры, варта было б ужо і паспяшацца.

Мілер не спаў. Над нечым варажыў каля пліты. Пасцеля, скручаная ў рулон, з жаласным выглядам тулілася ў куце каля сцяны. Таццяна Аляксандраўна падышла да Мілера, праклала рукамі сцяжынкі на яго спіне і пацалавала ў шыю.

— Дзень добры, — павярнуў ён галаву ў яе бок, — і з лёгкай парай! — дадаў.

— Дзякуй, — узмахнула Таццяна Аляксандраўна мокрымі валасамі. — Што робіш? — пацікавілася.

— Сняданак, — проста адказаў Мілер, пераварочваючы драўлянай лапаткай на патэльні смажаныя яйкі. Побач закіпаў чайнік.

— Гаспадарыш у чужой хаце? —Таццяна Аляксандраўна перанесла свае рукі са спіны Мілера на ягонае плячо, абаперлася.

— Хтосьці ж павінен пра цябе паклапаціцца, — усміхнуўся той.

— Прыемна…— Жанчына гатова была растаць.

Закіпеў чайнік.

— Гарбата? Кава? — спытаў у яе Мілер.

— Кава, — адказала яна. — Спадзяюся, Ленка прабачыць табе знішчэнне яе прадуктаў, а мне — карыстанне яе фенам. Пайду пакуль валасы пасушу, — цмокнула Мілера ў шчаку.

Таццяна Аляксандраўна зноў зачынілася ў ванным пакоі, куды захапіла сумачку, у якой заўсёды насіла касметычку, кампактную і зручную, якраз для падобных выпадкаў. Дома, вядома, касметыка мелася іншага ўзроўню і гатунку. Яна займала даволі шмат месца ў спальні Таццяны Аляксандраўны, дакладней, у кніжнай шафе замест кніг. Усе кнігі Таццяна Аляксандраўна перанесла ў гасцёўню, якая служыла адначасова і бібліятэкай. Яна кардынальна перарабіла інтэр’ер у хаце пасля смерці бацькоў. Менавіта ў хаце, паколькі жыла ў прыватным сектары побач са станцыяй метро «Грушаўка». Кватэра ёй абрыдла пасля разводу, таму здавала яе кватарантам. Былы муж не меў права прэтэндаваць ні на якую нерухомасць Таццяны Аляксандраўны, да таго ж уся нерухомасць належала бацькам, а ёй перайшла ў спадчыну.

Таццяна Аляксандраўна высушыла валасы, расчасала іх, затым прынялася за вочы, упэўнена і ўмела наносіла цені і абводзіла іх алоўкам. Пасля твар атрымаў порцыю пудры і памады на вусны. Да Мілера яна выйшла абноўленай і шыкоўнай, нібы палепшаны клон самой сябе.

Яны паснедалі. Таццяна Аляксандраўна адзначыла, што яечня Мілера не такая і дрэнная, як яна думала. Кава таксама аказалася прыемнай на смак.

Пакуль яна апраналася, ён напісаў на лісце фармату А4 велізарнымі літарамі «Дзякуй!» і пакінуў у вітальні на камодзе, пасля чаго выклікаў таксі.

— Ты нічога не забылася? — спытаў у яе на выхадзе.

— Не. Нічога. Не ведаю, — разгублена пачала мацаць па кішэнях Таццяна Аляксандраўна, зазірала яму ў вочы і спрабавала зразумець, што ён меў на ўвазе, задаючы пытанне.

— Добра, праехалі. Хадзем, — адчыніў дзверы, — таксі чакае.

У ліфце яна ўзяла яго за руку і не адпускала, пакуль не селі ў машыну. У салоне таксі схіліла галаву яму на плячо.

Кіроўца ўключыў радыё. Прыемны голас дыктара зачытаў прагноз надвор'я на сёння і паведаміў пра пераднавагодні распродаж у ГУМе. Затым загучала нейкая навагодняя песенька.

Яны маўчалі, але маўчанне не напружвала Таццяну Аляксандраўну, хутчэй стварала бачнасць агульнай з Мілерам таямніцы. Ёй было прыемна маўчаць з ім, адчуваць яго прысутнасць і дыханне побач. Магчыма, яны ўдваіх маўчалі пра адно і тое ж. Таццяна Аляксандраўна не спрабавала гадаць, не жадала ні пра што яго распытваць, ёй хапала цяпла, што сыходзіла ад яго, ім яна сагравалася. Адзінае, чаго яна не жадала: каб дарога скончылася. Тады давядзецца выйсці з машыны і стаць начальніцай для Мілера і ўсіх астатніх у выдавецтве, строгай, уладнай, упэўненай у сабе бізнес-вумен. І ніхто не ведаў, якая цяжкая гэтая роля начальніцы ў дачыненні да аднаго чалавека — Мілера.

Таксі бясшумна пад'ехала да выдавецтва, на ганку якога курылі некалькі чалавек. Мілер выйшаў з машыны, абышоў яе ззаду, адчыніў дзверцы Таццяне Аляксандраўне і працягнуў руку, каб дапамагчы ёй выйсці.

— Вы ідзіце, — сказаў, — я затрымаюся ненадоўга.

Таццяна Аляксандраўна кіўнула, абыякавым поглядам акінула тых, што курылі, імкліва прайшла ў будынак. Мілер разлічыўся з таксістам, закурыў.

Не спяшаючыся, ён падняўся на чацвёрты паверх, увайшоў у кабінет рэдактарскага аддзела, у якім, занураныя ў экраны камп'ютараў, працавалі яго калегі. Паздароўкаўся, сеў за свой стол. Уключыў камп'ютар, але тут жа выключыў. Прынятае рашэнне немагчыма адмяніць. «Так не працуй!» — успомніў ейныя словы. Зразумела,

яна сказала гэта з гарачкі, яна не жадае яго сыходу. Аднак Мілер перастане сябе паважаць, калі застанецца. Яго пазіцыя, датычная літаратуры, што тут выдавалася, засталася нязменнай. Далей будзе толькі горш. Іх з Таццянай Аляксандраўнай адносіны сапсуюцца, і ён выляціць з выдавецтва праз скандал. Ён не галоўны рэдактар і не гаспадар выдавецтва, каб змяняць палітыку прадпрыемства. Па сутнасці, Мілер тут ніхто, і заснавальнікам пляваць на яго, як на працаўніка, так і на пісьменніка. Яны не лічылі за пісьменнікаў тых, чые кнігі не прадаваліся, і па-свойму мелі рацыю. Мілер разумеў іх, але не жадаў больш удзельнічаць у вытворчасці таннай макулатуры, якая, на жаль, валадарыла на цяперашнім літаратурным рынку. Невядома, колькі б яшчэ часу ён пратырчэў тут… Учорашняя размова з Таццянай Аляксандраўнай падштурхнула да прыняцця рашэння пра сыход з выдавецтва. Мілер быў удзячны Меднікавай за гэта. З улікам складанай сітуацыі ў краіне з працаўладкаваннем, яго ўчынак хтосьці назаве дурным і недальнабачным. Аднак лепш пайсці ў партовыя грузчыкі, чым крывіць душой. Няхай гэта і пафасна гучыць! Ён — гаспадар свайго жыцця і не дазволіць тузаць сябе, як марыянетку, за нітачкі. Досыць!

Мілер узброіўся чыстым аркушам паперы ды асадкай і напісаў заяву пра сыход па ўласным жаданні.

Праз пяць хвілін заява ўжо ляжала на стале Меднікавай.

— Гэта што? — твар Таццяны Аляксандраўны пакрыўся барвовымі плямамі.

— Вынік нашых учорашніх выкрунтасаў, — канстатаваў Мілер.

— Ты ў сваім розуме? — халодна прамовіла Таццяна Аляксандраўна. — Я падпісваць гэтага не буду. — Яна хапалася за свае словы, як за мыльныя бурбалкі, якія імгненна

лопаліся. У галаве мітусліва круціліся эпізоды сустрэч з Мілерам, і яна цяжка апусцілася на крэсла. — Я гэтага не падпішу.

— Ты ж сама сказала... — нагадаў ёй Мілер.

— Я пажартавала, — адраклася Таццяна Аляксандраўна ад сваіх слоў. — Я ж не думала, што ты ўсё так сур'ёзна ўспрымеш!..

— Ты не вінаватая, — пасляшаўся супакоіць яе Мілер, — гэта маё рашэнне. Рана ці позна я павінен быў. Мой сыход нічога не мяняе паміж намі.

— Праўда? — Вочы Таццяны Аляксандраўны ажылі, яна нібы чакала апошніх слоў Мілера.

— Праўда, — кіўнуў Мілер.

— І куды ты пойдзеш?

— Не ведаю пакуль, — паціснуў Мілер плячыма.

— Але ты павінен па заканадаўстве адпрацаваць месяц...

— Таццяна Аляксандраўна, я вас малю...

— Але ты сапраўды не з-за мяне?..

— Чаго ты вырашыла?

— Прабач, калі ласка, мне, Максім…

Ён падышоў да яе, яна ўстала з крэсла, павісла ў яго на шыі.

Мілер абдымаў Таццяну Аляксандраўну і пачуваўся самым шчаслівым чалавекам. Тут жа шчыра сказаў ёй пра гэта.

— Праўда? — усміхнулася Таццяна Аляксандраўна.

— Вядома, — не падвёў яе Мілер і раптам прапанаваў: — Можа, пераспім?

— Дурань! — засмяялася Таццяна Аляксандраўна, улюбёна гледзячы ў вочы Мілера.

— Не пераспім?

— Працаваць трэба, Максім, — правяла Таццяна Аляксандраўна рукой па яго калючай шчацэ. Ён затрымаў яе каля сваіх вуснаў, пацалаваў далонь.

— Ну, тады, — прамовіў, — я, Таня, пайду, а ўвечар патэлефаную табе, добра?

— Як ты мяне назваў? — Таццяна Аляксандраўна выразна пачула, што Мілер назваў яе па імені, але хацела пачуць ізноў.

— Таня, — прашаптаў ёй проста ў вуха Мілер, — Таня, Таня, — паўтарыў некалькі разоў, з-за чаго Таццяна Аляксандраўна адчула прыемны сверб у паднябенні.

— Добра, Максім, ты вольны.

Яна адпусціла Мілера і размашыста падпісала яго заяву.

Мілер пацалаваў Таццяну Аляксандраўну і выйшаў з кабінета.

# 9

Нарэшце зіма адваявала трон у восені канчаткова. Начны снежны дэсант прымусіў восень капітуляваць. Восень-палонніца вымушана сядзець седзьма ў высокай вежы без вокнаў і дзвярэй, прыкаваная да каменных сцен жалезнымі ланцугамі. Яна мужна, без аніводнага гуку прыняла сваю долю. Зіма трыумфальна заняла заваяваныя ўладанні. Снег абрынуўся на ўсё жывое і нежывое. Сляпіў вочы, абляпляў ахвяру з ног да галавы. Сонца барукалася са снегам, але сілы былі няроўныя, і сонейка адступіла, схавалася за гарызонтам, сышло ў падполле.

Аліса мімаволі схамянулася: уявіла сябе на вуліцы. Яна пазірала ў акно з аўдыторыі ўніверсітэта, дзе праходзіў залік па старажытнарускай літаратуры. Увогуле залік Аліса атрымала «аўтаматам». Прачытала ў зборніку «За зямлю рускую» тэкст пра Мамаева пабоішча і «Слова аб палку Ігаравым», актыўна працавала, спрачалася з выкладчыкам. Мабыць, ён разгледзеў у ёй цікавасць да свайго прадмета, калі адзіную з групы вылучыў, каб паставіць залік без усякіх гутарак і пытанняў. На жаль, што да літаратуры на першым курсе, то гэта бясконцая нуда. Шумеры, старажытныя грэкі, старажытныя рымляне, гамеры, сакраты, арыстафаны, арыстоцелі, сафо, катулы, аляксандры неўскія і батыі наганялі на яе сон. Ды ўсё ж са стараннасцю школьнай выдатніцы

Аліса падпарадкоўвалася правілам адукацыі, бо разумела, што гісторыю літаратуры павінна ведаць. Яна звязала сваё жыццё са словам, але не бачыла сябе ані пісьменнікам, ані настаўнікам, хаця адчувала неабходнасць у прафесійных філалагічных ведах.

Атрымаўшы залік, Аліса папрасіла дазволу застацца ў аўдыторыі. Яна прыйшла ва ўнівер разам з Лёвам, з ім хацела і сысці, тым больш што на вуліцы валам валіў снег. Выкладчык не пярэчыў, адно наказаў сесці падалей ад астатняй часткі студэнтаў.

Лёва хваляваўся з-за заліку, і гэта Алісу крыху бянтэжыла. Ён жа самы разумны на курсе. Дзіўна, што «аўтаматам» не атрымаў. Калі выцягнуў білет, супакоіўся. Твар яго прасвятлеў, вочы ажылі, забегалі ў прадчуванні бліскучага адказу.

Смешна з ім атрымалася ранкам. Аліса ўставала раней за ўсіх: ёй хацелася пазбегнуць чаргі ў душ, прытым што чатырох-пяці гадзін на сон ёй хапала, каб пачувацца бадзёрай увесь дзень. Сёння было як заўжды. Усунула ногі ў тэпці і пашыбавала ў душавую кабіну. Нацягнутыя вяроўкі для бялізны, што віселі ўздоўж кабіны, увесь час былі занятыя памытым споднім. Дзверы ў кабіну зачыняліся на шпінгалет. Справа ў тым, што Аліса ніколі не зачыняла іх, калі прымала душ. Простакутны контур святла, бачны ў праёме дзвярэй, заўсёды падказваў, што кабіна занятая. Дый ад каго хавацца ў жаночым блоку? Аліса, відаць, забылася, што з нядаўняга часу да іх падсяліўся Зорыч. У задуменні ён увайшоў у душавую, каб памыцца і пачысціць зубы. Электрычнае святло, што выцякала з кабіны ў блок мігатлівым ценем, не спыніла яго, таму што там, дзе ён жыў раней, святло наогул не выключалася, пакуль не перагарала лямпачка. Ён пхнуў дзверы — тыя адчыніліся. Аліса якраз распранулася, стала

пад душ і адкручвала краны. Зорыч пацягнуўся рукамі да кранаў над ракавінай, гледзячы на сваё адлюстраванне ў люстэрку, — і як прыскокне быццам апараны. Першай думкай было выбегчы з кабіны і шуснуць ў пасцелю. Зорыч нават зрабіў крок да дзвярэй, але рука яго міжвольна кранулася шпінгалета і… замкнула душавую. Не ведаючы, што рабіць далей, Зорыч сеў на кукішкі, пачухваючы галаву. Потым на дыбачках наблізіўся да праёма ў душ. Стоячы спінай да яго, аголеная Аліса шчодра падстаўляла сябе вадзяным струменям. Зорыч застыў не ў сілах адвесці вачэй ад дзявочага хараства. Аліса павярнулася да хлопца тварам, адчуўшы яго прысутнасць. Яна не спалохалася, не збянтэжылася, не прыкрыла пужліва інтымныя месцы рукамі, а ўсміхнулася і падміргнула Зорычу.

— Падабаецца? — спытала.

Зорыч праглынуў сліну і часта-часта заківаў галавой. Недарэчны і смешны, у чорных сямейных майтках і белай мятай саколцы. Ці бачыў ён увогуле калі-небудзь аголеную жанчыну?

Аліса не баялася, што Лёва накінецца на яе, занадта ён яшчэ быў цнатлівым. Але ж хто ведае, што ў галаве ў гэтага хлопчыка…

Ён выпрастаўся ў поўны рост і прыхінуўся да сцяны, не зводзячы вачэй з Алісы, з яе пругкіх грудзей.

Аліса зусім не саромелася Зорыча, не ўспрымала яго як мужчыну, таму спакойна скончыла абмыванне і сышла ў пакой, пакінуўшы Зорыча ў душавой аднаго.

Гэтую сітуацыю яны не абмяркоўвалі, быццам яе і не было. Праўда, цяпер Лёва неяк інакш глядзеў на Алісу. Ці ёй падалося? Вось ён памахаў ёй рукой, сабраў лісточкі з адказамі на пытанні і накіраваўся да стала выкладчыка. Аліса, усміхаючыся, пажадала яму поспеху.

Зорыч адказваў упэўнена, не марудзячы, гладка і бойка, быццам чытаў упадабаны верш. Выкладчык перапыніў яго на паўслове, падзякаваў і паставіў залік, размашыста распісаўшыся ў залікоўцы.

Аліса падышла да Зорыча ў той момант, калі ён забіраў залікоўку з працягнутай рукі выкладчыка. Яны разам пакінулі аўдыторыю і за яе межамі выдыхнулі. Універсітэцкія калідоры гудзелі: тут, як у вулеі пчолы, мітусіліся студэнты. Розныя твары і гучныя галасы — усё гэта стракацела перад вачыма і аглушала. Аднак за вокнамі было яшчэ горш. Снег, мабыць, уявіў сябе ўладаром сусвету. Трапіць у яго абдымкі Аліса не мела ніякага жадання, таму прапанавала Зорычу не спяшацца з вяртаннем у інтэрнат.

— І куды пойдзем? — скептычна пацікавіўся ён.

— Застанемся тут, — проста адказала Аліса.

— Тут так тут, — не стаў пярэчыць Зорыч, але ўдакладніў: — А паканкрэтней?

— Для пачатку прапаную падсілкавацца, — прамовіла дзяўчына. — Ці ты супраць? — утаропілася ў яго. — Я частую.

— Штосьці есці захацелася, — пралапатаў адразу ж Зорыч.

Увесь час яны перасоўваліся па калідоры, імкнучыся ісці поруч, аднак раз-пораз Зорыч адставаў ад Алісы, саступаў дарогу тым, хто крочыў насустрач. Ісці за Алісай яму было нават зручней, бо можна любавацца ёю, яе пругкай хадой, гнуткай постаццю... Ён яшчэ не зусім разумеў, што на Алісу глядзіць інакш, з нейкай закаханасцю. Пасля ранішняга сузірання дзяўчыны ў душы Зорыч марыў толькі пра яе і бачыў чамусьці аголенай, і ледзь стрымліваўся, каб не накінуцца на яе, нібы леў на здабычу. Ён нават уявіў, што Аліса адказвае ўзаемнасцю, вабіць і цвеліць яго адмыслова. Ад падобных фантазій Зорыч разгубіўся і тужліва застагнаў.

Аліса азірнулася на яго, павяла бровамі, маўляў, што з ім такое? Зорыч адказаў, што замарыўся, перахваляваўся, таму з уласным арганізмам пакуль не ў ладах. Яму проста трэба паесці, і ўсё стабілізуецца. Аліса зрабіла выгляд, што паверыла Зорычу, дый думкі яе круціліся, нібы карусель, вакол іншага чалавека. Аліса здзіўлялася, чаму ніяк не адклікаецца Максім Мікалаевіч. Ён павінен быў атрымаць яе фоткі: апавяшчэнне з паштовага сервера паведаміла, што яе ліст паспяхова дастаўлены. Якой бы ні была ягоная рэакцыя, ён не змог бы змаўчаць. Як патлумачыць маўчанне Мілера? Магчыма, ён яшчэ не бачыў ліст. Гэта значыць, ён і фатаграфіі Алісы не бачыў. Аліса меркавала, што ў яго магла быць жанчына, але вельмі спадзявалася, што памылялася. Яна ні з кім не хацела дзяліць яго і з нецярпеннем чакала заўтрашняга дня, разлічваючы знішчыць непажаданыя здагадкі. Максім Мікалаевіч абяцаў выходныя правесці з ёй. Трэба проста пачакаць крышачку. Яна б усё аддала, каб убачыць твар Мілера, калі ён нарэшце знойдзе фота ў сваёй скрыні. Аліса міжвольна хіхікнула, уявіўшы рэакцыю Максіма Мікалаевіча на тыя фота.

— Смяшынка ў рот патрапіла? — не прамінуў заўважыць Зорыч, адчыняючы перад ёй дзверы, што вялі ў буфет.

— Накшталт таго, — адмахнулася яна.

— А мне б чаго ядомага туды запхнуць, — Зорыч побач з буфетам і пахамі ежы адчуў галодныя спазмы ў страўніку.

— Не гугні, Лёва, зараз усё будзе! — запэўніла яго Аліса, займаючы чаргу ў касу. — Ідзі лепш месца забі.

Выпадкова зірнуўшы ў акно, Аліса зябка сцепанулася. Ёй нясцерпна захацелася гарачай кавы і гарачых піражкоў з яблыкамі.

Мілер сапраўды яшчэ не бачыў дасланых Алісай фотаздымкаў.

Ён крочыў немаведама куды, падстаўляўся пад удары ветру і снегу, быццам баксёр-небарака, які загадзя прайграў бой. Хаця пераможаным сябе не лічыў. Як бы пафасна ні гучала слова «воля», для яго яно было салодкім, як смак трускалак, перамяшаных з цукрам. Мілер больш не будзе заняты чытаннем брыдкага няякаснага літаратурнага лайна, не будзе баяцца гаварыць пра гэта гучна, абы толькі не вылецець з працы. Месца, якое ён страціў, дакладней, адмовіўся ад яго, з першага дня прыгнятала, і Мілер адчуваў, што апынуўся ў нейкім абсурдным, сюррэалістычным становішчы. Душыў у сабе, як спазмы ваніт, жаданне сысці з працы. Пакуль нарэшце не прадрала. Існаваць Мілер не збіраўся. Ён нарадзіўся, каб жыць. Займацца любімай справай увесь час, а не ў тыя хвіліны, што заставаліся пасля асноўнай працы. Асноўнай працай цяпер павінна быць яго творчасць. Мілер адчуваў, што займаўся лухтой апошнія дзесяць гадоў пасля таго, як скончыў універсітэт, атрымаўшы другую вышэйшую адукацыю. Цяпер ён вольны і будзе рабіць толькі тое, што падабаецца яму, а не камусьці зверху. Мілер не сумняваўся больш ва ўласных сілах. Раней ён наіўна лічыў сябе інтэлігентам. Аднак гэта было зусім не так. Мілер нарадзіўся ў сям'і калгаснікаў у вёсцы наводшыбе. Маці яго ўсё жыццё кідала гной у кароўніку з лейкозными каровамі, па дакументах лічылася даяркай, а насамрэч рабіла і за грузчыка, і за падвозчыка, і за вартаўніка, і за асенізатара. Даяркі дохлі як мухі, бо заражаліся ад хворых кароў, але нікому да іх не было справы. І як толькі мама дацягнула да пенсіі ў гэнай «мясціне зла»?! Яна ўставала а трэцяй раніцы і калдыбала на першую дойку, прыходзіла дахаты паснедаць недзе а дзясятай, а апоўдні мусіла зноў быць на працы. Вярталася ўдзень, абедала. А шостай вечара як штык зноўку ў кароўніку. Дадому вярталася позненька ўвечары. І так

штодня, практычна без выхадных, трыццаць пяць гадоў запар. Маці не памерла ад раку крыві, як астатнія, аднак страціла зрок да мінус васямнаццаці. І ніякай падзякі. Заробак раз на тры месяцы ў лепшым выпадку, і той па частках або прадуктамі, і пенсія, каб хапала адно на хлеб. Але ж, забыўся, маці аддзячылі: сфатаграфавалі неяк і павесілі яе партрэт на Дошку пашаны ў калгаснай канторы. Падобная гісторыя і з бацькам. Ён працаваў у калгасе «на брыгадзе»: куды пашлюць — на пілараму, на зернаток, у поле, палоць або збіраць ураджай, у лес на лесанарыхтоўкі — там і рабіў. Без выканання нормаў тэхнікі бяспекі. Аднойчы бацьку накрыла паваленым дрэвам, рассекла ўсю галаў, пашкодзіла хрыбетнік. Напаўжывога, яго прынеслі дахаты на руках тыя, з кім ён працаваў. Калгас нават транспарт не даў, каб бацьку ў бальніцу адвезці. Больш за тое, старшыня асабіста прыязджаў да яго з просьбай не звяртацца па медычную дапамогу афіцыйна, маўляў, калгас дапаможа ўсім, што неабходна для лячэння. Правільна, пасадзілі б старшыню за парушэнне ўсяго, чаго толькі можна. І бацька пагадзіўся. Да яго ж старшыня павагу выказаў. Чымсьці, зразумела, калгас дапамог бацьку, але па дробязі, не асабліва ўнікаючы ў праблему траўмаў. Бацька ачуняў; яго фота, як і мамчына, таксама вывесілі на Дошку пашаны. Усё. Больш не ўспомнілі. Ніводнага разу. Бацька запіў. Потым пачаліся галаўныя болі, дзікія і страшныя, калі не піў. Алкаголь сцішваў боль. Праз нейкі час ён пачаў размаўляць сам з сабою.

І тым не менш Мілер ганарыўся бацькамі. Ён зразумеў гэта толькі цяпер. Імкнучыся патрапіць у так званую сталічную багему, Мілер забываў, што абавязаны ўсяму менавіта маці з бацькам, якія губілі сябе дзеля яго, дзеля таго, каб ён чытаў кнігі і вучыўся, каб выйшаў у людзі. Аднак ЧАЛАВЕКАМ была яго мама, ЧАЛАВЕКАМ быў яго бацька.

На такіх, як яны, трымаецца краіна, здзекуецца з іх, плюе на іх, а яны выцягваюць і выцягваюць яе з балота, ні на секунду не спыняючы сваю Сізіфаву працу. Бессэнсоўную, на першы погляд, але такую сапраўдную. Бацькі Мілера не змянілі сабе, як бы ім цяжка ні даводзілася. Трэба заставацца сабой заўсёды, што б з табой ні здарылася. Мілер зразумеў гэта позна, але ўсведамленне акрыліла яго і вызваліла ад хлуслівых паняццяў аб прыстойнасці.

Зараз ён ішоў, рыхтык ледакол праз ільды, рассоўваў снег рукамі і хапаў вецер за горла, нібы змяю. У парыве шалёнай лютасці, падараванай нованароджанай воляй, ён мог гэтай змяі папросту звярнуць шыю або разбіць галаву аб сцяну. Мілер засмяяўся гучна і апантана. Як жа мала яму спатрэбілася — усяго толькі сысці з працы — з цэнтру крывадушнасці і ханжаства! Нарэшце зразумеў, хто ён і адкуль! І як жа доўга ён да гэтага поўз! Так-так, поўз, быццам чарвяк, па-рабску зняважаны гад, якога можна было раздушыць і не заўважыць. Забіце ў сабе раба, людцы, і будзе вам шчасце. Бяда ў тым, што са шчасцем і воляй, якія зваляцца на галаву, нібы цэгла, значная колькасць людзей не будзе ведаць, што рабіць, і прыгнечана застанецца таптацца на месцы. Як было з чорнаскурымі Амерыкі дзевятнаццатага стагоддзя пасля Грамадзянскай вайны. Яны разгубіліся і таму гінулі. Воля забівала іх паасобку і масава. Таму што невуцтва — ланцуг і ашыйнік — ценем крочыць за кожным з нас, ні ўдзень, ні ўначы не адпускае. Невуцтва плодзіць невуцтва, спрашчае працу мозгу да поўнай яго атрафіі, пазіцыянуе і прапагандуе прымітывізм і празрыстасць рэчаў як самае неабходнае для расліннага жыцця. У дапамогу невуцтву кідаецца рэлігія з забойнымі дактрынамі і дэгенератыўнай мараллю: любі Бога ці пашкадуеш. Менавіта іх выкарыстоўвала партыя ў часы Савецкага Саюза: любі партыю ці пашкадуеш. І сорак

мільёнаў душ, перамалотых ў пацяруху дзеля любові да блізкага.

— Я вольны, нібы птушка ў нябёсах! — загарлапаніў ва ўвесь голас Мілер проста ў снег і вецер. — Я вольны! Я забыўся, што значыць страх! Я вольны! З дзікім ветрам нароўні! Я вольны наяве, а не ў снах!

І пляваць яму было на шматлікіх мінакоў, якія высыпалі на заснежаныя вуліцы і праспекты. Яны паспешліва праходзілі міма, дакладней, ім здавалася, што яны рухаліся хутка, але насамрэч ледзь валаклі ногі, бо снег, нястомны ў сваёй утрапёнасці, абляпіў людзей з ног да галавы. Вочы Мілера гарэлі ліхаманкавым агнём, быццам у сухотнага ці вар'ята.

А ён крочыў па Мінску і гатовы быў яго прайсці ўвесь уздоўж і ўпоперак, бо адчуваў унутры нямераную сілу.

Ногі яго прывялі на кніжны кірмаш, які праходзіў штодня, акрамя панядзелка, у павільёнах «БелЭкспа», якія размяшчаліся насупраць Тэатра оперы і балета праз дарогу. Мілеру падабалася гэтае месца. Ён любіў пахаджваць уздоўж кніжных шэрагаў і зазіраць, як у вокны дамоў, у новыя і старыя кнігі, заходзіць, бы ў кватэры па-суседску, на іх старонкі, падоўгу, аднак, не затрымліваючыся. Знаёміўся, прыглядаўся, «цалаваў ручку», калі кнігу напісала жанчына, моцна паціскаў руку мужчынскай прозе. Мілер не абмінаў шэрагаў з распродажам, дзе за параўнальна нізкі кошт можна было набыць, калі пашанцуе, рэдкія і шыкоўныя па сваім сюжэце творы. Такімі з'яўляліся, па меркаванні Мілера, аповесці Ф. Абрамава, раман «Бікіні» Вішнеўскага, тэтралогія Апдайка, трылогія Фолкнера пра Сноўпсаў, на якія напаў выпадкова і ні разу не пашкадаваў заплочаных грошай. Кошт на гэтыя кнігі здаваўся смешным у параўнанні з рэальным цэннікам асноўнай прадукцыі кірмаша. Ён ніколі

не праходзіў міма, адчуваючы невытлумачальнае прыцягненне да таго, што яго вабіла. Як і зараз. Мілер спыніўся побач з Муракамі. Але не таго, супервядомага Харукі, якога японцы чамусьці не лічылі за свайго, а іншага, маладзейшага, аднак не менш таленавітага. «Маналогі пра асалоду, апатыю і смерць» Ру Муракамі нема крычалі пра жаданне належаць Мілеру і больш нікому. Ён выразна чуў гэты крык аб дапамозе ў вушах, нібы енкі тых, хто выжыў пасля ядзернага бамбавання ў Хірасіме і Нагасакі.

Мілер працягнуў руку да кнігі, каб прывітацца для пачатку, адчуць трымценне ад першага знаёмства, як раптам яго тэлефон пракаўкаў гугнява: «Вазьмі трубку, гэта твой дружбак!»

Мілер незадаволена паморшчыўся, але на званок адказаў.

— Як самаадчуванне, Мілька-Шпілька? — у звычайнай сваёй манеры з’едліва пацікавіўся Букоўскі.

— Здароў, — прамовіў Мілер. — Здарылася што?

— Тут Медавуха маёй Ленцы тэлефанавала... — пачаў быў Букоўскі, але Мілер яго перапыніў.

— Хто, прабач?

— Ну, Медавуха, Меднікава твая, — патлумачыў Букоўскі. Прыдумляць мянушкі кожнаму знаёмаму чалавеку Букоўскі не лічыў шкоднай звычкай. Ён меркаваў, што мянушкі, якія ён прыдумляў, чалавека, наадварот, рабілі чалавекам. І меў рацыю: ягоныя мянушкі трапна характарызавалі іх уладальніка.

— Яна не мая, — асцярожна паправіў Букоўскага Мілер і ўсміхнуўся: — А Ленка, як я пагляджу, ужо твая?

— Мая, твая, — раздражняўся Букоўскі, — не ў гэтым сутнасць. Карацей, Меднікава тэлефанавала і паведаміла, што ты звольніўся сёння?..

— Ну так, — не стаў адмаўляць Мілер.

— Ты дурань? — паўшчуваў Букоўскі.

— Ну так, — усміхаўся Мілер.

— Я так і зразумеў. Не, дурні кніг не пішуць, — быццам самому сабе штосьці тлумачыў Букоўскі.

— Ты мне маралі вырашыў пачытаць? — прыспешваў яго Мілер.

— Ду-у-ужа, — уздыхнуў Букоўскі. — Хацеў пераканацца, што гэта праўда.

— А ты дзе зараз? — пацікавіўся Мілер.

— Ды ў Ленкі завіс. Пахмяляемся, — прызнаўся Букоўскі. — Хочаш, прыязджай, — запрасіў, нібы гаспадар. — Табе не пашкодзіць…

— На працу «забілі»?

— Ленка дамовілася з начальствам са сваім, што потым адпрацуе. Куды ёй у такім стане да дзяцей?! А мне заўтра ў ноч. Так што гуляем.

— Ну, гуляйце.

— А ты?

— Я не хачу, — адмовіўся Мілер. — Аднаму пабыць трэба. Падумаць.

— Добра, — пагадзіўся Букоўскі. — Салодкая Медавуха? — напрыканцы зарагатаў.

— Салодкая, — не стаў адмаўляць Мілер.

— Што ж ты так яе падвёў тады? Румзала проста ў трубку. Я ўсё асцерагаўся, што яна зальe нас слязьмі нават праз тэлефон.

— Я ёй усё растлумачыў. Зразумее, калі не дурніца.

— Мы ў адказе за тых, каго прыручылі, памятаеш?

— Не гудзі, на сябе паглядзі.

— Добра, гэта не мая справа...

— Праўда што.

— Спадзяюся, ты ўсё правільна робіш. Поспехаў!

— Пакуль.

Мілер выключыў тэлефон, сунуў яго ў кішэню і зноў пацягнуўся да Муракамі.

Ён купіў кнігу і змясціў яе ва ўнутраную кішэню курткі, бліжэй да сэрца, нібы змёрзлае кацяня, і саграваў даверам і цяплом. Мілер ніколі не сыходзіў з гэтага павільёна без кнігі, хаця б адной. Маніякальны запал да друкаванага мастацкага слова пасяліўся ў яго душы яшчэ ў юнацтве.

Калі выйшаў з павільёна, дастаў цыгарэты, але курыць раздумаў. Потым, дома пакурыць. Яму вельмі карцела дамоў, быццам хтосьці чакаў яго там. Мусіць, дзіўна домам называць здымнае жыллё, аднак Мілер дужа прыкіпеў да гэтай кватэры. Ён пешшу дабраўся да метро, даехаў да ўнівермага «Беларусь», перасеў на трамвай, з якога выйшаў на Пляханава, спусціўся ў пераход, купіў дзвесце грам цукерак «Чырвоны Каптурок» і «Алёнка» і паспяшаўся да гмаха, які самотна тырчаў над кінатэатрам «Салют». Тут ён і жыў пад самым дахам, бліжэй да зорак, якія рэдка цешылі вялікі горад сваёй прысутнасцю, але ж калі ўпрыгожвалі незямным ззяннем начное неба, то Мілер падоўгу не мог ад іх вачэй адарваць. Стаяў на балконе, глядзеў на іх і нібы размаўляў з імі. Магчыма, яны нашэптвалі яму мудрагелістыя сюжэты яго твораў, якія крытыкі, выдаўцы і пісьменнікі лічылі складанымі для ўспрымання і нетыповымі для айчыннай літаратуры, інакш кажучы, чужароднымі. Па-іншаму, аднак, ставіліся чытачы. Мілера любілі, асабліва жаночая аўдыторыя, што немалаважна, паколькі асноўны пласт чытачоў складаюць менавіта жанчыны.

Уключыўшы святло ў пярэднім пакоі, Мілер разуўся, зняў куртку, шапку, разматаў шалік, павесіў на вешалку і прайшоў у пакой. Новую кнігу паклаў на тахту, якая стаяла ў левым куце ад уваход. Побач з ёй, важная і прамая,

як сейф, узвышалася бялізнавая шафа. Справа месцілася чэшская секцыя з кнігамі, напалову запоўненая падпіснымі выданнямі, якія некалі збіралі гаспадары кватэры. Іншую палову камплектаваў Мілер па меры сіл. За крок ад балконных дзвярэй, паміж тахтой і балконам, знаходзіўся дыхтоўны дубовы стол з трыма шуфлядкамі. На стале стосам ляжалі кнігі з часопісамі, іх крыху пасунулі ноўтбук і настольная лямпа. Побач са сталом грувасціўся скураны фатэль, на падлозе быў пасцелены казахстанскі дыван з нацыянальнай сімволікай. Тэлевізар у кватэры меўся, але пыліўся ў каморцы, Мілер яго туды запхнуў, каб неназаляў.

Ён адкрыў ноўтбук (калі прыходзіў дамоў, перш за ўсё правяраў пошту), увайшоў у інтэрнэт, разваліўся ў фатэлі. Паведамленне піснула, што прыйшло дзевяць лістоў, сярод якіх ліст ад Алісы. Мілер націснуў на яго курсорам і… утаропіўся, нібы чумны, у фотаздымкі, дасланыя дачкой. Падсунуўся бліжэй да экрана. Іх было пяць. На адным Аліса стаяла рукі ў бокі каля ўпрыгожаных да нейкага свята вокнаў, прыбраная ў чырвоны мундзір, перавязаны на грудзях пунсовай стужкай і апрануты на лёгкую сукенку з расклёшанымі ад запясцяў рукавамі, і глядзела спадылба ў аб’ектыў камеры. На астатніх чатырох фотках Аліса была зусім іншай. Фонам для кожнага фота служыў даволі прасторны і светлы ванны пакой, які ўражваў чысцінёй і белым колерам. Ён знаходзіўся, хутчэй за ўсё, у якімсьці катэджы. І тут Аліса ў блакітным кімано выглядала эратычна. Першы фотаздымак: Аліса, сфатаграфаваная анфас, падцягнуўшы кімано вышэй сцёгнаў, стаяла спінай да камеры. Другое фота: Аліса прыспусціла кімано з плячэй, агаліўшы грудзі. Пры гэтым падціснула шлейку так, нібыта саромелася. Сарамлівай была і яе ўсмешка. Трэцяе фота: кімано на Алісе расхінута, але грудзі яна затуляла далонню і рукой, указальны

палец заціснуўшы паміж вуснаў. Галава яе злёгку нахілена наперад, а вочы выпраменьвалі заганную нявіннасць. На апошнім фота Аліса сядзела на каленях. Кімано расхінута, як дзверы, — напята. Грудзі бессаромна аголеныя, а позірк хітры. Аднак ні прыхаваны пасыл фотаздымкаў, ні напаўаголеная Аліса на іх не абурылі Мілера. Наадварот, яго дачка была бездакорная, і ён захапляўся прыгажосцю і маладосцю дзяўчыны. Мілера цікавіла, хто яе здымаў, хто стаяў, так бы мовіць, за штурвалам дзейства! Пераглядаючы ў які раз адно фота за другім, ён адчуваў нянавісць да аўтара здымкаў, нават раўнаваў Алісу. Гэта насцярожвала, бо ён жа бацька ўсё ж. Навошта Аліса даслала яму гэтыя фота? Машынальна Мілер палез па тэлефон і набраў яе нумар.

— Ну нарэшце! — нецярпліва выдыхнула Аліса яму проста ў вуха, нібы каханка.

Мілер выдраў гэтае параўнанне з галавы, быццам кляшча, і раздушыў.

— Прывітанне, Аліса! — строга сказаў у слухаўку.

— Вам спадабалася? — загадкава прашаптала Аліса.

— Ты пра што? — Мілер здагадаўся, але прагнуў канкрэтыкі.

— Вам спадабаліся мае фоткі? — працягвала яго інтрыгаваць голасам дзяўчына.

— Навошта ты мне іх даслала?

— Я ж абяцала...

— Навошта такія?

— Адкажыце спачатку, спадабаліся яны вам ці не, — настойвала Аліса.

— Мне ўсё падабаецца, што звязана з табой, — прызнаўся Мілер. — І ўсё ж я не разумею.

— Я хачу, каб вы ведалі, якая я. Толькі і ўсяго. Я ж вас не расчаравала?

— Не, вядома, — паспяшаўся Мілер, каб не пакрыўдзіць дачку.

— Я ведала, што вам спадабаецца, — хіхікнула Аліса і спытала: — Мы ж заўтра сустрэнемся? Вы не забыліся пра выходныя, вы ж абяцалі мне?

— Зразумела, сустрэнемся, — не адмаўляў Мілер. Пасля прагледжаных фотаздымкаў ён абавязкова павінен убачыць Алісу.

— Тады да заўтра, Максім Мікалаевіч?

— Да заўтра, — пагадзіўся Мілер.

Увечар снег з ветрам стаміліся ваяваць: вецер сцішыўся, а снег лёг кілімком пад ногі сталіцы.

Дзень абяцаў быць сонечным і зацішным. Пра гэта Мілеру шапнула раніца, якая зазірала ў акно бясхмарным бірузовым небам. Ён лёгка ўскочыў з тахты, адціснуўся сто дзесяць разоў ад падлогі на кулаках, падкачаў прэс і схадзіў у душ асвяжыцца. Пасля гарбаты з бутэрбродам патэлефанаваў Алісе ўдакладніць час сустрэчы. Яны дамовіліся ўбачыцца а дванаццай гадзіне. Ён прыедзе па яе ў інтэрнат. Голас Алісы нават праз слухаўку тэлефона ззяў, нібы снег на сонцы, непрыхаванай радасцю. Мілер таксама прадчуваў спатканне з дачкой. Ён сумаваў па ёй і з нецярпеннем падганяў час, быццам запрэжаных коней, якія, аднак, запавольвалі бег. Няма нічога горшага за вымушанае чаканне. Мілер выйшаў на балкон пакурыць. Сонца асляпіла яго россыпам прамянёў, і бліскучы снег на зямлі таксама ўдарыў па вачах бялюткім светам. У снезе патанула ўсё. Аўтамабілісты адкопвалі свае машыны: махалі рыдлёўкамі і лаялі снегапад. Дрэвы, быццам дзяўчынкі на навагоднім ранішніку, красаваліся ў новых уборах. Скакалі па правадах электраперадачы і цвыркалі пра нешта сваё няўрымслівыя вераб'і. На іх, як

на ідыётаў, з падаконняў глядзелі галубы. Крумкачы важна перавальваліся з лапкі на лапку і соўгаліся па дахах альтанак, якія тырчалі снежнымі грыбамі на дзіцячай пляцоўцы.

Мілер не думаў пра тое, што яго чакае наперадзе і чым ён займецца. Яшчэ не час, лічыў ён. Грошай пакуль хопіць, потым атрымае разлік ад выдавецтва, з якога сышоў. Далей па абставінах. У зневажальнае становішча, залежнае ад сацыяльных і непрымальных для яго асабіста прычын, Мілер сябе паставіць не мог ні пры якім раскладзе. Ён ізноў прыгадаў школьны вечар, калі яго збілі на дыскатэцы ў клубе суседняй вёскі. На Мілера тады звярнула ўвагу мясцовая дзяўчына. Стройная, кірпаносая, з вялізнымі вачыма, з чорнымі кучаравымі валасамі па пояс. Яна прызналася, што ён не падобны ні на кога з тых, каго яна ведала. Вядома, Мілер ёй падабаўся. Яны танчылі, усміхаліся адно аднаму, жартавалі, казалі нейкія дурасці. Потым дзяўчына папрасіла яго сысці разам з ёй з клуба, але ён адмовіўся. Весялосць толькі пачалася. Дзяўчына мякка настойвала, нават угаворвала. А затым яго быццам аглушыла разарваным паблізу снарадам. Мілер адчуў тупы боль у патыліцы, вусны крывавілі (ён пацалаваўся з падлогай пры падзенні). Дзяўчына закрыла твар рукамі, яе хтосьці адапхнуў і зацёр у натоўпе. Яна ведала, што на яго нападуць, і хацела папярэдзіць яго, атуліць сабой ад бяды. Мілер яшчэ тады гэта зразумеў. Яму было так балюча ўсведамляць сябе бездапаможным, збітым з ног цішком, подла і гідка. Цяпер звар'яцелы натоўп абступіў яго з усіх бакоў і з цікавасцю пазіраў на знямоглага хлопца. Акрамя той дзяўчыны, Мілера ніхто не пашкадаваў, хоць ён і не жадаў гэтага. Ён жа нават не паспрабаваў прадухіліць напад, перашкодзіць неяк несправядлівасці. Мілер, выхаваны на кнігах Дзюма і Вальтэра Скота, не ведаў яшчэ, што несправядлівасць і ганебнасць — зводныя браты, якія ідуць поруч па

жыцці. Прычым гэта зласлівыя браты, якія ўвесь час хочуць зняважыць, абразіць, растаптаць, агаварыць, падставіць.

Мімавольнае параўнанне памірыла Мілера з сабой канчаткова. Ён зразумеў, што нельга нікому дазваляць ганьбіць сябе. І гэтак жа нельга дазваляць разыходзіцца сваім справам і ўчынкам са сваімі ж словамі і думкамі.

Патэлефанаваў Букоўскі, але Мілер не адказаў. Праз хвіліну пашкадаваў, аднак пакуль што вырашыў не гаварыць з сябрам. Яго чакала Аліса. Ні пра кога іншага ён не жадаў ні думаць, ні ведаць.

Мілер апрануўся і выйшаў на вуліцу. Прыгожы дзень.

Ён даехаў тралейбусам да Цэнтральнага чыгуначнага вакзала і адтуль пешшу ўздоўж трамвайных рэек накіраваўся да інтэрната, дзе жыла Аліса. На мосце праз Свіслач пакурыў, згадаў студэнцкія гады, колькі папахадзіў тут. Скоса пазіраў на студэнтаў новага пакалення. Дарэчы, мала што змянілася, хіба што хлопцы насілі занадта вузкія нагавіцы ці джынсы, якія абцягвалі іх худыя ногі.

Ён не чакаў яе ні секунды. Падышоў да дзвярэй інтэрната, і яны расчыніліся. Аліса павісла на ім, аберуч абняла за шыю. Мілер машынальна сашчапіў рукі ў замок на яе стане. Дзяўчына шумна дыхала яму ў вуха, ап’яняючы гарачым подыхам.

— Прывітанне! — прашаптала затым. — Я так знудзілася!

— Прывітанне. — Выпусціў дачку з абдымкаў Мілер.

Аліса крыху адхілілася, каб зазірнуць у ягоныя вочы.

— Я таксама сумаваў.

На ёй былі чорныя замшавыя батфорты на абцасах, джынсы, цёплае чорнае паўпаліто з паяском і паднятым каўняром, аблямаваным мехам, на галаве белы берэт. Валасы струменіліся па плячах. Ручкі сагравалі замшавыя карычневыя пальчаткі.

— Я так рада вас бачыць! — прагаварыла Аліса.

— Мы ж дамовіліся не выкаць, — нагадаў Мілер.

— Так, але... — пацiснула плячыма дзяўчына, — у мяне ўсё ж язык не паварочваецца казаць вам ты, хоць забіце! Магчыма, потым? — хітра зірнула на яго.

— Ну, няхай так, — махнуў рукой Мілер.

— Вы не пакрыўдзіліся? — занепакоена спытала Аліса.

— Не, што ты! — здзівіўся пытанню Мілер.

— Сапраўды не пакрыўдзіліся?

— Ды не, — усміхнуўся Мілер, і яго ўсмешцы Аліса паверыла.

— Куды пойдзем? — пацікавілася яна.

— Куды ж? — задумаўся Мілер. Ён так жадаў убачыць дзяўчыну, што зусім забыўся скласці маршрут. Да таго ж спантанныя рашэнні заўсёды прыносілі Мілеру больш карысці, чым шкоды. З іншага боку, сустрэча з дачкой — не экскурсія. — Куды пойдзецца, думаю… — і, разумеючы, што сказаў недарэчы, дадаў: — Свет вялікі...

Аліса засмяялася, і яе смех нібыта паказытаў Мілерава сэрца.

— Ну хадзем, куды пойдзецца! — абвясціла Аліса, прасунула руку пад руку Мілера, спытала: — У які бок?

— А давай прама, — прапанаваў Мілер.

Аліса кіўнула, і яны нага ў нагу закрочылі наперад — уздоўж стадыёна да шостага інтэрната і лікёра-гарэлачнага завода «Крышталь».

— Скажыце, — прамовіла Аліса праз колькі крокаў, — але можаце не казаць, калі вам здадуцца мае словы бестактоўнымі, у вас ёсць жанчына?

— Ты сур’ёзна? — уважліва паглядзеў на яе Мілер.

— Прабачце, гэта не мая справа, — апусціла вочы Аліса. — Вы дарослы вольны чалавек і мусіце распараджацца сваім жыццём, як вам заманецца...

— Ёсць, — перапыніў яе Мілер. — Ва ўсякім разе я так думаю.

— Як гэта? — праваказвала яго на шчырасць дзяўчына.

— Ды сам не ведаю, — і ён сапраўды не ведаў, ці ёсць у яго Таццяна Аляксандраўна. Ці патрэбная яму Таццяна Аляксандраўна як жанчына мужчыну, ці толькі здаецца, што патрэбная?

— Як у вас усё запушчана! — працягнула Аліса.

— Ды ўжо ж, — пагадзіўся Мілер, — складанасцяў хапае.

— А якая яна? — не адставала дзяўчына.

— Цяжка сказаць, — нявызначана адказаў Мілер.

— На каго падобная, напрыклад? — падштурхоўвала яго Аліса.

— Падобная? — Мілер увесь час адчуваў, што Таццяна Аляксандраўна кагосьці яму нагадвала. Вобраз круціўся ў галаве, вабіў за сабой, аднак Мілер за ім не паспяваў, і ён выслізгваў, губляўся… Словы Алісы вярнулі той вобраз без асаблівых высілкаў. Ён, быццам выбліск, асляпіў яго на імгненне і паўстаў ва ўсёй сваёй красе. — Яна падобная на Эмі Лі, — усё ж асцярожна вымавіў Мілер. — Ведаеш, хто гэта?

— Здаецца мне, Максім Мікалаевіч, што вы хочаце мяне пакрыўдзіць, — раблена надзьмула вусны Аліса. — Эмі Лі мне падабаецца. Часам пад настрой слухаю яе кампазіцыі. Нядрэнныя, трэба сказаць.

— Нядрэнныя, — пагадзіўся Мілер.

— Значыць, ваша жанчына мне, несумнеўна, спадабаецца таксама, — дадала Аліса. — Вы ж нас пазнаёміце?

— Вельмі можа быць, — нехаця адказаў Мілер. — Але, думаю, што не хутка, улічваючы некаторыя акалічнасці.

— Ці не хочаце вы сказаць, што ў вас службовы раман? — здагадалася Аліса. — Яна сакратарка? — выказала здагадку,

аднак тут жа яе адпрэчыла. — Не, яна ваша начальніца! Я адгадала? — дзяўчына пераможна паглядзела на Мілера.

— У празорлівасці табе не адмовіш, — канстатаваў ён.

— А запрасіце мяне да сябе, — знянацку выпаліла Аліса, хоць яна першапачаткова і планавала напрасіцца да пісьменніка ў госці. Ёй надакучыла чакаць зручнага моманту, і яна вырашыла не цягнуць з гэтым, тым больш размова пра жанчыну Мілера, падобную на Эмі Лі, яе раззлавала. Хай Аліса і сама загаварыла пра яе, Максім Мікалаевіч мог бы і прамаўчаць. — Прабачце, вядома, — усё ж паспрабавала выправіцца, — я не павінна была назаляць...

— Не, ты маеш рацыю, — спыніў яе Мілер. — Ты мая дачка, і я абавязаны паказаць табе, як і дзе я жыву, надалей пазбягаючы сустрэч з табой на вуліцы ці ў шынках. Калі ты будзеш ведаць, дзе я жыву, то зможаш прыходзіць да мяне папросту...

— Ці жыць з вамі, — прашаптала Аліса.

Мілер яе слоў не пачуў. Яна сама іх ледзь пачула.

— Вырашана! — усклікнуў Мілер. — Паехалі да мяне!

— Зладзім свята?

— Безумоўна!

— З алкаголем?

— Ты супраць?

— Не, я проста спытала.

— Мая хата, мае правілы. Не хочаш — не пі, купім табе газіроўку.

— Дык я не адмаўляюся.

— У мяне да цябе куча пытанняў. Іх на цвярозую галаву не вырашыць.

— Хто спрачаецца.

— Толькі не падумай, што я алкаголік.

— Ні ў якім разе.

— Смяешся?
— Вы вялікі пісьменнік.
— Гэта сарказм цяпер быў?
— Чыстая праўда.
— Я цябе адлупцую, як дабяромся дамоў.
— Я з задавальненнем дазволю вам гэта зрабіць.

Мілер абняў Алісу і пацалаваў у шчочку. Ён дзіка, да слёз, жадаў, каб яна не была яго дачкой. У галаве круцілася жахлівая думка, што закаханы ў дзяўчыну, і нясцерпна засмактала недзе ўсярэдзіне, пад дыхавіцай. Ён праклінаў прыроду і Бога, у якога не верыў, за ўсю несправядлівасць свету, хоць павінен быў дзякаваць за цуд бацькоўства, за шчасце ў абліччы Алісы. Пачуццё да яе, што кіпела ў грудзях, нібы лава ў кратары вулкана, расло з кожнай секундай, выплюхвалася вонкі па кроплі, рыхтуючыся да разбуральнага немінучага вывяржэння, як у Пампеях. Яго не ўтрымаць ніякімі дамбамі і дамовамі. Чым даўжэй Мілер глядзеў на Алісу, тым больш пераконваўся ва ўласнай праўдзе. Калі б дзяўчына яго не адшукала, ён мог ніколі не сустрэць яе, не даведацца пра яе існаванне. Не будзь Аліса яго дачкой, наўрад ці б яны пазнаёміліся. Плюсы і мінусы, трасца на іх! Нельга паказваць ёй сваіх сапраўдных пачуццяў, нават у намёках, каб не спалохаць яе. Што яна падумае пра яго? Што ён круцель? Ды гэта мякка сказана. Адвернецца і не захоча нават імя яго згадваць. Толькі знайшла бацьку — і такое расчараванне. Менавіта з ёй, больш ні з кім, Мілер гатовы быў звязаць сваё жыццё, але не як з дачкой, а як з каханай жанчынай, што апрыёры немагчыма. Як жа балюча, га! Усведамляць, што вось яна, адзіная жанчына, якую чакаў усё жыццё, толькі руку працягні і дакраніся да яе пальцам… Але ж няможна нават прызнацца ёй у гэтым, таму што нельга яму яе кахаць! Нельга кахаць сваю дачку як жанчыну! І што

рабіць, калі кахаеш? У яго не было прычын сумнявацца ў іх сваяцтве. Аліса распавяла пра такія гісторыі ягонага жыцця, якія маглі ведаць толькі асобныя людзі. Дзікасць нейкая. Насланнё. Сэрца мітусілася ў грудзях загнаным ваўком. Каханне выдатна папалявала, беспамылкова расставіўшы чырвоныя сцяжкі па магчымым перыметры яго бегу. Зараз ягонае сэрца лямантуе, таму што нічога не выправіць. Мілер мог, канешне, ратуючы Алісу, паслаць яе, але ж дужа пакрыўдзіў бы… Дзеля яе ж. Яна б перажыла. Маладая, моцная. І ў той жа час не мог. Не мог яе страціць. Па эгаістычных прычынах. Мілера ніколі не страшыла адзінота, ён камфортна адчуваў сябе і адзін. Пакуль не з’явілася Аліса. Ён выразна бачыў, што без Алісы зямля стане пусткаю, жыццё страціць сэнс, адзінота проста зжарэ яго, як дэсерт, на вячэру. Як так адбылося? Магчыма, Мілер проста накручваў сябе? Глядзеў на прыгожую дзяўчыну побач і яму здавалася: яны персанажы з ненапісанага рамана. Ён жа пісьменнік, ён зможа стварыць іншую рэчаіснасць. Як было б добра, аднак сябе не ашукаеш.

— Штосьці не так? — занепакоілася Аліса, заўважыўшы, як пагаслі вочы Мілера.

— Не, усё ў парадку, — прамовіў ён і часта заміргаў, каб адагнаць назойлівыя думкі і слёзы.

— Ну дык вось... — працягвала дзяўчына нейкі аповед, палову якога Мілер праслухаў. Больш ён не лавіў варон і ўважліва слухаў голас Алісы, які сцякаў з яе вуснаў, бы мёд.

Яны спусціліся ў падземку.

Мілер не заўважыў, як дайшлі да метро.

Серабранка, куды прывёз Мілер Алісу, дзяўчыне не спадабалася. Аднак Мілер натхнёна распавядаў ёй гісторыю раёна, і Аліса слухала. У прыватнасці, яна даведалася, што з’яўленне Серабранкі звязана з будаўніцтвам чыгунак

(Маскоўска-Брэсцкай і Лібава-Роменскай) у 1871–1873 гадах на паўднёва-ўсходняй ускраіне Мінска. Назву раёну дала невялікая рэчка Серабранка, што ўпадала ў Свіслач. А да гэтага тут меўся маёнтак пад назвай Срэбны Лог, вядомы яшчэ з 1551-га. У XIX стагоддзі раён называўся Срэбныя Млыны і служыў месцам адпачынку гараджан. У 1895 годзе ў раёне заснавалі чыгуналіцейны завод, а на пачатку XX стагоддзя ўзніклі Серабранская вуліца і Серабранскі завулак.

Сённяшняя Серабранка (пачатак будаўніцтва яе закладзены ў 1969-м) размешчана за некалькі кіламетраў ад паўночна-ўсходняй гістарычнай Серабранкі. На месцы вуліцы Пляханава знаходзіўся шырокі доўгі яр, які меў назву, аднолькавую з маёнткам, — Срэбны Лог. Існуе версія, што раён назвалі дзякуючы менавіта гэтаму тапоніму.

Серабранка — добраўпарадкаваная і спакойная мясціна з добра асветленымі вуліцамі, дварамі, вялікай колькасцю сацыяльных аб’ектаў: крам, школ, дзіцячых садкоў, добра развітай транспартнай сеткай, аднак, па меркаванні Алісы, досыць сумная і шэрая, як і людзі тут, што праходзілі міма. Панурыя, заклапочаныя, засяроджаныя на шэрых думках. Уголас яна, вядома, гэтага не прамовіла, каб не хваляваць Мілера. Той натхнёна працягваў ухваляць любімы раён. Аліса палічыла за лепшае не перапыняць пісьменніка і не пераконваць яго ні ў чым. Урэшце, ён тут жыў, яму і рэй весці. Аліса ж амаль не ведала Мінск, тым больш Серабранку, у якой апынулася ўпершыню.

Перад кінатэатрам «Салют» Мілер распавёў, што той першапачаткова будаваўся як раённы Дом культуры. Двухпавярховы будынак яго з глядзельнай залай на 805 месцаў і буфетам быў узведзены ў 1978 годзе па тыпавым праекце. Фасад упрыгожаны абстрактнай мазаікай. Шматпавярховы

гмах, што ганарліва ўзвышаўся проста над кінатэатрам і планаваўся разам з ім, у той час рэалізацыі не атрымаў, участак быў забудаваны зусім нядаўна. Так што яму пашанцавала засяліцца ў практычна новы дом.

Мілер падабаўся Алісе такім, без суму ў вачах, дасведчаным, упэўненым у сабе і разумным мужчынам. Яна захаплялася ім, яго ўменнем так хараша і яскрава распавядаць. Магчыма, дзякуючы яго словам пра Серабранку і Аліса калінебудзь палюбіць раён, у якім незнарок апынулася.

Мілер дапамог ёй зняць паўпаліто, павесіў яго на вешалку. Берэт Аліса паклала на трумо, сцягнула батфорты. Белы швэдарок пад горла з шэрымі папярочнымі палосамі абцягваў яе танклявую постаць. Мілер падштурхнуў яе, каб не саромелася і праходзіла ў пакой, сам рушыў у кухню разгружаць пакеты з прадуктамі, якімі яны назапасіліся ў «ГІПА». Тут жа на стале апынуліся некалькі невялікіх кантэйнераў з салатамі (аліўе і крабавы), паўкіло вяндліны, чатыры сакавітыя памідоры, курыныя смажаныя кумпячкі (іх, мусіць, трэба разагрэць), бананы, тры апельсіны, хлеб, батон, кава, пляшка каньяку. Пустыя пакеты паляцелі ў сметніцу пад ракавінай (Мілер не меў звычкі збіраць іх). Пасля вярнуўся да Алісы. Як і меркаваў, знайшоў яе каля кніг. Дзяўчына захоплена разглядала кнігі, шэптам прамаўляла іх назвы і імёны аўтараў, ласкава праводзячы рукой па карэньчыках папяровага чытва.

— У вас столькі кніг, — адчула Аліса прысутнасць Мілера за спінай. — Вы іх усе прачыталі? — азірнулася, спытала і тут жа адказала сама: — Вядома ж прачыталі! Вось я дурніца!

Аліса амаль даслоўна паўтарыла рэпліку сваёй мамы, калі тая вось гэтак жа разглядала кнігі Мілера шмат гадоў таму.

— Выбачайце, — працягвала Аліса, — дзіцячае захапленне ад кніг. Дурное, але, калі бачу ў кагосьці багатую

бібліятэку, не магу стрымацца. Для вас наяўнасць кніг — нешта звыклае, відавочнае. Было б дзіўна, калі б іх не было.

— Анягож, — нявызначана прамовіў Мілер. — Не дапаможаш? — агучыў тое, навошта прыйшоў.

— З задавальненнем, — пагадзілася яна. — Што трэба рабіць? — пацерла далонню аб далонь.

— Стол накрыць, толькі і ўсяго, — развёў рукамі Мілер.

— Вядзіце! — зрабіла Аліса сур'ёзны тварык і завяла рукі за спіну.

— Ты не пад канвоем, — ацаніў жарт Мілер.

— Але я ў вашай уладзе, — усміхнулася Аліса. — Як ні круці, я ўсё адно ваша.

— Не да такой жа ступені, — пярэчыў Мілер жартаўліва.

— Ад кончыкаў валасоў да кончыкаў пальцаў на нагах.

Апошняе слова засталося за Алісай. Мілер моўчкі пайшоў следам.

Аліса памыла ў ракавіне бананы, апельсіны, памідоры, з зайздроснай хуткасцю парэзала іх, а таксама вяндліну з каўбасой на адмысловай дошцы, пасля чаго хораша, як гэта ўмеюць рабіць толькі жанчыны, расклала па талерках. Мілер тым часам закінуў мяса ў мікрахвалёўку і перанёс стол з кухні ў пакой, прысунуў да тахты. Аліса стол і сервіравала, пакуль Мілер уключаў ноўтбук, каб напоўніць кватэру музыкай, пазбавіцца цішыні, якая ціснула на вушы не толькі яму. Аліса намякнула, што нядрэнна было б стварыць нейкі фон, які б адпавядаў сітуацыі. У Мілера мелася нядрэнная калекцыя музычных відэакліпаў, іх і пачаў дэманстраваць камп'ютар пасля націску неабходнай кнопкі. Прыцішыўшы гук ноўтбука, Мілер далучыўся да Алісы. Дзяўчына сядзела на тахце, абапіраючыся аб падлакотнік, нагу закінула на нагу.

Мілер адкаркаваў каньяк, разліў яго па каньячных келіхах, падораных Букоўскім на трыццаціпяцігоддзе сябра. Раптам замітусіўся, нібы штосьці ўзгадаў.

— Ты цукеркі любіш? — спытаў у Алісы.

— Хто ж не любіць цукерак? — адказала тая. — Люблю, і нават вельмі. А што?

— Момант, — Мілер кінуўся ў кухню, зазірнуў у буфет, прысеў на кукішкі, каб узяць з ніжняй паліцы набытыя ўчора «Алёнку» і «Чырвоны Каптурок». Высыпаў іх з цэлафанавага пакета ў невялікую вазачку, узятую з таго ж буфета. У такіх вазачках маці звычайна трымала ласункі на стале ў зале.

— Вось, — вярнуўся Мілер да Алісы, працягваючы вазачку.

— Мне?! — прыемна здзівілася дзяўчына.

— Перадвавагодні падарунак, — кіўнуў Мілер.

— Дзякуй! — з задавальненнем прыняла цукеркі Аліса і зазірнула ўнутр. — Люблю «Чырвоны Каптурок»! — усклікнула і тут жа разгарнула адну, не вытрымаўшы спакусы. — Райская асалода! — яна адкусіла адразу палову цукеркі.

— Ну, — падняў свой келіх з каньяком Мілер, — за сям’ю! Мы ж тут, я спадзяюся, па-сямейнаму.

— Падтрымліваю, — пагадзілася з ім Аліса.

Яны выпілі адначасова. Мілер — залпам, дзяўчына — за некалькі глыткоў. Потым Мілер пацікавіўся:

— У цябе ёсць хлопец?

— У якім сэнсе? — наіўна запляскала вейкамі Аліса, частуючыся рэшткамі цукеркі.

— У цябе не можа не быць якога-небудзь маладога чалавека, якому ты падабаешся і які, магчыма, падабаецца табе, — удакладніў Мілер.

— Які-небудзь ёсць, — не адмаўляла яна і дадала: — Але з ім справа дрэнь.

— Не зразумеў, — разгубіўся Мілер. Ён пачаў тэму, каб высветліць, хто рабіў фотаздымкі, і спадзяваўся атрымаць адказ, аднак што потым рабіць з атрыманым адказам, не ведаў.

— Ён мне хутчэй сяброўка, чым хлопец, — сказала Аліса.

— Гей, ці што? — здагадаўся Мілер, згаджаючыся з той думкай, што тады яму даравальна быць аўтарам інтымных фотаздымкаў яго дачкі.

— Ды не, — запярэчыла Аліса, лёгка змахнуўшы яго версію, як дробкі са стала. — А навошта вам гэта?

— Павінен жа я ведаць, хто фатаграфуе цябе без нічога і дзе, — наўпрост выпаліў Мілер.

— Сяброўка, — прызналася Аліса. — Мы па чарзе адна адну фоткалі. Хораша ж атрымалася?

— Хораша, — не стаў спрачацца Мілер. Адказ, вядома, вычарпальны, але ён не паверыў, як любы раўнівец. Адзіная папраўка: Мілер не меў права раўнаваць Алісу, хіба што як бацька. Ды і як бацька таксама. Паколькі ведаў яе ўсяго некалькі дзён з пражытых ёю васямнаццаці гадоў.

Ён наліў сабе яшчэ каньяку і абнавіў келіх Алісы. Яны выпілі. Аліса піць не хацела, Мілер гэта адразу заўважыў і разумеў яе. Што далей? Што рабіць? Як паводзіць сябе? Пра што казаць? Хоць гаварыць можна пра што заўгодна з любым чалавекам. Ён хацеў, каб прыйшла Таццяна Аляксандраўна ці патэлефанавала. Яна не ведала, дзе жыве Мілер, і наўрад ці заявілася б без запрашэння. Выхаванне не дазволіць. Парода інтэлігенцкая.

Але тэлефон маўчаў. Маўчала і Аліса, пазірала на Мілера так, нібы вывучала яго, вырашала, як тэарэму.

— Раскажыце што-небудзь, — папрасіла яна. — Вы так цікава распавядаеце. Асабліва ў першую нашу сустрэчу.

— З тых часоў шмат чаго змянілася, — прамармытаў Мілер.

— За некалькі дзён? — не паверыла Аліса. — Вы не падабаецеся мне такім, — быццам папракнула.

— Які ёсць, — буркнуў Мілер, падняўся з тахты і накіраваўся да балкона.

— Вы куды? — паляцела яму ў спіну.

— Курыць, — рэзкавата адказаў Мілер.

Ён выйшаў на балкон, прычыніў за сабой дзверы, закурыў, стоячы спінай да Алісы. Ён пачуваўся гадам, дурнем у адносінах да яе. Так марыў сустрэцца з дзяўчынай, а калі сустрэўся, то двух слоў звязаць не можа. Грубіяніць, злуецца. Вядома, яна тут ні пры чым… Хоць яшчэ як пры чым. Не было б яе, дык жыў бы сабе далей спакойна, кахаўся б з Меднікавай, піў з Букоўскім. «Вось яно шчасце паэтава!» Фраза з верша Букоўскага. Сумна, з аднаго боку, і пахабна. З іншага — тое, што адбывалася паміж ім і Алісай, абсурдна. Дакладней, не паміж ім і Алісай, а тое, што рабілася толькі ў яго галаве і сэрцы. Ды ён першы пусціў бы юшку таму бацьку, які пакваліўся б на ўласную дачку, пажадаў бы яе па-цялеснаму. Гэта ж твая дачка, твае цела і кроў! Сам сябе, атрымліваецца, ганіш. Трэба быць поўным ідыётам, каб пажадаць сваё дзіця. Выходзіць, Мілер — дурань, даўбешка. Аднак Аліса не паказала аніводнага дакумента, які б пацвердзіў ягонае бацькоўства. Мілер сам тыя дакументы не патрабаваў ад яе, адразу прызнаўшы ў ёй дачку. Магчыма, варта было б пацікавіцца для пачатку? Ён не хацеў тады параніць Алісу недаверам, не падазраваў, якое месца яна зойме ў яго сэрцы. Мілер і падумаць не мог, што Аліса стане для яго ўсім, толькі не дачкой. Абвінавачваць яе ў хлусні, у тым, што яна прыдумала сабе тату, не мела сэнсу. Навошта ёй выдумляць? З якой мэтай? Занадта складана нават для яго. У жыцці ўсё значна прасцей, чым у раманах.

Упёршыся ілбом у шкло акна, Мілер заўважыў, што цягае фільтр. Ён узяў новую цыгарэту, пакруціў у пальцах. Яму вельмі карцела прыкурыць, аднак Аліса заставалася ў пакоі адна. Як ён мог пакінуць яе адну, пакрыўдзіць няўвагай?.. Але пакінуў жа! І не трэба шукаць апраўданняў, яны не дапамогуць, таму што факт застаўся фактам. Мілер ніколі не быў бацькам, ён не ведаў, як сябе паводзіць з дарослай дачкой, да якой ставіўся не як да дачкі, а як да жанчыны, якую кахае. Усё ж угаварыў сябе на апраўданне, забыўся, што любыя апраўданні выглядаюць смешна і бездапаможна.

Мілер пхнуў балконныя дзверы і увайшоў у пакой, каб прабачыцца перад Алісай. Яна якраз праглядала спіс відэакліпаў у яго ноўтбуку.

— Ты прабач, — няўпэўнена крануў дзяўчыну за локаць Мілер.

— Завошта? — азірнулася да яго Аліса. — Вам няма за што прасіць прабачэння.

— Ну як?.. — развёў рукамі Мілер. Ён заўсёды штонебудзь абстрактнае выводзіў імі ў паветры, калі не ведаў, што сказаць, ці затрымліваўся з адказам.

— Давайце патанчым! — раптам прапанавала Аліса.

У Мілера не заставалася выбару.

Загучала павольная кампазіцыя Эмі Лі.

Аліса паклала рукі на плечы Мілера. Мілер нясмела, хвалюючыся, апусціў свае рукі на дзявочы стан. Яны паволі пачалі рухацца на месцы.

Аліса глядзела проста яму ў вочы, амаль не міргаючы. Ён раз-пораз адводзіў позірк то ўбок, то ўніз, але нязменна вяртаўся да яе вачэй, быццам збродлівы кот. Яна прытулілася да яго, рукі яе саслізнулі ўніз. Аліса прапусціла іх праз рукі Мілера, пагладзіла яго спіну і пакінула пад лапаткамі, нібы прышпіліла. Яго рукі міжвольна папаўзлі па яе спіне.

І зноў яны глядзелі адно аднаму ў вочы, хто каго пераглядзіць. Тут ці пан, ці прапаў. І вусны Алісы, салодкія ад «Чырвоных Каптурыкаў», прыпалі да вуснаў Мілера. Ён адчуў яе язык, салодкі, бы тая цукерка.

Іх рухі былі сінхронныя і імпэтныя. Яны ўціскаліся адно ў аднога, нібы жадалі стаць адным цэлым. Гукі, якія рваліся з грудзей Алісы, зводзілі Мілера з розуму, як і яе пацалункі.

Мабыць, музыкальная кампазіцыя паўплывала на паводзіны Мілера і Алісы. Калі песня скончылася, яе магія таксама знікла. Мілер груба адштурхнуў ад сябе дзяўчыну. Яна напаролася бокам на рог накрытага стала і спаўзла на тахту.

— Ты што ж творыш?! — шалёна зароў ён. Выглядаў ён жудасна.

Дзяўчына ўскочыла з тахты, кінулася да Мілера. Ён ізноў яе адштурхнуў. Яна ўкленчыла перад ім, малітоўна склала рукі.

— Прабачце мне! Прабачце мне, калі ласка! — залапатала. — Сама не ведаю, што на мяне найшло. Прабачце, калі ласка!

— Што ж вы ўвесь час просіце прабачэння? — Мілер прама з бутэлькі нагбом выпіў каньяку. Напой падзейнічаў як лекі. Злосны твар памякчэў, падабрэў. Мілер стаў сабою. — З чым ты гуляеш, дзяўчынка? — азірнуўся да Алісы, працягнуў руку, каб дапамагчы ёй падняцца.

— Ні з чым. Клянуся! — Аліса ўчапілася за яго руку. Яна ўстала з каленяў, вінавата згорбіўшыся.

— Хлусіш! — вымавіў Мілер. — Не зразумею толькі навошта.

— Я не падманваю! — узняла на яго вочы Аліса.

— Хто ты? — уголас падумаў Мілер. Дзяўчына ўспрыняла яго фразу як пытанне, адрасаванае ёй.

— Я ваша дачка, Максім Мікалаевіч, — прагаварыла яна і прапанавала ў роспачы: — Хочаце, зробім аналіз ДНК.

— Ты ведаеш, колькі каштуе адзін тэст ДНК? — слаба пацікавіўся Мілер у Алісы.

— Не, але здагадваюся, што дорага.

— Дзе грошы возьмеш?

— Не ведаю, — паціснула плячыма Аліса і ліхаманкава пачала пералічваць: — Пазычу ў каго-небудзь, крэдыт вазьму, банк абрабую ўрэшце!

— Навошта табе я? — наўпрост запытаў Мілер.

— Вы мой бацька, — упарта балабоніла Аліса.

— Не падобна, — патрабаваў доказаў Мілер, хоць у душы быў рады ўчынку Алісы, яе пацалункам. І ўсё ж насцярожанасць, адчуванне таго, што ім карыстаюцца як марыянеткай, не праходзіла. Мілер не баяўся выглядаць смешным, але ў дурнях не хацеў заставацца. У тым, што Аліса цямніла, ён не сумняваўся. Дачка яна ці не дачка — цяпер няважна. Дзяўчына пераступіла рысу дазволенага, магчыма, паспяшалася, што даравальна для маладосці. Аднак ён не думаў, што Аліса магла быць аферысткай, паколькі браць з яго не было чаго, хіба што кнігі. Заставаліся тры варыянты: або яна сапраўды яго дачка, або забаўлялася ад нуды, або псіхічна нездаровая. Вырашаць яму.

Аліса штосьці горача лапатала, пры гэтым недарэчна жэстыкулявала. Мілер не ўслухоўваўся ў яе словы і не глядзеў на яе. Калі ён акажацца правым, то крыўда захлісне яго, як цунамі. Аднак на што крыўдзіцца? На тое, што дзяўчынка шукае бацьку? Ці не бацьку, але кагосьці ва ўзросце, каб што?..

— Збірайся і сыходзь адсюль прэч, — нечакана нават для самога сябе, стомлена, але цвёрда прамовіў ён.

— Што?! — здзіўлена ўтаропілася ў яго Аліса. Твар перасмыкнула, неразуменне і расчараванне — вось што

было на ім. Яна не шкадавала пра тое, што цалавалася з Мілерам.

— Паўтарыць? — дапытліва глядзеў на дзяўчыну Мілер.

Аліса вытрымала яго позірк, быццам артабстрэл на перадавой.

— Не! — упэўнена адказала, рэзка павярнулася да Мілера спінай, глытаючы слёзы, і асуджана паплялася ў вітальню.

Мілер застаўся на месцы, але чуў, як Аліса зняла з вешалкі паўпаліто, як апранула яго, як прысела на трумо, узяла ў рукі батфорт...

«Яна зараз сыдзе і ніколі, мабыць, не вернецца», — пранеслася ў галаве Мілера. Ён ужо асуджаў сябе за паспешныя высновы. Аднак ці не лепш было б адпусціць яе на ўсе чатыры бакі? Не мучыць ні сябе, ні яе? Вядома, лепш. Толькі не ў гэтым жыцці.

— Стой! — раўнуў Мілер у вітальню. — Ідзі сюды!

У расхрыстаным паўпаліто, з батфортам у руках Аліса падышла да Мілера, вінавата апусціўшы галаву.

— Распранайся! — загадаў ён.

Аліса буркнула:

— Не буду.

— Паліто здымай, дурніца! — вырваў з яе рук батфорт Мілер і аднёс яго ў вітальню. Аліса рушыла ўслед за ім.

Мілер спаў на тахце. Заснуў пад фільм аб Будэнброках. Адну нагу выпрастаў наперад, другую сагнуў у калене. Аліса прылягла побач, галавой на яго грудзях.

Перад гэтым ён загадаў Алісе сесці за стол і выпіць з ім. Яна бясспрэчна падпарадкавалася. Потым распавёў ёй пра малодшага брата, які памёр у чатырохгадовым узросце (задушыўся яблыкам), пра родную вёску, якая ў Сярэднявеччы мела статус мястэчка.

— Табе цікава? — спыняўся Мілер, каб пачуць адказ Алісы. — Можаш не адказваць, — апярэджваў ён дзяўчыну, — таму што мне ўсё адно.

— Мне цікава ўсё, што вы кажаце, Максім Мікалаевіч… — усё ж паспявала ўклініцца Аліса паміж маналогамі Мілера, які нібыта не чуў яе.

Ён вельмі падрабязна расказваў пра твор, які пісаў цяпер. Гісторыю пра тое, як прыходзіць, урываецца каханне, раптоўна і нечакана. Гэта як атрымаць шанец ачуняць ад цяжкай чалавечай хваробы пад назвай Нікчэмнасць. Калі страціш магчымасць стаць лепшым, перастанеш верыць у цуд, а галоўнае, не захочаш сам гэты цуд стварыць, — каханне загіне, бо яно істота далікатная і ўразлівая.

— Такім чынам, сумна і аднастайна працякалі дні маладога, але беспаспяховага актора Косці. Так, ён служыў у слынным сталічным тэатры, з ім віталіся вахцёры, прыбіральшчыцы і мантажоры, але калегі ўсур’ёз не ўспрымалі, пасміхваліся з яго. З больш паспяховымі былымі аднакурснікамі і аднакурсніцамі ён не меў зносін, а з такімі ж, як сам, небаракамі, быў частым госцем тэатральнага буфета, дзе можна і трэба было, нікога не саромеючыся і не асцерагаючыся, не толькі нудзець пра несправядлівасць лёсу, але і ганіць тых, у каго той лёс склаўся. І так штодзённа. Пакуль у адзін цудоўны момант у яго кватэры, літаральна ў ванне, не апынулася Ніна, якую ён, добра паддаты, прыняў за русалку, а да таго, калі пераступаў парог, падумаў, што да яго забраліся злодзеі. Дзверы не былі замкнёныя, а ў сумежным з прыбіральняй ванным пакоі гарэла святло і цякла вада. І што злодзеям спатрэбілася там, хто ведае? Уявіўшы сябе героем галівудскага баявіка, Косця-актор з віртуальным пісталетам у выцягнутых руках падкраўся да крыніцы святла і пабачыў русалку. Гэта потым яна стала

Нінай, нядаўняй знаёмай. Напярэдадні Косця выпадкова пазнаёміўся з ёй на нейкім дні нараджэння. Ніна сядзела асобна ад усіх, выглядала сумнай. Косця вырашыў павесяліць яе, нават назваўся акторам. Ніна сказала, што ніколі не чула пра такога. Карацей, размовы не атрымалася. Косцю закранула, натуральна, што яго ніхто не ведае і не пазнае, але ў гэтым была толькі яго віна. Ён не любіў хадзіць на кастынгі, таму што лічыў кінаспробы зняважлівымі. Чакаў, калі паклічуць самі. Ходзяць жа ў тэатр, бачаць, на што ён здольны. Косця сапраўды нядрэнна іграў і трымаўся на сцэне, але такіх нядрэнных процьма.

Зрэшты, і з дзяўчынай Нінай, як ён лічыў, яму не пашанцавала. І тут такая неспадзеўка. Праўда, пытанне: якім чынам яна патрапіла да яго ў кватэру?..

І паляцелі, закруціліся шчаслівыя дні і ночы. Косця змяніўся, з’явіўся бляск у вачах, нават у буфет радзей зазіраў, так захапіла яго Ніна, якая пры кожнай сустрэчы ўражвала яго, ператварала штодзённасць і аднастайнасць у прыгоды. Пакуль Косця сам усё не сапсаваў: прыраўнаваў да аднаго знаёмага, які выкладаў ва ўніверсітэце, дзе Ніна вучылася на трэцім курсе. Напіўся, натуральна, каб зняць стрэс, і моцна пакрыўдзіў дзяўчыну, так пакрыўдзіў, што яна знікла, ды яшчэ знаёмы гэты, да якога Косця прыраўнаваў Ніну, наваляў люлей. Гэта калі ацверазеў — зразумеў, што нарабіў. І прабачэння яму няма.

Ён шукаў Ніну доўга, але безвынікова. Тэлефоны, на якія тэлефанаваў у спадзеве хоць на якую-небудзь звестку, або маўчалі, або там адказвалі, што не ведаюць ніякай Ніны. Яе знаёмыя і сябры таксама не дапамагалі, нават пагражалі пераламаць яму ногі.

Страціўшы надзею, Косця надумаўся скончыць жыццё самагубствам. Не з пачуцця віны. Зразумеў, што без Ніны

жыць немагчыма, бо ён задыхаўся без яе. І гэта ўплывала як на яго здароўе, так і на працу.

Аднойчы Косця апынуўся ў незнаёмым раёне, зайшоў у нейкі бар-кавярню, а потым убачыў, як туды ж увайшла Ніна, зусім іншая, не падобная на сябе ранейшую. Яна змянілася моцна, але гэта была дакладна Ніна. Дзяўчына яго не заўважыла. Пакуль Косця настройваў сябе, каб кінуцца ёй у ногі і маліць аб прабачэнні, увайшлі двое ў скураных куртках, узялі Ніну пад рукі і звялі, як злачынцу, пасадзілі ў машыну. Косця за той машынай таксама рвануў…

Які ў гісторыі фінал?

Ён можа быць розным.

Ніна сапраўды магла аказацца ліхадзейкай і проста пакарыстацца Косцем, яго кватэрай для якой-небудзь справы. І калі там знойдуць гераін, Ніна скажа, што ніколі і ў вочы не бачыла наркотыкі. Косця, які своечасова з'явіцца на сцэне, нібы ў дрэннай п'есе, па-дурному заявіць, што гэта ягонае. Што тады? Магчыма, Ніна ўзрадуецца, як па-майстэрску апрацавала дурнога мужыка, і зоймецца далейшай распрацоўкай сваіх незаконных мерапрыемстваў. А магчыма, на наступны дзень узнікне перад сценамі пракуратуры з камандай праграмы «Розыгрыш» і з велізарным букетам кветак ад Першага канала.

Цалкам магчыма, што Косця ўвогуле Ніну не адшукае, а мажліва, і адшукае, і яна стане яго целаахоўнікам, паколькі Косця абавязкова праславіцца, а Ніна, як высветліцца пазней, бездакорна валодае тэхнікай рукапашнага бою.

Але ці застануцца яны разам, ці створаць ванільны хэпіэнд у стылі амерыканскіх меладрам, ці ўсё ж хтосьці з іх загіне, бо нездарма ж мусіць быць эпізод з лініямі жыцця на далонях, вырашаць не мне і нават не чытачам, а таму, хто гэтай гісторыяй зацікавіцца. Паставіць, так бы мовіць, кропку, ці варты Косця шчасця і кахання, ці не.

Мілер замоўк. Выпіў яшчэ. Ён не глядзеў на Алісу, але яна ведала, што распаведзенае ім адрасавана канкрэтна ёй, што ён чакае ад яе нейкай рэакцыі. Дзяўчына слухала сінопсіс, стаіўшы дыханне. Пісьменнік падзяліўся з ёй задумай свайго рамана, які, магчыма, стане бестселерам… Падобнае ён мог распавесці толькі самаму блізкаму чалавеку. Нават Букоўскі не мог пахваліцца падобным даверам. Мілер наогул нікому і ніколі не казаў пра тое, што піша і што хацеў бы напісаць, пакуль не скончыць працу. Гэта адчувалася ў кожным яго слове. Мілеру цяжка даваўся пераказ будучага твора. Здавалася, з кожным вымаўленым словам ён штосьці губляў з задуманага, калі не здраджваў сваім героям.

Аліса зразумела і ацаніла яго ахвяру.

— Ён варты! — цвёрда прамовіла яна.

Мілер павольна, як бы неахвотна, перавёў вочы з дна келіха на Алісу і пільна паглядзеў на яе.

— Хіба? — усумніўся ён.

— Я ўпэўнена, — стаяла на сваім дзяўчына і дадала: — Ахвяра ў імя кахання — святая ахвяра.

— Ты апраўдваеш яго? Яго ўчынкі?

— Зусім не, — запярэчыла Аліса. — Ён сапраўдны. Такі, якім павінен быць мужчына.

— Але такіх, на жаль, не існуе, — уздыхнуў Мілер і сумна прашаптаў: — Хіба што ў маім уяўленні.

— Ты сам такі, тата, — сказала Аліса, — таму табе дрэнна і самотна.

Мілер замёр. Яму не пачулася? Яго толькі што назвалі татам? Хто? Хто гэтая дзяўчына? Ці годны ён яе? Ці годны ён быць яе бацькам? Толькі не плакаць! Трымацца! Хоць чаго саромецца? Гэта ж не ён плача, а каньяк.

Слёзы сапраўды выступілі на вачах Мілера. Верагодна, ад замілавання. Ён ніколі не хацеў жыць сям’ёй і не ўяўляў

сябе сем'янінам нават у страшных снах. Шлюб лічыў добраахвотным рабствам, таму аддаваў перавагу адзіноце. Занадта гідліва яму было б падпарадкоўвацца яшчэ і жонцы. Усё ў гэтым свеце замяшана на падначаленні. З самага нараджэння ты выконваеш волю спачатку бацькоў, потым школьных настаўнікаў, потым цябе забіраюць у войска, дзе ты наогул ніхто і нішто. Сацыяльная адзінка, сацыяльная кропка, сацыяльнае грамадства... А дзе чалавек? Проста чалавек з яго, магчыма, маленькімі, але запатрабаваннямі? На жаль, дзяржаве чалавек у ролі Чалавека нецікавы. Дзяржаву хвалююць толькі лічбы і твой абавязак перад ёю на выпадак вайны. Ты павінен здохнуць за дзяржаву, таму што яна дазваляе табе дыхаць, не жыць. Мілер не адрозніваўся тупалобым патрыятызмам і ненавідзеў двудушных лідараў пафасных партый, але ваяваў бы, калі заўтра вайна, ды не за дзяржаву, не за радзіму, а за сваю дачку. Менавіта таму СССР перамог Гітлера, што б там гісторыкі не панапісвалі.

Мілер змахнуў слёзы. Позірк яго пацяплеў. Ён раптам захацеў паглядзець разам з Алісай якое-небудзь кіно, якое пагадніла і ўмацавала б іх адносіны.

— Ты чытала калі-небудзь раман Томаса Мана «Будэнброкі»? — дзівячыся самому сабе, таму што зусім іншае мусіў сказаць Алісе, спытаў Мілер і выліў рэшткі каньяку ў свой келіх.

— Не, — прагучаў яе адказ. — Гэта штосьці нямецкае? — пацікавілася.

— Нямецкае, — пацвердзіў Мілер. — Я таксама, сука, немец! — грукнуў кулаком па стале так, што ўвесь посуд падскочыў, жаласна і спалохана зазвінеў. Нічога, на шчасце, не пабілася. Мілер з палёгкай уздыхнуў і ўмомант асушыў келіх.

Аліса таксама здрыганулася ад грукату. Гэта было нечакана. Яна нутром адчувала боль Мілера, які збіраўся гадамі і старанна хаваўся ад чужых вачэй. А чужымі для яго былі ўсе. Акрамя яе. Аліса бачыла, як яму цяжка, жадала дапамагчы, але не ведала як.

— Мой бацька, — паставіў Мілер келіх на стол ножкай дагары, — сын эсэсаўца. Уяўляеш?

Ён памаўчаў.

Яна напружылася, нібы струна, не зводзячы з яго пільнага позірку.

— Бабуля, — працягваў Мілер, — запісала яго пад прозвішчам афіцэра, які яе згвалтаваў, ідыётка! Яна з нараджэння спаганіла ўласнаму дзіцяці жыццё! Мабыць, па каханні ўсё ж спала з немцам, калі і імя па бацьку, і прозвішча ў майго бацькі нямецкія. Мікалай Готфрыдавіч Мілер. Як табе? Да апошняга класа ў школе бацьку інакш як «фрыцам» не называлі, хоць такіх, як ён, пасля вайны былі тысячы. Яго не прынялі ні ў камсамол, ні тым больш у партыю. Ён не змог ні вывучыцца, ні стаць як мае быць на жыццёвыя рэйкі. Дзякуючы сваёй маці. Яго ўвесь час білі, і ён мала з кім сябраваў. Карацей, далей калгасу нідзе не быў, — Мілер замоўк. Аліса не прыспешвала яго з аповедам, цярпліва чакала. — А Томас Ман, — ізноў загаварыў Мілер, — пісаў пра высокую духоўнасць немцаў. Яго раман «Іосіф і яго браты» вельмі цяжка было дастаць у савецкі час, але меўся ён шмат у каго, ды прачытаць дзве таўшчэзныя таміны шчаслівым уладальнікам не суджана было. Максімум, што яны адужалі, — гэта некалькі першых старонак.

— Такі цікавы? — не ўтрымалася ад пытання Аліса.

— Не ведаю, не чытаў, — прызнаўся Мілер. — Калі шчыра, не дарос.

Аліса была прыемна ўражаная падобнаму прызнанню.

— Дзівіць у гэтай гісторыі іншае, — працягваў Мілер. — Уладальнікі «Іосіфа і яго братоў» пры сустрэчы, пытаючы адзін у аднаго, як раман, закочвалі вочы і захоплена ўсклікалі: «Ну, вы ж ведаеце, Ман ёсць Ман!»

— І што з гэтага вынікае?

— Высокадухоўны змест твораў Томаса Мана прымаўся апрыёры, без заглядання ў тэкст савецкай наменклатурай. Па загадзе зверху. Чытаць было неабавязкова. Аднак не лічыцца з прадстаўнікамі нямецкай нацыі, якія Нямеччыны і ў вочы не бачылі, — абавязак кожнага савецкага чалавека. Па сутнасці, тое, што не ўдалося Гітлеру, атрымалася ў СССР. Немцы, габрэі, азіяты, якія пражывалі на тэрыторыі Савецкага Саюза, афіцыйна з'яўляліся людзьмі найніжэйшага гатунку, якім дарога ў вялікае жыццё была забаронена. І вось у чым парадокс: ім не давалі жыць у Саюзе, але і не выпускалі на гістарычную радзіму. Краіна галодных і рабоў. Хто быў нічым, той стане ўсім. Проста, як сёння.

— Няўжо ўсё так дрэнна? — не верыла Аліса. Словы Мілера шакавалі яе.

— Усё выдатна, — усміхнуўся той. — Хіба мы з табой не ў самай шчаслівай і квітнеючай краіне свету прапісаныя? Зірні ў акно, і ты ўбачыш тое, што Оруэл апісаў у сваім рамане «1984».

— Вы мяне палохаеце, Максім Мікалаевіч, — сцепанулася Аліса.

— Жудасна, так? — засмяяўся Мілер. — Мне самому страшна робіцца, калі пачынаю думаць. А тых, хто думае, тут вельмі не любяць.

— Хто?

— Ды ніхто. Таму мая табе парада, паменш паказвай на людзях наяўнасць розуму. Калі ты лічыш, што дзяржава — твой

сябар, то моцна памыляешся. Дзяржава — твой самы выкляты вораг. А ворагам нельга прабачаць, яны таго нявартыя.

— Вы п’яны, Максім Мікалаевіч, — яна не хацела больш слухаць такога Мілера. — Давайце вашых «Будэнброкаў» лепш паглядзім.

— Давай, — стомлена пагадзіўся Мілер, перанёс ноўтбук з пісьмовага стала на кухонны, уключыў фільм і выцягнуўся на тахце. Праз дзве хвіліны ён ужо захроп.

Аліса прылягла побач, паціху цалавала ягоную шыю з выразным кадыком, раз-пораз натыкалася шчочкамі на калючую бараду і незадаволена моршчылася. Аднак барада Мілера Алісе асабліва падабалася, таму яна літасціва даравала ёй гэтую калючасць.

Ранні змрок, чорныя цені распаўзліся па пакоі чорнымі мурашамі. Аліса сачыла за іх перасоўваннем, як за падзеямі ў фільме. Сям’я Будэнброкаў яе не ўразіла, хоць іх гісторыю яна даслухала да канца. Адзіны эпізод, які запомніўся пасля прагляду, апавядаў ці папярэджваў пра наступствы візіту да дантыста. Бацька сямейства сканаў праз некалькі хвілін пасля выдалення зуба проста на маставой, ён не дажыў колькі тыдняў да пяцідзесяцігоддзя. Алісу перасмыкнула, ледзь яна ўзгадала гэта. Цяпер дзяўчына не хутка звернецца па дапамогу да стаматолага нават пры вострым болю.

Фільм скончыўся, кватэра патанула ў цемрадзі, Максім Мікалаевіч дрыхнуў. Набаяў усякага. Ці ўзгадае, што казаў ёй? Аліса пачувалася лішняй. Трэба было набрацца рашучасці і сысці. Мілер наўрад ці прачнецца да раніцы. Ёй няма сэнсу заставацца.

Аднак сыходзіць не хацелася.

Аліса разумела, што трэба, і марудзіла, свядома марудзіла. «А чаму, уласна, трэба?» — пераконвала яна сябе. Яе ніхто

не чакаў, ніхто ў ёй не меў патрэбы, хіба што Лёва, але ён не ў разлік. На занятк заўтра спяшацца няма неабходнасці, таму што нядзеля. Але і тут, у гэтай кватэры, поўнай кніг, нібы таямніц, ёй знаходзіцца нельга. Няправільна. Не цяпер. Не гэтым разам.

Аліса прымусіла сябе сесці, потым падняцца з тахты і не патрывожыць Мілера. Яна сыдзе, але спачатку прыбярэцца, памые посуд. Дзяўчына ўключыла ў кухні святло, разагнала цемру, як прусакоў, і паволі напоўніла ракавіну брудным посудам са стала ў пакоі. Аліса старанна перамыла талеркі, келіхі і відэльцы. Рэшткі ежы загадзя высыпала ў адну талерку і паставіла яе ў лядоўню. Быццам бы ўсё. Выцерла рукі ручніком, уздыхнула са шкадаваннем і накіравалася ў вітальню. Уключыла там святло і вярнулася ў кухню, каб святло выключыць. Потым падышла да Мілера, нахілілася над ім і пацалавала ў лоб, ноўтбук выключыла.

Апранулася Аліса хутка, як салдат па трывозе, нават сама здзівілася. Яна не магла застацца, не планавала ў Мілера начаваць, ва ўсялякім разе пакуль. Хоць паручыцца за наступныя дні тут таксама не магла. Магчыма, іх і не будзе больш ніколі. І ўсё ж не, не магла.

Аліса то падыходзіла да дзвярэй і бралася за дзвярную ручку, то адпускала яе і адыходзіла ад іх на некалькі крокаў. Нарэшце яна рашуча адамкнула замок і пацягнула дзверы на сябе. У тую ж секунду ззаду пачуўся хрыплы вокрык Мілера:

— Кудысьці сабралася?

Яна азірнулася.

Максім Мікалаевіч стаяў перад ёй рукі ў бакі, бадзёры і, здаецца, памаладзелы.

— І нават не развіталася? — прамовіў пакрыўджаным хлапечым тонам.

— Я не хацела вас трывожыць, — залапатала Аліса, — вы так соладка спалі, што і мне захацелася. Я спалохалася за сябе і... вось...

— Праўда ці што? — хітра ўсміхнуўся Мілер.

— Я сапраўды мушу ісці, Максім Мікалаевіч, — Аліса вачыма маліла адпусціць яе, хоць нікуды сыходзіць не хацела.

— Я праводжу, — падумаўшы, прамовіў Мілер. — Да метро. Цёмна ўжо. Незнаёмы раён.

Ён не ўгаворваў Алісу, канстатаваў факт прынятага ім рашэння і ў тэмпе апранаўся.

— Я буду рада, — сказала яна.

— Я таксама, — азваўся Мілер. — Выклікай ліфт, — загадаў дзяўчыне, і тая паслухмяна выйшла на лесвічную пляцоўку.

Ён зашпіліў куртку і рушыў следам, замкнуўшы дзверы.

Яна чакала яго ў ліфце. Мілер памкнуўся да яе, і дзверы ліфта зачыніліся.

Аліса машынальна прытулілася да яго. Пах Мілера, харызма, абаянне нястрымна вабілі яе вусны да пацалунку, які… адбыўся. Як доўгачаканы канцэрт упадабанага выканаўцы. Мілер балюча сціснуў плечы Алісы, адказваючы на яе смелы ўчынак. Яна адчула боль, але не абурылася. Ён ізноў адштурхнуў яе першы. Ліфт спыніўся.

Мілер не пачакаў, пакуль выйдзе Аліса, не прапусціў яе наперад, выбег першым. Яна не пакрыўдзілася, нават не надала значэння. Аліса ведала, што перамагла. Толькі што, у ліфце, атрымала перамогу над Мілерам, над яго страхамі і забабонамі.

Ён так ні разу і не азірнуўся на яе, пакуль яна не запусціла ў яго снежкай. Не са зла, а каб звярнуць увагу на сябе. Калі выклікаўся праводзіць, так праводзь як след. Аліса і без павадыроў выдатна б дабралася да інтэрната, не тое што

да метро. Тралейбусам да прыпынку трамвая, трамваем да станцыі «Партызанская», а не пешшу з панурым і «пакрыўджаным» мужчынам.

Снежка патрапіла Мілеру ў шыю і рассыпалася ледзяным парашком за каўнер. Мілер рэзка азірнуўся, здзіўлена паглядзеў на Алісу, якая нявінна ўсміхалася і паціскала плечукамі. Ён павольна апусціўся на адно калена, не зводзячы з дзяўчыны вачэй, зачэрпнуў далонню, нібы каўшом, снег, накрыў яго далонню другой рукі і зляпіў снежны «снарад». Дзяўчына не марудзіла, таксама зляпіла снежку. Яны пачалі абстрэл адначасова. Мілер не пацэліў, магчыма, наўмысна. Аліса, быццам снайпер, патрапіла Мілеру ў лоб і нават збіла яго з ног пры гэтым. Ці ён паслізнуўся? Чамусьці не ўставаў падазрона доўга. Адчуўшы няладнае, Аліса паспяшалася да «зрынутага суперніка», які распластаўся на снезе ўздоўж прыпаркаваных машын. Яна схілілася над ім і немаведама як напалохалася, гледзячы ў яго заплюшчаныя вочы.

— Максім Мікалаевіч, — устрывожана прашаптала.

У адказ ён абсыпаў яе снегам з ног да галавы, як серпантынам. Аліса ледзь паспявала затуляць твар, але злаўчылася і таксама абрынула на Мілера снежны пыл з перапоўненых мокрых жменяў.

Дурэючы, нібы дзеці, яны смяяліся і цешыліся, як ніколі раней. Ім спрыялі ў гульні і яркія зоркі, і бялюткі снег. Цемра схавалася і вольна адчувала сябе толькі ў цёмных вокнах дамоў.

Рэдкія мінакі пазіралі з непаразуменнем на Мілера з Алісай, абсыпаных снегам. Дзве дзяўчынкі-старшакласніцы знялі іх на тэлефон.

— Хуліган вы, Максім Мікалаевіч! — абазвала Мілера Аліса, папраўляючы берэт на галаве.

— Хулі хто? — адгукнуўся ён і закурыў.

— Ды ну вас! — засмяялася яна з нясмешнага жарту Мілера.

Не цяпер Аліса ўзвяла Мілера да значнасці Бога, свайго Бога, і ўсё, што б ён ні сказаў, успрымала як нешта дасціпнае і годнае. Ні разу не ўсумнілася ў гэтым і не пашкадавала аб сваім высокім стаўленні да яго. Мілер не расчароўваў Алісу, наадварот, з кожнай хвілінай захапляў усё больш. Яго п'яныя прызнанні аблыталі яе душу бурай цінай і зацягнулі на самае дно. Яна любіла Мілера, але не як дачка, і выдатна ведала гэта; яна пакахала з першага позірку, гледзячы на яго фота і відэа ў інтэрнэце. Аліса не хацела, каб ён быў яе бацькам. Яна прагнула большага. Ён патрэбен быў ёй як мужчына. Аліса адчувала, што і Мілеру яна патрэбная як жанчына, а з нядаўняга часу не адчувала — ведала.

Ханжаскія забабоны хлуслівага свету, што сам захрас у Садоме і Гаморы, навіслі над імі трохгаловым цмокам; нібы ў жудаснай казцы Мілер-рыцар абавязаны быў пазмагацца з ворагам і перамагчы яго, каб выратаваць прынцэсу.

— Ты ідзеш? — прапанаваў Мілер руку Алісе. Яна хуценька ўчапілася ў яе абедзвюма далонькамі і закрочыла побач, імкнучыся не адставаць, але ўсё адно не паспявала, павісала на руцэ Мілера, смяялася і смяшыла яго.

Потым яна распавяла яму пра Лёву Зорыча, пра дзяўчынак, з якімі дзяліла пакой у інтэрнаце, пра вучобу ва ўніверы, пра сустрэчы з пісьменнікамі на факультэце. Спытала, чаму Мілер не выступае перад студэнтамі. Не жадае ці не клічуць? Хітра ўсміхнулася пры гэтым.

Адказаць Мілер не паспеў.

Тым часам яны спусціліся ў падземны пераход, каб падняцца да трамвайнага прыпынку, і сутыкнуліся… з Сазанам і яго шасцю сябрукамі.

— Оп-па-па, какая встреча! — усклікнуў Сазан і спыніўся за крок ад Мілера, астатнія атачалі яго па баках.

Мілер павольна адступіў да аднаго са слупоў, што падтрымлівалі столь. Ні да адной сцяны дабрацца шанцаў не было, каб прыкрыць спіну. У немінучасці сутычкі Мілер не сумняваўся. Бегчы не мела сэнсу, дый не ўцячэш далёка, да таго ж Аліса побач, павісла на руцэ, спалохана вылупіўшы вочы на Сазана.

Папраўдзе, дзяўчына адно рабіла выгляд, што баялася. У галаве пракручвала варыянты магчымых манеўраў і камбінацый хуткага бою, эфектыўнасць удараў рознай ступені цяжкасці і рызыкі. Ёй было цікава, што будзе рабіць Мілер, як выблытаецца з нерата, у які трапіў.

Маўклівы падземны пераход абыякава пазіраў на тое, што адбывалася ў яго сценах. Яму было сумна, таму што нутро яго спусцела гадзіны дзве таму, пасажыры наземнага транспарта ажыўлялі сабой пераход усяго на некалькі секунд праз аднолькава роўныя прамежкі часу. Цёмны час сутак, халодная пара года, вядома, людзей у пераходзе мала. Цяпер пераход даваў прытулак бяздомным і непрытульным кошкам і сабакам, што калі-нікалі шукалі паратунку ў ім, аднак дапамагчы, як належыць, ён не мог, заставаўся халодным і бяздушным з выгляду. Ды ўсё ж яго каменнае сэрца крывавіла ад жорсткасці людзей да безабаронных істот, якіх яны выкідалі праз непатрэбнасць.

Ён пляваць хацеў на людзей, нават на самых праведных. Кожны чалавек заслугоўваў, на яго думку, бязлітаснага пакарання.

— В Серебрянке, значит, обитаешь? — наступаў на Мілера Сазан. Калі той рабіў крок назад, гэты — крок наперад. — В моей Серебрянке?

— Штосьці занадта шмат твайго, — прахрыпеў Мілер. — Не задушышся?

— Задушишься ты собственным языком, — парыраваў Сазан. — Ты конченый, писака, — касы зірк на Алісу. — Не повезло тебе сегодня, детка! Кто она тебе? — ізноў упор на Мілера.

«Навошта Максім Мікалаевіч размаўляе з ім? — задавалася пытаннем Аліса. — Цягне час? Дзеля чаго? Спадзяецца на цуд, спрабуючы абараніць яе? Нельга весці перамовы з мярзотнікамі і паскудамі, як гэтыя. У іх на пысах напісана, што яны гіцалі, прычым усе. Трэба было адразу біць!»

Нібы прачытаўшы думкі Алісы, Мілер гвазданууў нагой у пахвіну Сазана. Непаразуменне разам са здзіўленнем адбіліся на твары Сазана.

— Сука, — выдыхнуў ён, міжволі рухнуў на калені і заціснуў паміж ног рукі. А праз секунду паваліўся набок.

Мілер скочыў наперад крыху раней, чым бамбіза з перабітым носам, які стаяў за Сазанам, паспрабаваў яго ўдарыць. Ён патрапіў дзецюку ў кадык. Бамбіза схапіўся аберуч за шыю, разгубіўся. Мілер хацеў збіць яго з ног, але сам ледзьве не ўпаў, атрымаўшы ў бок нагой ад злачынца злева. Тым часам Аліса прымяніла моцны прыём — аперкот у падбароддзе. Гучна клацнулі зубы, і на падлогу падземнага пераходу чмякнуўся кавалачак адкусанага языка, пырснула кроў. Яшчэ дваіх дзяўчына абясшкодзіла адным ударам, так званымі нажніцамі, пры дапамозе шпагата ў скачку. Мілер, уражаны поспехамі Алісы, прапусціў удар пад дых і скурчыўся ў тры пагібелі. Яму нападдалі некалькі разоў па спіне. На дапамогу падаспела Аліса і прыгваздала танкагубага здаравяку з поглядам забойцы да сцяны, уціскаючы абцас яму ў шыю.

— Мусара! — хтосьці выгукнуў непадалёк.

Аліса адпусціла ахвяру, падхапіла Мілера, які спрабаваў падняцца самастойна, за каўнер курткі, і яны паспяшаліся

з пераходу прэч. Ім пашанцавала. Яны якраз паспелі ўскочыць у заднія дзверы трамвая перад самым яго адыходам.

Мілер прысеў на вольнае месца каля дзвярэй, каб аддыхацца. Аліса павісла над ім на поручні.

Мілер узняў вочы на дзяўчыну.

— Хто ты, тваю ж макаўку? — выдыхнуў.

Яна нахілілася да яго вуха і прамовіла:

— Вы выдатна ведаеце, хто я, Максім Мікалаевіч! Не надакучыла задаваць дурныя пытанні?

Мілер падняўся з сядушкі ў поўны рост, каб не глядзець на Алісу знізу ўгару, ухапіўся за поручань.

— Так, ведаю, — не адмаўляў ён і важка дадаў: — Але толькі з тваіх слоў!

— Я прапанавала вам зрабіць аналіз ДНК, — нагадала Аліса.

— І што гэта дасць?

— Не здавайцеся дурнейшым, Максім Мікалаевіч, чым вы ёсць, — сумна прагаварыла яна і раптам папрасіла: — Абдыміце мяне. Хаця б адной рукой.

Мілер абняў дзяўчыну, і яна прашаптала яму:

— Я кахаю вас, Максім Мікалаевіч…

Пасля адхілілася, пільна ўгледзелася ў твар Мілера, які ліхаманкава думаў, вырашаў, што яму рабіць. Ён вар'яцеў ад Алісы, аднак дзяўчына пачала яго палохаць, асабліва пасля сутычкі з Сазанам. Яна здавалася яму байцом якогась амерыканскага спецпадраздзялення. Магчыма, Аліса ўвогуле шпіёнка. Узялася з ніадкуль. Хаця, хутчэй за ўсё, яго здагадкі — пісьменніцкае трызненне, гульня ўяўлення. Каму ён патрэбен з яго эратычна-сентыментальнымі фантазіямі?!

— Я звычайная дзяўчына з правінцыі, — прамовіла Аліса. — Маё ўменне біцца — выпадковасць. Я не апраўдваюся, ды і няма за што мне перад вамі апраўдвацца. Прабачце, што

не сказала раней пра наяўнасць у мяне карычневага пояса па кікбоксінгу, але я не лічыла гэтую інфармацыю важнай.

— Які пояс? — перапытаў Мілер. Ён адно фразу пра пояс і запомніў, астатнія праляцелі міма, прасвісталі, нібы кулі, над галавой.

— Я з дзяцінства займалася спортам, вось і ўсё.

Трамвай тузануўся, як паралітык, і спыніўся ля станцыі метро. Яны выйшлі.

— Я праўду кажу, — енчыла Аліса.

— Добра, — пагадзіўся ён, — я табе веру. Толькі давай больш без сюрпрызаў.

Мілер давёў яе да шкляных дзвярэй, што вялі да метро, прыабняў. Аліса пацалавала яго ў губы.

— Мне трэба пабыць аднаму, — сказаў ён.

— Я разумею, — кіўнула Аліса.

Ён адчыніў ёй дзверы, патрымаў іх, прапускаючы дзяўчыну праз іх, і доўга глядзеў ёй услед, пакуль тая не знікла.

Затым адпусціў дзверы і паплёўся на вуліцу.

Мілер дачакаўся трамвая ў Серабранку, але перад тым, як сесці ў транспарт, раптам перадумаў ехаць дамоў. Ён не хацеў вяртацца ў пустую кватэру. Кватэра без Алісы яму была цяпер не патрэбная. Але і Алісу ён бачыць не хацеў. Яго цягнула да яе з незвычайнай сілай, і чым далей яна знаходзілася, тым мацней расла неабходнасць у ёй. Мілер пачуваўся дыскамфортна ў пачуццях, што скарылі яго, і гэта яму вельмі не падабалася. Ён не пазнаваў самога сябе. Усе яго дзеянні і ўчынкі, звязаныя з Алісай, нагадвалі дзеянні і ўчынкі псіхічнахворага. Каханне сапраўды страшная хвароба, якая змяняе і ламае чалавека. Мілер пазбягаў сустрэч з каханнем і не напрошваўся ў фаварыты, нават ігнараваў. Каханне ўпотай накінулася на яго, каб ён з усяе моцы, як

аб сцяну, раструшчыў ушчэнт усе свае косткі і вывернуў вантробы.

Усведамленне таго, што адбывалася з ім, не прынесла палёгкі. Аліса па-ранейшаму заставалася загадкай, цяпер нават у большай ступені, чым раней, а Мілер загадак не любіў: яны раздражнялі яго і непакоілі.

Чароўны шэпт Алісы, дотык яе подыху былі настолькі прыемныя Мілеру, што ён прагнуў іх бясконцага паўтору. Гэтае ні з чым непараўнальнае задавальненне патрабавала падсілкоўвання. Мілер, бы наркаман, рабіўся залежным ад Алісы, ад яе голасу, усмешкі, рук, пальцаў, вуснаў, яе пацалункаў. Яму б бегчы за ёй следам, наогул не адпускаць ад сябе ні на крок! Аднак мараль вырасла берлінскай сцяной проста перад носам Мілера. Хлуслівыя і подлыя законы прыстойнасці дыктавалі яму ўмовы яго жыццядзейнасці, парушэнне маральных правілаў магло выклікаць незваротныя наступствы, небяспечныя не толькі для яго. Што б ні вырашыў Мілер наконт сваёй волі, унутранай і знешняй, ён усё адно заставаўся нявольнікам па-ранейшаму. Грамадства і дзяржава на чале гэтага грамадства капітальна падкручвалі гайкі кожнаму чалавеку, выклікалі страх на падсвядомым узроўні. Каханне Мілера да Алісы вычварнае, а таму падлягае ўсеагульнаму асуджэнню, нават фізічнаму знішчэнню, нібы каханне тое — асабісты вораг дзяржавы, бо яно скажонае, няправільнае, вывернутае навыварат, гідкае. Міжволі ўзнікала пачуццё, што дзяржава нават каханне прыбрала да рук, прымусіла супрацоўнічаць толькі паводле загаду зверху, пасадзіла яго на ланцуг, быццам сабаку.

Трэба ісці да канца, калі абраў волю. Ніхто табе не ўказ, акрамя цябе самога. Ты сам свой вышэйшы суд. Да таго ж сваяцтва Алісы з Мілерам нікім не даказана. Яго аднакласніца шмат гадоў таму папярэдзіла, каб Мілер не соваўся

з бацькоўствам у сям’ю старэйшай сястры Наташы, улічваючы неўтаймаваны запал апошняй да сексу. Бацькам Алісы мог быць хто заўгодна. І нават калі дзяўчына — дачка Мілера, ён мае права кахаць каго хоча, а не ў рамках закона, напісанага дзеля таго, каб трымаць людзей у падпарадкаванні. Яе каханне да яго — таму сцвярджэнне.

Аднак Мілер не рушыў на Кастрычніцкую.

Спачатку ён патэлефанаваў Букоўскаму і, калі той не адказаў, узрадаваўся. Што мусіў Мілер распавесці сябру, якую параду пачуць? Зразумеў бы яго Букоўскі ці не, якая розніца! Гэта яго жыццё, Мілера, яго выбар. Умяшанне звонку недапушчальнае і немэтазгоднае. Няхай са сваім жыццём разбіраецца!

Мілер спусціўся ў метро. На станцыі «Грушаўка» выйшаў. Ногі прывялі яго да дому Таццяны Аляксандраўны. Ён застыў каля брамкі, задумаўся, што, уласна, прывяло яго сюды, пад гэтыя вокны, у якіх гарэла святло. Магчыма, Меднікава не адна? Але што ён забыўся ў яе? Ды самога сябе, за самім сабой і прыйшоў.

Мілер пхнуў брамку. Забрахаў на чужога, выскачыўшы з буды, велізарны вартаўнічы сабака, ірваўся з усіх сухажылляў да яго, пырскаў пенай з рота. Напяты, як цеціва, ланцуг спыніў яго. Імгненна ўваходныя дзверы адчыніліся, і на ганак выйшла Таццяна Аляксандраўна, захутаная ў пуховы шаль.

— Інгус, месца! — уладна загадала яна сабаку замоўкнуць.

Той незадаволена загыркаў, але падпарадкаваўся.

Мілер кінуўся да Меднікавай.

— Ты?! — здзівілася Таццяна Аляксандраўна.

— Карціна Рэпіна «Не чакалі», — няўдала пажартаваў Мілер.

— Добра, праходзь, — Таццяна Аляксандраўна прапусціла яго ў хату, замкнула дзверы і пасяшалася следам.

Ён ніколі раней тут не быў, але ведаў, дзе жыве Таццяна Аляксандраўна. Аднойчы з кіроўцам ад выдавецтва забіраў яе адсюль на нейкае важнае мерапрыемства. З машыны не выйшаў, дазволіў кіроўцу паклапаціцца пра дастаўку Меднікавай з дому ў салон. Яго ветлівасць і пачцівасць абмежаваліся адкрыццём даме дзвярэй знутры машыны. Месца пражывання начальніцы ўрэзалася ў памяць, як завучаныя ў школьныя гады вершы, таму Мілер лёгка знайшоў патрэбны двор.

Унутраная планіроўка дома мала чым адрознівалася ад сельскага жылля яго бацькоў. Сенцы, кухня з печчу, два скразныя пакоі, другі падзяляўся яшчэ на два. На падлозе ўсюды дываны. У пярэднім пакоі — сценка-сервант з посудам, кнігамі, фотаздымкамі пад шклом, мяккі куток, часопісны столік, відэатэхніка з плазменным тэлевізарам, на падаконнях кветкі ў вазонах за цюлевымі фіранкамі, шторы з чырвонага штофу. У наступным пакоі — кніжныя стэлажы, бялізнавая шафа-купэ, круглы стол з чатырма крэсламі па крузе, канапа-ложак, партрэты продкаў па ўсіх сценах, трумо, люстра з энергазахавальнымі лямпачкамі. Печ у кухні, хутчэй за ўсё, насіла дэкаратыўны характар, паколькі атапленне ў хаце было газавым, зрэшты, Мілер мог і памыляцца наконт печы. Ён не спыніўся ні на секунду, хіба што каб разуцца, не хадзіць жа абутым па дыванах. Куртку зняў у другім пакоі, кінуў на трумо і адчыніў дзверы ў спальню. На Таццяну Аляксандраўну не азіраўся, упэўнены, што яна не адставала ад яго. Тая сапраўды ішла за Мілерам, аднак моўчкі, уражаная нечаканым візітам.

Спальня ўяўляла сабой ледзь не алькоў для асалод. Шырокі ложак пад жоўта-газавым полагам захапляў бездакорнай роўняддзю пасцелі з белага атласу. Ён здаваўся мармуровым, застылым у напружаным чаканні. Лакаваныя драўляныя тумбачкі паабапал маўкліва сведчылі пра таемнае змесціва

і вабілі зазірнуць туды. Куток прыгажуні з разнастайнымі касметычнымі сродкамі і ружовай банкеткай поруч прыцягваў позірк, але і толькі. Напаўадчыненая шафа дэманстравала частку калекцыі блузак і спадніц з розных тканін і багатых фасонаў, да якіх Таццяна Аляксандраўна мела слабасць.

Мілер паваліў яе на ложак нечакана-чакана. Таццяна Аляксандраўна не супраціўілася, яна як быццам ведала, што Мілер прыйшоў дзеля гэтага. Ён камячыў яе грудзі, як цеста на пельмені, утыкаў язык ў яе рот, быццам прагнуў праткнуць наскрозь, упіваўся ў вусны, нібы жадаў іх з'есці. Аднак Таццяна Аляксандраўна не ўзбуджала Мілера, ён не хацеў яе. А перад вачыма маячыў дакорлівы позірк Алісы, які абвінавачваў яго ў здрадзе.

— Вось сука! — вырвалася мімаволі ў Мілера.

— Што?! — не разумела Таццяна Аляксандраўна, як ёй рэагаваць на толькі што пачутую фразу — абурыцца ці ўсміхнуцца.

— Гэта я не табе, — супакоіў яе Мілер, але і на гэтыя словы Таццяне Аляксандраўне варта б было пакрыўдзіцца.

Мілер злез з яе, сеў на падлогу каля ложка, падпёр яго спінай і выцягнуў перад сабой ногі. Нясцерпна карцела закурыць.

Ён нарэшце ведаў усё, што яму было трэба ведаць.

— У цябе гарэлка ёсць? — спытаў ён Меднікаву, не аглядаючыся на яе.

Таццяна Аляксандраўна паднялася з ложка, папраўіла грудзі, быццам вярнула іх на месца, моўчкі некуды выйшла. Вярнулася з бутэлькай «Стальграднай», дзвюма чаркамі і папяровым пакетам тамататавага соку. Паставіла ўсё на тумбачку і села на падлогу побач з Мілерам.

— Дрэнна табе, Максім, — спагадліва сказала, ускудлачыўшы яго валасы.

— Давай памаўчым, — азваўся Мілер. — Памаўчым пра цябе, пра мяне, але памаўчым, пакуль не захочацца крычаць, добра?

Таццяна Аляксандраўна кіўнула. Мілер пацягнуўся да гарэлкі і чарак. Напоўніў чаркі, адну працягнуў жанчыне, следам перадаў сок. Яны выпілі, запілі сокам проста з пакета па чарзе.

Таццяна Аляксандраўна адчувала, што Мілеру не па сабе. Зрэшты, гэта было відаць па яго твары. Мілер нагадваў загнанага ваўка з песні Высоцкага, вось-вось захрыпіць, што ідзе паляванне на ваўкоў. Навошта ён прыйшоў да яе, менавіта да яе? Хавацца? Ратавацца? Ад каго? Хто пазначыў яго дарогу чырвонымі сцяжкамі, хто ішоў па следзе? А тое, што пад удар Мілер падстаўляў і яе, нічога? Няўдзячны, нячулы таўкач! Уварваўся проці ночы. З якімі намерамі? Авалодаць слабой жанчынай, каб даказаць самому сабе, што руліць сітуацыяй? І не змог. Нічога не змог. Ні авалодаць, ні даказаць. Якой сітуацыяй? Ці была тая сітуацыя наогул? Гарэлку жлукціць можна і без нагоды, аднак Мілер не з такіх. У яго заўсёды ўсё на твары напісана. Як і цяпер. Сумныя вочы, зморшчаны лоб, які красамоўна распавядаў пра ліхаманкавую працу мозгу, абкусаныя вусны.

Таццяна Аляксандраўна ведала, што рабілася з Мілерам, але гнала гэтыя веды ад сябе, як упартага камара, бо спадзявалася памыліцца. Яна які ўжо раз узіралася ў вочы Мілера і бачыла ўсё той жа… смутак, але не па ёй. Мілер кахаў, аднак, на жаль, не яе. Ён прагнуў ашукаць пачуццё да іншай жанчыны сексам з Таццянай Аляксандраўнай, таму прыйшоў да яе. Аднак адужаць сябе не выйшла. Таццяна Аляксандраўна адчула сорам і знявагу. Навошта Мілер так з ёй? Што дрэннага яна зрабіла? Хто тая іншая, якая вывернула яго душу навыварат, вытрасла ўсё лішняе і завязала вузлом? Вось ён і скурчаны ўвесь. Адказ з’явіўся сам. Тац-

цяна Аляксандраўна нават не здзівілася, такі ён быў відавочны. Дзяўчынка з фота ў тэлефоне Мілера. Дзяўчынка, якая назвалася яго дачкой. Менавіта яна літаральна вырвала Мілера з рук Таццяны Аляксандраўны, як ляльку. Нездарма Меднікава адчула, як убачыла фота, уколы трывогі. Яна адна, больш няма каму.

Таццяна Аляксандраўна не магла і не жадала стрымліваць расчараванне, якому было цесна ў ейных грудзях. Яна закрычала ва ўсю моц лёгкіх, выганяючы з крыкам усё тое зло, што пасялілася ўнутры. Крык захлынуўся ў слязах, якія лінулі з вачэй Таццяны Аляксандраўны, а зло заляпіла ёй рот салёнай вільгаццю. Імгненне — і яе кулачкі замалацілі па плячах і грудзях Мілера. У нейкі момант ён перахапіў іх і пацалаваў па чарзе.

— Брыда! — пракаментавала ўчынак Мілера Таццяна Аляксандраўна. — Мярзотнік! Паскуда! Быдла! Набрыдзь! — пляўкамі выплёўвала ў яго словы.

Мілер падняўся на ногі, дастаў цыгарэты.

— Курыць на вуліцу! — пальцам паказала Таццяна Аляксандраўна на выхад.

Хуткім крокам Мілер сышоў.

Таццяна Аляксандраўна азірнулася, на каленках, рыхтык кошка, дасягнула стала-будуара, адчыніла правую створку міні-шафкі пад касметыкай, узяла бутылёк са снатворным і лыжачку. Некалькі таблетак яна скрышыла ў парашок, высыпала яго ў чарку Мілера і напоўніла яе гарэлкай. Дзеянні яе былі спантаннымі, але рашучымі. Яна не сумнявалася, што той вернецца. І больш нікуды ад яе не сыдзе. Таццяна Аляксандраўна нікому не дазволіць ім завалодаць. Мілер толькі яе і больш нічый.

Ён вярнуўся праз сем хвілін, махануў залпам налітую Таццянай Аляксандраўнай гарэлку са снатворным, сеў побач. Яна ўляпіла яму аплявуху.

— Я не запасны аэрадром, — сказала Таццяна Аляксандраўна, — і не камізэлька, каб плакацца.

— Ніхто так і не лічыць, — глуха азваўся Мілер і наліў у чаркі спіртное, ніяк не адрэагаваўшы на аплявуху.

— Ты! — запярэчыла Таццяна Аляксандраўна.

— Памыляешся, — не згаджаўся з ёй Мілер, аднак з адной толькі ўпартасці, таму што Меднікава ўсё ж мела рацыю.

— Не! — настойвала Таццяна Аляксандраўна. — Не памыляюся! Навошта ты прыпёрся сюды? Ты мяне зняважыў!

— Не бяры да галавы, — прамовіў Мілер, — фізіялагічныя працэсы.

— Трэба ж, як ты загаварыў! — абурылася Таццяна Аляксандраўна.

— Паслухай, — працягнуў ёй Мілер чарку з гарэлкай, — я табе не вораг. Самы люты вораг чалавецтва — дзяржава.

— Пры чым тут гэта? — выбіла Таццяна Аляксандраўна чарку з рукі Мілера, рубануўшы па ёй далонню, быццам нажом. Гарэлка празрыстай кляксай ускочыла на шпалеры і павольна пацякла ўніз, не ў сілах утрымацца на адным месцы. Чарка, стукнуўшыся аб тумбачку, адскочыла і засталася нерухома ляжаць на кудлатым дыване.

— Забіце ў сабе дзяржаву, Таццяна Аляксандраўна, — спакойна працягваў Мілер, — убачыце, як адразу палягчэе і пасвятлее вакол. Вы занадта дзяржаўны чалавек, хоць і працуеце ў прыватнай канторы.

— Я гляджу, табе палягчэла!

— Не без гэтага.

— Ды каму ты патрэбен быў! Што ты з сябе ўяўляў?! Напісаў тры тоненькія кніжкі, якія ніхто не чытаў, змазюкаў у лайно краіну, у якой жывеш, вершыкамі ў інтэрнэце і думаеш, схапіў Бога за бараду?

Мілер кульнуў чарку, занюхаў валасамі Меднікавай і прамовіў:

— Бога няма, Таццяна Аляксандраўна, таму за бараду схапіць яго ніяк не мог, вы ўжо выбачайце.

— Вырадак! — прашыпела Таццяна Аляксандраўна. — Пайшоў прэч з маёй хаты! Адчапіся ад мяне і не паказвайся больш на вочы, эгаіст, хвалько! — загадала яна ва ўвесь голас.

Мілер быў рады, заседзеўся ўжо ў гасцях, аднак пасля апошняй чаркі яго нібы пыльным мехам ударылі. Галава звесілася на грудзі, вочы заплюшчыліся — ён спаў.

Таццяна Аляксандраўна прыставіла да патыліцы Мілера пісталет з пальцаў і націснула на курок. Цяпер Мілер цалкам ёй падуладны.

Спачатку Аліса думала, што ёй падалося.

Аднак прыгледзелася і пераканалася: у адным вагоне з ёй ехаў Сазан з прыяцелямі, якіх нават як быццам пабольшала.

Іх падзяляла прастора вагона. Яны знаходзіліся ў розных канцах яго.

Аліса празявала з’яўленне хлопцаў, і тут няма нічога добрага. Яна і падумаць не магла, што іх сцежкі так хутка перасякуцца. Хаця цалкам магчыма, што іх знаходжанне ў адным вагоне чыста выпадковае. Ці не з такіх выпадковасцей складаецца жыццё ў цэлым?

Вочы Алісы затрымаліся на ўчэпістым позірку Сазана.

У прыярытэтную выпадковасць больш не верылася, нават калі Аліса і памылялася. Сазан пазнаў яе і не стрымаў злараднай ухмылкі. Яго намеры тут жа выявіліся на твары.

Аліса не баялася Сазана, але разумела, што адна не адолее іх, якім бы моцным байцом ні лічыла сябе.

Яна магла памыляцца, што наўрад, аднак спадзявалася: вось цягнік спыніцца і Сазан у атачэнні дружбакоў сыдзе па

сваіх справах, ніяк не павязаных асабіста з ёй. І так перад кожным прыпынкам.

Аліса выйшла на Першамайскай, азірнулася. Грамада на чале з Сазанам ішла за ёй. Не спяшаючыся, але неадступна. І ўсё ж дзяўчына па-ранейшаму разлічвала, што яе не пераследуюць. Які ў гэтым сэнс? Не забіць жа яе мяркуюць. Але і не пагаварыць таксама, гэта дакладна. Дзікасць нейкая.

Яна паднялася з метро на вуліцу. Яна прагла дыхаць, глытала паветра, нібы рыба прынаду. Маё. Не аддам. Тут яе тэрыторыя. Рука пацягнулася па тэлефон у кішэню паўпаліто.

Аліса набрала Лёву Зорыча. Той адказаў пасля чацвёртага гудка.

— Тэрмінова знайдзі Флора, — прапусціла прывітанне і сыкнула ў трубку, — і скажы, каб неадкладна кіраваў да метро!

— І табе прывітанне, Аліса! — жыццярадасна адгукнуўся Лёва, які не меў ніякага ўяўлення пра небяспеку, што пагражала аднакурсніцы.

— Ты глухі? — раздражнілася Аліса. — Знайдзі Флора, табе кажуць, і адпраў яго да метро!

— Штосьці здарылася? — занепакоіўся Лёва.

— Здарыцца, калі не знойдзеш Флора!

— Як тэрмінова?..

— Неадкладна!

Аліса скончыла размову, сунула тэлефон зноў у кішэню, азірнулася ў чарговы раз. У святле вулічных ліхтароў на белым снезе Сазан з прыяцелямі выглядаў чорным танкам, які сунуўся марудна, але неадступна.

Набліжаўся паварот налева. Справа застануцца канцэртная зала «Мінск» і кавярня «Тры мушкецёры». Магчыма, яны ў кавярню? Сустрэча ў іх там? Не, Максім Мікалаевіч

казаў, што «Любавушка» — упадабанае месца блатных. Так і ёсць. Пераследнікі павярнулі налева, за Алісай, рухаліся на адлегласці, але з кожнай секундай тую адлегласць скарачалі, быццам зайца заганялі.

Бегчы нельга. Дагоняць адным скокам, таму што Аліса на абцасах. Да таго ж можа і сама спатыкнуцца і пераламаць сабе ногі. Уся надзея на Лёву, на тое, што ён звязаўся з Флорам, які ўжо спяшаецца ёй на дапамогу. Чаму яна так упэўнена ў гэтым? Навошта Флору дапамагаць Алісе? А таму, што яна папрасіла яго. Тым самым задаволіла самалюбства Флора.

Цішыня аглушальная. Кожны рып снегу аддаецца ў скронях пульсацыяй вен. Інтэрнаты наперадзе свецяць вокнамі, быццам маякі. «Так, Максім Мікалаевіч, зладзілі вы мне рамантычнае спатканне, — падумала Аліса, але аспрэчыла сябе: — Сама вінаватая».

З боку моста праз Свіслач імкліва набліжаліся тры цёмныя постаці. Аліса заўважыла іх, выпадкова паглядзеўшы туды. Флор! Яна чакала яго, узіраючыся ў інтэрнаты, ледзь вочы не зламала. Мабыць, дзесьці завісаў. Магчыма, у пяцёрцы, з іншаземкамі. Увесь кайф яму абламала. Нічога, будзе вінна. Як ніколі і нікому, Аліса была рада Флору. Яна рэзка спынілася і павярнулася тварам да пераследнікаў, за спінай ляжалі трамвайныя рэйкі.

Сазан стаяў за дзесяць метраў ад яе. Ён відавочна быў збянтэжаны. Яго ахвяра не пабегла, наадварот, рыхтавалася да контратакі. Паварот нечаканы, але перавага ўсё адно за ім. Пад яго началам дзесяць чалавек, а ў Алісы толькі трое. Сазан крыўдаваў за прамаруджванне. Трэба было адразу на выхадзе з метро валіць яе, не на смерць, вядома, так, адмудохаць злёгку па нырках і па пысе, каб прыгажосць яе неапісальную змыць начыста, як лайно ва ўнітаз. Загуляўся ў паляўнічага,

аднак асабліва не перажываў, нават ведаючы, на што здольная Аліса. Яе нечаканых абаронцаў Сазан не ўспрымаў усур’ёз, хоць тыя і выглядалі ваяўніча. Хутчэй за ўсё студэнты, а значыць, хлюпікі, няхай і з накачанай масай.

Аліса, быццам Д’Артаньян, заламала берэт набок. Яна і адчувала сябе Д’Артаньянам з трыма мушкецёрамі за спінай, якія раптам перасталі быць оркамі. Менавіта Д’Артаньян падабаўся ёй больш за ўсіх з легендарнай чацвёркі, а не высакародны Атос, пра якога марылі ўсе дзяўчынкі пагалоўна ўжо не адно пакаленне, ці інфантыльны Араміс, чыя манернасць даводзіла ледзь не да млоснасці, і часцей за ўсё ён здаваўся дзяўчыне латэнтным гомасексуалістам, нягледзячы на ўсе яго подзвігі ў духу Казановы. Магчыма, падобнае ўспрыманне з’явілася з-за загледжанага да дзірак савецкага баявіка пра мушкецёраў з Баярскім у галоўнай ролі, якога маці Алісы, дарэчы, інакш як кракадзілам не называла. Аліса закахалася ў яго па вушы, ледзьве ўбачыла. І як жа былі падобныя на гвардзейцаў кардынала Сазан і кампанія! Міжвольнае параўнанне выклікала на твары Алісы іранічную ўсмешку. А што, раптам гэтая сітуацыя была прадвызначана? Нездарма мушкецёры разважалі пра будучыя сустрэчы праз тры-чатыры стагоддзі пад кулямі ў бастыёне Сен-Жэрве. Што, калі Аліса ўвасабленне Д’Артаньяна? Трызненне, вядома, хаця халера яго ведае, можа, і не…

— Заўваж, я ні пра што цябе не пытаю, — разважліва прамовіў Флор за спінай дзяўчыны, пільна ўзіраючыся ў твары сапернікаў.

— Я ўдзячна табе за разуменне, — азвалася Аліса.

— Я нават не здзіўлены колькасцю людзей насупраць, — працягваў Флор.

— Гэта камплімент? — азірнулася да яго дзяўчына.

— Я рады, што іх не больш, чым ёсць.

— Так а чо стаім? — танчыў на месцы Сіплы ад нецярпення і прадчування хуткай бойкі.

— Яны, хутчэй за ўсё, ухіляцца ад сумленнага бою, — папярэдзіла Аліса.

— Гэта на іх мордах напісана, — заўважыў Кашэня.

— А хто тут сабраўся па-чэснаму штосьці вырашаць? — нібы не цямячы, сказаў Сіплы.

— І чаго яны марудзяць, таксама незразумела, — уголас падумаў Флор.

— Можа, заднюю ўключылі? — выказаў здагадку Сіплы. — Тры волаты — гэта не адна ляля. Стромна, можа, ёпта?

— Ды не падобна, — запярэчыў яму Флор.

— Толькі не кажы, што яны стратэгію распрацоўваюць па нашым пытанні, — вымавіў Кашэня.

— Ды чаго мы чакаем? — нерваваўся Сіплы. — Так і змерзнуць нядоўга.

Аліса выцягнула наперад руку далонню ўверх.

— Гэта чо? — не зразумеў Сіплы.

— Пакладзіце свае рукі на маю, — цярпліва патлумачыла Аліса.

— Мы чо, як мушкецёры, ці чо, ёпта? — балабоніў Сіплы.

— Сіплы, сціхні ўжо! — загадаў яму Флор і першы палажыў сваю далонь. Зверху ляглі лапы Сіплага і Кашэні.

— Рамантыка, ёпта! — не ўтрымаўся ад каментара Сіплы.

— Мы змушаны вам паведаміць, — гучна прамовіла Аліса, звяртаючыся да Сазана, які адразу ператварыўся ў слых, — што будзем атакаваць вас!

У наступную секунду, расчапіўшы рукі, чацвёрка стартанула з месца ў кар’ер.

— А гэты мой! — выгукнула Аліса на бягу, маючы на ўвазе Сазана, нібы Д’Артаньян дэ Жусаку.

І панеслася рукапашная без правіл і без жалю. Кулакі і ногі выконвалі сольныя партыі, нібы адарваліся ад целаў, якім належалі, адчуваючы сваё верхавенства. Кулакі мільгалі перад вачыма сапернікаў. Яны, нібы адбойныя малаткі, абсыпалі ўдарамі галовы, плечы, ключыцы, жываты, ныркі, рэбры, бакі. Ногі разразалі нажніцамі паветра і таранілі іншыя ногі, калені, пахвіну. І целы сапернікаў валіліся долу.

Флор, Кашэня і Сіплы біліся адразу з трыма. Сіплы скінуў куртку, якая стрымлівала яго рухі, і быццам затанчыў сярод прыхільнікаў свайго таленту. Хуткі, спрытны, выкрутлівы, ён прапусціў усяго тры ўдары, у адказ наносіў метадычныя і дакладныя хукі і аперкоты па сківіцах, ключыцах і корпусе. Кашэня пасля кожнага ўдалага ўдару адбягаў убок, каб біцца не з усімі адразу, а па адным. Рукі Флора працавалі, быццам млын, і разбівалі ў кашу твары ворагаў. Скончыўшы малаціць, ён закурыў і пачаў з цікавасцю назіраць за боем дзяўчыны і Сазана. Нават дзіўна, што яна адужала іх у адзіночку некалькі дзён таму, улічваючы сённяшнія поспехі кожнага паасобку.

Сазан раздражняўся пасля чарговага прапушчанага ўдару ад Алісы і прапускаў усё больш, хоць разбіў ёй губу і рассёк брыво, не лічачы дробных драпінаў на яе целе. Ён разумеў, што з гэтай дзяўчынай будзе складана зладзіць, але не ведаў, што настолькі складана. Двубой Сазан прымаў амаль заўсёды вымушана, хоць і лічыў сябе добрым байцом, прафесійна займаўся боксам у свой час. Аліса дыскрэдытавала яго перад самім сабой, ды і перад дружбакамі. Сазан псіхаваў, што яго перамагае краля, пакуль не разгубіўся ўшчэнт, калі ўбачыў, што з братвы на нагах застаўся толькі ён. Перамога, якая здавалася такой лёгкай, апынулася ганебнай паразай. І каму ён, асілак, прайграваў? Дробнай кралі і цельпукаватым студэнтам! Шкада, ствол

не захапіў з сабой, знішчыў бы іх усіх, і ўсё на гэтым. Нічога, вернецца яшчэ за кожным. Умыюцца крывавымі слязьмі, падлы! Адкажуць за ганьбу! А пакуль трэба спыняць гэтую важданіну, досыць працягваць бессэнсоўны махач.

— Ладно! — развёў ён рукі ў бокі. — Ладно! Твоя взяла, — і сплюнуў пад ногі, пазіраючы спадылба на Алісу, стомленасць якой нельга было не заўважыць. Яе троху хістала, яна цяжка дыхала, аднак заставалася спакойнай і гатовай да любой неспадзяванкі і правакацыі.

— Чаго трэба было? — выдыхнула Аліса наіўна.

— Сам не знаю, — Сазан паціснуў плячыма, вяртаючы спакой і непахіснасць на твар.

— Зразумела, — прамовіла Аліса.

— Что тебе «зразумела»?

— Растлумачыць?

— Попробуй.

— Адпомсціць хацеў праз мяне. Не выйшла, — усцешана ўсміхнулася Аліса.

— Кому? Чот не догоняю.

— Тупіш? Бацьку майму, вось каму.

— Писаке этому?

— Не пісаку, — паправіла, — а пісьменніку.

— И чо, он предок твой?

— Тыпу таго. Волас з яго галавы ўпадзе, я цябе знайду! — прыстрашыла Аліса.

— А он чо, немощный?

— Чыя б карова мычэла. Я цябе папярэдзіла. Валі давай.

— Встретимся еще, — паабяцаў Сазан і дадаў шэптам: — Сука.

— Да хуткага спаткання! — адказала Аліса так, як адказаў Д'Артаньян зрынутаму дэ Жусаку.

Сазан павольна павярнуўся да яе спінай і пакрочыў да метро. Яго сябры-таварышы, дапамагаючы адзін аднаму, закульгалі следам.

Флор з Сіплым падышлі да Алісы ў той момант, калі, знясіленая, яна ледзь не павалілася спінай на снег. Яны паспелі падхапіць яе. Адчуўшы падтрымку, дзяўчына страсянулася, паматала галавой, прагнала слабасць.

— Ну, ты як? — спагадліва спытаў яе Флор.

— Нармуль, хлопчыкі, — вымучана ўсміхнулася Аліса.

Сіплы прыклаў да яе вуснаў злеплены шарык снегу. Палягчэла.

— Сябры твае? — падышоў Кашэня. Ён неадступна сачыў за перасоўваннямі зрынутых ворагаў, пакуль не пераканаўся, што яны звярнулі да метро.

— Ага, — кіўнула Аліса, — усё жыццё марыла.

— Павінна, напэўна, ім штосьці? — выказаў здагадку Сіплы і працягнуў другі ледзяны шарык дзяўчыне — для брыва.

— Не спадабалася проста, — адказала Аліса, прымаючы снежку. — Занадта прыгожая для іх.

— Выпіць трэба, — буркнуў Флор. — Ты з намі? — звярнуўся да Алісы. Тая згодна кіўнула.

Усе разам рушылі да кавярні «Тры мушкецёры». Каля паварота іх дагнаў Лёва Зорыч.

— Пачакайце! — спыніў воклічам.

Аліса азірнулася першай. Азірнуліся і астатнія.

— Лёва?! —здзівіўся Сіплы. — Ты якім чынам тут?

— Зірніце сюды! — наблізіўся ўсутыч Лёва да грамады, працягваючы фотаапарат «Кэнан» апошняй мадэлі.

Флор узяў апарат у рукі, утаропіўся ўважлівым позіркам у відэа, папярэдне ўключанае Зорычам.

— Чо там? — нецярпліва спытаў Сіплы, зазіраючы Флору праз плячо.

— За некалькі апошніх хвілін гэта самае папулярнае відэа ў інтэрнэце, — самазадаволена вымавіў Лёва.

Флор сунуў Лёваў фотаапарат Сіпламу і пайшоў у кавярню.

— Фіга се! — выгукнуў Сіплы, пазнаўшы на экране сябе, Флора, Кашэню, Алісу, знятых камерай у нядаўняй бойцы. — Так ты нас зоркамі зрабіў, — вярнуў апарат гаспадару, — Спілберг недароблены? З-за рога выглядваў, назіральнік, га!

Калі б Аліса не спыніла Сіплага, Лёва, магчыма, атрымаў бы ў бубен.

— Чо ты абараняеш гэтага мудака ўвесь час? — абураўся Сіплы. — Ён жа відавочна нейкі не такі. Замест таго, каб дапамагчы нам, табе, хоць бы ўкусіць за нагу каго-небудзь, ён, бля, кіно здымае!

— Я не хацеў нікога пакрыўдзіць, — заікаючыся, спалохана апраўдваўся Лёва, — я думаў, вам спадабаецца...

— Знікні, — параіў яму Кашэня.

Лёва жаласна паглядзеў на Алісу, але тая адвяла вочы.

— Сыходзь, Лёва, — сказала яна яму, — потым пагаворым.

— Але я ж нічога такога!.. — здзіўляўся Лёва.

— Дзе вы там? — пачуўся покліч Флора з крайняга дамка на тэрыторыі кавярні.

— Ідзём, — адказаў за ўсіх Сіплы.

На драўляным стале дыміліся гарачыя каўбаскі, у высокіх шклянках пенілася піва, калі Аліса з Сіплым і Кашэнем далучыліся да Флора.

— Півам душу не ашукаеш, — пракаментаваў убачанае на стале Сіплы.

— Пагавары мне, — абарваў яго на паўслове Флор. — Гэта ледзь выпрасіў. Зачыняецца хутка ўстанова.

— А чо, можна і па піўку, — пацёр тады далонню аб далонь Сіплы.

Флор падняў шклянку і прамовіў, гледзячы ў вочы Алісы:

— Што б ні было, як бы ні было, ты мне падабаешся, малая, і я за цябе любога парву. Мне не важна, на тваім баку праўда ці не, але калі хто-небудзь цябе пакрыўдзіць, будзе мець справу са мной. Ты вельмі сапраўдная. Я буду рады, калі ты будзеш лічыць мяне сваім сябрам.

— Далучаюся, — падтрымаў Флора Кашэня.

— Далучаюся, — падміргнуў Сіплы Алісе.

— Дзякуй, хлопчыкі, — усміхнулася дзяўчына. — Вядома, мне прыемна, што ў мяне такія сябры.

— Мушкецёры, ёпта! — выгукнуў Сіплы.

— Заткніся, Сіплы! — загадаў яму Флор. — За наш непарушны звяз, — абвясціў ён тост і зрабіў некалькі вялікіх глыткоў, абпальваючы халодным півам горла.

Флор сядзеў насупраць Алісы, у яго пабольвала спіна ад прынятых на сябе ўдараў, але яму было прыемна знаходзіцца сярод сяброў і Алісы і глядзець на яе, як яна п’е піва маленькімі глыткамі і адкусвае каўбаску, насаджаную на аднаразовы відэлец. У Сіплага счырванела і спухла левае вуха, яно паціху ператваралася ў пельмень. Ён пра нешта горача спрачаўся з Кашэнем, які хаваў пад сталом правую руку з пабітымі косткамі. Флору сапраўды падабалася Аліса, і ён спытаў у яе, не прэтэндуючы, аднак, ні на што, ці кахае яна каго-небудзь.

— Вядома, кахаю, — ахвотна адказала дзяўчына, — свайго тату.

— Ты мяне, напэўна, не так зразумела, — прагаварыў Флор. — Я хацеў спытаць, ці ёсць у цябе каханы мужчына?

— Гэта ты не зразумеў, Флор, — усміхнулася Аліса, — мой тата і ёсць каханы мужчына.

— Нават так?! — пачухаў патыліцу Флор і тут жа збянтэжыўся.

— Так, — пацвердзіла адказ Аліса.

— Я чамусьці так і думаў, — павольна вымавіў Флор і сербануў піва, — што з табой усё няпроста. Адно цешыць: не Лёва Зорыч — аб’ект тваёй жарсці.

— Не Лёва, — супакоіла яго Аліса.

— Так гэта татавы сябры былі?

— Калі іх можна назваць сябрамі, то так.

— І хто ў нас тата?

— Пісьменнік.

— Дзе ж ён сяброў такіх прыдбаў?

— У выдавецтве, трэба меркаваць. Не сярдуй, Флор, — паклала сваю руку на руку Флора Аліса, — я сама ведаю не больш за цябе.

# 10

— Прывітанне, мам!

— Прывітанне, Аліса! Як залікі?

— Усё ок. І не ок.

— Штосьці здарылася?

— Мне патрэбныя грошы, мама.

— Дзеля залікаў?

— Не, з вучобай напругі няма. Тут іншае.

— І што ж?

— Я хачу зрабіць тэст ДНК.

— Навошта? Не разумею. Гэта ў пэўным сэнсе абразліва і абуральна, не лічыш?

— Я ўсё ведаю, мам.

— Што ты ведаеш? Не кажы загадкамі.

— Я чула аднойчы, як вы з татам казалі пра Макса Мілера і тваю сястру.

— Якога Макса Мілера?

— Пісьменніка Мілера і майго бацьку.

— Ён не твой бацька.

— Я ўсё чула, мама! І я на вас з татам не крыўджуся. Бацькі не тыя, хто нарадзіў, а тыя, хто гадаваў. Я цалкам з гэтым згодна. Але мне патрэбныя праўда і грошы на яе.

— Трызненне нейкае.

— Я падобная на яго.

— У якім сэнсе?

— Я пазнаёмілася з пісьменнікам Мілерам і сказала яму, што ён мой бацька.

— Гэта дурное, Аліса! Ён зусім чужы табе чалавек.

— Прызнайся, што ты ведаеш яго.

— Ніякага пісьменніка Мілера я ў вочы не бачыла і ніколі не чула пра такога!

— Дарма. Кніжкі трэба чытаць. Да таго ж яго кніжкі я знайшла ў нашай хатняй бібліятэцы. Не хлусі мне, мама! Не смей мне больш ніколі хлусіць! Дзе твая сястра? Яна мяне нарадзіла?

— Гэта не тэлефонная размова.

— Згодна. Але прыйдзецца здаволіцца тэлефоннай. Пакуль я прыеду, вы з татам паспееце падрыхтавацца.

— Падрыхтавацца да чаго? Колькі тут ехаць?!

— Да новай хлусні, мама! Паслухай, я не збіраюся адмаўляцца ад цябе з татам і не стану любіць менш, чым раней. Я проста хачу ведаць праўду і маю на гэта права.

— Добра. Твой пісьменнік Мілер ні разу не пацікавіўся, як ты, дзе ты, нават не патэлефанаваў...

— Ён не ведаў пра мяне.

— Ведаў!

Паўза.

— Ён мой бацька?

— Наташа так лічыла, але ўпэўнена не была.

— Чаму яна мяне кінула?

— Яна не кідала. Я ўгаварыла падпісаць Наташу адмову. Яна была хворая. І вельмі хутка памерла.

— Чаму ты не распавяла аб усім гэтым Мілеру? Ён шукаў яе.

— Ён табе сказаў?

— Так.
— Я палічыла, што ён занадта малады.
— Ізноў хлусня? Зусім нядаўна ты казала, што гэта Мілер мною не цікавіўся, аказваецца, ты нават шанцу яму не дала!
— Я думала пра цябе, пра твой дабрабыт. Мілер быў хлапчуком у той час, студэнтам, яму самому патрабавалася нянька.
— Зразумела. Карацей, мне патрэбныя грошы на тэст. Вы мне іх дасцё?
— Я пагавару з бацькам.
— Пагавары. А Наташу дзе пахавалі?
— Тут, у Коласава.
— Ты хоць да яе на магілку ходзіш?
— Вядома. Кожны год на Радаўніцу.

Паўза.

— Які ён?
— Хто?
— Мілер.
— Добры.
— І ўсё?
— Ён вельмі добры чалавек, мама. Гэта не ўсё, гэта шмат.
— Табе настолькі важны вынік ДНК?
— А ты як думаеш? Ад яго залежыць мая і яго будучыня.
— А калі не пацвердзіцца?
— Значыць, вам няма пра што будзе турбавацца.

Удзень Аліса зняла кватэру на суткі ў раёне плошчы Перамогі ў доме, дзе калісьці пражываў Лі Харві Освальд. Там яна збіралася зняць відэаролік для Мілера. Пры дапамозе Зорыча, які так удала і своечасова выявіў свае рэжысёрскія

здольнасці. Некалькі пікантных фотаздымкаў, дасланых Максіму Мікалаевічу раней, яна палічыла недастатковымі. На іх Аліса не выглядала жывой, таму заставацца стоп-кадрам у памяці Мілера і ў памяці яго камп'ютара не жадала. Відэа — іншы ўзровень і магутная магчымасць уздзеяння на мужчыну, любога мужчыну.

Аліса замазала танальнікам пашкоджаныя вусны так, што іх дэфармацыя амаль не кідалася ў вочы, брыво зарэтушавала касметычным алоўкам, быццам завесіла шторкай. Знятае відэа яна перакіне на флэшку і адправіцца да Мілера, каб паглядзець разам, а там... Ёй было пляваць, дачка яна яму ці не, і пярэчыць самой сабе больш не магла і не хацела.

Лёва пагадзіўся. А куды б ён дзеўся? Да таго ж адчуваў жарсць да здымання, такую ж апантаную, як і да літаратуры. Яго фотаапарат быў больш прызначаны для працы з відэа, чым для фота, і Лёва цяпер здымаў усё, што рухалася, гадзінамі. Асабліва назаляў суседкам па пакоі, фіксуючы кожны іх крок. Яны, вядома, псіхавалі і незадаволена моршчыліся, але насамрэч ім было прыемна выдаваць сябе за акторак, няхай і непрафесійных.

Аліса склала неабходны для здымак рэквізіт у скураны заплечнік, апранулася і сказала Зорычу, што гатова. Той адразу ж адчапіўся ад дзяўчынак і далучыўся да яе.

Яны спусціліся ліфтам на першы паверх інтэрната і выйшлі на вуліцу. Снежаньскае сонца гультаявата свяціла ў бясхмарным небе. Снег ззяў, нагадваючы дыяменты, нават шкада было па ім крочыць. Мінакі, якія ішлі насустрач, моршчыліся і мружылі вочы ад святла, што выпраменьвалася ад снегу.

— Як ты пасля ўчорашняга? — пацікавіўся ў Алісы Зорыч. — Нічога не баліць?

— А павінна? — азвалася дзяўчына.

— Не ведаю, — паціснуў плячыма Лёва.

— Вось і не балбачы, калі не ведаеш, — вымавіла Аліса.

— Добра, — пагадзіўся Зорыч. — А што здымаць будзем, магу я даведацца?

— Можаш, — адказала Аліса, — кіно.

— Я не дурны, Аліса, — пакрыўдзіўся Лёва.

— Тады пытанняў бязглуздых не задавай, — параіла яму дзяўчына.

— Ну, можа, на жанр хаця б намякні, — прыстаў Лёва.

— Порна, Лёва, порна. Задаволены? Усе вялікія рэжысёры з порна пачыналі. І ты пачнеш.

— Так гэта ж выдатна! — натхніўся Зорыч на імгненне, ды тут жа абвяў. — Толькі крымінальна адказна.

— А мы нікому не скажам, — падміргнула яму Аліса, — ніхто і не ўведае пра нашу падпольную порнаіндустрыю.

— Смяешся, так? — здагадаўся хлопец, што дзяўчына пацвельваецца з яго.

— Якія жарты, Лёва! — падняла на яго вочы Аліса. — Гэта вельмі выгадны бізнес.

— Ой, — рэзка спыніўся Зорыч, схапіўшыся рукамі за жывот.

— Што такое? — быццам бы ўразілася Аліса.

— Жывот прыхапіла, — пакутліва скрывіўся Лёва.

— Ды што ты?! — пляснула рукамі Аліса. — І моцна?

— Баюся, вельмі.

— Ну тады трывай, — параіла дзяўчына. — Ты ж мужчына.

— Гэта немагчыма трываць, — прамямліў Зорыч.

— Расслабся, Лёва, — пашкадавала яго Аліса, — мяне будзем здымаць. Для порна ты яшчэ не дарос.

— Праўда?

— Што праўда?

— Што цябе здымаць будзем?

— Не падыходжу ў акторкі, па-твойму? — патрэсла валасамі Аліса.

— Яшчэ як падыходзіш! — узрадаваўся Лёва, што будзе здымаць яе, бо раней дзяўчына гэта рабіць забараняла.

— А жывот як? — нагадала яна. — Прайшоў? — усміхнулася.

— Лепей, — адгукнуўся Лёва, але на ўсякі выпадак паморшчыўся.

Аліса засмяялася, засмяяўся і Зорыч.

Даволі хутка яны дапялі да пад'езда, дзе іх сустрэла гаспадыня кватэры (інтэлігентнага выгляду дама), моўчкі працягнула ключы ўзамен на суму ў далярах і сышла не аглядаючыся.

— Табе не здалося, — заходзячы ў пад'езд, сказаў Зорыч Алісе, — што гаспадыня неяк напышліва паводзіла сябе з намі?

— Табе не ўсё адно? — не азіраючыся, азвалася тая, падымаючыся на апошні паверх.

— Не зусім, — прамовіў Лёва. — Пад яе паглядам я адчуў сябе казюркай. Яна глядзела на мяне, як нацыстка на габрэяў.

— Табе падалося, — адказала Аліса.

— Не думаю, — настойваў на сваім Зорыч. — І яна жудасная, і пад'езд гэты жудасны, і сходы, па якіх паднімаемся, таксама. Быццам прэсам душаць. Нельга было знайсці дом папрасцей? Без гістарычнага шлейфа?

— Я не адмыслова, Лёва, — запэўніла яго дзяўчына, — выбрала менавіта гэты дом. Проста тут мелася тое, што мне трэба, — спынілася яна каля дзвярэй знятай кватэры і ўторкнула ключ у замочную шчыліну.

Аліса не была такой уражлівай, як Лёва, таму выгляд будынка яе не ўсхваляваў. Яе сэрца трапятала і калацілася, толькі калі яна была побач з Мілерам, ад позірку яго сумных вачэй яна ўся трымцела.

Лёва ж аж захліпаўся ад хвалявання, знаходзячыся ў сценах, якія з'яўляліся сведкамі гістарычных падзей. Што б яны распавялі, калі б змаглі гаварыць? Якая б кніга атрымалася, напісаная з іх слоў? Стывен Кінг і Дын Кунц немаведама што зрабілі б ад зайздрасці!

Кватэра Лёву расчаравала. Яна аказалася звычайнай, сумнай і аднастайнай, быццам пасрэдны шэры чалавек у шэрай масе сабе падобных. Алісе, наадварот, дужа спадабалася спальня. На фота бачыш адно, наяве, часцей за ўсё, сутыкаешся з процілеглым, аднак не тут. Спальня выглядала як малюнак з рэкламнага часопіса, асабліва ўражваў велізарны двухспальны ложак, засланы чырвонай атласнай посцілкай, нават новай, з чатырма мяккімі падушкамі пад газавым вэлюмам. Паркалёвыя, радаснага колеру фіранкі на акне былі падвязаныя знізу ў бутоны. Напаўпразрысты цюль какетліва звешваўся з падаконня. На падвеснай столі ярка пунсавелі ружы, а на падлозе ляжаў дыван у выглядзе мядзведжай шкуры. Побач з трумо белага разьбянога дрэва ў куце пузацілася банкетка. Бра над тумбачкамі ў выглядзе мініяцюрных кандэлябраў, глянцавыя часопісы з зоркамі шоубізнесу на гэтых жа тумбачках. Белыя шпалеры і плазма замест карціны насупраць ложка завяршалі інтэр'ер спальні.

— Якая пахабшчына! — чмыхнуў Лёва, крытычным позіркам акінуўшы пакой, і расчаравана працягнуў: — Так табе гэта было трэба?

— Лёва, не гундось, — загадала яму Аліса. — Твая справа здымаць тое, што я скажу, і больш нічога, зразумеў?

— Так, — кіўнуў ён, — мая справа такая. Ты бос.

— А пакуль выйдзі адгэтуль, — папрасіла яго Аліса. — Мне трэба падрыхтавацца да ролі. Зайдзеш, калі паклічу. Апарат свой правер, каб не падвёў у самы важны момант, папарацы!

Яна выштурхала Зорыча за дзверы і зачыніла іх, пасля чаго вытрасла з заплечніка на ложак «сцэнічны касцюм» — спальны празрысты камплект белага колеру, белыя панчохі і белыя лакаваныя туфлі на шпільцы. Хутка пераапранулася.

Затым расчасала валасы перад трумо, падвяла вочы, нафарбавала вусны і зачасала чубок на пашкоджанае брыво. Цяпер можна было вярнуць у спальню Лёву. Той, убачыўшы дзяўчыну ў новым вобразе, здавалася, не збянтэжыўся, аднак і не зводзіў з яе вачэй.

— Не зламай! — папярэдзіла яго Аліса.

— Чаго не зламаць? — не зразумеў Зорыч.

— Вачэй не зламай, — атрымаў ён тлумачэнне.

— І навошта гэта? — меў на ўвазе Лёва ператварэнне Алісы.

— Для кіно, Лёва, для кіно, — адказала яна і спытала: — Ты гатовы?

— Быццам бы.

— Тады навядзі камеру на мяне і здымай усё, што б я ні зрабіла, зразумеў? І чаргуй агульны план з буйнымі.

Лёва кіўнуў, штосьці націснуў у фотаапараце і наблізіў яго да твару тыльным бокам, аб’ектыў накіраваў у бок Алісы.

— Можна! — выгукнуў.

Дзяўчына ўсміхнулася.

Правяла рукамі ўздоўж цела зверху ўніз, туды-сюды. Павольна і пачуццёва.

Прысела на кукішкі. Развяла ногі ў бакі, звяла іх разам праз некалькі секунд.

Выпрасталася ў поўны рост, нібы выпаўзла з чагосьці, выгінаючыся па-змяінаму.

Усмешка не сыходзіла з твару Алісы ні на імгненне. Для яе было ў радасць рабіць штосьці для Максіма Міка-

лаевіча, тым больш спакушаць яго. Яна бачыла толькі камеру і працавала толькі на яе, зусім не заўважала Лёву, які неадступна быў побач і не выпускаў яе з аб'ектыва, як яна і прасіла, ні на секунду, забыўся нават, хто ён і што ён. Працоўны працэс паглынуў яго цалкам, нібы кіт.

Пагладжваючы сябе па грудзях, Аліса некалькі разоў пакруцілася вакол сябе, затым закінула адну нагу на ложак каленам, правяла паназе рукой, выгнулася, выцягнула рукі наперад, павалілася на іх, падцягнула другую нагу.

Пагуляла з валасамі, агаліла плечы і лягла на спіну папярок ложка. Падняла ногі ўгару, зняла абутак туфляй аб туфлю. Яны бязгучна ўпалі на падлогу. Услед за туфлямі спаўзлі панчохі. Аліса акуратна згортвала іх у гармонік, потым аднымі пупышкамі пальцаў сцягвала.

Затым яна села на кукішкі і з выглядам маленькай дзяўчынкі апусціла долу вочкі, каб тут жа падняць іх і паглядзець у камеру позіркам спакуслівай жанчыны.

Паціснуўшы плячыма, Аліса зняла з сябе ўсё тое, што засталося на ёй, і памахала ручкай, нібыта развітвалася.

Паветраны пацалунак дзяўчыны быў апошнім кадрам, схопленым камерай.

Яна спрытна апранулася, стоячы спінай да Зорыча, а калі павярнулася тварам да яго, позірк хлопца ёй не спадабаўся. Лёва нагадваў быка, які раз'ятрана пазіраў у адну кропку, гатовы тую кропку знішчыць фізічна.

Нямоцна, можна сказаць, ласкава, Аліса ляпнула Зорычу па фізіяноміі, тым самым вярнуўшы яму чалавечае аблічча. Здранцвенне Лёвы прайшло. Ён часта залыпаў вачыма і закашляўся.

— Выбачай, — потым прамовіў, — загледзеўся.

— Праехалі, — прабачыла яму Аліса, вымаючы ноўтбук з заплечніка. — Табе трэба скінуць відэа на флэшку,

толькі спачатку пачысціць ад шумоў і накласці зверху музыку.

— Шумоў быць не павінна, — усеўся на ложак з ноўтбукам Зорыч, — я здымаў без гуку, але, магчыма, лішняя ачыстка не перашкодзіць.

Пакуль Аліса апранала верхнюю адзежу і прыбірала ў заплечнік непатрэбны больш рэквізіт, Лёва апрацаваў відэа і паказаў дзяўчыне вынік. Ёй спадабалася, нават мурашкі прабеглі па скуры ад спалучэння відарыса і вакалу Эмі Лі.

— Дзякуй, Лёва! — пацалавала Аліса Зорыча ў патыліцу і прапанавала: — Можаш тут застацца да заўтра, калі хочаш.

— Навошта? — не зразумеў Зорыч.

— Кватэра аплачана на суткі, — адказала Аліса, працягваючы Лёву флэшку, каб ён перанёс на яе з ноўтбука апрацаванае відэа. — Ты вольны заняцца ў ёй чым заўгодна.

— І чым жа? — тупіў Зорыч, хто ведае, свядома ці па дурасці.

— Табе разжаваць усё трэба? Сур’ёзна? — Вочы іх сустрэліся, і Аліса зразумела, што Лёва сапраўды не цяміць. — Прастытутку пакліч, — падказала яна. Зорыч нават спалохаўся яе слоў. — Усе паэты, успомні, мелі слабасць да такіх жанчын, — загаварыла Аліса пасля паўзы, — гэта ж класіка! Уяві сябе Ясеніным ці Леанідам Андрэевым, не ведаю, можа быць, Рэмба, Апалінэрам, кім заўгодна, натхніся, чытай ёй вершы ў абмен на...

— Гэта ж дорага, — нерашуча запярэчыў Лёва, хоць ідэя Алісы яму спадабалася.

— Не даражэй за кватэру на суткі, — запярэчыла Аліса, — лічы, я табе пераднавагодні падарунак зрабіла. Зайдзі на профільны сайт, абяры тую, хто больш спадабаецца, і проста патэлефануй. Яна прыедзе і ўсё сама зробіць. І не

жміся, Лёва, калі лічыш сябе паэтам. Яны ніколі скнарамі не былі.

— Навошта табе?

— Што менавіта?

— Ну, і відэа гэта, і тое, што ты цяпер прапануеш?

— Выбачай, Лёва, ваенная тайна. Але калі ты не хочаш скарыстацца магчымасцю, я набяру Флора, ён учора ўбіў свой нумар тэлефона ў мой тэлефон, павер, ён наўрад ці адмовіцца.

— Ды я не адмаўляюся! — ускочыў Зорыч з ложка і працягнуў Алісе флэшку.

— Вось і малайчына, — узяла яна флэшку і сунула яе ў кішэню джынсаў. — Паслухай, — кранула Лёву за руку, — выклік прастытуткі толькі ў тваіх інтарэсах. Не сорамна ў цнатліўцах хадзіць? Паэтам яшчэ завешся! І сліну пускаць у мой бок не трэба, занадта малы ты для мяне.

Аліса закрыла ноўтбук, адправіла яго ў заплечнік, кінула ключы ад кватэры на прыложкавую тумбачку і імкліва сышла, пакінуўшы Лёву сам-насам, у адзіноце.

Яна спяшалася да Мілера паказаць яму відэа, паглядзець яго разам, спадзявалася, што яно разаб'е крыштальную мяжу прыстойнасці, якая паўстала між імі, ды ўжо трашчала. Аліса патэлефанавала яму, як толькі апынулася на вуліцы, але Мілер не адказваў. Яна набірала яго нумар зноў і зноў, але безвынікова. Аліса паехала да Мілера дамоў. Абыякавыя дзверы ягонай кватэры сустрэлі яе гнятлівым маўчаннем. Сотні варыянтаў верагоднага знаходжання Максіма Мікалаевіча перабрала дзяўчына ў галаве, схіляючыся, аднак, толькі да аднаго. Мілер быў у жанчыны, падобнай на Эмі Лі. Заўтра Аліса паглядзіць у яе бессаромныя вочы. Яна пагугліць у інтэрнэце, высветліць адрас выдавецтва, у якім працаваў Мілер, і прыйдзе па яго. Ці па яе, як атрымаецца.

# 11

Зорыч паслухаўся Алісы наконт паслуг прастытуткі. Рашэнне далося яму няпроста, ён вагаўся, але не з-за грошай, якія прыйдзецца выкласці. Ад недахопу сродкаў Лёва не пакутаваў. Яго бацька ўзначальваў квітнеючы калгас на Барысаўшчыне і ні ў чым адзінаму сыну не адмаўляў. Грошы не праблема, справа ў іншым: Зорыч баяўся жанчын. Ён дранцвеў, калі бачыў аголенае жаночае цела, сведкам чаго была (і не аднойчы) Аліса. Выключэнні мелі толькі парнаграфічныя часопісы. Ён хаваў некалькі нумароў «Плэйбоя» пад матрацам, разглядаў здымкі, змешчаныя ў іх, калі ніхто не бачыў. Часопісы ён купляў у кніжнай краме, якая размяшчалася ў будынку канцэртнай залы «Мінск», а пасля, за непатрэбнасцю, выкідаў іх у сметніцу. Пражываючы з нядаўняга часу ў адным пакоі з дзяўчатамі, ён сарамліва адварочваўся, калі тыя распраналіся ці пераапраналіся. Яго прысутнасць іх не бянтэжыла. Зорыч жадаў залежаць ад уладнай, валявой, дарослай, гадоў трыццаці жанчыны і каб яна таксама залежала ад яго. Свае сексуальныя фантазіі ён трымаў пры сабе, разумеючы, што яны нязбытныя, але спадзяваўся ўсё ж на цуд. Пра эскорт-паслугі на любы густ Зорыч, зразумела, ведаў і мог бы скарыстацца імі даўным-даўно, аднак адмыслова ніколі не задумваўся пра гэта, бо быў нясмелы, нерашучы і баязлівы. Учынкам Алісы Зорыч

быў прыпёрты да сценкі, нібы штыхом ад вінтоўкі. Яна не пакінула Зорычу выбару, і ён, дрыжучы ад узрушанасці і страху, зайшоў у інтэрнэт праз тэлефон і набраў у Google фразу: «Як зняць прастытутку ў Мінску?».

Адказы не прымусілі сябе чакаць. Зорыч адкрыў першы ж сайт. Прапановы перавышалі попыт. Хто ж не хоча зарабіць не такія ўжо і маленькія грошы за гадзіну працы? А калі замова доўжылася некалькі гадзін? Ноч? Суткі? Канкурэнцыя існавала, мабыць, дзікая.

Вочы разбягаліся ад красунь, гатовых аддаць сваё цела ў часовае карыстанне за грошы, прапануючы інтым-паслугі ад класічнага сексу да розных вычварэнстваў. Зорыч чытаў дзявочыя анкеты і разумеў, што мае малы досвед: многіх слоў ён ніколі раней не чуў і мімаволі засаромеўся ўласнага невуцтва. Ён палез у Вікіпедыю, каб «адукавацца», а потым абраў «бялявую мілэдзі» Паліну, а тая падміргнула яму з анлайн-чату і напісала, што вольная. Зорыч зайшоў на яе анкету і набраў нумар тэлефона.

Трубку знялі пасля другога гудка, але маўчалі. Зорыч услухоўваўся ў прыглушанае дыханне ў слухаўцы, потым брыдка прамямліў:

— Вы мне нядаўна падміргнулі. Вы Паліна?

Павісла непрацяглая паўза, пасля чаго Зорыч пачуў адказ, вымаўлены такім прыемным голасам, што яго карцела слухаць і слухаць без канца:

— Паліна, салодкі... Нудзішся?

— Не, — закруціў галавой Зорыч, быццам Паліна магла бачыць яго. — Гэта значыць так, — тут жа паправіўся ён. — Вы працуеце?

— Любое жаданне за твае грошы, — праваркатала Паліна.

— Вядома, — здаўся без бою Зорыч. — Прыязджайце проста зараз.

— Ужо бягу, салодкі, — падбадзёрыла яго Паліна, — назаві адрас і падрыхтуй грошыкі.

Зорыч назваў ёй вуліцу, нумар дома і кватэры. Дзяўчына паабяцала яму быць на месцы праз трыццаць пяць хвілін.

Ён не мог паверыць, што зрабіў гэта. Сэрца шалёна адбівала рытм яго жыцця, падтрымліваючы гаспадара ва ўсім. Трэба купіць якога-небудзь алкаголю і фруктаў. Зорыч спусціўся ўніз, у краму на рагу вуліцы. Ён купіў бутэльку каньяку, колькі бананаў, ківі і апельсінаў, вярнуўся ў кватэру, перанёс з кухні ў вітальню зэдлік і ўсеўся на яго насупраць дзвярэй чакаць Паліну.

Яна з’явілася, як і сказала, праз трыццаць пяць хвілін. Бландзінка з валасамі да плячэй, старэйшая гадоў на дзесяць, што адразу кінулася ў вочы, зрэшты, як і яе прыгажосць з адзіным дэфектам на лбе ў выглядзе невялікага прастакутнага шнара, верагодна, атрыманага яшчэ ў дзяцінстве ад няўдалага падзення. Шэранькі футравы паўкажушок, скураныя боты да каленяў на ўстойлівай платформе, кароткая ружовая спаднічка па-над джынсамі дапаўнялі партрэт госці.

— Грошы пакажы! —сказала Паліна яшчэ з парога, а Зорыч тым часам ледзь не праваліўся ў бездань; сківіца яго адвісла, вочы ўтаропіліся ў госцю.

Голас прастытуткі выдраў Зорыча з пашчы ўтрапёнасці і вярнуў да жыцця. Лёва згодна заківаў і палез у нагрудную кішэню кашулі за далярамі. Ён працягнуў ёй усе грошы, што меў, не ведаючы толкам, колькі іх было. Паліна ўзяла пераламаныя ўдвая паперкі і, не лічачы, адправіла іх у сваю сумачку, якая звісала з пляча на пазалочаным ланцужку, пасля чаго пасунула Зорыча ўбок, каб прайсці ў кватэру. Лёва зачыніў дзверы і патэпаў за Палінай у спальню.

— Міла, — атэставала сціпла сервіраваны шкляны часопісны столік на дваіх з каньяком і фруктамі, які Зорыч

паставіў побач з трумо. Яна зняла паўкажушок і акуратна паклала яго на прыложкавую тумбачку. З-пад белай баваўнянай блузкі з паднятым угару каўняром і некалькімі верхнімі расшпіленымі гузікамі вытыркаліся вялікія (прынамсі, так палічыў Лёва) грудзі, патрабуючы вызвалення з-пад адзежы. — Твая, — абвяла позіркам Паліна кватэру, — ці здымаеш?

— Не мая, — асцярожна падышоў да прастытуткі, быццам тая магла ўкусіць, Зорыч. Ад яе голасу яму рабілася салодкамлосна, ён не хацеў, каб яна спынялася. А яшчэ яму хацелася ўкленчыць перад ёю, пакласці на яе калені галаву і каб яна гладзіла яе, і што-небудзь спявала ці распавядала.

Паліна села на банкетку, закінула нагу за нагу, адкаркавала каньяк і разліла па шклянках.

— Далучайся, — тарганула Зорыча за руку, але адпусціла. «Лепш бы не адпускала», — пашкадаваў Лёва. Яе дотык быў вельмі прыемным для яго.

Яны чокнуліся. Дзынькнулі шклянкі. Алкаголь сагрэў горла і расцёкся па крыві, выклікаючы адвагу.

Паліна сядзела. Зорыч стаяў, круціў у далонях шклянку, пакуль не выпіў яе змесціва цалкам, і ледзь не задыхнуўся. Паліна спрытна падскочыла да яго і заштурхала яму ў рот скрылік апельсіна. Дапамагло.

— Дзякуй! — падзякаваў ёй Зорыч, аднаўляючы дыханне.

— У першы раз, ці што? — спытала яна.

— Не! — абурана ўсклікнуў Лёва.

— Ды добра, не саромейся, — параіла яму Паліна, — ніхто не ўведае, акрамя мяне, а я магіла. Ды і відаць усё па табе.

— Праўда так прыкметна? — скурчыўся Зорыч.

— Не перажывай, — узяла Паліна яго за руку і пасадзіла побач з сабой на ложак. — Сорамнага ў тым, што ў цябе

ніколі не было сексу, нічога няма. Наадварот, табе можна толькі пазайздросціць. Першы раз — заўсёды адкрыццё. Спазнання чагосьці новага не саромеюцца. Як тваё імя? — запытала.

— Лёва, — ахвотна адказаў Зорыч, супакоены словамі Паліны.

— З заўтрашняга дня ты ўжо не павінен зваць сябе Лёвам, бо Лёва — гэта хлопчык, а ты станеш мужчынам, а значыць, Львом. Зразумела?

Зорыч кіўнуў.

— Чым займаешся? — працягвала распытваць Паліна, хоць ёй не было цікава і раздражняла тое, што апошнім часам трапляла на цнатліўцаў. З імі, вядома, спакойна, з аднаго боку, але з іншага — не ведаеш, чаго чакаць ад чарговага пачаткоўца, паколькі неспрактыкаваны карыстач салодкіх забаў непрадказальны, хоць і жаласны з выгляду. Лёва гэты наогул дохлы нумар.

— Вучуся на філфаку, — ахвотна адказаў Зорыч.

— Першы курс? — вызначыла Паліна на вока.

— Так, — пацвердзіў той.

— Нябось, і вершыкі пішаш? — здагадалася Паліна, хоць тут і варажыць было няма чаго. Хлопцы ўсю дарогу паступалі на філфак або з-за прыхільнасці да слова, або каб у войска не загрымець, а пасля вучобы адразу ў мянтоўку на афіцэрскую пасаду сесці. Галоўнае, каб не пачаў чытаць вершы, якіх Паліна не любіла.

— Пішу, — пацвердзіў здагадку Зорыч і нечакана для сябе прапанаваў: — Калі хочаце, прачытаю што-небудзь.

— Калі шчыра, не хачу, — адмовілася Паліна, — ты ўжо не крыўдуй. Ты ж не для таго мяне выклікаў, каб вершы чытаць, — нагадала яна аб прычыне іх сустрэчы.

— Так, вы маеце рацыю, — пагадзіўся Зорыч і спахмурнеў чамусь адразу.

— Можа, да грудзей дакранешся? — прыклала яго далонь да сваіх грудзей Паліна, аднак Лёва аддзёрнуў руку, бы апёкшыся, і няўцямна пазіраў на яе, быццам тая здзейсніла штосьці гнюснае.

Паліна заляпіла Зорычу аплявуху ў адказ на гэта.

Лёва здзіўлена ўтаропіўся ў прастытутку з выразным пытаннем, аднак, у вачах: «Што яна сабе дазваляе?»

— Калі я табе не падабаюся, — працадзіла Паліна, — ці, можа, не падабаецца тое, чым я займаюся, няма чаго было тэлефанаваць мне!

— Не-не-не-не! — запратэставаў Зорыч. — Вы не так усё зразумелі!

— А як я павінна была цябе зразумець, блазнюк? — не стрымалася яна, каб не абразіць.

— Проста мне страшна, — раптам усхліпнуў Лёва, нібы хлапчанё.

— Страшна ад чаго?

— Не спадабацца вам, — прызнаўся Зорыч.

— Ты мне і не павінен падабацца, — запярэчыла яму Паліна. — Ты — мая праца.

— Ну тады рабіце сваю працу! — псіхануў Зорыч.

— Цішэй, цішэй, малы! — правяла Паліна па ягоных валасах рукой і перасела яму на калені, гледзячы проста ў твар. — Выбачай, я нешта ўскіпела.

Яна расшпіліла блузку, вываліла грудзі, быццам яблыкі з мяшка на святло, потым і зусім зняла яе. Асепленыневерагодным хараством, Зорыч інстынктыўна рвануўся да іх губамі. Ад жарсці яго кінула ў жар, дыханне збівалася, пасля ж, даволі хутка, ён змяк і з ціхім стогнам пусціў сліну.

Паліна прыпадняла галаву Зорыча ўказальным пальчыкам за падбароддзе. Ён заўважыў, што ў яе вельмі прыгожыя дагледжаныя доўгія пазногці, не такія, як у Алісы, якая свае

пазногці коратка стрыгла. Лёва не мог глядзець жанчыне ў вочы ад сораму. Пунсовай фарбай пакрываўся яго твар, рыхтык палатно мастака.

— Нічога, — усміхнулася яму Паліна. Ёй спадабаліся далікатнасць і пяшчота вуснаў Зорыча. Яшчэ Паліна зразумела, што Лёву трэба накіроўваць, нават дамінаваць над ім, каб яму ж дагадзіць і зрабіць прыемна. Яна вызначыла гэта амаль адразу, па першым кінутым позірку на яго, аднак спадзявалася, што памылілася. Паліна не любіла выконваць ролі матуль і гаспадынь, да таго ж мужчынская слабасць выклікала агіду. На жаль, усё часцей і часцей яе кліенты настойвалі, каб яна зневажала іх усялякімі спосабамі. Як бы гідка не выглядалі іх фантазіі, Паліна выконвала ўсё, што ад яе патрабавалася, таму што прафесію сваю паважала і любую працу выконвала ахвотна. Лёва, мабыць, таксама з ліку недалюбленых сыноў. Так Паліна звала кліентаў, якія інакш як «мая гаспадыня» не звярталіся да яе.

— Табе трэба распрануцца, — сказала яна Зорычу, — і супакоіцца.

Паліна адышла да акна. Павярнулася спінай да Лёвы, распранулася дагала. Калі азірнулася, то ўбачыла, што Лёва здымае порткі. Таксама да яе спінай.

Яна лягла на ложак па-над коўдрай, раскінула рукі і ногі ў бакі. Зорыч сарамліва ўзлез на ложак. Вачыма Паліна паказала Зорычу, куды яму трэба і чаго яна ад яго хацела. Зрэшты, Лёва і сам жадаў таго ж, што і Паліна, у тую хвіліну. Не раз ён уяўляў падобнае перад сном, перачытваў радкі з «Тропіка раку» пра похвы розных Ірэн ды Ілонаў, памятаў іх на памяць, а цяпер нырнуў у сваю мару. І зразумеў тады Зорыч, які ніколі не меў мамы і нічога пра яе не ведаў, што ён нарэшце дома, з мамай.

Паліна зрабіла яго мужчынам, як і абяцала, праўда, не без цяжкасцяў, але ён не хацеў, каб яна сыходзіла, прынамсі, яшчэ некаторы час. Лёва не памятаў, колькі сапраўды было ў яго кішэні грошай, аддадзеных прастытутцы, аднак думаў, што нямала, таму лічыў, што яна не мела права пакідаць яго адразу пасля выкананых абавязкаў. Паліна не ведала, адкуль у Лёвы грошы, і тое, што ён расстаўся з імі так лёгка, насцярожвала. Наўрад ці яны пахлі крыміналам, бо Лёва выглядаў як дзіця. Хутчэй за ўсё ён марнаваў татавы грошы.

Сапраўды, Зорыча забяспечваў тата, хаця ён мала што ведаў пра жыццё сына ў сталіцы. Бацька думаў зняць Лёву кватэру, калі той паступіў ва ўніверсітэт, каб сын не быў пазбаўлены пэўнага камфорту, але той катэгарычна адмовіўся ад прывілеяў. Яму патрэбна была паўнавартасная студэнцкая атмасфера без умяшання звонку, таму сын і не распавядаў тату пра сваё самастойнае жыццё, аднак не адмаўляўся ад бацькавых грошай.

Нягледзячы на суму, заплачаную Зорычам, Паліна не лічыла яго вартым падзякі, да таго ж Лёва і надакучыў ёй. Працу сваю яна выканала, кліент быў задаволены, аднак сысці не магла з-за… незразумелых згрызот сумлення. Магчыма, шкада было гэтага хлопчыка, нешта быццам трымала за руку. Па вачах Зорыча было відаць, што ён стаміўся і хутка засне, Паліне трэба адно дачакацца.

Яна ўстала з ложка, падышла да століка з каньяком, адпіла некалькі глыткоў проста з бутэлькі, потым азірнулася да Лёвы і раптам прапанавала:

— Хочаш, я цябе абдыму і праспяваю калыханку? Пабуду мамай. Ты памятаеш маму?

Зорыч ачмурэла паглядзеў на яе і адказаў сумна:

— У мяне не было мамы.

— Дык вось што такое! — прамовіла Паліна. — Бедны, бедны Лёва! — паспагадала. — Тады тым больш табе гэта неабходна.

Паліна ўкрыла яго коўдрай, лягла побач. Пагладжваючы Лёвіны валасы, паціху заспявала.

Калі Зорыч заснуў, Паліна апранулася і сышла.

# 12

Вечар праглынуў дзень, бы павук аблытаных павуціннем мурашоў. Аднойчы Аліса назірала за падобным працэсам у двары хаты, дзе вырасла. З пашчы павука, які сядзеў на цаглянай сцяне веранды, тырчала галава мурашкі з паловай тулава, якое няўмольна і паступова ператваралася ў ежу. Дадзенасць і наканавасць таго, што адбывалася, да жудасці ўразіла сэрца дванаццацігадовай дзяўчынкі, якая стала міжвольнай сведкаю. Жудасна было ад таго, як ахвяра маўкліва, нібы са згоды, прыняла свой лёс. Мураш варушыў вусікамі і перабіраў пярэднімі лапкамі, магчыма заклікаючы бязгучна да дапамогі, не сумняваючыся, што гэта марна, і адчуваючы нясцерпны боль. Аліса магла б дапамагчы беднаму мурашу і нават хацела гэтага, але баялася павукоў. Мужнасці ёй хапіла толькі на тое, каб адарваць пагляд і ўцячы далёка-далёка, ды зараўці ад жалю да мурашкі і да сябе. Якая ж яна баязліўка! Дармо што перамагае на татамі!

Адвеку моцны біў слабога, замест таго каб абараняць яго. Абараніўшы Зорыча, Аліса палічыла, што зрабіла правільна. Штораз, калі яна думала інакш, перад вачыма ўзнікаў той павук, які жэр жыўцом мурашку. Дабро павінна быць з кулакамі. Нельга пакорліва падпарадкоўвацца нікому, тым больш таму, хто жадае нанесці табе ці тваім блізкім шкоду. Нельга праходзіць міма і адводзіць вочы,

калі хтосьці просіць дапамогі. На жаль, абыякавасць і страх пасяліліся ў душах людзей, быццам монстры-чужыя, пусцілі карані. Нічым іх не выкарчаваць. І людзі, як быццам невінаватыя, звальваюць сваю віну за бяздзейнасць, калі трэба дзейнічаць, на паразітаў у душы, усе прэтэнзіі да іх. Аднак нават запаганеныя і атручаныя страхам душы ўсё ж застаюцца душамі чалавечымі, якія мусяць несці дабро.

Трывога за Мілера, няведанне, дзе ён і што з ім, неспакойныя падазрэнні тачылі мозг Алісы, нібы шашаль кніжныя паліцы. Чорныя думкі лезлі ў галаву.

Прыхінуўшыся спінай да сцяны, Аліса сядзела на койцы Зорыча ў цемры і адзіноце. Суседкі збеглі некуды, Лёва...

Зорыч шумна расчыніў дзверы і ўключыў святло. Яго вочы ліхаманкава блішчалі, ён быў узбуджаны і ўсхваляваны. Алісу, здавалася, Лёва не заўважаў зусім.

— Што ты тут робіш? — падала голас яна з месца.

— Я не мог там больш заставацца адзін! — нейк ненатуральна завішчаў Зорыч і пачаў бегаць з кута ў кут.

— Але ты павінен быў застацца ў кватэры да заўтра, — нагадала яму дзяўчына, — і аддаць ключы гаспадыні.

— Ты не разумееш, Аліса! — закаціў вочы Лёва. — Яна сышла, усыпіла мяне калыханкай і сышла!

— Хто яна? Кажы ясней.

— Паліна!

— Ты ўсё ж замовіў прастытутку?! — здзівілася Аліса. Яна не думала, што Лёва адолее свой страх.

— Яна не прастытутка! — рэзка запярэчыў Зорыч.

— Ды што ты?! А хто ж? — цікавілася дзяўчына, ужо не сярдуючы на яго.

— Я яе кахаю, Аліса! — сеў Зорыч побач з Алісай. — Я гатовы ўсяму свету заявіць пра яе! Гэта каханне з першага позірку!

— Супакойся! — прыкрыкнула на яго дзяўчына і дадала цішэй: — Гэта не каханне, а гармоны ў тваёй галаве ад аргазму.

— Якая ты разбэшчаная, Аліса! — скрывіўся Зорыч.

— Можа быць, — не адмаўляла тая.

— Ты б яе бачыла! — працягваў захапляцца Палінай Лёва, не разумеючы, чаму Аліса не верыць яму. — А чула б!

— На тое яна і прастытутка, каб падабацца ўсім, — заўважыла дзяўчына. — І бярэ за гэта грошы.

— Але ты сама мне казала, каб я... Ды ну цябе, — раптам замоўк Зорыч і апусціў галаву, потым падняў і з сумам паглядзеў на Алісу. — Яе тэлефон выключаны. Чаму?

— А яна ў курсе, што ў цябе каханне да яе? — спытала тая, шкадуючы Лёву.

— Я ёй і спрабую датэлефанавацца, каб сказаць пра гэта, — адказаў той.

— Магчыма, яна на працы, — выказала здагадку Аліса. — Таму што яна прастытутка, Лёва!

— Не! Не! Не! — схапіўся Зорыч рукамі за галаву.

— Так, Лёва! — бязлітасна прамовіла Аліса.

— Навошта ты мне параіла гэта? — абвінаваціў Алісу Зорыч.

— Каб ты пасталеў, Лёва, — адказала яна.

— Але яна так разумела мяне!..

— За твае грошы!

— Чаму ты такая жорсткая, Аліса? — ва ўпор паглядзеў на дзяўчыну Зорыч, і ў яго вачах яна ўбачыла тужлівы боль. — Ты так кажаш, нібы твае словы самыя правільныя і акрамя твайго меркавання іншага быць не можа. Мне было так добра, як ніколі, але ты, ты знішчыла ўсё, што мяне цешыла ўвесь дзень, нават не задумаўшыся, што я буду адчуваць.

Аліса асалапела ад падобных абвінавачванняў. Ёй было прыкра, і яна адчувала несправядлівасць, бо нашкодзіць яму нічым не хацела. Магчыма, Аліса ставілася да Зорыча крыху фанабэрліва, прыніжаючы некаторыя яго добрыя якасці. Пяшчота, дабрата ў адносінах да слабейшага, клопат пра яго — вось што адчувала Аліса да Лёвы. Хлопцу ж надта спадабалася Паліна, ён лічыў, што закаханы ў яе, не думаючы, хто яна і адкуль. І хай яна ўзяла з яго грошы, гэта не мела ніякага значэння.

— Ты павінна была праявіць павагу да маіх пачуццяў, — працягваў насядаць на Алісу Лёва, — калі не падзяліць іх са мной, то хаця б парадавацца за мяне. Ты параіла мне скарыстацца паслугамі прастытуткі, мяркуючы з вышыні свайго палёту, што акрамя як за грошы ніякае іншае каханне мне не свеціць, нават стэрэатыпны прыклад пра непарыўную сувязь паэтаў і прастытутак прыпляла. І зараз ты ж мне паўтараеш, што я няварты і ўвагі прастытуткі, што мяне гэта зневажае, а для Паліны сувязь са мной усяго толькі праца?! Ды хоць бы і так! Я, думаеш, не разумею гэтага? Аднак ты не маеш ніякага права ўказваць, каго мне кахаць і з кім спаць, нават калі я памыляюся. Гэта мае памылкі і маё жыццё! Я ж не лезу ў тваё і не пытаю, для каго ты здымала відэа!

— Але я не хацела цябе пакрыўдзіць, — паспрабавала апраўдацца Аліса.

— І ўсё ж пакрыўдзіла, — заставаўся непахісным Зорыч.

— Я не думала, што цябе так параняць мае словы.

— Нават калі ты тысячу разоў права, — выклікнуў Лёва, — не трэба сваю праваты запіхваць, нібы кляп, у глотку адрознага ад тваёй праваты меркавання па тым жа пытанні!

— Я цябе зразумела, — кіўнула Аліса. — Прабач. Вядома, мне не трэба было выказвацца так катэгарычна

і настойваць на сваім. Я проста не чакала, што ты так негатыўна адрэагуеш...

— Негатыўна?! — ізноў абурыўся Зорыч. — Гэта тыпу прабачэнне?!

— Лёва, я ж стараюся, — нервавалася Аліса.

— Дрэнна стараешся, — заўважыў той.

— А ведаеш што! — рашуча заявіла Аліса. Ёй абрыдлі гэтая нервовая размова і захапленне Зорыча прастытуткамі, якое яна не падзяляла. Аднак таго, што збіралася сказаць, не прамовіла, падумаўшы, што проста зрывае на Лёве злосць з-за недасведчанасці пра месцазнаходжанне Мілера. З-за таго, што не пераспала з ім, калі быць дакладнай. Трэба быць шчырай і прызнацца сабе ў тым, што крыўдавала на зламаны кімсьці вечар, яе чароўны вечар, і Лёва падвярнуўся пад руку як выпадковая ахвяра.

— Што? — смела запытаў Зорыч, гатовы адбівацца. Ён баяўся, што дзяўчына яго стукне. Верагодна, ён зразумеў па яе позірку, што тая гатова да сілавых дзеянняў, і спадзяваўся, што памыліўся.

— Добра, Смелы партняжка, — чамусьці так назвала яго Аліса па нейкіх зразумелых ёй адной асацыяцыях, — кахай сваю прастытутку, калі верыш у такое каханне, і нікога не слухай, тым больш мяне. І... прабач.

— Дазваляеш? — з’едліва сказаў той.

— Лічы, як хочаш, — адступілася Аліса. — Дай мне ключы ад кватэры. Мне трэба пабыць адной. — Яна працягнула руку, каб узяць ключы. Зорыч моўчкі аддаў ёй ключы, моўчкі вачыма праводзіў яе.

Апынуўшыся на вуліцы, Аліса паглядзела на гадзіннік у тэлефоне (наручнага яна ніколі не насіла). Экран мабільнага высвяціў лічбы 23:03. Ноч панавала, вечар сышоў у нябыт. І так мільёны гадоў па крузе. Бясконцая гонка — ранак,

дзень, вечар, ноч, світанак — адзін за адным, бясконца. І хто іх вырак на падобную пакуту? Ва ўсяго ёсць аўтар. Нічога само па сабе ўзнікнуць не можа. Вось і Аліса таксама пабыла ў шкуры аўтара. Мімаволі стварыла мінулы дзень для Зорыча, але забылася, што насуперак усяму створаны табою свет для кагосьці, як правіла, заўсёды выходзіць з-пад твайго кантролю і жыве па сваіх законах. Нельга сябе выдаваць за Бога, калі дапамагаеш камусьці, і чакаць у адказ падзякі, таму што ў першую чаргу ты дапамагаеш сабе. Чыстая праўда, да якой, аднак, рэдка хто прыслухоўваецца, таму пасля ўсё часта заканчваецца расчараваннем. І хай Аліса памылялася, разважаючы так пра Зорыча, яна не шкадавала, што кідалася прыкрымі, непрыемнымі словамі ў ягоны адрас, атрымаўшы такія ж у адказ. Яна не лічыла сябе вінаватай перад ім, хоць і папрасіла прабачэння. Так, Аліса пагардліва глядзела на Лёву, шкадавала яго, таму што ён насамрэч выглядаў слабым і бездапаможным чалавекам, нягледзячы на ўсе яго веды і захапленне мастацтвам, якія ніяк не дапамогуць яму ў жыцці. Але ж Лёва не прыкідваўся лепшым, чым быў на справе (і гэта дужа падабалася Алісе), бо шчырасць па цяперашніх часах часцяком успрымаецца як раскоша або як дурасць. Яе кранула захапленне Лёвы пасрэднай прастытуткай. Калі б Лёва не падзяліўся з ёй сваімі адчуваннямі, не спяваў бы шлёндрам захопленых одаў, размовы, якая выйшла паміж імі, не здарылася б. Аднак ён не змог бы змаўчаць у любым выпадку, бо душа хлапечая наросхрыст расшпіленая. Зорыч проста не павінен быў вярнуцца ў інтэрнат да заўтра, зрэшты, як і Аліса. Несвоечасовасць — вечная драма, дзе ёсць ён і яна.

Паглыбленая ў разважанні, Аліса не заўважыла, як апынулася перад домам, у якім зняла кватэру да заўтра. Увайшла ў пад’езд, паднялася на апошні паверх. Кватэра сустрэла яе

недапітым каньяком, надкусанымі фруктамі і скамечанай пасцеляй у спальні. Нават не парупіліся прыбраць за сабой. Раніцай трэба будзе навесці тут чысціню і парадак. А пакуль спаць.

Аліса знайшла ў бялізнавай шафе ў вітальні чыстыя прасціны, узяла адну, каб заслаць ложак нанава з гігіенічных меркаванняў. Скарыстаныя прасціну і коўдру акуратна склала і паклала на банкетку. Зняла толькі верхнюю адзежу і абутак, лягла. Аднак заснуць не змагла. Ёй не давала спакою пытанне, дзе Мілер. Яна раўнавала яго да нянавісці, уяўляючы з іншай, з той, падобнай на Эмі Лі. Так можна з глузду з’ехаць. Аліса ўскочыла з ложка, наліла паўшклянкі каньяку і выпіла яго да дна маленькімі глыткамі, моршчылася пасля кожнага глытка. Фруктамі пагрэбавала.

Зірнула на тэлефон, які паклала па-над скарыстанай пасцельнай бялізнай, узяла яго і ў які раз набрала нумар Максіма Мікалаевіча. «Абанент выключаны ці знаходзіцца па-за доступам сеткі. Патэлефануйце пазней», — абыякава паведаміў жаночы голас. Хто б сумняваўся.

Аліса яшчэ выпіла каньяку, зноў лягла, цяжка апусціла галаву на падушку. Алкаголь аблытаў яе рукі і ногі стомленасцю і націснуў на павекі, быццам на выключальнік, пальцамі сну.

Яна прачнулася ад прыступаў млоснасці і ледзь паспела дабегчы да прыбіральні. Павалілася перад унітазам на калені. Жорсткія спазмы душылі яе, ціснулі на рэбры і перакрывалі кісларод. Аліса ванітавала, задыхаючыся і кідаючыся ў канвульсіях, пакуль не вызвалілася ад лайна, якое засмеціла яе вантробы. Са спіртным трэба завязваць. За апошні час сустрэчы з алкаголем занадта пачасціліся. Вялікі горад дрэнна ўплываў на дзяўчынку з правінцыі. Ён або раздушыць яе, або яна яго пераможа. Іншага не дадзена.

І Аліса яго адолее, таму што прайграваць не ў яе стылі. Трэба сабрацца, адключыць эмоцыі (яны першыя ворагі) і сціснуць волю ў кулак, нагадаць лішні раз, хто тут галоўны. Нічога складанага. Аліса неаднойчы рабіла падобнае.

Адчула палёгку.

Яна націснула пімпачку ў змыўным бачку, перайшла з прыбіральні ў ванны пакой, паглядзела на сябе ў люстэрка. Міжвольныя слёзы (вынік яе нядаўняга жаласнага стану) размазалі не змытую на ноч туш па ўсім твары. Змятая блузка вылезла з джынсаў і месцамі тапырылася. Аліса памыла твар і вярнулася ў спальню да туалетнага століка, каб прычапурыцца. На жаль, натуральны выгляд жанчыны звычайна не задавальняе саму жанчыну. Нафарбаваная жанчына — той жа рыцар, узброены і гатовы да бою. Гэта не яна прыдумала, але цалкам пагаджалася з выслоўем.

Скончыўшы з тварам, Аліса прынялася вядзьмарыць над блузкай. Яна зняла яе, адшукала прас, папырскала вадой, перад тым як прасаваць на засланым ложку. Папрасаваную блузку акуратна расклала на ложку і занялася ўборкай, хаця б касметычнай.

Пакусаныя фрукты Аліса выкінула ў смеццевае вядро пад ракавінай у кухні, рэшткі каньяку выліла ў ракавіну, пляшку адправіла ў сметнік. Потым падмяла кватэру.

Апоўдні прыйшла гаспадыня, маўкліва абышла кватэру, спынілася побач з банкеткай, на якой ляжалі складзеныя прасціны, пагардліва зачапіла іх паглядам і працягнула руку да Алісы, каб тая ўклала ў яе далонь ключы. Потым адчыніла ўваходныя дзверы, выправаджваючы дзяўчыну. Аліса сказала: «Да пабачэння» — і выйшла з кватэры. Далейшы яе шлях ляжаў у выдавецтва, дзе працаваў Максім Мікалаевіч. Яна мусіла паглядзець на так званую Эмі Лі і даведацца хоць што-небудзь пра Мілера.

Аліса накіравалася да прыпынку, каб сесці на трамвай, які ішоў да Камсамольскага возера. Дзесьці там знаходзілася патрэбнае ёй выдавецтва.

Падаў снег, але не густы, хутчэй гультаяваты, лянiва апускаўся з неба, нібы пёрка. Свяціла сонца, таксама гультаявата, бледным дыскам тырчала над галавой. Ветру наогул не было, ніякага. Мабыць, панядзелак распаўсюджваў уласную абломаўшчыну на ўсё, што панавала вакол, дзівячы апатыяй і маркотай, нібы вірусам. Цяжар першага дня працоўнага тыдня прытупляў пачуцці і ціснуў на плечы, прымушаў горбіцца і згінаць калені. Усе, каго сустракала Аліса па дарозе, здавалася, нічым не цікавіліся.

Пад'ехаў трамвай, спрэс запоўнены пасажырамі, сплюснутымі адзін аб другога. Аліса задумалася: як гэты натоўп з прыпынку, што кінуўся да адчыненых дзвярэй, быццам за выратаваннем, змесціцца ў салоне? Аднак змясціўся і нават захапіў з сабой Алісу (значная колькасць пасажыраў сышла, вызваліўшы месца для чарговых абраннікаў). Спусцеў трамвай на Тэатральным прыпынку, да канцавога ехала толькі адна Аліса, выйшла, разгублена агледзелася па баках, хоць незнаёмая мясцовасць яе ніколі не палохала. Яна нібы апынулася на сваёй вуліцы ў Коласава, дзе прыватныя дамы, абгароджаныя дварамі з аднаго боку, чаргаваліся з паваеннымі шматпавярховікамі з другога, а на дзіцячых пляцоўках, размешчаных каля самых пад'ездаў, сушылася памытая бялізна, панавешаная на бялізнавых вяроўках, нацягнутых на адмыслова ўбітыя слупы.

Дзіўна, але некалькі апытаных дзяўчынай выпадковых мінакоў пра выдавецтва нічога не ведалі. Аліса засумнявалася б у яго існаванні, калі б сваімі вачыма не бачыла ў інтэрнэце адрас. Яна зайшла ў краму, якая знаходзілася праз

дарогу ад трамвайных шляхоў, каб папытаць у прадаўшчыц. Адна, пажылая з выгляду, нават не прадаўшчыца, а хутчэй, прыбіральніца паказала, куды ісці.

Чатырохпавярховы будынак з зялёным дахам і міні-паркінгам сустрэўся Алісе праз некалькі хвілін. Ён і быў ёй патрэбны. На ганку курылі некалькі дзяўчат і абмяркоўвалі, мабыць, працоўныя моманты, бо занадта часта імі паўтаралася слова «каштарыс». Аліса ўвайшла ў фае з ахоўнікам каля лесвічнага пралёту злева і міні-бістро справа. Ліфта ў будынку не было.

Ахоўнік, сярэдніх гадоў, сівавалосы і гладкапаголены мужчына, пацікавіўся, чым ёй можа дапамагчы. Аліса адказала наўпрост. Той з ветлівай усмешкай сказаў ёй падымацца на чацвёрты паверх. Як Аліса зразумела, выдавецтва знаходзілася на чацвёртым паверсе, ніжнія займалі офісы розных фірмаў.

Ёй давялося прайсці калідорам да канца, каб уперціся ў дзверы прыёмнай, паралельна чытаючы таблічкі на дзвярах. Так яна даведалася пра наяўнасць спецыялізаваных аддзелаў, якія займаліся падрыхтоўкай дадрукарскай прадукцыі, паслядрукарскай і непасрэдна рэдактурай, а таксама бухгалтэрыі, аддзела кадраў, чагосьці там яшчэ, што, па вялікім рахунку, не выклікала цікавасці.

Аліса пхнула дзверы ў прыёмную і наткнулася на пагляд сакратаркі (дзяўчыны ў акулярах), які пакутліва вырашаў, важны яна госць ці так сабе. Цалкам яе ігнаруючы, Аліса мэтанакіравана рушыла да кабінета Меднікавай, чыё прозвішча ўбачыла на дзвярах.

— Выбачайце! — спрабавала затрымаць Алісу сакратарка, але неяк непераканаўча.

Таццяна Аляксандраўна (джынсавая пnative блузка з махрамі па рукавах, джынсавая доўгая спадніца, акуляры

на макушцы ў ролі абруча) стаяла каля акна, праглядаючы нейкія паперы.

— Мы прыйшлі, нас не чакалі, — прамовіла Аліса, адапхнуўшы сакратарку за парог і зачыніўшы за сабой дзверы. — Добры дзень, спадарыня Меднікава! — прывітала яна гаспадыню кабінета.

— Прабачце?! — няўцямна глядзела на яе Таццяна Аляксандраўна.

— Я падумаю, — скаламбурыла Аліса. — Вы сапраўды падобныя на Эмі Лі, — сказала, прыгледзеўшыся да жанчыны. — Толькі таўсцейшая і старэйшая за яе.

— Вы хто? — падышла да стала Таццяна Аляксандраўна і паклала на стол паперы. — І што вам трэба?

Звычайна да яе ўрываліся бесцырымонным чынам неадэкватныя аўтары, упэўненыя ва ўласнай геніяльнасці, з якімі Меднікава прывыкла мець справу, таму візіту гэтай дзяўчынкі не спалохалася, але тая відавочна не належала да «лекараў стамлёных нашых душ».

— Мне патрэбен Максім Мікалаевіч Мілер, — выразна вымавіла Аліса і падышла да стала Таццяны Аляксандраўны.

Меднікава адразу ж узгадала фота ў тэлефоне Мілера. Так, гэта яна, ягоная так званая дачка. Яна не верыла ў існаванне дарослай дачкі, якая ўзялася невядома адкуль. Убачыўшы яе на ўласныя вочы, паняверка гэтая яшчэ больш умацавалася.

— Мне ён таксама патрэбен, — сказала ў адказ.

— Ён тут? — спытала Аліса.

— Не, яго тут няма, — адказала Таццяна Аляксандраўна. — Ён звольніўся, — не стала ўтойваць, — перад выхаднымі.

— Навошта?

— Спытайце ў яго самога.

— Вы ведаеце, дзе ён? — учапілася позіркам Аліса ў вочы Таццяны Аляксандраўны хваткай бульдога.

Меднікава замяшалася.

— Вы ведаеце, дзе ён! — зразумела Аліса.

— Паслухай, дзяўчынка, — паспрабавала Таццяна Аляксандраўна пагаварыць з ёй, — усё не проста...

— Мне пляваць, — не хацела слухаць яе Аліса, — што там у вас было з Максімам Мікалаевічам, але раю забыць. Вы не патрэбныя яму, у адрозненне ад мяне. Вы старая, я маладая. Вы яму ніхто, а я яго дачка.

— Дачка? — засмяялася Таццяна Аляксандраўна і села ў фатэль.

— І не толькі, — не пярэчыла Аліса.

Смех Таццяны Аляксандраўны сціх. Яна не чакала, што Аліса так проста прызнаецца.

— Не чакалі? — усміхнулася дзяўчына. — Я кахаю яго. Ён кахае мяне. Не важна нават, хто мы адно аднаму.

— Неймаверна! — ізноў засмяялася Таццяна Аляксандраўна, але нейкім штучным смехам. — Як у дрэнным рамане.

— Не параўноўвайце жыццё з раманамі, — адрэагавала Аліса. — Нічога агульнага паміж імі няма. Мілер мой!

— Што ж, цалкам магчыма, — не адмаўляла Таццяна Аляксандраўна. — Але тое, што паміж вамі адбываецца, калі вы насамрэч бацька і дачка, ненатуральна!

— Гэта толькі ваша меркаванне, — сказала Аліса.

Мо адчуваючы віну і разумеючы, што ў Алісы з Мілерам узаемнае пачуццё і супрацьстаяць гэтаму немагчыма і бессэнсоўна, Таццяна Аляксандраўна здалася. Хацелася хоць неяк уразіць нахабную госцю.

— Ён у бальніцы, — прамовіла яна, напісала на зваротным баку лістка перакіднога календара адрас, працягнула яго Алісе: — Вось адрас.

Аліса паважліва паглядзела на Таццяну Аляксандраўну, узяла лісток, прачытала адрас і ўсунула яго ў кішэню паўпаліто.

— Дзякую, — сказала яна, імкліва пакінула кабінет.

# 13

Раніцай Таццяна Аляксандраўна прачнулася ад сабачага брэху. Інгус патрабаваў сняданку, ён прывык есці ў адмыслова адведзены час яшчэ за ранейшымі гаспадарамі. Давялося ўставаць.

Таццяна Аляксандраўна села на край ложка, звесіла ногі. Нейкая раптоўная сіла адкінула яе назад, да падушкі, але яна ўтрымала раўнавагу, страсянула галавой і тут жа пашкадавала аб гэтым. Быццам сотні малаточкаў загрукалі ў скронях і ў патыліцы. Таццяна Аляксандраўна абхапіла галаву рукамі, загадваючы малаточкам замоўкнуць. Вочы заплюшчваліся, адмаўляліся глядзець на свет. Перасохлы рот патрабаваў вільгаці. Сухі шурпаты язык церся аб зубы. У спальні было цёмна, Таццяна Аляксандраўна павалілася на падушку, але пацягнулася рукой да таршэра, намацала выключальнік, націснула на яго. Святло, хоць і цьмянае, быццам нажом паласнула па вачах і яны лопнулі. На іх месцы ўзніклі чырвоныя мігатлівыя кропкі, мільён чырвоных мігатлівых кропак. Яна прамаргалася — зрок вярнуўся. Побач ляжаў Мілер, паглыблены ў сон, як у труну. Што за насланнё, халера нейкая! З Мілерам Таццяна Аляксандраўна разбярэцца потым. Праз не магу яна зноў села, звесіла да падлогі ногі, сунула іх у тапкі, устала, пахіснулася, быццам ад стрэлу. Дапяўшы да кухні, падста-

віла конаўку пад уключаную ў кране ваду, прыпала вуснамі да яе жыватворнай сілы. Піла вялікімі прагнымі глыткамі. Нібыта палягчэла. Сняданак Інгусу яна прыгатавала з вечара, таму, накінуўшы куртку, проста вынесла міску сабаку, які заматляў пры яе з'яўленні хвастом. Хрумкай, дарагі! Пагладзіла яго і вярнулася ў хату, згатавала сабе каву. Падзеі мінулага вечара паўсталі ў памяці Таццяны Аляксандраўны. Нянавісць да Мілера захліснула і ледзь не забіла жанчыну, якая захлынулася кавай. Думкі таксама могуць быць забойцамі. Сваіх гаспадароў. Яна доўга кашляла, да рэзі ў вачах, да слёз, пакуль не пазбавілася наслання. Як ні дзіўна, гэта падбадзёрыла. Таццяна Аляксандраўна вырашыла ніколі больш не сустракацца ні пры якіх абставінах з Мілерам, прагнаць са сваёй хаты і надалей пра яго не ўспамінаць. Ён быў ёй гідкі. Яна ў ім расчаравалася як у чалавеку, але... Не як у мужчыне. Ці гатова яна страціць яго назаўжды? Чаму яна павінна рабіць выбар? Таму што Мілер таксама зрабіў. Пракляты эгаіст і хлус! Паплакацца да яе прыцёгся. Дрэнна яму, бедненькаму, няшчасненькаму, каханне да дачкі раздзірае яго на часткі! А пра яе, Таццяну Аляксандраўну, ён падумаў? Як ёй было выслухоўваць тую лухту, якую ён нёс? І не трэба спісваць яго вар'яцтва на тое, што творчыя людзі часам не зусім адэкватныя. Пісьменнікі, музыкі, мастакі — творцы, твою ж макаўку, каго не зачапі, усе з дэфектам. Адзін вуха сабе адгрыз, другі экскрэменты ўласныя жор, трэці пенай зыходзіў у падучай гарачцы, чацвёрты жонку і дзяцей расстраляў, пяты башку сабе знёс, шосты вены раскалупаў, сёмы... дзясяты... соты... Таццяна Аляксандраўна старанна ўзгадвала заганы ўсіх геніяў ад мастацтва і жахалася ад таго, што ўсё чалавецтва захаплялася пладамі мозгу маральных выродкаў. І як

яна раней не заўважала гэтага? Быў і такі, як Мілер (ён не самотны), таксама згараў ад жарсці да ўласнай дачкі, а пасля з’явілася «Лаліта». Іх варта ўсіх ізаляваць ад звычайных людзей! Чаму можа навучыць творчасць алкаголіка, дэбашыра і наркамана? Хоць яна ўключана ў абавязковую школьную праграму па літаратуры, і Таццяна Аляксандраўна асабіста на пачатку кар’еры ўдзёўбвала яго вершы ва ўразлівыя дзіцячыя душы! Тваю макаўку! Так і да сусветнай змовы ўрада супраць народа дадумацца можна. Каб гэтага не здарылася, трэба забыцца пра Мілера. Хай робіць, што хоча, але так, каб Таццяна Аляксандраўна нічога не ведала. Ды як жа не ведала, калі яна ведала ўжо ўсё наперад! У любым выпадку Мілеру не месца ў яе хаце.

Таццяна Аляксандраўна вярнулася ў спальню, пачала катурхаць Мілера, каб ён прачнуўся. Але той не варухнуўся.

— Уставай зараз жа, — выгукнула яна, — і вымятайся з маёй хаты! Чуеш мяне? Ці я не да цябе звяртаюся!

Мілер ляжаў нерухома, ні на што не рэагуючы.

Таццяна Аляксандраўна пхала яго, шчыкала, біла па шчоках, нават скаціла з ложка на падлогу, дзе Мілер распластаўся, як укрыжаваны Хрыстос. Нічога не дапамагала. І тады яна ўзгадала, што падсыпала яму снатворнага, і спалохалася, што Мілер памёр, што яна забіла яго.

Паніка ахапіла Таццяну Аляксандраўну, накрыла сабой, нібы празрыстым каўпаком. Страх запоўз у душу чорным павуком і прыняўся грызці яе вантробы. Таццяна Аляксандраўна забралася з нагамі на ложак, быццам той быў ратавальнай выспай, замест таго, каб тэлефанаваць у хуткую. Яе разгубленасць не мела межаў, разам з панікай і страхам уяўляла грымучую разбуральную сумесь, накіраваную на свядомасць. Раз-пораз Таццяна Аляксандраўна пазірала на цела Мілера ў спадзеве, што яно знікла. Ёй хацелася, каб гэта быў

дурны сон. Яна сядзела і грызла пазногці, як у дзяцінстве, калі чагосьці палохалася і хавалася ў шафе.

Нечакана задзынькаў тэлефон з-пад падушкі. Таццяна Аляксандраўна звычайна яго на ноч пакідала там, выкарыстоўвала замест будзільніка. Хапанула яго, націснула «адказаць» і пачула Ленку. Што магло спатрэбіцца сяброўцы ад яе зранку? Але ці не ўсё роўна, калі яе можна папрасіць аб дапамозе. Таццяна Аляксандраўна не стала слухаць Ленку, хутка-хутка пачала гаварыць:

— Я забіла яго, я забіла яго, я забіла яго, я забіла яго...

— Не зразумела, Тань, — адгукнулася Лена.

— Я забіла яго, я забіла яго, я забіла яго...

— Таццяна, што здарылася? — голас Букоўскага.

— Я забіла яго, я забіла яго, я забіла яго...

— Паехалі да яе. Хутка! — загадаў Букоўскі Ленцы, і сувязь перапынілася.

Таццяна Аляксандраўна вярнула тэлефон пад падушку, спалохана глянула на нерухомага Мілера. Падабраўшы пад сябе ногі, яна абняла аберуч калені. Мозг яе ліхаманкава шукаў выйсця, быццам зняволены вязень у каменным мяшку. Няма сумневаў, што яна пакарана за здраду каханню. Таццяна Аляксандраўна не павінна была папракаць Мілера ў тым, што ён таксама кахаў. Але ж не яе! Ганарыстасць кіравала Таццянай Аляксандраўнай у той момант, калі яна спрачалася з Мілерам, спрабуючы адкрыць яму вочы на стан рэчаў, сэнс якіх быў ёй невядомы, але правай яна лічыла толькі сябе. Таццяна Аляксандраўна палічыла Мілера сляпым, які заблукаў у гэтай слепаце і не меў моцы адрозніць рэальнасць ад фантазій. Яна была ўпэўнена, што ён перасягнуў рысу, што падзяляў яе свет ад свету яго раманаў. Думала, што мае права вырашаць яго лёс самастойна, без падтрымкі вышэйшых сіл. Цяпер

ёй вечна гарэць у пекле, калі Мілер памёр. Яго ўздымуць як генія чыстай прыгажосці, а яе выставяць псіхапаткай. І заслужана. Ды няхай ён кахае, каго хоча, хоць гэтую дачку, што ўзялася невядома адкуль, хоць Анджэліну Джолі, толькі б быў жывы! Каму ад гэтага дрэнна? Толькі ёй, Таццяне Аляксандраўне Меднікавай, перажыве як-небудзь. Каханне — заўжды ахвяра, а не ўзнагарода. Чаму павінна быць інакш? Таццяна Аляксандраўна спадзявалася, што годная яго, начапіла на грудзі, як медальку, і атрымала ў каршэнь. Але чаму? Чаму адным усё, іншым нічога? Чым горшая Таццяна Аляксандраўна за дзяўчынку, у якую закаханы Мілер, да таго ж, магчыма, дачку? Гэта ж трызненне! Ізноў ганарыстасць? Максік, міленькі, ты толькі не памірай, калі яшчэ не памёр!..

Таццяна Аляксандраўна зноў ціхенька зірнула у бок Мілера.

У двары забрахаў Інгус.

Хтосьці прыйшоў.

У дзверы пастукалі і пазванілі адначасова.

Таццяна Аляксандраўна асцярожна спусціла ногі на падлогу, на дыбачках абышла Мілера і вобцас кінулася да дзвярэй, адчыніла іх і павалілася на рукі Букоўскаму, які паспеў яе падхапіць.

— Алекс! Алекс! — забожкала яна, павісла ў яго на шыі, чапляючыся за яго магутную постаць, бы за слуп, нібы хацела схавацца ад усяго і ўсіх.

— Гэй, сяброўка, — здзіўлена ўтаропілася ў Таццяну Аляксандраўну Лена, — ты нікога не пераблытала?

Букоўскі сурова нахмурыўся на Лену, маўляў, не бачыш, дзяўчынка розум страціла, рэўнасць тут недарэчы, і, прытрымліваючы Таццяну Аляксандраўну за спіну, рушыў у вітальню. Лена паспяшалася за ім, зачыніла дзверы.

У кухні Букоўскі паспрабаваў адчапіць ад сябе гаспадыню хаты, але тая, нібы спалоханае кацяня, яшчэ мацней ухапілася за сваё, як яна думала, выратаванне.

Лена не магла на гэта глядзець, адвярнулася і пайшла па пакоях. Убачанае ў спальні цела Мілера, распластанае на падлозе, прымусіла яе заверашчаць сірэнай. Адразу побач з'явіўся Букоўскі з Таццянай Аляксандраўнай на руках, якую ўрэшце атрымалася скінуць на ложак, дзе яна і зацiхла, уткнуўшыся тварам у падушку.

Букоўскі схіліўся над Мілерам, праверыў пульс.

— Выклікай хуткую тэрмінова! — загадаў Лене.

— Ён жывы? — заплаканымі вачыма часта-часта залыпала тая.

— Пакуль, — пачула адказ і, не марудзячы, кінулася да дыскавага тэлефона, які знаходзіўся ў гасцёўні на падаконні, забыўшыся пра мабільны ў кішэні.

Таццяна Аляксандраўна прыпадняла галаву, як пачула, што Мілер жывы, і ўсе яе страхі растварыліся ў паветры, быццам знішчаныя здані. Цяпер яна злавалася на яго. Мілер прымусіў яе паводзіць сябе як дуркаватую. Таццяна Аляксандраўна цудоўна памятала кожную секунду свайго неадэкватнага стану, выкліканага шокам, у якім вінаваты быў Мілер. Як ён асмеліўся наогул... не памерці? спаганіць ёй жыццё? выкарыстаць?..

— Ён сапраўды жывы? — прамовіла Таццяна Аляксандраўна.

— Не чую радасці ў голасе, — азваўся Букоўскі і ўтаропіўся ў яе: — Ці ты не рада?

— Ужо і не ведаю, — шчыра адказала Таццяна Аляксандраўна. — Усе эмоцыі скончыліся.

— Чаму адразу хуткую не выклікала? — дапытваўся Букоўскі.

— Я была ўпэўнена, што ён мёртвы.

— З чаго б? — спытаў ён.

— Учора ўвечар падмяшала яму снатворнае ў гарэлку.

— Навошта? — не разумеў Букоўскі.

— А я ведаю! — тузанула плячыма Таццяна Аляксандраўна. — Магчыма, не жадала нікуды адпускаць.

— Ён кудысьці збіраўся? Ад цябе?

— Ад мяне, — уздыхнула Таццяна Аляксандраўна. — Ты ў курсе, што твой сябар закаханы ў дзяўчынку, якая выдае сябе за яго дачку? — заявіла праз паўзу.

— Што, прабач? — Букоўскі не паверыў ніводнаму яе слову і крыва ўсміхнуўся.

— Трэба ж, ён з табой нават не падзяліўся, — заўважыла Таццяна Аляксандраўна, — толькі адной мне душу расхінуў. Ненавіджу! — і ўскочыла, каб даць выспятка крыўдзіцелю.

— Сядзь! — нямоцна пхнуў яе Букоўскі, і яна ляпнулася на ложак.

Прыбыла хуткая. Надзіва аператыўна.

Доктар праверыла ў Мілера пульс, зазірнула ў вочы, адцягнуўшы павекі ўгару. Спытала, што здарылася. Букоўскі распавёў ёй тое, што паведаміла яму Таццяна Аляксандраўна. Доктар засмучана паматляла галавой і адправіла медбрата за насілкамі. Букоўскі дапамог вынесці Мілера з хаты да машыны хуткай дапамогі. Лена неяк дзіўна зірнула на Таццяну Аляксандраўну, не пазнаючы яе. Тая безуважна назірала за тым, што адбывалася ў яе хаце, і была рада, калі засталася адна. Яе непрыемна ўразіла будзённасць у паводзінах доктара хуткай. Яна разумела, што для той падобныя выпадкі руціна, а не падзея, якая выбівае чалавека з жыццёвай каляіны. Чалавечае жыццё — нішто. Ніхто не заўважыць твайго сыходу. Ні для кога твая смерць не стане трагедыяй, хіба што для бацькоў, калі яны цябе перажывуць, і тое не назаўжды.

Значна лепш і беражліва ставяцца да рэчаў, якія і пасля смерці ўладальніка будуць існаваць і належаць іншаму ўладальніку, трэцяму, дзясятаму.

Таццяна Аляксандраўна сцепанулася: толькі цяпер заўважыла, што з адзежы на ёй толькі ніжняя бялізна. Сорам які! Ну і пляваць. У яе шыкоўнае цела, так што саромецца няма чаго.

Яна скінула з сябе і тое, што было, паспяшалася ў душ, каб сагрэцца і ачысціцца ад бруду, які прынёс з сабой Мілер, дамовіцца з сабой. Жыватворныя струмені вады папрацавалі над целам і душой Таццяны Аляксандраўны добра, зрэшты, як і заўсёды. І толькі ў іх абдоймах Таццяна Аляксандраўна пачувалася шчаслівай і патрэбнай.

Супакоеная і задаволеная, яна не без шкадавання пакінула душавую кабіну, чыя маленькая прастора валодала маштабам бязмежных глыбінь. Дзынькнуў тэлефон, паведамляючы пра прапушчаны выклік. Пакуль Таццяна Аляксандраўна атрымлівала асалоду ад дотыкаў вады, Ленка спрабавала да яе датэлефанавацца. Яна набрала нумар сяброўкі.

— Штосьці здарылася? — спытала адразу ж, як толькі Ленка зняла трубку.

— Гэта ты мяне пытаеш? — у яе голасе Таццяна Аляксандраўна лёгка распазнала здзіўленне. — Я не пазнаю цябе, Тань! Гэта не ты, ачуйся! — перайшла яна ў наступ па выратаванні душы.

— Я пытаю таму, што ў мяне ўсё добра, — абыякава прамовіла Таццяна Аляксандраўна, яна зручна ўладкавалася ў фатэлі і закінула нагу за нагу, — упершыню за... некалькі дзясяткаў гадоў.

— Табе зусім нецікава, што з Мілерам?

— Не. А хто гэта?

— Ты ж кахала яго!

— Ну, пакуль хацела, я кахала, цяпер не хачу. Дый не заслугоўвае ён майго кахання. Хто ён такі? Жаласны пісака, чые творы адкідае кожнае паважанае выдавецтва, я падкрэсліваю, кожнае, без будучыні! — з задавальненнем ахарактарызавала Таццяна Аляксандраўна Мілера.

— Ты няпраўду кажаш, — запярэчыла Лена. — Я чытала яго кнігі. Калі хочаш ведаць маё меркаванне...

— Калі ласка, давай без гэтага, — перапыніла яе Таццяна Аляксандраўна.

— І ўсё ж я скажу, — настаяла Лена. — Кожнае паважанае выдавецтва паразітуе на масавым псіхозе атупення і дэградацыі, выдаючы нікчэмныя кніжачкі нікчэмных аўтараў, і само тупее разам з імі. Калі ў кнізе прысутнічаюць разважанні і філасофія, то яна лічыцца цяжкай і нават шкоднай для чытача, якому акрамя дзеяння, крыві і сексу на яе старонках, нічога не трэба.

— Канчай, Ленка, агітацыю! — асадзіла сяброўку Таццяна Аляксандраўна. — Мілер — дрэнны пісьменнік, яго раманы нудныя і нікому нецікавыя. Уздымай яго да нябёсаў, прылічай да геніяў — маё меркаванне не зменіцца. Павер мне, я маю рацыю. Столькі гадоў у кніжным бізнесе!

— Праўда, што ў бізнесе, — падлавіла яе Лена. — І аўтары твае таксама бізнесмены.

— Карацей, — спыніла непатрэбную ёй балбатню Таццяна Аляксандраўна, — навошта тэлефанавала?

— Мілер у коме, — паведаміла Лена, — у чацвёртай клінічнай.

— Гэта ж за крок ад маёй хаты, — узгадала Таццяна Аляксандраўна.

— Праўда што, — пацвердзіла Лена. — Справа, вядома, твая, наведаць Мілера ці не. Але гэта ты яго ледзь

не адправіла на той свет. Доктарка сказала, што яму заставалася паўгадзіны да спынення сэрца. Калі ён выйдзе з комы — невядома, і ці выйдзе, таксама.

— Мілер мяне смяротна абразіў і зняважыў, — сказала Таццяна Аляксандраўна. — Мне фіялетава, што з ім будзе.

— У такім разе, — уздыхнула Лена, — не тэлефануй мне больш, калі ласка, ніколі. Бывай!

— Ды вельмі трэба! — выгукнула Таццяна Аляксандраўна ў трубку, але Лена ўжо адключылася. — Пайшлі вы ўсе! — выплюнула ў паветра.

Расчараванне ў чым-небудзь ці ў кім-небудзь — злая сіла, разбуральная. Ты разумееш, што рабіў штосьці не так і не тое, хоць насамрэч віны тваёй няма, так ты лічыш. Аднак усё зусім інакш і нашмат складаней. Таццяна Аляксандраўна не хацела паглыбляцца ў складанасці таго, што паслужыла для яе расчараваннем, але сумневы ўсё ж адольвалі яе. Яна ж не такая дрэнная, як, магчыма, пра яе падумала зараз Ленка. Гэта ўсё Мілер. Як зручна ён усё разлічыў, выставіў сябе ахвярай, а яе ледзь не монстрам. І не сорамна яму, мужчыну, быць ахвярай? Хоць калі разабрацца, то ахвяра якраз Таццяна Аляксандраўна! Ах, гэтыя цяперашнія сучасныя мужчыны! Слабакі, анучы, ледзь што — у кому ці пад мамчыну спадніцу. Безыніцыятыўныя, безадказныя гультаі і дармаеды.

Таццяна Аляксандраўна перасмыкнула плячыма, паглядзелася ў люстэрка. Шыкоўная баба! Толькі няўдачлівая. Усё жыццё натыкаецца, быццам сляпая, на кволых, нервовых «творцаў» з амбіцыямі і прэтэнзіяй на выключнасць ды геніяльнасць, у якіх потым страшэнна расчароўваецца. Але першапачаткова чамусьці такія ёй падабаюцца! Значыць, з ёй таксама не ўсё добра, калі цягне да «недасканалых» і «нямоглых».

Выснова адна, і яна відавочная: больш ніякіх творчых асоб у яе жыцці. Зрэшты, зарок гэты не першы.

І не ўпершыню Таццяна Аляксандраўна такая катэгарычная ў стаўленні да мужчын. Яна ўсё ж жанчына, таму ёй уласцівыя літасць, спачуванне і прабачэнне, тым больш для Мілера. Таццяна Аляксандраўна і кахала яго, і ненавідзела, хаця той заслугоўваў яе нянавісці. Аднак нашкодзіць яму яна не хацела і зла не жадала, хіба што ў гарачцы. Зразумела, Таццяна Аляксандраўна адведае Мілера ў бальніцы, купіць яму вітамінаў, дазнаецца пра яго здароўе, абавязкова пагаворыць з дактарамі... Зараз толькі апранецца, прывядзе сябе ў парадак і вып’е кавы.

# 14

Алісе хапіла адно кінуць вокам на бледны нерухомы змардаваны твар Мілера, каб вырашыць для сябе, хто вінаваты і што з гэтым рабіць. Яна не мела патрэбы ў тлумачэннях пра тое, як Мілер апынуўся ў падобным стане. Бо ведала і так.

Яе тонкая постаць балансавала на мяжы паміж дабром і злом. Калісьці трэнер па кікбоксінгу перасцерагаў Алісу: нельга, маўляў, дазволіць лютасці падпарадкаваць цябе, што б ні здарылася. Лютасць — твой самы страшны вораг, а не саюзнік, не памагаты. Здарылася няшчасце з Мілерам — і вось яна, падстава для лютасці. Аліса тым не менш дазволіла лютасці ўвайсці ў сваё сэрца і адразу ж адчула палёгку. Яна зрабіла правільны выбар. Лютасць расцякалася, нібы кроў, па яе венах, напаўняла (зараджала) сабой кожную клетку цела, імкнучыся патрапіць у душу Алісы, каб цалкам падпарадкаваць сабе. Лютасць жа прызначыла і вінаватых, асляпіла Алісу, пазбавіла яе разумнага мыслення. Зрэшты, дзяўчына і без гэтага верыла лютасці і не сумнявалася ў яе праваце. Але адной ёй не справіцца. Дапамога Флора спатрэбіцца як ніколі, да таго ж ён ведаў ворага Алісы ў твар. Дзякуючы лютасці яна пераканала сябе ў тым, што толькі блатныя маглі нашкодзіць Мілеру, таму і адкажуць за зробленае. Ёй зручна было так лічыць, яна жадала, каб так было, і прагнула помсты — неадкладнай і жорсткай.

Каб дзейнічаць напэўна, трэба было дазнацца, дзе менавіта знаходзіліся цяпер Сазан і яго сябрукі, колькі іх і на што яны здатныя. Аліса не сумнявалася, што заспее Сазана ў «Любы», але праверыць не замінала б, перш чым тэлефанаваць Флору. Гэта яна і зрабіла.

Дзень, цьмяны і самотны, згасаў, бы хворы на сухоты. «Ім бы панядзелкі ўзяць і адмяніць. …І маглі бы жыць», — круціліся радкі старой песні ў галаве Алісы. Аднак словы заўсёды застаюцца словамі, не больш.

«Любавушка» па панядзелках не працавала, як і ўсе рынкі ў Мінску. Як яна магла забыцца пра гэта? Зрэшты, яна проста гэтага не ведала. Стоячы побач з зачыненым шынком, Аліса кусала ад прыкрасці вусны і нервова сціскала і расціскала пальцы ў кішэнях паўпаліто. Не пашанцавала. Але так проста яна не здасца. Такія, як Сазан, не сядзяць у хаце нават па панядзелках. Аліса сапраўды лічыла, што зможа яго знайсці, трэба толькі засяродзіцца і падумаць. Яна заплюшчыла вочы, убачыла сябе збоку: самотную постаць на бязлюднай прасторы горада, якая пакрысе запоўніцца ажыўленай плынню пешаходаў і транспартным рухам праз паўтары гадзіны, калі скончыцца працоўны дзень. Лютасць корпалася ў галаве Алісы, перабірала, як карткі, пласты яе памяці ў пошуках адказу.

Стоп!

Аліса расплюшчыла вочы.

Трэба ехаць у Серабранку. Гэта ж відавочна. Сазан жыў у тым раёне. А значыць, завісаў цяпер... у «ГІПА» на праспекце Ракасоўскага. Апошнюю фразу Аліса прамовіла ўголас і паспяшалася да метро.

Упэўненасці ў тым, што заспее Сазана ў піцэрыі-бары на другім паверсе «ГІПА», у яе не было, аднак лютасць вяла яе і дзяўчына падпарадкавалася гэтай эмоцыі без ваганняў.

На «ГІПА» маркотныя флюіды панядзелка не распаўсюджваліся. Ён кішма кішэў наведвальнікамі ўсіх узростаў, аглушаў шумам, асляпляў яркім святлом лямпаў і шыльдаў буцікоў.

Не спыняючыся, не аглядаючыся, Аліса паднялася па шырокіх лесвічных прыступках на другі паверх і ледзь не выдала сябе. Сазан сядзеў у самым цэнтры піцэрыі ў асяроддзі «сяброў» на мяккіх сядушках і выдыхаў цыгарэтны дым у столь. Аліса рэзка павярнулася да яго спінай, спадзеючыся, што яе не заўважылі, і шмыгнула ўбок. Цяпер можна тэлефанаваць Флору.

Яна дастала тэлефон, набрала яго нумар.

— Слухаю, — адгукнуўся Флор праз пару гудкоў.

— Прывітанне, Флор, патрэбная твая дапамога! — на адным дыханні выпаліла Аліса.

— Што-што? — нічога не разабраў Флор, акрамя гучнага шуму і няўцямных галасоў.

— Мой тата ў коме! — грамчэй звычайнага прамовіла Аліса і азірнулася, упэўненая, што ўсе вакол застылі і прыслухоўваліся да яе голасу. Аднак людзям было абыякава ўсё ў гэтым тлуме гукаў і пахаў.

— Спачуваю, — прамовіў Флор і спытаў: — Ты дзе знаходзішся? Ад цябе фаніць дзіка! Давай лепш эсэмэсні ці выйдзі, дзе цішэй.

Аліса пагадзілася з Флорам і выйшла на вуліцу. Вартаваць Сазана не было сэнсу, усё адно ён нікуды ад яе не падзенецца.

— Чуваць мяне зараз? — спытала Флора пасля.

— Так, цяпер лепей, — адказаў той.

— Мне патрэбная твая дапамога! — рашуча сказала Аліса. — Я ў «ГІПА» ў Серабранцы.

— Гэта тыя ж самыя? — пацікавіўся Флор.

— Тыя ж, — не адмаўляла Аліса.

— Завошта ж яны так незалюбілі твайго бацьку? — уголас падумаў Флор. — «Мусара» куды глядзяць? Ці яны не ў курсе?..

— Ты мне дапаможаш? — нецярпліва перабіла яго Аліса.

— Дый дапамагу, — супакоіў яе Флор, — толькі пытанняў шмат.

— Я ж казала, ведаю не больш за цябе!

— Вельмі падобна на тое, што ты хочаш распачаць асабістую вендэту, — здагадаўся Флор.

— Нават калі і так, гэта штосьці змяняе? — ледзь не шыпела ў трубку Аліса.

— Ды не зусім, — уздыхнуў Флор.

— Што цябе бянтэжыць тады?

— Наступствы. Ты гатова да іх? Помста — тое пачуццё, якое можа забіць цябе.

— Ці ты гэта, Флор? Я цябе не пазнаю! — Аліса відавочна была збянтэжана.

— Калі твае ворагі ці ворагі твайго бацькі адправілі яго ў кому, — паспрабаваў апраўдацца Флор, — то яны гатовы да вялікай крыві, праз якую перакрочаць і не паморшчацца. Калі яны пайшлі на такое, значыць, яны ведаюць, што ты зробіш таксама крок да іх, і чакаюць цябе. Могуць трапіць пад раздачу зусім чужыя людзі, калі адбудзецца сутыкненне бакоў.

— Ты прапануеш прабачыць і забыцца? — шыпела Аліса, як змяя.

— Я прапаную не спяшацца з высновамі.

— Карацей, цябе не чакаць?

— Не совайся да іх адна!

— Я змагу за сябе пастаяць! — заявіла Аліса і скончыла размову, бо не бачыла сэнсу працягваць.

Яна вярнулася ў «ГІПА», паднялася на другі паверх, да піцэрыі.

— Добры вечар! — побач з Алісай матэрыялізавалася з паветра, нібы па нечай варажбе, ветлая афіцыянтка ва ўніформе ўстановы. — Вы адна ці чакаеце гасцей? Вам столік для тых, хто курыць, ці тых, хто не курыць? Аддаяце перавагу алкагольным напоям ці так сабе, пакуль будзеце чакаць піцу? Аберацe самі піцу ці вам падказаць?.. — закідала пытаннямі.

— Добра, — выхапіла Аліса меню ў афіцыянткі, якая дзейнічала ёй на нервы, — столік для тых, хто не курыць.

Афіцыянтка азірнулася вакол і пасля з дзяжурнай усмешкай паведаміла:

— На жаль, на дадзены момант усе месцы для тых, хто не курыць, занятыя, але вы можаце скарыстацца столікам у куце для тых, хто курыць, або пачакаць, пакуль вызваліцца месца для тых, хто не курыць.

— Няма калі чакаць! — накіравалася Аліса да вольнага століка, затуляючыся афіцыянткай, нібы шчытом, ад вачэй Сазана і яго асяроддзя. Ёй трэба падумаць, як дзейнічаць. У адкрытую нападаць дурное, хай лютасць і не згодна з яе рашэннем.

Столік падыходзіў ідэальна. Месца размяшчэння рабіла яго амаль незаўважным, а прыглушанае святло і перагародка спрыялі гэтаму яшчэ больш. Тым часам таму, хто сядзеў за столікам, адкрывалася ўся панарама піцэрыі ў цэлым. Сазан і яго таварышы былі ў Алісы як на далоні.

Яна замовіла апельсінавага соку.

— А паесці? — заклапочана спытала афіцыянтка.

— Я не хачу есці, — холадна адказала Аліса.

— Шкада, — уздыхнула афіцыянтка, — а то я магла б прапанаваць...

— Соку. Апельсінавага! — цвёрда вымавіла Аліса.

— Зразумела, — запісала яе замову ў нататнічак дзяўчына і знікла.

Аліса абаперлася локцямі аб столік і пазірала на Сазана. Яе лютасць патрабавала загубіць ягонае жыццё.

Ён весяліўся. Забаўляў сябе і тых, хто яго атачаў. Яны так рагаталі, што ўсе наведвальнікі піцэрыі мімаволі азіраліся на выбухі жывёльнага, нечалавечага смеху. Ім было пляваць, што ў памяшканні прысутнічалі дзеці і цяжарныя жанчыны. Дый якой культуры паводзін можна чакаць ад імбецылаў?!

Аліса памылялася, калі думала, што Сазан яе не заўважыў. Ён убачыў яе адразу. Але Сазан ведаў, што дзяўчына вернецца, і не памыліўся. Ён чакаў яе і цікаваў за ёю, калі тая вярнулася. Яго крыху здзівіла, што Аліса прыйшла адна. Магчыма, яна зайшла ў піцэрыю проста паесці? Малаверагодна. Занадта далёка ад інтэрната, у якім яна жыла, да таго ж, калі б захацела падсілкавацца, магла б знайсці штосьці і бліжэй. Чаму ж яна тут? Чаму яму здаецца, што Аліса прыйшла за ім? Гэта яму патрэбен быў рэванш, а не ёй. Зрэшты, навошта варажыць, што да чаго? Можна ж падысці і спытаць. Адна яна бяскрыўдная. Дурная дзяўчынка, саманадзейная дзяўчынка. Сазан яе ненавідзеў, як і ўсё дзівоснае. Яго стаўленне да прыгажосці было скажона настаўніцай рускай літаратуры ў школе, якая прымушала заставацца пасля ўрокаў і вучыць на памяць вершы. З іх пачалася непрыязнасць, нават нянавісць, Сазана да мастацтва і ўсяго прыгожага, у тым ліку жанчын. Сазан ставіўся да іх грэбліва, з гідлівасцю. Чым прыгажэй была жанчына, тым больш у ёй Сазан бачыў бруду. Ён зваў іх упырыцамі, пасля кожнай блізкасці з імі старанна змываў з сябе нават намёк на прысутнасць жаночага дотыку. Алісу ён таксама хацеў скарыстаць, але не сам, а разам са сваімі бандзюгамі, пасля чаго пасекчы на кавалкі і раскідаць тыя кавалкі па сметніцах горада. Сазан не сумняваўся, што

дзяўчына трапіць у пастку, якую ён толькі што прыдумаў. Як ні круці, а ўсё ж яе з'яўленне павязана з ім. Ён не ведаў прычыны, але абавязкова даведаецца.

Шапнуўшы на вуха колькі слоў траім блізкім таварышам, Сазан падняўся са свайго месца за столікам, папярэдзіў астатніх, што мусіць адлучыцца па патрэбе, і накіраваўся да аркавага праходу побач з касай і кухняй, які вёў да прыбіральняў і службовых памяшканняў.

Аліса, як ён і меркаваў, рушыла за ім. Яна зняла паўпаліто, таму што стала вельмі горача, паклала яго на крэсла каля століка, тэлефон пакінула на століку. Яе застапарыла афіцыянтка з апельсінавым сокам на падносе.

— Куды вы?! — здзівілася яна, сутыкнуўшыся з Алісай. — Ваш сок!

— Пакіньце на стале, — працадзіла Аліса, абыходзячы афіцыянтку. Позірк яе быў скіраваны ў спіну Сазана.

Лютасць Алісы цешылася. Сазан, заняты прыроднай патрэбай, быў проста падарункам лёсу.

Дзверы ў прыбіральню аказаліся адчыненымі. Зачынялася толькі кабінка, у якой замкнуўся Сазан. Аліса пачакае яго. Прыглушанае святло таксама ёй на руку. Пра тое, што сюды мог увайсці хто-небудзь яшчэ, Аліса не падумала. Яна разлічвала на хуткасць. Але што збіралася з ім зрабіць? Забіць? Пакалечыць? Лютасць галасавала за першае.

Усё ж не перашкодзіла б засцерагчы сябе ад непажаданых сведкаў. У любую секунду мог нехта ўвайсці. Аліса замітусілася ў… пошуках чаго?.. Яна не ведала.

Раптам дзверы расчыніліся, і ў памяшканне ўвайшлі трое, загарадзілі сабою выхад. Аліса адразу зразумела, хто яны. Яе правялі. Але чамусьці не нападалі.

Яна ўдарыла першай. Лютасць, што клекатала ўсярэдзіне, вырвалася вонкі, нібы лава на Пампеі.

Аднак штосьці было не так. Вузкае памяшканне скоўвала рухі. Яе ўдары без размаху не мелі той сілы, на якую яна разлічвала, таму вельмі хутка аказалася ў ролі грушы для збіцця, хоць па інерцыі яшчэ абаранялася і нават праводзіла контратакі. Лютасць у Алісе захліпалася, губляючы надзею, што Аліса справіцца самастойна. Ну вось, яе ўменні і навыкі нічога не вартыя, яна асуджаная на ганебную паразу ў мужчынскай прыбіральні. Сорам і ганьба! Дазволіла адолець сябе? Гэтыя бандзюгі былі не менш дасведчаныя за Алісу ў байцоўскіх справах, за плячыма кожнага — не адна перамога на татамі і рынгу. Іх між тым дзяўчына бачыла ўпершыню. Але што з таго? Яна ўсё адно не памятала іншых. Гэтыя трое па-майстэрску ўхіляліся ад udaраў Алісы і наносілі ёй пашкоджанні, непараўнальныя ні з чым. У мозг Алісы ўсё мацней пасля кожнага прапушчанага ўдару ўсялялася думка, што злачынца яна, што яе спрабуюць затрымаць байцы сілавых ведамстваў і супраціў немагчымы, бо сабе ж Аліса і робіць горш. Толькі дзякуючы лютасці дзяўчына яшчэ стаяла на нагах, але воля яе была зламаная. Яна хацела здацца, каб спыніўся боль, які ўгрызаўся ва ўсе часткі яе цела зубастай ваўчынай пашчай.

Калі спачатку Алісу шкадавалі і наўмысна не білі па твары, то бліжэй да яе паразы ілжывая высакароднасць прайшла (мучыцелі былі раззлаваныя лютым супраціvам дзяўчыны). Стаміліся ўсе. Аднак Аліса па-ранейшаму трымалася на нагах. Яе збілі з ног дзверы кабінкі, да якіх яна стаяла спінай. Сазан удала падгадаў са сваім выхадам. Алісу адкінула наперад, проста на чыйсьці кулак. Нібы знішчальнік, які ішоў на таран, яна ўрэзалася ў гэты кулак ілбом і павалілася на падлогу пад ногі блатных. І страціла прытомнасць.

— Ты чо сделал, мудило? — накінуўся Сазан на таго, чый «геройскі» кулак нанёс страшэнны ўдар. — Нам тут только мокрухи не хватало!

— Она сама, — адзінае, што прыйшло ў галаву, буркнуў той.

Сазан апусціўся на кукішкі побач з Алісай, дакрануўся двума пальцамі да яе шыі. Яна дыхала. Твар схавалі валасы, мокрыя ад поту і крыві.

— Повезло, — выпрастаўся на ўвесь рост Сазан, звяртаючыся да ўладара кулака, — в вырубоне малая. Теперь надо по-тихому валить отсюда.

Ён нікому не дазволіў больш дакрануцца да яе. Узваліў сабе на плечы, як мяшок з бульбай, праўда, не такі цяжкі, і выйшаў у калідор службовага ўвахода. На паркоўцы стаяла іхняя машына.

Яны ўсе пасядуць у машыну і паедуць за трамвайнае кальцо. Там у адным з прыватных дамоў непадалёк ёсць падземны бункер. Пра яго мала хто ведае, таму што дом, дакладней хацінка над ім, належыць стрыечнай сястры Сазана, якая працуе на ўрад. Сазан таксама б не ведаў, але выпадкова знайшоў. Вось і добра, ім якраз туды.

— Спазніліся! — сплюнуў пад ногі Кашэня, у які раз аглядаючы перапоўненую залу піцэрыі ў «ГІПА», што гула, быццам сапраўдны вулей.

— Не нагнятай, — спыніў яго Флор.

— Сазана я таксама не бачу, — прагаварыў Сіплы.

— Добры вечар! — матэрыялізавалася перад Флорам афіцыянтка, тая самая, што знайшла столік Алісе. — Рада вітаць у нашай піцэрыі. Чым магу дапамагчы? Жадаеце столік для тых, хто курыць, ці наадварот? — прапанавала яна.

Флор, нядоўга думаючы, ткнуў ёй у твар свой тэлефон з фота Алісы на экране (паспеў наздымаць, калі сядзелі ў «Трох мушкецёрах»).

— Бачыла яе? — спытаў.

Афіцыянтка вылупілася на фота і часта-часта заківала галавой.

— Дзе яна? — зразумеў Флор, што дзяўчына гатова дапамагчы.

— Ідзіце за мной, — сказала афіцыянтка і паспяшалася да століка, да якога зусім нядаўна прынесла апельсінавы сок. Флор, Кашэня і Сіплы не адставалі.

Аднак Алісы на месцы не аказалася.

Яе паўпаліто і берэт ляжалі на крэсле, на століку — тэлефон і сок.

Флор дапытлівым позіркам зазірнуў у вочы афіцыянтцы, прыпадняў яе твар двума пальцамі за падбароддзе.

— Яна кудысьці спяшалася, — пралапатала афіцыянтка.

— Куды? — патрабаваў адказу Флор.

— У прыбіральню. Напэўна. Калі яе тут няма, значыць, яна яшчэ там, — шчыра адказала афіцыянтка.

Кашэня з Сіплым вобцас кінуліся да прыбіральняў, аднак нікога там не знайшлі і вярнуліся ні з чым.

— Калі яна пайшла ў прыбіральню? — не адпускаў афіцыянтку Флор.

— Хвілін дзесяць...

— Дзякуй, — сказаў ёй Флор і пацалаваў у патыліцу. Афіцыянтка ўсміхнулася, зрабіла кніксэн і пырхнула па сваіх справах.

Кашэня і Сіплы сінхронна паказалі яму на пальцах, што трэба было ўзяць у яе нумар тэлефона, пры гэтым па-змоўніцку пасміхнуліся.

Потым усе трое заўважылі блатных. Зрэшты, іх цяжка было не заўважыць і шумелі яны гучней за астатніх наведнікаў. Яны, мусіць, ведаюць, дзе іх сябра.

Сіплы зрэагаваў імгненна, не думаючы пра наступствы. Ён заскочыў з нагамі на стол блатных, падушыў падэшвамі

піцу і іншыя закускі, выцягнуў з-за пазухі ствол і гістэрычна загарлапаніў:

— Морды ў падлогу! Рукі на стол! Завалю на хер, піндосы!

Як ні дзіўна, пагроза падзейнічала. Блатныя падпарадкаваліся.

Аднак Флор нічога добрага ў безразважным, як ён тады палічыў, учынку Сіплага не бачыў. Сіплы рызыкаваў не толькі сваім жыццём, але і жыццямі наведнікаў, якія маглі патрапіць пад раздачу, калі б блатныя адрэагавалі на яго выхадку інакш. Магчыма, у кагосьці з іх таксама мелася з сабой зброя, якая магла пайсці ў ход у любую секунду.

Узнікла страшная, напружаная цішыня.

Нейкая нервовая дзяўчына за столікам непадалёк пачала вішчаць, але ёй горла хутка заткнулі спадарожнікі. Выбачыліся перад Сіплым, які гатовы быў сцерці на парашок бедную дзяўчыну ці спапяліць позіркам, калі б валодаў здольнасцямі людзей Ікс.

— Нічога не бойцеся! — паспяшаўся выправіць сітуацыю Кашэня, супакойваючы наведнікаў піцэрыі. — Заставайцеся, калі ласка, усе на сваіх месцах! Вам нічога не пагражае!

Флор ірвануў да Сіплага, каб не пагаршаць становішча. Адначасова Флор злавіў на сабе позірк дзяўчынкі гадоў шасці ў святочнай чырвонай сукеначцы, з бялявымі касічкамі ў белых бантах. Яна сядзела з бацькамі і іншымі сваякамі крыху воддаль, за столікам для тых, хто не курыць, і не зводзіла з Флора велізарных сініх вачэй. Мяркуючы па багаццю салодкага на стале, адзначалі яе дзень нараджэння. Прынамсі, так для сябе вырашыў Флор. Ён пажадаў ёй доўгіх гадоў жыцця і шчасця. Сёння нічога дрэннага з ёю не здарыцца. Нібы пачуўшы пажаданні Флора, дзяўчынка даверліва падміргнула яму і ўсміхнулася.

— Вольна! — сцягнуў ён са стала Сіплага, звяртаючыся да блатных. Тыя паднялі галовы, выпрасталіся.

Сіплы, аднак, не схаваў пісталет, па-ранейшаму цэліўся ў іх.

— Чо за беспрэдзел?! — нарэшце вырашыў хтосьці з блатных загаварыць.

— Пад кім ходзіце? — раўнуў яшчэ адзін.

Блатныя, зразумеў Флор, прынялі іх за нейкую групоўку такіх жа гіцаляў. Яны былі не тымі, з кім давялося сутыкнуцца нядаўна, больш сур'ёзныя. Зрэшты, у дадзенай сітуацыі вырадкамі, мабыць, здаваліся менавіта Флор з Сіплым і Кашэнем. Што ж, тым лепш.

Флор дастаў тэлефон і загадаў блатным уважліва зірнуць на фота дзяўчыны ў тэлефоне.

— Чо за соска? — запытаў лысы з перабітым баксёрскім носам.

— Не важна, — азваўся Флор. — Важна тое, што яна знікла разам з вашым Сазанам проста з гэтай залы. Я хачу ведаць, куды яна знікла і чаму.

— Чуеш, ты нічога не паблытаў?! — вякнуў другі, бландзін з вылупленымі вачыма і рваным шнарам над левым брывом. — На халеру нам здалася твая цёлка!

— Не вам, — цярпліва ўдакладніў Флор, — Сазану.

Блатныя трохі ачунялі ад страху. Шалі перавагі лёгка маглі схіліцца ў іх бок.

— Прамое простае пытанне, ёпта, было! — не стрымаўся Сіплы, размахваючы пісталетам. — Прамы просты адказ ад вас і патрабуецца! Ці да вас не даходзіць па-беларуску? Так я па-руску паўтару!.. Ці па-амерыканску жадаеце?..

Падобна, Сіпламу тут усё было па кайфу. Ён не разумеў сур'ёзнасці становішча, яго магчымых наступстваў. Сіплага перапаўняла нянавісць да блатных гэтак жа люта, як і Мілера. Ён мімаволі пераймаў блатныя слоўцы і карыстаўся імі ў паўсядзённым жыцці. А можа, рыхтаваў сябе ў агенты пад прыкрыццём, збіраючыся пасля ўнівера працаваць у органах?

— Супакой свайго сабаку, хай не брэша! — загадаў Флору лысы. Відаць, ён тут быў за галоўнага.

— Гэта хто тут гаўкае?! — задзіраўся Сіплы. — Гандон, ёпта!

— Астынь! — гучна, са злосцю крыкнуў Флор.

— Мы губляем час! — нагадаў Кашэня, які падышоў да Флора з-за спіны. Ён наўмысна трымаў правую руку пад курткай, рабіў выгляд, што ў яго там зброя.

— Мы вас завалім зараз тут усіх на хер! — быкаваў Сіплы, падбадзёраны Кашэнем. — Куды падзеўся ваш гад з нашай прынцэсай?

— Ды не ведаем мы! — выгукнуў бландзін. — З Сазанам яшчэ трое сышлі! Пасцаць!

— Мы абавязкова вернемся, калі не знойдзем яе, — паабяцаў напрыканцы Флор і паспяшаўся ўслед за Сіплым і Кашэнем, якія пабеглі да службовага выхаду.

Як яны не здагадаліся?! Страцілі час.

— Адкуль ствол? — ткнуў кулаком у плячо Сіплага Флор.

— Запальніца, ёпта! — засмяяўся Сіплы, падняў пісталет угару і націснуў на спускавы кручок. Са ствала выпырхнула ў паветра пёрка агеньчыка.

— Боўдзіла! — усміхнуўся Флор.

Толькі цяперака ён задумаўся пра тое, чым ім мог пагражаць учынак Сіплага. Вядома, той усё зрабіў правільна, наколькі можна было, па сітуацыі, з’арыентаваўся хутка, дзейнічаў дзёрзка і нахабна дзеля добрай справы… Дзіўна, што блатныя не тузануліся. Наўрад ці іх мучыла б сумленне з-за магчымых пацярпелых пры дрэнным раскладзе. Ці гэта толькі ў расейскіх серыялах па НТБ крымінальнікам пляваць на ўсё і ўсіх, таму што смерць і кроў несапраўдныя? Што блатныя наогул рабілі ў «ГІПА»? Яны б яшчэ ў «Макдональдсе» завіслі! Але гэта так, лірыка-паэзія.

Тым часам бландзін са шнарам ірваўся дагнаць гапату і закапаць на месцы, размахваў відэльцам, нібы Чапаеў шашкай.

— Чо ж ты тут іх не закапаў, Рэмба, бля?! — працадзіў у яго бок лысы і перакуліў у глотку тры чаркі гарэлкі запар.

— Чакаў моманту, — адказаў бландзін і асушыў куфель з півам за некалькі велізарных глыткоў.

— Дачакаўся? — здзекваўся лысы.

— Так понту было скакаць на ствол, — не здаваўся бландзін, — і лавіць башкой кулю!

— Понту наогул не было ні ў чым з самага пачатку! — заявіў лысы. — Гэты Сазан мне ніколі не падабаўся. Прыцягнуў у нейкую ташнілаўку і зліняў невядома куды з нейкай цёлкай, а нам разграбай тут за ім! Скажы дзякуй, што не шмальнула тое пугала. Склеілі б ласты, і гамон. Я даўно такога не бачыў. З дзевяностых.

— Так Серабранка ж, — падказаў вушасты вуграваты хлапчына, чыёй мускулатуры, здавалася, было цесна пад адзежай і тая вось-вось распаўзецца па шве.

— І чо? — не зразумеў лысы.

— Не ў курсах? — не верыў у недасведчанасць лысага вушасты. — Ну ты тундра, — усміхнуўся.

— Я не адсюль, — растлумачыў лысы.

— У дзевяностыя Серабранка лічылася самым крымінагенным раёнам горада. Тут такія справы адбываліся, Чыкага адпачывае!

— Так чо, назад у мінулае пачалося? — пажартаваў лысы.

— Не выключэнне, — пасміхнуўся вушасты.

— Што, калоцішся? — падлавіў лысага бландзін.

— Я не буду разграбаць бруд за Сазанам, якога не ведаю, — прамовіў лысы. — А тое, — працягваў, — што ведаю, не ў яго карысць. Няхай самі разбіраюцца, — скончыў і махануў запар чарговыя тры чаркі гарэлкі, закусіў халоднай

піцай, што хрусцела на зубах, як пясок. — Чо за лайно мы тут ямо?! — вылаяўся, выплюнуў. — Трэба валіць адгэтуль!

Ён рашуча выйшаў з-за стала, паклаў пад талерку з піцай амерыканскую соценную купюру з-за павагі да працы афіцыянтак, прыхапіў куртку з кашнэ і шапкай і накіраваўся да выхаду ўніз па сходах. Астатнія таксама не затрымаліся, рушылі следам.

— Каб я калі-небудзь яшчэ звязаўся з Сазанам! — буркнуў лысы, зашпіляючы куртку. — Дзе можна адпачыць па-людску? — спытаў ён вушастага. — Толькі каб без сюрпрызаў.

— Зараз усё будзе! — запэўніў яго вушасты і набраў кагосьці па тэлефоне.

Бландзін, у паліто наросхрыст, з асалодай закурыў, задраў галаву ўверх і пазіраў на зоркі. Ён любіў жыццё і цешыўся, што сёння яно не скончылася.

І ніхто з персаналу піцэрыі, ніхто з наведнікаў, ніхто з выпадковых разяватых мінакоў нават не паспрабаваў выклікаць міліцыю. Чаму? Таму што ніхто не верыў, што гэта добрая ідэя — звязвацца з праваахоўнымі органамі. Значна спакайней і параўнальна бяспечна выконваць загады зламыснікаў, чые дзеянні ніколі не пагражалі спакою звычайных жыхароў горада, якія выпадкова апынуліся не ў той час і не ў тым месцы. Міліцыя б не разбіралася, хто мае рацыю, хто не, і абавязкова выклікала б агрэсію з боку зламыснікаў, што скончылася б крывавай лазняй. Людзі, многія з дзецьмі, прыйшлі ў піцэрыю не паміраць. Калі дакладна выконваць патрабаванні зламыснікаў, якія абяцаюць, што нікога не зачэпяць, то ўсё будзе добра. Зламыснікі возьмуць сваё або дазнаюцца пра тое, дзеля чаго прыходзілі, і сыдуць. Без ахвяр. Міліцыя заўсёды прыносіла з сабой смерць. Смерць нявінных. Дый шматлікія супрацоўнікі міліцыі ні-

чым не адрозніваліся ад бандытаў. Таму, калі небяспека мінула, наведнікі піцэрыі і яе персанал вярнуліся да таго, ад чаго былі адарваныя, і забыліся пра тое прыкрае здарэнне, удзельнікамі якога міжволі сталі. Калі не лічыць хлапца гадоў дзевятнаццаці, які засняў інцыдэнт на тэлефон і размясціў відэа ў інтэрнэце. Аднак нават якасць здымкаў рэйтынг роліка не падняла вышэй за сто праглядаў.

Ніхто не звярнуў увагі і на тое, што адбывалася на заднім двары «ГІПА». Цёмны задні двор, спрэс застаўлены фурамі, грузавікамі ды іншымі аўтамабілямі, — ідэальнае месца для здзяйснення злачынства або для яго падрыхтоўкі. Ці з’яўлялася выкраданне Алісы злачынствам? Для Сазана наўрад. Для такіх, як ён, нормаў не існавала, і цемра была яму надзейнай сяброўкай. Яна і дапамагала яму з адданасцю сабакі.

Поспех, здавалася, спадарожнічаў Сазану. Аднак цемра і холад разварушылі Алісу. Яна апрытомнела, зноў ажыла лютасць у дзявочай душы. Аліса ацаніла становішча і дзейнічала хутка. Яна абхапіла нагамі тулава Сазана, выпрасталася і рэбрамі далоняў некалькі разоў ударыла яго па вушах. Сазан нават не паспеў зразумець, што адбылося, інстынктыўна זацісну... 

Трое паплечнікаў Сазана (яны ішлі паперадзе) азірнуліся на яго выкрык, больш падобны на ўсхліп, які Сазан паспеў выціснуць з сябе пры падзенні. Аднак як бы пагрозліва яны не выглядалі збоку, насоўваючыся на Алісу гарой мускулаў, не верылі, што змогуць яе застрашыць. Яна была ў сваёй стыхіі адкрытай прасторы, і ногі яе ўзляталі, быццам стрэлы, і джалілі бакі, плечы і шыі крыўдзіцеляў, як восы.

Раз'юшаная, скрываўленая, з мокрымі ад поту і снегу валасамі, у разарванай на плячы блузцы ў чырвоных кроплях крыві, Аліса выглядала сапраўднай амазонкай. Яе трэсла, але не ад холаду. Лютасць не дазваляла дзяўчыне змерзнуць, выпрацоўвала адрэналін. І яна маўчала, што бянтэжыла памагатых Сазана. Яны, разгубленыя, прапускалі яе ўдары.

Аліса ўзрадавалася з'яўленню Флора, Кашэні і Сіплага. Крыўдзіцелі ганебна збеглі, пакінуўшы свайго правадыра ляжаць на халоднай зямлі. Па просьбе Алісы Кашэня з Сіплым, хоць і неахвотна, аднеслі Сазана ў памяшканне і кінулі пад сходы. Ён усё ж чалавек, няхай і кепскі.

— Ты, як маці Тэрэза! — з'едліва сказаў Флор, накідваючы на Алісу яе паўпаліто.

— Дзякуй, што прыехалі, — прамовіла Аліса. — Своечасова.

— Думаю, што ўсё ж спазніліся, — не пагадзіўся Флор, маючы на ўвазе скрываўлены твар дзяўчыны. — Можа, у бальніцу?

— Са мной усё добра, — адмовілася Аліса і сумна ўсміхнулася: — Бывала і горш. Пакуль жаніцца — загаіцца.

— Як бацька? — успомніў Флор.

— У коме. Я казала.

— Выкараскаецца, — з упэўненасцю сказаў Флор.

— Спадзяюся, — кіўнула Аліса.

— Ну чо, куды паедзем? — вярнуліся Сіплы з Кашэнем.

— Адвязіце мяне ў інтэрнат, — папрасіла Аліса. Яна выцірала твар снегам, быццам ручніком. Стала лягчэй.

# 15

Спачатку Мілер ішоў спакойна і перад сабой футболіў, быццам мяч, каменьчык, які з кожным ударам па ім павялічваўся ў памерах. Вось ён стаў каменем, затым валуном, потым каменным волатам ростам з Мілера. Дарога, перш асфальтаваная, змянялася да горшага. Са жвіровайператварылася ў пясчаную, пасля ў размытую каляіну з выбоінамі, быццам пасля залевы. Няроўна выгіналася, нібы змяя, накіроўвалася кудысьці ўвысь і знікала за гарызонтам. Шлях вёў пад гару, і Мілер пхаў у гэтую гару каменную круглявую сцяну, не зважаючы на марнасць высілкаў, таму што назад павярнуць не мог з-за інстынкту самазахавання. Калі гэты камень пакоціцца, то прыхлопне яго і раздушыць у аладку. Толькі мокрае месца і застанецца.

Бессэнсоўную яго працу каментавалі два галасы. Яны раздаваліся аднекуль зверху. Адзін голас здаваўся вельмі прыемным і добразычлівым, другі рыпеў, як нязмазаныя дзвярныя завесы.

— Дурань чалавек! — заяўляў горшы голас.

— Не, не дурань! — адмаўляў голас прыемны.

— А я кажу — дурань, які не заслугоўвае нават долі секунды нашай увагі! — настойваў рыпучы.

— Ты памыляешся, — мякка пераконваў дабратворны.

— Навошта тады ён пхае ўгару гэты непасільны для яго цяжар, стагоддзямі стоячы на адным месцы, не прасунуўшыся і на міліметр? Ён не дурань, згодны: ён ідыёт!

«Стагоддзямі? — насцярожыўся Мілер, прыслухоўваючыся да галасоў. — Пра каго гэта яны?»

— Не гарачыся, — угаворваў па-ранейшаму добры голас. — Гэта ж яго жыццё, яго лёс. Ён не можа адмовіцца ад самога сябе.

— У дупу такія жыццё і лёс! — вылаяўся рыпучы. — Я магу прапанаваць яму змяніць яго будучыню да лепшага!

— Але тады ты запатрабуеш вялікі кошт за гэта.

— Вядома! А як інакш? Але, у адрозненне ад цябе, я, прынамсі, маю сумленне і дазваляю выбіраць. Ты ж бяспрэчны. Твая жорсткасць, утоеная пад дабрадзейнай маскай, бязмежная. Па-твойму, чалавек народжаны для пакут і толькі яго несмяротная душа годная для раю? Ты ў сто мільёнаў разоў горшы за мяне ў такім разе! Ты ж стваральнік чалавецтва! І як ставішся да сваіх дзяцей? Маркіз дэ Сад, Гітлер і Сталін разам узятыя нервова кураць побач з табой!

— Таму што ты змяніў іх будучыню.

— Я прапанаваў жыць, а не гібець...

— У абмен на іх душы.

— Кім бы яны былі без мяне? Адольф пэцкаў бы паперу агіднай мазнёй, лічыў сябе пакутнікам ад мастацтва і звар'яцеў бы ад зайздрасці да Далі і Пікаса. Іосіфа б Ленін загадаў расстраляць за шматгадовае супрацоўніцтва таго з царскай ахранкай. Дэ Сад мне проста спадабаўся. Ён нагадваў мяне ў маладосці. Я разгледзеў у іх нечалавечы патэнцыял!

— І ўзмацніў сваёй падтрымкай?

— Зразумела! Мне ж патрэбныя душы... Ізноў жа паўтаруся, у іх быў выбар. Чаму ж яны не даверыліся табе,

свайму так званаму бацьку? Маўчыш? А я табе адкажу. Таму, што ты кінуў іх, патрабуючы абсалютнага паслухмянства і падначалення. А як падпарадкоўвацца таму, каго няма?

— Яны блудныя авечкі.

— Вось! Ты ставішся да сваіх стварэнняў, як да авечак, я ж падтрымліваю іхні запал, характары, моц! Не ва ўсіх, вядома. Ты маеш рацыю, твае дзеці збольшага — статак. Ёлупні, адным словам, як гэты, унізе.

— Ну дык прапануй яму свае паслугі.

— Ты сур'ёзна?

— Цалкам.

— Страціш яшчэ адну несмяротную душу.

— Паглядзім.

— Што тут глядзець? Ён жа не зусім дурань. Зрэшты, выбачай, я не хацеў цябе пакрыўдзіць.

Уважліва слухаючы размову двух невядомых, быццам радыё, Мілер раптам зразумеў, хто яны, аднак не верыў да канца ў сваю правату, пакуль...

...пакуль цудоўным чынам не апынуўся на воблаку ў кампаніі Бога і Д'ябла, прычым Бог быў чарнаскурым і паходзіў на галівудскага акцёра Моргана Фрымана, які неаднойчы выконваў ролю Бога ў кіно, а Д'ябал быў падобны на кінавампіра — такі ж бледны млявы прыгажун у белай тройцы і лакаваных туфлях з чорнымі крыламі за плячыма.

— Не глядзі ўніз! — Д'ябал нібы прачытаў думкі Мілера, а той ледзь не зваліўся з воблака.

— Добрага дня! — па-бацькоўску звярнуўся да яго Бог.

— Ён не здзіўлены! — заўважыў Д'ябал, кажучы Богу пра Мілера ў трэцяй асобе, нібы таго тут не было.

— Прывітанне! — працягнуў Мілер руку для поціску спачатку Богу, затым Д'яблу, і абодва паціснулі яе. — Я памёр?

— А як табе больш падабаецца? — пытаннем на пытанне адказаў Д'ябал.

— Не хацелася б быць мёртвым, — сказаў Мілер на гэта.

— Ну дык і не будзь, — параіў Д'ябал. — Хоць, — пацікавіўся, — што добрага ў тваім жыцці?

— Жыццё само па сабе добрае, — прамовіў Мілер.

— Ды ну?! — не паверыў Д'ябал. — Абстракцыя — твой канёк? — дамагаўся ён шчырасці ад Мілера. — Сваіх думак не назапасіў?

Мілер пазіраў на Бога, нібы шукаў падтрымкі ў яго. Аднак той захоўваў маўчанне і толькі ўсміхаўся ціхамірна, быццам вар'ят у псіхіятрычнай клініцы.

— А што ты ўсё на Бога паглядаеш? — падлавіў Д'ябал. — На Бога спадзявайся, але і сам нешта рабі, — нагадаў. — Тым больш што адказ на пытанне, які патрабуецца ад цябе, не з разраду вышэйшай матэматыкі. Дарэчы, пра Бога. Ты хоць верыш у яго? Не гэтага, які сядзіць перад табой, а ўсюдыіснага выратавальніка, маці яго?

Мілер гатовы быў падзяліцца з Д'яблам сваімі філасофскімі поглядамі пра жыццё, але пра веру ў Бога не меў што казаць…

— Ды ты бязбожнік! — зарагатаў Д'ябал. — Атэіст?

Бог не зводзіў з Мілера свайго пільнага позірку, але добрага, без пагроз. Што ён чакаў пачуць?

— Я не веру ў чароўнае з'яўленне чалавека, — асцярожна вымавіў Мілер, — але і ў паходжанне чалавека ад малпы шляхам эвалюцыі — таксама.

— Ён відавочна сумняваецца ў тваіх здольнасцях стваральніка! — намякнуў Д'ябал Богу цішком, але так, каб Мілер пачуў. — Уся твая праца кату пад хвост.

— Ва ўсяго ёсць стваральнік, — нарэшце загаварыў Бог. — Нічога з нічога не можа паўстаць нават шляхам эвалюцыі.

— Сапраўды! — падхапіў Мілер.

— А чаго ты цешышся? — незалюбіў Д'ябал. — Бога ж няма па-твойму!

— Калі няма Бога, няма і Д'ябла, — вымавіў Бог.

— Трэба ж, — пляснуў у ладкі Д'ябал, — якая прыкрасць! Вось толькі адно відавочна, чалавек, — нядобра ўсміхнуўся ён, — гэта цябе няма.

— Я ўсё-ткі памёр? — дапытваўся праўды Мілер.

— А што ёсць смерць?

Маўчанне. Ніхто не спяшаўся яму дапамагчы.

Мілер паціснуў плячыма.

— Дурны, дурны чалавек, — пакруціў галавой Д'ябал, прыцмокнуўшы языком. — Ты бачыш відавочнае, але з-за свайго вузкага мыслення адмаўляеш тое, што невытлумачальна. Табе складана паверыць уласным вачам, таму што твой мозг працуе павольна, як слімак. Нікчэмны і абмежаваны, ты вешаеш цэтлікі на тых, чый мозг адкрыты ведам, і ізалюеш іх у спецыялізаваныя ўстановы, каб спыніць іх існаванне фізічна. Не ты канкрэтна, вядома, але і ты такі ж самы. Я не бачу нічога добрага ў чалавеку, акрамя яго душы. Аднак калі б я не быў такім гарачым калекцыянерам душ, то душа чалавечая была б такая ж бескарысная, як і яе пасудзіна — цела.

— Прыпыні! — Бог даў Д'яблу па карку. — Прыпыні лухту плесці!

— А ты спалі мяне на вогнішчы, як ерэтыка ў часы інквізіцыі! — параіў Д'ябал Богу, папраўляючы растрапаную прычоску. — У імя тваё гэтыя ідыёты спальвалі жыўцом сотні тысяч прыгожых жанчын, таму што ўсё прыгожае ад Д'ябла, ці не так? — хітра зіркнуў ён на Мілера.

— Так і ёсць, — пагадзіўся Мілер. — І ўсе войны вяліся ў славу Божую і з яго дазволу. Прынамсі, у гэтым запэўнівалі

людзей. Жорсткасць і гвалт суправаджаліся спевамі пра тое, што так Бог загадаў, у якога верылі ад страху. У Бога прымусілі верыць. У яго паверылі ад безвыходнасці адны, іншыя ж выкарыстоўвалі веру, каб трымаць людзей у падначаленні, за непадпарадкаванне абяцаючы вечныя пакуты. І калі Бог ёсць дабро, то чаму так многа зла на свеце? Ці не інтрыгі Д'ябла тут замяшаныя?

— Я не настолькі моцны, — запярэчыў Д'ябал, падняўшы ўгару рукі, — каб захіліць сонца і ўтрымліваць яго ў цені на працягу тысячагоддзяў. Гэта не ў маіх правілах адказваць за чужыя грахі.

— Веру ў Бога сказілі святары, — вымавіў Бог, — пана-будаваўшы храмы і зацямніўшы галовы вернікаў байкамі, што ў гэтых храмах жыве Бог. Калі б я нават і захацеў жыць у гэтых храмах, то на колькі ж частак мне трэба было б падзяліцца, каб пасяліцца ў кожным Божым доме?

— Бог апраўдваецца? — паблажліва пакпіў Д'ябал.

— Ставіць кропкі над «і», — паправіў Бог.

— Вы самаўхіліліся, — прамовіў Мілер, звяртаючыся да Бога, аднак не адчуваючы ніякага хвалявання перад ім, — і ўвесь гэты час безуважна назіраеце з вышыні за тым злом, што дзеецца ўнізе. Самае дрэннае ў тым, што вам падабаецца глядзець на тое, што адбываецца вакол.

— Я вас стварыў! — абурыўся Бог.

— Яшчэ скажыце: я вас спарадзіў, я вас і заб'ю, — падказаў Мілер. — Адзін бацька так і зрабіў са сваім сынам.

— Пра што гэта ён? — паглядзеў Бог на Д'ябла.

— Пра каго, — паправіў Д'ябал Бога.

— Ну і пра каго? — нецярпліва перапытаў Бог. — Не пра мяне ж?

— Амаль, — хітра ўсміхнуўся Д'ябал. — Быў такі пісьменнік Гогаль. Ён уклаў твае словы ў вусны свайго

персанажа Тараса Бульбы, між іншым, барацьбіта за справядлівасць і прыгнечаных, які застрэліў свайго малодшага сына нібыта за здраду. А яго сын проста быў закаханы і дзейнічаў па законах кахання, якія вышэй за іншыя жыццёвыя правілы.

— Дзікасць якая, — перахрысціўся Бог.

— Тарас Бульба, па вялікім рахунку, Бог у мініяцюры, — заўважыў Д’ябал. — Душу Гогаля я змясціў у сваю калекцыю побач з душамі Пушкіна, Дастаеўскага, Булгакава, — нібы выхваляўся ён. — Усе яны мне вінныя. Наогул, я люблю пісьменнікаў. Не думаю, што Рай мае хоць аднаго, — з’едліва ўсміхнуўся нячысцік.

Бог змоўчаў, пра нешта задумаўшыся.

— Прапаную, спадар Мілер, — звярнуўся Д’ябал да Мілера, — загадзя паклапаціцца і вам пра знаходжанне вашай несмяротнай душы пасля смерці вашага цела. Я гарантую ёй годнае суседства і бясконцыя гутаркі з лепшымі пісьменнікамі сусветнага маштабу. Як вам па правую руку Генры Мілер, Фолкнер, Фіцджэральд, Хэмінгуэй і Стэйнбек, а па левую, да прыкладу, Бальзак, Дзікенс, сёстры Брантэ і Аляксандр Дзюма?

— Яны што, усе ў вас? — Мілера аж перасмыкнула.

— Малады чалавек, чым вы слухаеце? — не пакрыўдзіўся Д’ябал. — Усё прыгожае ад Д’ябла! З імем Бога павязаныя войны, рабства і разбурэнне.

— Не скажай, — перапыніў яго Бог.

— Мне і не трэба, — усміхнуўся Д’ябал, — калі так усё і ёсць.

— Навошта ён тут? — гледзячы ў вочы Д’ябла, ткнуў Бог пальцам у Мілера.

— Ты ўжо забыўся? — засмяяўся Д’ябал.

— Не, — запярэчыў Бог, — табе нагадваю.

— Я выдатна памятаю, — склаў рукі на грудзях Д’ябал і звярнуўся да Мілера з такімі словамі: — Ёсць да цябе прапанова.

— Ты мне жыццё, а я табе душу? — перапыніў яго Мілер.

— Амаль, — кіўнуў Д’ябал. — Я табе іншае жыццё.

— Навошта мне іншае? — адмовіўся Мілер адразу.

Д’ябал пераможна паглядзеў на Бога: маўляў, што я казаў!

— Ты не спяшайся, — усё ж паспрабаваў пераканаць ён Мілера. — У цябе будзе шанец пражыць новае, больш насычанае і цікавейшае жыццё. Хіба не прывабна гучыць?

— Не, — катэгарычна адказаў Мілер.

— Ну што было добрага ў тваім ранейшым жыцці?

— У сапраўдным, — запярэчыў Мілер.

— Мабыць, каханне? — здагадаўся Д’ябал. — Але не да Бога, — зневажальны позірк на Бога. — Да жанчыны. Больш за тое, да ўласнай дачкі. Каханне — страшная сіла, — вымавіў ён напрыканцы. — Каханню не здраджваюць. У каханне вераць.

— Даволі! — спыніў яго Бог.

— А што ты крыўдзішся?! — запратэставаў Д’ябал. — Ты адвярнуўся ад сваёй паствы. Каханне яе падабрала. Твая сястра аказала табе паслугу. Толькі дзякуючы каханню чалавецтва яшчэ жыве і хоць неяк функцыянуе. Каханне робіць тваю працу за цябе цалкам, цалкам цябе замяніўшы.

— Досыць! — раўнуў Бог так, што нябёсы захісталіся, быццам арэлі.

— Ты ідыёт, Мілер, — расчаравана прамовіў Д’ябал. — Жыві пакуль, але не забывай, што душа твая належыць мне. У Раю няма месца для тых, хто любіць не Бога.

Д’ябал пстрыкнуў пальцамі, і Мілер ізноў апынуўся пад каменем, утрымаць які ўжо не мог. Намагаючыся не быць раздушаным, Мілер з усіх ног кінуўся наўцёкі ад яго, што, па

сутнасці, было пустой задумай. Ён даў дзёру, але ж велізарны камень амаль дагнаў яго. Усё ранейшае жыццё Мілера, спрэсаванае ў камені, даганяла яго.

— Хто ты, Мілер? — стаяў увушшу громападобны бесперапынны голас (Ці гэта быў ветру свіст?).— Хто ёсць Бог, калі светам кіруе каханне? Хто ёсць Бог, Мілер?

— Тваю ж макаўку! — вырваўся хрып з перакошанага, перасохлага рота Мілера. — Я-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а!

Камень накрыў яго і застыў над ім зверху пахавальным помнікам.

Белы крумкач з чорнымі крыламі плаўна апусціўся побач, дзелавіта пахадзіў вакол, а затым, ператварыўшыся ў чорны дым, растаў у паветры.

Дзікі крык, які вырваўся з грудзей Мілера, аглушыў ці не ўсю бальніцу. Звесіўшы ногі з койкі, Мілер спрабаваў устаць.

# 16

Раніцай, у дзень выпіскі Мілера з бальніцы, яму патэлефанавала галоўная рэдактарка Нацыянальнай кінастудыі (даўняя знаёмая, вучыліся калісьці на адным патоку) і паведаміла, што адным з яго раманаў зацікавіліся маскоўскія прадзюсары, натуральна, не без яе дапамогі. Калісьці Марго, так яе звалі, абсалютна не верыла ў тое, што айчынная літаратура патрапіць на кінаэкран. З разумным выглядам Марго безапеляцыйна заяўляла, што творы пісьменнікаў, якія складаюць, на хвіліначку, Залаты фонд нацыянальнай літаратуры, неактуальныя і нецікавыя для кінематографа, немагчыма ўявіць, каб сучасныя разьбяры пяром нешта годнае стварылі, бо прытрымліваюцца бессюжэтнасці і аддаюць перавагу форме, а не гісторыі, якую можна было б распавесці пасродкам візуальнага раду. Мілер добра запомніў яе словы, таму што яны закранулі яго за жывое. Ён мог паспрачацца з кім заўгодна і пры нагодзе даказаць, што Марго не мела рацыі з-за некампетэнтнасці ў галіне літаратуры, тым больш нацыянальнай, па вельмі простай прычыне: яна не чытала кніг. Мабыць, адміністрацыйная пасада не ўключае ў абавязкі чытанне. Ну ды Бог з ёй. Цікава, што змянілася? Ці Марго проста паверыла маскоўскім кіношнікам, якія разгледзелі нядрэнную гісторыю ў кнізе чалавека, якога яна ведала асабіста? Як бы там ні было, званок Марго хоць і

здзівіў Мілера, але ўсё ж узрадаваў. Прыемна, каб іх чорт узяў, калі цябе заўважаюць, дакладней, твае дасягненні. А калі заўважылі не ў нас, аўтаматычна заўважаць і ў роднай краіне, разводзячы ў бокі рукі і ламаючы галаву, як гэта самі не разгледзелі таленавітага чалавека?! Тое, што Марго намякнула на яе асабісты ўдзел у лёсе Мілера, закідваючы вуду на магчымае будучае плённае супрацоўніцтва, не дзіўна. Гэтага варта было чакаць, хоць і ранавата святкаваць поспех. Дый ці поспех? Усё яшчэ занадта хістка. Марго запрасіла Мілера на сустрэчу з кінапрадзюсарамі, прызначаную на дванаццатую гадзіну, і папрасіла не спазняцца.

«Выдатны пачатак дня!» — усміхнуўся Мілер і шчасліва разваліўся на койцы.

Засталося дачакацца Алісу і дакументаў на выпіску.

Аліса ведала, што Мілера выпісваюць сёння, і абяцала прыехаць, дапамагчы яму са зборамі. Яна кожны дзень, калі не здавала залікі, падоўгу праводзіла час з Мілерам усе гэтыя два тыдні, не ўлічваючы некалькіх дзён, у якія залізвала свае раны. Ёй дапамагалі як Флор з Сіплым і Кашэнем, так і Лёва Зорыч. Толькі дзякуючы ім Аліса ачуняла даволі хутка і без наступстваў. Лёва дамогся-ткі свайго. Знайшоў прастытутку, у якую закахаўся, прывёў у інтэрнат, пазнаёміў з Алісай. І хоць яна была старэйшаю за іх абаіх, розніца ва ўзросце не кідалася ў вочы. Паліна таксама дапамагла Алісе: яе масачкі для твару валодалі цудадзейнай сілай. Новы год Лёва ўгаварыў і Паліну, і бацьку правесці разам у сценах роднай хаты.

Мілер папраўляўся тугавата, аднак прысутнасць Алісы, яе клопат рабілі цуды. Праз тры дні пасля комы ён ужо хадзіў па палаце і нават патрабаваў цыгарэты. Аліса цішком дазволіла яму пакурыць, прынесла пачак з сабой, але яму стала блага ўсяго ад дзвюх зацяжак і больш яны не эксперыментавалі.

Тым не менш Мілер не збіраўся адмаўляцца ад курэння. Ён спаў і бачыў сябе з цыгарэтай. Аднак падарванае здароўе не дазваляла курыць (усё часцей нагадвалі пра сябе слабыя сасуды і паніжаны ціск). Доктар настойліва раіў Мілеру адмовіцца ад шкоднай звычкі назаўжды, калі ён разлічвае яшчэ трохі пажыць. Словы доктара насцярожылі Мілера, аднак не спалохалі: ён памятаў да драбніц сваю размову з Д'яблам і Богам, якія недвухсэнсоўна далі зразумець, што смерць далёка не канец. Зрэшты, ізноў да іх не спяшаўся. Мілер хацеў яшчэ пажыць, дачакацца вынікаў ДНК-тэсту на бацькоўства, якім займалася Аліса, — дзеля гэтай справы яна адрэзала пасмачку яго валасоў.

Яна затрымлівалася. Мілер пачаў нервавацца, але пераконваў сябе, што нічога дрэннага з імі абаімі ніколі не здарыцца.

Таццяну Аляксандраўну ён ні ў чым не вінаваціў, сказаў усім, што не памятае жанчыну з такім імем. Для яе ж выгоды. Яму паверылі, спісалі на частковую амнезію.

Зайшоў доктар з дакументамі на выпіску, пажадаў не трапляць больш да яго.

Нарэшце з'явілася Аліса, прабачылася за спазненне. Мілер абняў яе, пацалаваў у вусны, чамусьці абыякавыя і халодныя. Упершыню. Устрывожаным позіркам, быццам мінашукальнікам, Мілер «мацаў» дзяўчыну ў пошуках нечаканага дэфекту. Што з ёй такое? Аліса паводзіла сябе натуральна, усім сваім выглядам адкідваючы падазрэнні. Магчыма, Мілеру падалося, усё ж ён яшчэ не зусім здаровы, і ў гэтым прычына яго недаверу. Распавёў пра званок з кінастудыі.

— Гэта ж выдатна! — усклікнула Аліса. Шчырасць яе пачуццяў не магла быць штучнай. — Якраз паспяваем, — перавяла позірк на гадзіннік.

— Так, — пагадзіўся Мілер, — паспяваем.

— Вы сабраліся? — спытала Аліса, намякаючы на тое, што час развітвацца з бальнічнымі сценамі і працягваць жыць, тым больш што жыццё поўнае шчаслівых неспадзяванак, такіх, напрыклад, як праява цікавасці да ягонай творчасці з боку маскоўскіх кіношнікаў. — Хадзем? — і паказала вачыма на дзверы.

— Хадзем, — кіўнуў Мілер.

Свежае марознае паветра, дрэвы і кусты ў двары бальніцы, застылыя ў мудрагелістых паставах, быццам у дзіцячай гульні, радавалі яго як ніколі. Мілер з асалодай дыхаў, каб адчуць смак, здавалася, самога жыцця.

— Выклікаць таксі? — спытала яго Аліса.

— Не, навошта? — адмовіўся Мілер. — Тут да метро зусім блізка. Дый хутчэй будзе падземкай, чым на машыне.

— Згодная, — усміхнулася яму дзяўчына, пагладзіла локаць і пацерлася, як кошка, носікам аб шыю Мілера.

Атрымліваючы асалоду ад шпацыру, яны неўзабаве падышлі да метро. Спусціліся і, пачакаўшы цягнік, селі побач. Аліса схіліла галаву на плячо Мілера, не выпускаючы яго рукі са сваёй. Ён удыхаў водар яе валасоў, хоць не адчуваў і не адрозніваў пахаў з нараджэння, аднак уяўляў, што яны пахнуць мятай і летам. Мілер не любіў лета, але Аліса была прыгожай і цёплай, як тое лета. Прынамсі, цяпер.

Так бы і сядзець усё жыццё побач, мроілася Мілеру. Трымаць адно аднаго за руку і не адпускаць ні на секунду, дыхаць у такт біцця сэрцаў і, захліпаючыся, атрымліваць асалоду ад шчасця, паколькі гэта шчасце і ёсць — кахаць і быць каханым.

На станцыі «Маскоўская» выйшлі.

Будынак кінастудыі знаходзіўся проста насупраць выхаду з метро. Ён служыў як бы брамай да тэрыторыі велізарнай

гаспадаркі з унутраным дваром, падземнымі хадамі, складамі, пастановачнымі павільёнамі і шмат чым яшчэ, утоеным ад вачэй звычайнага чалавека, які спажывае гатовы кінапрадукт і не мае ніякага паняцця, якіх высілкаў каштуе зняць нават малабюджэтную кароткаметражку.

Ахоўнікі пры ўваходзе ветліва пацікавіліся, з якой мэтай і да каго прыбылі Мілер і Аліса на кінастудыю. Пасля адказу Мілера адзін з ахоўнікаў патэлефанаваў на ўнутраны тэлефон Марго, паведаміў пра візіт пісьменніка. Задаволены словамі Марго, ён прапусціў Мілера і Алісу праз турнікет, падказаў, што трэба падняцца на трэці паверх, павярнуць направа ды ісці да канца калідора, дзе і будзе кабінет Марго.

Мілер падзякаваў ахоўнікам, Аліса ім усміхнулася, тыя ветліва пажадалі поспеху.

Паднімаючыся ўгару па сходах, яны сутыкнуліся з маскоўскім акторам Епіфанцавым, які спускаўся ўніз. Аліса адразу яго пазнала, прывіталася і збянтэжана ўсміхнулася. Яна бачыла некалькі фільмаў з яго ўдзелам, але больш за ўсіх спадабаўся «Фартовы». Рускі Рэмба шчыра ўсміхнуўся ёй, прамовіўшы:

— Здравствуйте, барышня!

Аднак не спыніўся, не затрымаўся ні на секунду, спяшаўся па сваіх справах. Аліса адстала ад Мілера і праводзіла актора захопленым позіркам. Потым доўга сябе лаяла за гэта. Яна ж не з такіх разяватых адданых фанатак-дурніц.

Сцены калідора, нібы манекены, дэманстравалі гісторыю айчыннага кіно ў тварах праз вялікія фота за шклом. Аліса міжвольна ўзіралася ў іх і чытала пад імі подпісы. Вось Юры Казючыц на здымках «Палескай хронікі», насупраць Станіслаў Любшын з Любоўю Румянцавай у «Альпійскай баладзе», далей Мікалай Яроменка ў кадры з фільма «Людзі і звяры», а вось Мікалай Карачанцаў, Усевалад Санаеў, Галіна Польскіх і Аляксей Дудараў у перапынку паміж здымкамі

фільма «Белыя Росы». Затрымацца б тут даўжэй, каб не спяшаючыся азнаёміцца з экспазіцыяй!..

Мілер на фота не зважаў. Ён іх ужо бачыў калісьці шмат гадоў таму. З тых часоў нічога не змянілася. Як і кабінет галоўнага рэдактара, мэбля ў ім, за выключэннем чалавека, які займаў пасаду.

Людзі не вытрымліваюць праверку часам, ломяцца, як алоўкі, захворваюць, паміраюць. А кабінеты ўсё стаяць, усмоктваючы ў сябе іх жыцці, быццам вампіры.

Марго — бландзінка адных гадоў з Мілерам — пацалавала яго ў шчаку, прывіталася. Яе кароткія мяккія валасы з доўгім чубком, што падаў на правае брыво, яшчэ маладзілі, надавалі зманлівы выгляд свежасці і наіўнасці. Двойка шэрага колеру, белая блузка і чырвоны мужчынскі гальштук сведчылі пра сур’ёзнасць характару іх носьбіта. Калі б не гусіныя лапкі ля вачэй Марго і не падвялая шыя, жанчына цалкам магла б сысці за дзяўчыну. Хоць гэтыя заганы Мілер заўважыў не адразу.

— Мая дачка Аліса, — пазнаёміў ён Алісу з Марго, каб задаволіць цікаўнасць апошняй.

— Ды ты што?! — не стрымала яна здзіўлення. — Ве-е-е-ельмі рада пазнаёміцца! — паціснула руку Алісе. — Вы сапраўды падобныя, — дадала, не саромеючыся разглядаць дзяўчыну, нібы ляльку. — Трэба ж! Зробім выгляд, што я табе паверыла, — павярнулася да Мілера, які разваліўся ў фатэлі пад акном.

— Твая справа, — сказаў Мілер.

— Максім Мікалаевіч і сапраўды мой бацька, — прамовіла Аліса і прысела побач з Мілерам на падлакотнік фатэля.

— У такім разе віншую, — адгукнулася Марго, але наўрад ці паверыла. Яна прайшла за свой працоўны стол і села

ў крэсла з высокай выгінастай спінкай. — Такім чынам, — яна прысунулася да стала і склала на ім рукі ў замок, — зараз прыйдуць нашы маскоўскія калегі, зацікаўленыя ў экранізацыі тваёй кнігі, Максік, пад назвай, — зазірнула ў разгорнуты на патрэбнай старонцы штодзённік, — «Ядваб». Сам разумееш, без мяне ніхто б не заўважыў тваёй кнігі.

— Разумею, — усміхнуўся Мілер. — Больш за тое, упэўнены ў тваёй неацэннай дапамозе.

— Не блазнуй, калі ласка! — узмахнула чубком Марго. — Я і сама не чакала падобнага. Але хто мог ведаць, што твая кніжка на маім стале пад стосам тэчак і папер прыцягне такую ўвагу!

— Ты хоць чытала яе? — спытаў Мілер.

— Прыйшлося, — няўпэўнена адказала Марго і дадала: — Пачала. Пра што яна?

— Пра каханне, — апярэдзіла Мілера з адказам Аліса. — Пра тое, пра што людзі толькі фантазіруюць, і пра волю, кантроль над сабою.

— Хутчэй пра тое, як не быць рабынямі свайго ўбогага сумнага жыцця, — здагадалася Марго. — Так? — Пагляд на Мілера.

— Кшталту таго, — кіўнуў той.

— Не дзіўна тады, чаму гэта даспадобы, — прамовіла Марго.

— Што ты маеш на ўвазе? — не зразумеў Мілер.

— Ну, яны людзі ўсходнія, сам пераканаешся. А дзяўчынка разумная, — пахваліла Алісу. — Філфак? — спытала наўздагад.

— Так, — адказала Аліса.

Раптам раздаўся званок на працоўны тэлефон. Марго перапрасіла і падняла трубку. «Ён тут», — толькі і сказала.

Праз некалькі секунд у кабінет увайшлі трое мужчын каўказскага выгляду. Мілер і Аліса паўставалі з месцаў. Каўказцы па чарзе паціснулі Мілеру руку, Алісе пацалавалі. Пасля прывітання селі за стол перамоў — шкляны часопісны столік на гнутых ножках, размешчаны каля шырокай скураной канапы, якая ўпіралася спінкай у падаконне другога акна, побач з працоўным сталом Марго. Мілер прысунуў да століка два фатэлі (яны былі на колах) для сябе і для Алісы. Марго засталася за сваім сталом.

Каўказцы між іншым выглядалі як еўрапейцы. Дарагія выкшталцоныя двойкі, запінкі, дагледжаныя пазногці, бародкі, стыльныя прычоскі. У аднаго на пальцы — пярсцёнак з пячаткай. У другога — залатыя гадзіннікі на запясцях. У трэцяга — найноўшы планшэт. Той, што з планшэтам, самы хударлявы з іх, выняў з дыпламата кнігу Мілера і паклаў яе на столік.

Той, што з гадзіннікамі на запясцях, сярэдні па старшынстве, побач з кнігай паклаў скураную тэчку з дакументамі, мабыць, з дамовамі.

Каўказец з пярсцёнкам, найтаўсцейшы, пракашляўся і загаварыў, звяртаючыся да Мілера:

— Рады, нарэшце, пазнаёміцца з аўтарам кнігі, якая вынесла мне мозг у добрым сэнсе, натуральна!

— Дзякуй, — адгукнуўся Мілер. — Прыемна чуць гэта ад такога вялікага чалавека.

— Не такога і вялікага, — усміхнуўся каўказец. Ён працягнуў руку да тэчкі, узяў яе, адкрыў, нядбайна пагартаў старонкі дакументаў, закрыў і прапанаваў пазнаёміцца з яе змесцівам Мілеру падчас размовы.

— Можна мне? — перахапіла тэчку Аліса.

— А вы хто спадару Мілеру? — недаверліва пакрывіўся на дзяўчыну каўказец з гадзіннікамі.

— Дачка! — безапеляцыйна адказала Аліса.

— Гэта нават лепш, — пагадзіўся тоўсты каўказец. — Спадар Мілер не будзе адхіляцца ад размовы, калі, зразумела, давярае дачцэ.

— Цалкам, — прамовіў Мілер.

Аліса пагладзіла Мілера па плячы, нібы кажучы, каб той не хваляваўся і не перажываў, ён у надзейных руках, і паглыбілася ў чытанне дамовы.

— Ваша кніга — гэта нешта неверагоднае, я вам скажу, — працягваў тоўсты каўказец. — Дзіва, што я не абмінуў яе, зачапіўся вачыма. Яна ляжала вось на тым стале (позірк у бок Марго), заваленая стосам папер, быццам пахаваная. Нельга так абыходзіцца з кнігамі (папрок у бок Марго). Кнігі павінны стаяць на кніжных паліцах, калі іх не ўзялі адтуль, каб прачытаць...

— Менавіта для гэтай мэты я і ўзяла кнігу Максіма з кніжнага стэлажа, — паспрабавала апраўдацца Марго.

— Што вы кажаце?! — адарваўся ад планшэта хударлявы каўказец. — Вельмі прыкметна было, як вы яе чыталі і калі.

Марго пачырванела. Яе адкрыта абвінавацілі ў хлусні. Аднак змаўчала, праглынуўшы крыўду.

— Дык вось, — вярнуўся да перапыненай размовы тоўсты каўказец, — чытаючы вашу кнігу, спадар Мілер, з першых старонак я ўжо бачыў яе раскадроўкі, разбіўкі на сцэны, мізансцэны, агульныя планы і ўзбуйненні, чаго вельмі даўно не здаралася пры чытанні іншых кніг. У вас незамылены і свежы погляд на шматлікія рэчы, арыгінальнае мысленне, разумныя сакавітыя дыялогі і імклівае развіццё падзей, майстэрскае апісанне прыроды, вы можаце дасканала перадаць настрой і характар персанажаў. Цяпер так ніхто не піша, спадар Мілер, і ад гэтага вы мне яшчэ больш сімпатычныя. Вы не гоніцеся за таннай папулярнасцю. У вашым рамане

я ўбачыў вас, як таленавітага вучня, які недалёка стаіць ад вядомых настаўнікаў. Гэта спадабалася мне больш за ўсё! Хочаце, я назаву прозвішчы пісьменнікаў, на якіх вы раўняецеся?

Каўказец ўтаропіўся ў Мілера.

— Хачу, — проста адказаў той. Яму было сапраўды цікава і прыемна ўсё, што казаў яму чалавек насупраць.

— Вы, можа быць, самі не разумееце, што належыце сваёй творчасцю да класічнай школы напісання твораў і чэрпаеце натхненне менавіта ў класікаў, — прамовіў каўказец. — Леў Талстой, Дастаеўскі, Фолкнер, Бальзак, Дзікенс. Прысутнасць кожнага я адчуў у вашай кнізе. Не, я не вінавачу вас у плагіяце, ні ў якім разе, інакш я не прыйшоў бы сюды. Яны, нібы анёлы-ахоўнікі ў вашым жыцці і ў вашай творчасці, любяць, апякуюць і аберагаюць вас. Вы не падобныя на іх, самабытны і самадастатковы, але менавіта дзякуючы ім. І гэта выдатна. Паверце, я вельмі шмат чытаю і ведаю, пра што кажу.

— Дзякуй, — выдыхнуў Мілер і паглядзеў на Алісу. Яна адарвалася ад папер і ўсміхнулася яму, ганарылася ім, захаплялася.

— Такім чынам, — падводзіў вынік тоўсты каўказец, — вяртаемся да таго, з чаго пачалі. Я рады асабістаму знаёмству з выдатным пісьменнікам Максам Мілерам. — Ён устаў з канапы і яшчэ раз працягнуў Мілеру руку для поціску. Мілер таксама ўстаў і паціснуў працягнутую руку вядомага кінапрадзюсара. — А зараз да справы, — ізноў сеў каўказец.

— Ад лірыкі да бухгалтэрыі, дзядзя, — адарваўся ад планшэта хударлявы пляменнік.

— Не, пакуль яшчэ не, — запярэчыў тоўсты каўказец, — але ўжо хутка. Такім чынам, — падаўся ўсім целам наперад, верагодна, дзеля таго, каб Мілер лепш яго чуў, — здымкі будуць

адбывацца ў Маскве, у павільёне. Работы па дэкарацыях ужо вядуцца. Натурныя здымкі таксама запланаваныя, але яны не галоўныя. Паколькі фільм па вашай кнізе, спадар Мілер, мне бачыцца камерным і асабліва пачуццёва-псіхалагічным, я дазволіў сабе смеласць прапанаваць яго здымаць Звягінцаву. Пакуль ён чытае кнігу, вы пішаце сцэнар. Калі Звягінцаў пагодзіцца з намі працаваць, думаю, што сцэнар вы будзеце пісаць разам. Вы разумееце, пра што я кажу, спадар Мілер?

— Так, — кіўнуў той, намагаючыся ўзгадаць, хто такі Звягінцаў, паколькі кіно, асабліва рускае, яго не цікавіла ў прынцыпе. Мілер глядзеў фільмы, калі стамляўся, каб не ляжаць, проста гледзячы ў столь.

— Звягінцаў, як правіла, здымае кіно фестывальнае, — працягваў каўказец, — не ведаю, як гэта ў яго атрымліваецца. Мне здаецца, што ваша гісторыя годная ўвагі Звягінцава і ён зробіць з яе шэдэўр на экране, а там, глядзіш, фільм адправіцца ў вандраванне па кінаспаборніцтвах. Што да актораў на галоўныя ролі... — прадзюсар на секунду задумаўся, пачасаў бараду. — Вашу гераіню вы параўноўваеце з Шэран Стоўн, — ізноў загаварыў, адкінуўшыся на спінку канапы, тым часам як Мілер падаўся наперад, уважліва слухаючы і запамінаючы кожнае яго слова. — Нават двойчы падкрэсліваеце яе падабенства з галівудскай дзівай. У дзевяностыя, зняўшы Шэран Стоўн у падобнай карціне, мы ўсе сталі б мільянерамі. Але цяпер іншы час і іншыя прыярытэты. Шэран Стоўн ужо не тая, ды і памятаем пра яе толькі мы з вамі. Я бачу ў галоўнай ролі Кацю Клімаву — чароўную, шыкоўную акторку і жанчыну. Яна брунэтка, а не бландзінка, але гэта не важна. Мы падамо ёй бландзіна-партнёра, напрыклад, Антона Шагіна — маладога, перспектыўнага актора з выдатнай знешнасцю. Як вам? — каўказец пільна паглядзеў на Мілера.

— Так, — не ведаў, што сказаць, Мілер, паколькі ніколі не чуў названых прозвішчаў і паняцця не меў, пра каго вёў гаворку прадзюсар, — я, мабыць, пагаджуся з вашым меркаваннем.

— Выдатна, — задаволена працягнуў той і прамовіў, пацёршы рукі аб штаны: — Ну а цяпер пяройдзем да бухгалтэрыі.

Мабыць, слова «бухгалтэрыя» азначала сігнал далучыцца да размовы хударляваму каўказцу з планшэтам.

— Вы атрымаеце проста зараз, спадар Мілер, паўтары тысячы даляраў за сінопсіс, які пакуль што будзем лічыць вашай кнігай, — прамовіў ён, не зводзячы разумных і праніклівых вачэй з Мілера. — Гэтыя грошы вам спатрэбяцца таксама для таго, каб да трыццатага снежня быць у Маскве ў той гасцініцы, дзе на ваша імя будзе забраніраваны нумар. У гэтым нумары, аплачаным нашай кампаніяй, вы будзеце пісаць сцэнар, за які атрымаеце трыццаць тысяч даляраў ганарару і яшчэ трыццаць тысяч за выкуп у вас аўтарскіх правоў на вашы кнігу і сцэнар.

— Калі няма пытанняў, — падхапіў тоўсты каўказец, — падпішам паперы.

Мілер зірнуў на Алісу, тая перадала яму тэчку з дамовай, якую ён прабег вачыма і падпісаў у двух асобніках: другі заставаўся яму. Сярэдні каўказец выняў з дыпламата загадзя прыгатаваную суму грошай і перадаў іх Мілеру.

— Віншую! — пацiснулі ўсе трое каўказцаў руку Мілеру і сышлі.

— Віншую! — далучылася да віншаванняў і Марго. — Пра мой адсотак не забыўся? — нагадала.

— Колькі? — адсутным позіркам паглядзеў на яе Мілер. Ён не мог паверыць, што не спіць. Сумы, якімі апелявалі кінапрадзюсары, не ўкладваліся ў яго галаве.

— Я падлічу і скіну табе на мыла, добра? — прашаптала яму на вуха Марго.

— Тады мы пойдзем, — нібы выбіраючыся з нетраў насланння, млява прамовіў Мілер і узяў за руку Алісу, каб ізноў не згубіцца. — Да пабачэння, Марго!

— Да пабачэння! — развіталася з Марго і Аліса.

Марго засталася ў кабінеце адна. Яна ўзброілася калькулятарам, каб падлічыць сваю долю ад узнагароды Мілера.

Аліса была ўсцешаная поспехамі Мілера больш за яго самога. Яе ўспрыманне свету, нягледзячы ні на што, заставалася вясёлкавым, поўным надзей і веры ў справядлівасць. Аліса адчувала, што ўдзельнічала ў чымсьці вельмі важным, там, дзе ёй не месца, дзе яна апынулася выпадкова, каб зразумець, што свет не жорсткі, а поўны сюрпрызаў. Жорсткія людзі і іх учынкі. Але ад чаго яны жорсткія? Хіба не свет рабіў людзей такімі? Не ламаў іх жыцці, як кукурузныя палачкі, не пажыраў іх лёсы з прагнасцю галоднага звера? Не, Аліса так не лічыла. Людзі самі вінаватыя ў сваіх бедах і няўдачах. Каб мінуць іх, трэба ўсяго толькі быць прыстойным чалавекам, як Мілер, а не ператварацца ў зласлівых зомбі ад першага ж укусу жыццёвых нягод. Жыццё тваё і толькі тваё. Ты яго гаспадар, і ніхто не мае права вырашаць за цябе, як ты яго пражывеш — паўзучы ці лётаючы.

Апынуўшыся няпрошаным госцем на кінастудыі, убачыўшы і пазнаёміўшыся з людзьмі, з якімі ў прынцыпе проста так не знаёмяцца, Аліса не сумнявалася, што чалавеку па сілах усё, як не сумнявалася і ў Мілеры. Ён рабіў сваю працу, займаўся тым, з чым лепш за яго ніхто не справіўся б. Не мітусіўся, не згаджаўся на пустыя прапановы і не ішоў на кампрамісы. Не ўліўся ў струмень прадажных аднадзёнак, адстойваў свой голас, непаўторны, а таму неацэнны. Пісьмен-

ніцтва — загадзя няўдзячны занятак. Тут удача спрыяе сапраўдным стоікам. Прыгожае пісьменства само выбірае фаварыта, падганяе яго, хвошча пугай, нібы вазніца гнядога каня, дамагаецца ад яго дасканаласці і не спяшаецца пры гэтым адорваць раскошай, грашыма і славай. У самы нечаканы момант, часцей за ўсё пасля смерці, працы пісьменніка — выгнанніка, не прынятага грамадствам і нават блізкімі, — прызнаюцца шэдэўрамі сусветнага значэння. Вось што значыць быць фаварытам у Літаратуры. Мілеру пашанцавала больш. Яго кнігі, з рыпаннем, са шматгадовымі перапынкамі, усё ж выходзілі. Іх не заўважалі крытыкі, наўмысна ці выпадкова, цяжка ўспрымалі чытачы, таму што развучыліся думаць. Але нельга сказаць, што ў Мілера не было прыхільнікаў яго таленту. Нават Алісе хапіла розуму зразумець, што Максім Мікалаевіч — з шэрагу нябесных жыхароў, не фэйкавых (палітыкаў і зорак эстрады і кіно), а самых сапраўдных. Аліса прачытала іх усе, усе чатыры рамана Мілера, з кожным разам пераконваючыся ў справядлівасці сваіх меркаванняў, нават не падазраючы тады, што жыццё так перапляце іх лёсы. Мабыць, і расійскі кінапрадзюсар з каўказскай знешнасцю распазнаў у Мілеры ўсё тое, што ўбачыла ў ім Аліса. Далёка не выпадкова.

А ён, разгублены, усхваляваны і перапоўнены эмоцыямі, курыў адну цыгарэту за другой, трымаў фільтр дрыготкімі пальцамі не то ад нерваў, не то ад марозу. Сеў на ачышчаную ад снегу лаўку пад пухнатай елкавай лапай. Здавалася, нібы ён стаіць на ростанях — паміж пеклам і раем.

Мілер плакаў і смяяўся, быццам вар'ят, раз-пораз узнімаючы вочы да неба, сіняга і гладкага, як атласная прасціна. Ён не ведаў, куды ісці і што рабіць, і, напэўна б, змерз без Алісы. Цяпер ён востра адчуваў неабходнасць выпіць хаця б піва, каб... што?..

Аліса збегала да шапіка і купіла піва, якое Мілер праглынуў адным махам. Дрыжыкі зніклі. Ён мог цвяроза глядзець на рэчы.

Мілер, здавалася, не зусім зразумеў, што з ім адбылося, якія змены і прапановы чакалі яго наперадзе. Каўказцы з расійскай кінаіндустрыі казалі такія словы пра яго творчасць, якія ён спадзяваўся пачуць ад айчынных крытыкаў ці дзеячаў ад мастацтва. Аднак не здарылася. Магчыма, Мілер даможацца поспеху ў расійскіх чытачоў пасля выхаду фільма па яго рамане. Яго кнігі будуць прадавацца ў маскоўскіх кнігарнях ды іншых гарадах Расіі. І тады пра яго загавораць на радзіме. Радзіме-пачвары. Чаму каб стаць кімсьці ў сваёй краіне, трэба спачатку стаць знакамітым у Расіі ці на Захадзе? Што за ідыёцкая логіка? Але, заняўшы месца пад сонцам у чужой краіне, навошта вяртацца і штосьці даказваць на радзіме, няўдзячнай, глухой і сляпой? Зрэшты, яна таксама можа пакрыўдзіцца і заявіць, што выгадавала, выхавала, дала адукацыю і глебу пад нагамі. Радзіма ж і паселіць у табе пачуццё віны і абавязку перад ёй (будзьце пэўныя). Толькі ты ёй нічога не вінен і нікому, акрамя сябе, таму забудзься. Няхай на радзіме лічаць цябе кім заўгодна і захлынуцца ў нямоглай злосці, кусаючы локці ад таго, што выпусцілі, прагледзелі цябе. Дзе ты была, радзіма, раней? Так што дулю з макам табе пад нос і выцірай шаўковай хустачкай пот з ілба, ганарыся недарэчнымі спартовымі дасягненнямі, абрысам Дома ўраду ды іншымі сталічнымі славутасцямі. Ты заўсёды абыякава пазірала на знішчэнне людзей, якія цябе ўслаўлялі, ад Каліноўскага, Ластоўскага, Тарашкевіча, Жылуновіча, Рамаоўскага, Гарэцкага да Караткевіча, Стральцова, Рубанава, Сыса… Мілер іх шэрагі папаўняць не збіраўся. Ён ніколі не адчуваў сябе патрыётам і пагардліва ставіўся да

рознага кшталту палітычных партый, якія разводзілі пафас, як трусоў. Ненавідзеў бандытызм ва ўсіх яго праявах, таму ніколі не хаваў непрыязнасці да блатных і мусароў. Супрацоўнікамі міліцыі язык не паварочваўся называць сытых, тупагаловых, фанабэрыстых бараноў у пагонах.

Аднак стоп. Яму зараз шкодна думаць. Думкі павялічвалі адрэналін у крыві і пагражалі чарговым інсультам. Трэба цешыцца жыццём і новымі ўражаннямі, якія ўжо маячылі перад вачыма ды асляплялі зіхатлівымі фарбамі.

— На метро не паедзем! — паведаміў усхвалявана Алісе.

— Я выклічу таксі? — пытальна яна паглядзела на Мілера.

— Давай! — дазволіў ён. Яму раптам захацелася дамоў, у цяпло і ўтульнасць кватэры, якую палюбіў, нібы каханку.

Аліса выклікала таксі, якое прыехала праз сем хвілін. Па дарозе ў Серабранку заскочылі ў піцэрыю, купілі піцу і піва. У кватэры з асалодай распрануліся, пазбаўляючыся ад багатага на ўражанні дня.

Аліса затрымалася ў кухні, разрэзала піцу і разагрэла яе ў мікрахвалёўцы. Мілер стаяў каля сценкі з кнігамі, вымаў па адной, прагортваў, ставіў на месца, нібы вітаўся з імі, так знудзіўся без іх у бальніцы, пакінуўшы адных.

Аліса прынесла піцу ў пакой, паклала на адзін з двух зэдлікаў, скарыстаных Мілерам замест стала, кінулася за куфлямі і наліла піва, усеўшыся на тахце. Мілер далучыўся да яе крыху пазней.

— За ваш поспех! — падняла куфель Аліса і прамовіла тост.

— За наш, — паправіў яе Мілер, адсёрбнуў халоднага напою і дадаў: — Я хачу, каб ты паехала са мной.

Аліса асалапела. Яна задумалася пра свой далейшы лёс без Мілера яшчэ на кінастудыі, зразумела, што ён з’едзе, як толькі ўвайшлі каўказцы. Што з ёй тады будзе? Як яна адна?

Чым заменіць тую пустэчу, у якую зваліцца пасля ад’езду Мілера? Яго нечаканую прапанову ўспрыняла нібы падарунак на дзень нараджэння, нават лепш!

— Вы не жартуеце? — усё ж трэба пераканацца.

— Якія жарты? — усміхнуўся Мілер. — Заўтра з раніцы ты мусіш набыць два квіткі на вячэрні цягнік да Масквы.

— Можна замовіць па інтэрнэце, — пралапатала Аліса.

— Значыць, замовіш, — безапеляцыйна прамовіў Мілер і нібы забыўся пра тое, што сказаў, накінуўся на піцу з ваўчыным апетытам. — Даўно такой смакаты не еў! — ён быццам прасіў прабачэння.

Аліса глядзела на яго і шчасліва ўсміхалася.

У які момант яна зразумела, што не зможа без Мілера пражыць ані дня? Гледзячы, як ён уплятае адзін кавалак піцы за другім, прыцмоквае ад задавальнення і запівае півам? Ці раней? Нашмат раней? У любым выпадку, больш яна не ўяўляла жыцця без яго. Вынікі ДНК будуць вядомыя заўтра, аднак гэта для Алісы ўжо не мела ніякага значэння. Мілер — яе мужчына, і нікому яго не аднясць. Яна адчула гэта, калі ўпершыню разгарнула яго кнігу, з кожным днём пераконваючыся, што не памылілася. Магчымае сваяцтва не грала аніякай ролі. Ёй надакучыла чакаць і прыкідвацца правільнай. Умоўнасці і забабоны не хвалявалі, а выклікалі агіду да іх выдумшчыкаў. Чаму людзі не могуць кахаць адно аднога толькі таму, што кахаюць? Чаму заўсёды трэба аглядацца на кагосьці? Хіба каханне — злачынства? Каму стане горш, калі Аліса і Мілер будуць разам як муж і жонка, нават калі біялагічна яны — дачка і бацька, што, зрэшты, яшчэ не даказана? Жывёлы, у прыватнасці сабакі і каты, нярэдка апладняюць уласных дзіцянятаў, калі тыя падрастаюць, і працягваюць шлюбныя гульні з імі ў далейшым. Чым людзі адрозніваюцца ад жывёл?

Мазгамі? Смешна! Чалавецтва паводзіць сябе горш за жывёл, асабліва цяпер, і мазгі тут ні пры чым. Калі раптам хто-небудзь перашкодзіць каханню Алісы і Максіма Мікалаевіча — яна абвесціць вайну кожнаму, хто ўстане на яе шляху. І рашэнне гэтае непахіснае.

Упэўненая ў сабе, Аліса паднялася з тахты і накіравалася да ноўтбука Мілера, папрасіла дазволу ўключыць яго. Атрымаўшы дазвол (Мілер кіўнуў), дачакалася загрузкі сістэмы і ўставіла флэшку з відэа, якое здымаў Лёва Зорыч на здымнай кватэры, уключыла яго і адышла да Максіма Мікалаевіча. Ён павярнуўся да яе адразу, як толькі пачуў першыя акорды кампазіцыі Эмі Лі, мабыць, рэфлекторна, і ўтаропіўся ў экран. Ён нават не міргнуў. Калі відэа скончылася, з тужлівым сумам паглядзеў на Алісу, нібы запытваючы, навошта яна яго мучыць.

Аліса апусцілася перад ім на калені, узяла яго рукі ў свае і пацалавала іх. Мілер тузануўся было нейк запярэчыць, але быў спынены яе непахісным позіркам.

— Я твая, уся твая, — прамовіла яна, упершыню свядома звярнуўшыся да яго на «ты», — а ты мой. І дос здзекавацца з мяне. Ты ж хочаш мяне! А я хачу цябе! Каму мы павінны штосьці даказваць, акрамя саміх сябе?

Асляплены жаданнем, узбуджаны прагледжаным відэа і да ўсяго гатовай Алісай, Мілер рыўком пасадзіў яе сабе на калені і ўпіўся губамі ў яе персікава-яблычны рот, рукамі пачаў мацаць пад блузкай. Яго пальцы гладзілі атласную скуру, камячылі грудзі — рыхтык саспелыя і ачышчаныя дыні. Яна церлася аб яго, нібы кошка, стагнала ад задавальнення.

Перад вачыма Мілера прамільгнула ўсё яго жыццё, якое здалося вартым жалю і нікчэмным, змарнаваным. Што да Алісы, то вобраз Мілера разрастаўся да сусветных вышынь, запаўняў сабой усё, замяняў цэлы свет.

І пляваць на ўсё і ўсіх! Яны абое сталі вольныя і незалежныя, забіўшы ў сабе рабскае падначаленне законам грамадства, дзе панавала беззаконне.

Ніхто не мае права асуджаць чалавека за яго каханне да іншага чалавека, якім бы тое каханне ні было, асабліва калі абое шчаслівыя разам.

# 17

Аліса прачнулася рана. Зрэшты, можна сказаць, што амаль не спала, усё глядзела на Мілера. Той ляжаў на жываце, з вывернутай за спіну рукой, другой падпіраў галаву замест падушкі, патыліцай да Алісы, тварам да кніг. Яна кранала яго хударлявыя моцныя плечы, лапатку, якая вострa тырчала, як крыло анёла. Цалавала ў шыю, такую безабаронную ўначы, а ўдзень пакрытую венамі, асабліва калі ён захоплена распавядаў гісторыі з біяграфій любімых пісьменнікаў, сяброў, персанажаў. Падумаць толькі, гэты чалавек, худы, як хлапчук, але насамрэч самавіты мужчына, сталага ўзросту — цалкам яе. Ён ніколі не пакіне яе, не здрадзіць, не пакрыўдзіць. Яны — адно цэлае. Ён дачакаўся сваёй палавінкі. Яна ж імкнулася да яго заўсёды, быццам на маяк. Далей у іх жыцці будзе толькі добрае. З гэтай думкай Аліса асцярожна, каб не пабудзіць Мілера, злезла з тахты і на дыбачках пракралася ў ванны пакой, уключыла святло, прачыніла дзверы. Паглядзелася ў люстэрка, якое вісела над ракавінай. Адкруціла абодва краны, каб адрэгуляваць тэмпературу вады навобмацак.

Нячутна ззаду падкраўся Мілер, спалохаў яе мядзведжымі абдымкамі. Яна ўскрыкнула, павярнулася да яго тварам.

— Чаму ты не спіш? — спытала, зазіраючы ў вочы.

— Без цябе? Здзекуешся! — прамовіў Мілер.

— Не, кахаю, — проста адказала Аліса і пацалавала яго ў губы.

Ваду выключылі і вярнуліся на тахту, абсыпаючы адно аднаго каханнем, нібы пялёсткамі ружаў.

На досвітку Мілер сказаў Алісе:

— Табе трэба з’ездзіць па рэчы.

— Так, — неахвотна пагадзілася яна. — Яшчэ заскочыць па вынікі ДНК, купіць квіткі (іх я так і не замовіла па інтэрнэце) і пад’есці чаго, я мяркую.

— Разумніца, — пацалаваў яе Мілер.

— Устаю тады? — з неахвотаю вымавіла Аліса.

— Прыйдзецца, — кіўнуў той. — Я пакуль таксама буду збірацца.

— Але душ ты мне ўсё ж дазволіш прыняць? — нагадала Аліса Мілеру, ад чаго ён яе так нахабна адарваў.

— Вядома, — злітасціваўся Мілер.

— Я хутка, — цмокнула яна яго ў шчаку і пабегла ў ванны пакой, захапіўшы адзежу.

Мілер нацягнуў джынсы, надзеў фланэлевую кашулю, выйшаў на балкон, закурыў. Але нешта пахіснуўся, быццам пад нагамі была палуба карабля, што патрапіў у шторм. Давялося адмовіцца ад ранішняй дозы нікаціну. Глядзіш, і курыць кінуць прыйдзецца.

Ён прайшоў у кухню, паставіў на пліту чайнік, адкруціў кран з халоднай вадой, сунуў галаву пад струмень, потым проста з-пад крана нахлябтаўся вады. Стала добра. Лядоўня аказалася пустой. Снедаць не было чым. Хіба што зварыць якой-небудзь кашкі, але не. Лепш дачакацца Алісы. Што ж, пап’е кавы пакуль.

Пасля разам сядзелі за сталом, пілі каву-гарбату, бесклапотна балбаталі, весела зіркаючы адно на аднаго. Прыйшоў час ненадоўга развітацца. Мілер праводзіў Алісу да ліфта,

вярнуўся ў кватэру, узяў у рукі тэчку з дамовай, каб лішні раз пераканацца ў тым, што не спіць, з задавальненнем учытваўся ў кожнае слова, смакаваў іх, быццам пацалункі Алісы. А дзяўчына ўжо была далёка: бегла да тралейбуса, баючыся не паспець. Паспела. Даехала ім да Цэнтральнага чыгуначнага вакзала, знайшла расклад цягнікоў да Масквы. Палічыла правільным узяць квіткі на Брэсцкі, які адпраўляўся з Мінска ў 22:23. Шчыра абурылася коштамі за праезд. Патэлефанавала Мілеру параіцца, бо грошы не яе. Максім Мікалаевіч загадаў не лічыць грошы, ехаць аж дзесяць гадзін.

Як яна была ўзрушана, калі атрымала на рукі канверт з вынікамі тэсту ДНК! Аднак перамагла сябе. Канверт мусяць адкрыць разам, Максім Мікалаевіч і яна. Сунула канверт ва ўнутраную кішэню паўпаліто, да квіткоў на маскоўскі цягнік, і рушыла ў бок інтэрната. У пакоі нікога не аказалася. Што ж, тым лепш. Але хіба яна з’язджала назаўжды? Не. Мілер абавязкова яе адпусціць на сесію. Алісе падабалася вучыцца, дый чырвоны дыплом, які яна абавязкова атрымае, не перашкодзіць. Зрэшты, нельга загадваць наперад. Хто ведае, што нас чакае заўтра? Ці думаў Максім Мікалаевіч пра падобнае волевыяўленне лёсу, якое змяніла на сто восемдзесят градусаў усё яго жыццё? Мо падумваў часам, што яго кнігі заўважаць, і толькі. А яна? Ці магла яна спадзявацца на тое, што Мілер наогул заўважыць яе? Магла. І спадзявалася на лепшае. І надзеі яе апраўдаліся. Жыццё непрадказальнае. Што б ні паўтаралі мудрыя і не вельмі людзі, маўляў, што ты гаспадар свайго жыцця, — гэта ўсяго толькі словы і пустая балбатня. Ты ніколі не будзеш уладаром свайго жыцця і глыбока памыляешся, калі лічыш, кіруеш сваім жыццём. Хіба што ты стаў пустэльнікам і схаваўся ад яго ў гарах, у лесе ці ў пустэльні. Таму Аліса пачакала пакаваць сумку,

здаволілася заплечнікам, з якім хадзіла ў апошні клас школы, куды змясціла ноўтбук, зубныя шчотку з пастай, касметыку, грабянец і троху споднява бялізны. Калі ёй спатрэбіцца адзежа, Мілер купіць усё, што яна пажадае, не задумваючыся. Куды яшчэ яму дзяваць грошы? Аліса ўсміхнулася. Няўжо яна мяшчанка? Не, проста жанчына, якая ведае сабе цану. Вядома ж, ёй не патрэбныя яго грошы, а неабходны ён сам. Без яго Аліса не зможа дыхаць. А ён без яе? На жаль, адказу на гэтае пытанне Аліса не ведала. Навошта столькі пытанняў, калі ўсё так файна, так здорава! Відаць, чалавеку няўтульна ў зоне камфорту і ён адмыслова знаходзіць праблемы, каб што?.. Адчуваць сябе жывым?

Хопіць!

Аліса загадала думкам перастаць турбаваць яе.

Напісала Лёву цыдулку, каб яе не шукалі, бо яна з Мілерам, і сама потым патэлефануе, замацавала заплечнік і выбегла на вуліцу, дзе дажываў свае апошнія дзянькі марозны снежань.

Ужо ў Серабранцы, ледзь не забылася, зайшла ў «Сланечнік», купіла чабурэкаў, мясной салаты пяцьсот грам, курынага рулета столькі ж, літр мульцівітамінавага соку, дзясятак яйкаў, палову рэзанага чорнага хлеба.

Ён чакаў. Проста ў парозе абшчапіў яе аберуч, быццам букет кветак, цалаваў яе ў шыю, вусны, халодную з марозу, але гарачую, як сама жарсць.

— Дзе ты так доўга была? — запытаў, адпускаючы, насыціўшыся.

Аліса, зірнуўшы на гадзіннік, запярэчыла:

— Мяне не было ўсяго тры з паловай гадзіны!

— Гэта цэлая вечнасць! — выгукнуў Мілер, вызваляючы яе ад заплечніка, верхняй адзежы і абутку.

Аліса выцягнула канверт з кішэні паўпаліто, пакруціла ім перад носам Мілера. Яго позірк стаў сур'ёзным.

Мілер узяў дзяўчыну за руку, падвёў да тахты, папрасіў сесці, сеў побач.

— Адкрывай! — прамовіў.

— Хвалюешся? — пацікавілася яго станам Аліса.

— А сама? — не адказаў Мілер.

— Хіба нейкая паперка ўсярэдзіне канверта зможа памяняць штосьці? — насцярожылася Аліса.

— Не, вядома, — супакоіў яе Мілер, абняў за плечы.

Аліса ўскрыла канверт, распрастала складзены ўдвая аркуш паперы.

— Вынік адмоўны, — прачытала.

— Я не твой бацька? — паглядзеў Мілер ўважліва ў ліст, на вочы набягала трывога.

— Ты не мой бацька, — уздыхнула Аліса ці то з палёгкай, ці то з жалем. Затым перасела на калені Мілера, узяла яго галаву ў свае далоні. — Але ты мой мужчына, — прашаптала ў вочы, — а я твая жанчына, Максім Мікалаевіч Мілер. Мы вольныя!

— Ты не расчараваная? — спытаў Мілер на ўсякі выпадак.

— Ты нармальны? — пацалавала яго Аліса ў нос. Гэтак жа казала яму калісьці яе маці. — Ты для мяне ўсё, як ты не зразумееш!

— Разумею, — сумна ўсміхнуўся Мілер.

— Тады што?

— Я кахаю цябе, Аліса, вось што.

— Мы не прападзём, таму што кахаем адно аднаго.

— Ты кахаеш мяне, Аліса?

— Кахаю, спадар Мілер.

— Ты не жартуеш?

— Што ты як дзіця! Якія жарты?!

— Тады скажы яшчэ раз.

— Ну сапраўды дзіця! — засмяялася Аліса і сур'ёзна сказала: — Я кахаю цябе, Мілер! Максім Мікалаевіч! Кахаю! Нават не смей сумнявацца ў гэтым!

Мілер адчуў сябе самым шчаслівым чалавекам на планеце.

— Ну што, трэба накарміць цябе? — Прозу жыцця ніхто не адмяняў, і Аліса адправілася ў кухню разаграваць мяса і чабурэкі, адкрываць кантэйнер з салатай.

Яна не пытала, чым ён займаўся без яе. Адчувала: чакаў і хваляваўся, магчыма, пераглядаў відэа з ёю ў галоўнай ролі, марудна збіраў сумку. Цікава, з якімі думкамі ён з'язджае ў Маскву. Назаўжды, калі пашанцуе, ці на час працы? Хутчэй за ўсё, яшчэ не задумваўся, а калі і думаў, то мімаходам, каб не спудзіць поспех. Ад яго аднаго залежала, якімі будуць будучы фільм і пракат карціны. Пакуль жа нічога не было, акрамя кнігі і невялікага авансу за ненапісаны сцэнар. Магчыма, Мілер наладжваўся на працу, разважаў над планам, бо яму не даводзілася пакуль сутыкацца з напісаннем кінасцэнароў. Вядома, ён баяўся падвесці людзей, якія ў яго паверылі. Баяўся і адказнасці за кожнае слова, якое прамовіць актор ці акторка з экрана. Яны будуць распавядаць усім пра тое, што яму дарага і блізка, пра тое, што яго хвалюе, абурае і бударажыць. Як там будзе ў Маскве? Толькі час пакажа. Сумневы — невыносны кат. Трэба сумневы гнаць ад сябе, як брахлівых сабак.

Выходзіць з дому Мілер вырашыў а дзявятай вечара і ехаць тралейбусам да вакзала. Аліса моўчкі пагадзілася. Хіба ў яе быў выбар? Пакуль яна не застанецца ў Мінску адна. Пакуль ёсць магчымасць хоць лішнюю хвілінку правесці побач з Мілерам…

Яны ляжалі на тахце, абняўшыся, проста ляжалі і маўчалі. Яны марылі, а будзённасць чаплялася за іх.

На ўсякі выпадак Мілер завёў будзільнік. Уключыў музыку, каб не так ціха было ў кватэры. Музыка міжволі дапамагла супакоіцца абаім, падзейнічала на Мілера з Алісай як снатворнае. У прызначаную гадзіну дзіка загаласіў будзільнік, разбурыў будзённасць.

— Пара! — выключыў будзільнік Мілер.

— Пара, — рэхам азвалася Аліса.

Яны апрануліся. Мілер перакінуў праз плячо сумку, у руку ўзяў заплечнік Алісы, прапусціў яе наперад, адчыніўшы дзверы.

У ліфце, гледзячыся ў люстэрка, Аліса паправіла берэт і падфарбавала вусны. Мілер моўчкі назіраў за ёй. Яна збянтэжана ўсміхнулася.

На вуліцы, перад пад'ездам, вырашылі на ўсякі выпадак праверыць, ці ўсё ўзялі. Дамову. Грошы. Пашпарты. Квіткі. Квіткі забыліся.

Іх не было ва ўнутранай кішэні паўпаліто Алісы. Мілер успомніў, што ён узяў іх паглядзець, дакладней, Аліса дала іх яму разам з канвертам, дзе знаходзіліся вынікі тэсту ДНК. Потым ён іх паклаў на адну з кніжных паліц.

— Я збегаю! — працягнула руку за ключамі ад кватэры Аліса і ўсміхнулася: — Добра, што не на вакзале!

— Не забудзься паглядзецца ў люстэрка, калі будзеш сыходзіць, — нагадаў ёй Мілер.

— Вы верыце ў прыкметы, спадар Мілер? — засмяялася Аліса каля дзвярэй у пад'езд.

— Ага. Яшчэ як, — усміхнуўся ёй Мілер.

— Слухаюся, мой жэнераль! — жартаўліва адказала Аліса і шуснула ў пад'езд. Дзверы павольна зачыніліся за ёй.

Мілер закурыў, з асалодай зацягнуўся.

Раптам яму стала вельмі балюча ў баку. Затым у паясніцы. Балючыя ўколы не спыняліся. Ногі сагнуліся, зрабіліся ват-

ныя, але хтосьці не дазваляў Мілеру паваліцца, моцна трымаў, нават абдымаў адной рукой, асцярожна, быццам вельмі блізкага чалавека, другой жа працягваў наносіць калючыя ўдары ў жывое трапяткое цела. Затым хтосьці павярнуў Мілера да сябе тварам, усё гэтак жа асцярожна прытрымліваючы.

Амаль невідушчым ужо позіркам Мілер пазнаў Сазана.

— Ну и кто из нас сдохнет, мудак? — выдыхнуў сіпла Сазан у разяўлены рот Мілера, які сутаргава лавіў паветра.

Ён высачыў Мілера. Гэта было нескладана, бо жыў непадалёк, на Малініна, за стадыёнам.

— Ты... — намагаўся штосьці сказаць Мілер, але замест слоў з рота цякла кроў, і галава звесілася на грудзі.

Сазан падцягнуў цела да лаўкі і пасадзіў яго на снег, падпёршы ім лаўку, нібы тая памерці магла таксама, старанна выцер лязо нажа аб каўнер Мілеравага паліто.

Інстыктыўна ён азірнуўся на гук дзвярэй, што адчыніліся. У праёме застыла Аліса. Яна не крычала, закусіла да крыві губу і маланкай кінулася да Сазана. Яе ўдар быў такі моцны і хуткі, што Сазан не паспеў адказаць: адляцеў да адной з прыпаркаваных насупраць машын. Спінай ляснуўся аб лабавое шкло аўтамабіля (яно тут жа пакрылася павуціннем расколін), сагнуўся пакарожаны капот. Сазан скаціўся пад колы са зламанай ключыцай, а аўтамабіль пакрыўджана загаласіў сігналізацыяй. За лічаныя секунды Аліса ператварыла Сазанаў твар у кашу. Сяк-так выцершы кроў з кулакоў аб снег, яна вярнулася да Мілера. Ён яшчэ дыхаў, але ледзь чутна. Дзяўчына выклікала хуткую і села побач з Мілерам на кукішкі, не ў сілах яму дапамагчы, глытаючы слёзы. Потым яна грымнулася на калені і адчайна, дзіка закрычала, малоцячы кулакамі аб зямлю. Яе лямант рваў душу, гэта быў поўны жаху, адчайны, немы крык аб дапамозе. Серабранка спалохалася, але абыякава пазірала на драму.

Мілер расплюшчыў вочы.

Яго позірк урэзаўся, бы камікадзэ, у тэлеграфны слуп, у халодную сталь позірку Д'ябла.

Адчуванне непрыемнае.

Мілер адчуў сябе мурашкам, незаўважаным і раздушаным. Ён ляжаў на пухнатым воблаку, якое прытрымліваў велізарным пальцам Д'ябал, як лодку на вадзе, каб не сплыла ў сінь нябёсаў.

— Хутка ты вярнуўся! — прагрукатала громам аднекуль зверху, аглушыла так, што Мілер міжволі заціснуў рукамі вушы. — Знудзіўся? — вокамгненна Д'ябал набыў чалавечыя памеры і далучыўся да Мілера на воблаку. — Не? Што ж тады тут робіш? — засмяяўся.

— Непаразуменне, верагодна, — паціснуў плячыма Мілер.

— Добрае непаразуменне з некалькім дзясяткам нажавых дзірак у целе, — нагадаў Д'ябал, і Мілер тут жа іх усе адчуў, з ран зацурчэла кроў, ён пачаў задыхацца. — За ўсё трэба плаціць, спадар Мілер, — казаў Д'ябал. — За поспех, за каханне. Ва ўсяго ёсць цана. Асабліва за волю, якую ты абраў. А я цябе папярэджваў. Але ты не слухаў, дарэмна прыняў нашу размову за сон. Запэўніваю: я табе не снюся. І ў мінулы раз таксама не сніўся.

— А... Бог... дзе? — захлынаючыся крывёй, выдушыў з сябе Мілер.

— Я і ёсць Бог, — запэўніў Д'ябал. — І Д'ябал, і нават ты — гэта таксама я. Усё, што ёсць на Зямлі, стварыў я, не забыўся?

— Што... табе... трэба? — Мілер з жахам назіраў за тым, як жыццё пакідае яго, быццам сябар, які пераязджае ў іншы горад.

— А ведаеш што… — усміхнуўся Д'ябал. — Хочаш жыць, кахаць дачку, якая, дарэчы, аказалася і не дачкой зусім,

пераехаць у іншую краіну, мець поспех і незалежнасць — плаці. Ці далучайся да майго пантэону вечна жывых.

— Я... згодзен, — на апошнім дыханні выдушыў з сябе Мілер.

— Што? Не чую? — пераможна падняў вочы ўгару Д'ябал. Смерць адступіла ад Мілера, сцерла за сабой усе сляды сваёй прысутнасці.

Мілер уздыхнуў вальней, глынуў паветра, быццам махануў сто грам гарэлкі, і цвёрда паўтарыў:

— Я згодзен.

— На што? — дапытваўся Д'ябал.

— Аддаць табе сваю душу.

— Завошта?

— За жыццё.

— Гэта ж не ўсё?

— За каханне, — працягваў Мілер, — за поспех, за волю выбару.

Па ўзмаху рукі Д'ябла з ніадкуль з'явілася чырвоная скураная тэчка з дамовай на продаж душы Мілера.

— Табе трэба адно: пакінуць свой аўтограф у самым нізе, — працягнуў Д'ябал Мілеру тэчку. — Крывёй, — дадаў і праткнуў яго вялікі палец іголкай.

Пяро з'явілася таксама па чараўніцтве. Мілер памачаў кончык пяра ў сваю кроў і распісаўся там, дзе паказаў Д'ябал, не чытаючы.

— Нават не азнаёмішся? — панаракаў Д'ябал іранічна. — Я ўсё ж прыклаў немалыя высілкі, складаючы гэты дакумент.

— Я табе давяраю, — вярнуў Мілер пяро і дамову.

Апавяшчаючы Серабранку трывожнымі крыкамі сірэны, на выклік спяшалася хуткая.

Супрацоўнікі правапарадку, дакладней патруль у складзе трох чалавек, надзелі бранзалеты на Алісу (да высвятлення ўсіх абставінаў), адцягнулі яе падалей ад Мілера і выклікалі опергрупу па факце. Яны, як заўсёды, з’явіліся «своечасова», пасля здзяйснення злачынства, і затрымалі (ну што ты будзеш рабіць!) невінаватага, але зручнага падазраванага.

Мароз шчыкаў Мілера за нос, шчокі, вушы. Мілер апрытомнеў, але гэтага пакуль што ніхто не заўважыў.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Адам** Мікола

ДАЧКА

Раман

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Рэдактура *Алеся Далгушова*
Вёрстка *Таццяна Тамілава*
Карэктура *Алеся Далгушова, Ганна Варабей*
Дызайн вокладкі *Бажэна Звыцэвіч*

Падпісана да друку 03.12.2021. Фармат 60×90/16.
Папера Bulked. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 16. Ул.-выд. арк. 9,27.
Наклад 300 экз. Замова 000000.

16+

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/48 ад 03.10.2013.
Вул. Куйбышава, 22, корп. 6, пам. 6, 220029, Мінск, Беларусь.
E-mail: vish@bk.ru
www.halijafy.by

Акцыянернае таварыства
«Т8 Издательские технологии» АТ «Т8».
Пр-т Валгаградскі, 42, кор. 5, к. 6, 109316, Масква, Расія.